ПЕРАКЛАДЫ НІНЫ МАЦЯШ

# ГАРНУСЯ ДУШОЮ ДА СЛОВА

Зборнік украінскай паэзіі



Мінск
«Выдавецкі дом «Звязда»
2013

УДК 821.161.2-1
ББК 84(4Укр)-5
Г19

Укладальнікі
М. І. Новік, С. А. Воронік, Г. В. Скарына

Укладальнікі выказваюць падзяку Наталлі і Руслану Мацяшам
за выкарыстаныя архіўныя матэрыялы

**Гарнуся душою да слова. Пераклады Ніны Мацяш** : зборнік
Г19 украінскай паэзіі / уклад. М. І. Новік, С. А. Варонік, Г. В. Скарына. — Мінск : Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 296 с.
ISBN 978-985-7059-64-5.

У гэтай кнізе Ніна Мацяш – самабытная паэтэса і перакладчыца – адкрывае непаўторны свет украінскай паэзіі. Беларускай мовай гучыць паэтычны перазоў душ таленавітых творцаў. У перастварэннях Ніны Мацяш – галасы блізкіх ёй па духу ўкраінскіх аўтараў. Гэта слова любові да сваёй зямлі, слова шляхетных постацяў нацыянальнага Адраджэння, якіх яднае ў прасторы і часе воля, годнасць, незалежнасць. Гэта ўкраінска-беларускі перазоў, у якім – высокая духоўнасць і высокая паэзія.

**УДК 821.161.2-1**
**ББК 84(4Укр)-5**

**ISBN 978-985-7059-64-5**

# ВЯСЁЛКА ПА-НАД ВЕЧНАЮ РАКОЙ

Як спявала Ніна Мацяш!.. Пракаветная народная песня – дарагая палеская, матчына, беларуская, украінская – нараджалася ў таямнічых глыбінях і ўздымалася голасам Ніны Мацяш на такую высокую і чыстую вышыню, што кожны, хто слухаў яе, не мог не здзіўляцца: адкуль бярэцца такая сіла і вышыня, такая раскаванасць і вольнасць яе голасу, а ў ім – суладнасць, лагода і гойнасць матчынага слова, матчынага сэрца, а ў ім – трывушчасць і светласць сэрца Ніны, яе душы, што праз самоту, боль і гаркоту, расчараванне і адчай выпраменьвала дабрыню і спагаду, суцяшэнне і спадзеў на паратунак чалавека праз Красу, праз гожае Слова. «Давермася найлепшаму ў сабе», «раскрыймася найлепшым у сабе» – запрашае-раіць паэтка. І голасам душы сваёй, сілай роднага Слова адкрывае нам паэзію ўласную і далучае да паэзіі блізкіх ёй па душы, па духу творцаў. Самабытным і непаўторным голасам Ніны Мацяш агучаны паэтычныя творы еўрапейскіх паэтаў, сярод якіх – украінскія класікі і сучаснікі.

Выбар асобаў і твораў невыпадковы. У пасляслоўі да зборніка перакладаў «Перабіраю самацветы» паэтка акрэслівае свой выбар, прыводзячы словы Алеся Разанава: «Усё, што кранае мяне, падобнае на мяне. Вось чаму пераклад у маім творчым высілку мае роўны статус з уласным вершаскладаннем». Тарас Шаўчэнка, Лэся Украінка, Аляксандр Гаўрылюк, Мая Львовіч, Ліна Кастэнка, Пятро Мах, Васыль Гэй, Аляксандра Кавалёва, Валадымір Барна, Ніна Горык загучалі голасам Ніны Мацяш, гарманічна ўключыліся ў тое «поле роднасці душ», дзе жыве Яе Вялікасць Паэзія – «той бессмяротны дотык да душы». І ў XXI стагоддзі гучыць так надзённа перастворанае па-беларуску Нінай Мацяш слова Кабзара – слова любові да нэнькі-Украіны, адгукаецца мелодыя жывога ўкраінскага слова,

мелодыя, лад украінскае мовы, душа і доля ўкраінскага народа. Душу беларускую кранаюць  запаветы-звароты Тараса Шаўчэнкі – над імі не мае ўлады час і прастора. Кранаюць душу «слёзы-перлы» Лэсі Украінкі, «вястункі ўкраінскага Адраджэння, украінскага самасцвярджэння ў свеце, вяснянкі ўкраінскае душы». Воля, годнасць, незалежнасць адгукаюцца ў перастворaных па-беларуску вершах і яднаюць дзве нязломныя і мужныя таленавітыя постаці – аўтарку і перакладчыцу – Лэсю Украінку і Ніну Мацяш. Годныя дочкі сваёй зямлі, сваёй Радзімы-Бацькаўшчыны, выяўляюць боль і тугу за зняволены родны край.

Ніна Мацяш адчувае бязмежжа мастацкага свету іншага аўтара, адчувае ў іншым часе і прасторы родную душу,  блізкую па духу «зорку» і адкрывае шляхетныя постаці нацыянальнага ўкраінскага Адраджэння. Душою і голасам Ніны Мацяш загучала паэзія Ліны Кастэнкі, гістарычны раман «Маруся Чурай». І голас Марусі Чурай – голас і душа ўкраінскага народа – суладна зліўся з голасам таленавітых паэтак – годных і няскораных, мужных і нязломных. У эсэ «Мая Кастэнка» Ніна Мацяш уводзіць чытача ў лабараторыю перакладчыка, адкрывае сваё разуменне яе паэзіі, захапляецца музыкай мастацкага слова ўкраінскай паэткі і паказвае складанасці перакладу з блізкароднасных моў. Гэта своеасаблівы майстар-клас Ніны Мацяш – перакладчыцы, адкрыццё таямніцаў творчай супрацы з аўтарам арыгінальнага твора, гэта і адкрыццё багацця роднага слова, і пошукі таго адзіна адпаведнага, якое дазволіць захаваць і рыфму, і рытм, сэнс і вобраз, і самае галоўнае – духасэнс твораў. Творчы почырк Ніны Мацяш – перакладчыцы суадносіцца з пазіцыяй Алеся Разанава: «У перакладзе вершаў належыць ісці за тым, за чым ідуць яны самі: перакладаць не словы і не страфы, а тое, што «перакладаюць» яны, вершы, – сэнс, гукасэнс, духасэнс». Падчас працы над перакладам «Марусі Чурай» Ніна Мацяш ператварылася ў «фальклорную русалку», якую завабіла неўтаймоўная і чароўная стыхія рамана, захапіла і не адпускала сіла інтэлекту і эмоцыі аўтаркі арыгінальнага твора і яго непаўторнай гераіні – Чураёўны... Стыхія ўкраінскага мастацкага слова скарылася таленавітай перакладчыцы, і раман гэтак арганічна набыў беларускае дыханне і загучаў – глыбока, напружана-драматычна і лірычна-высока, і перазоў стаўся годны, адпаведны выдатным паэткам. Як лёс, як Душа народная.

Ніна Мацяш адчула душой і сэрцам і здолела перастварыць на беларускую мову боль, трагедыю чалавека, творцы, выяўленыя ў паэме Аляксандра Гаўрылюка «Песня з Бярозы» і ў аповесці «Бяроза». Так адкрыла сваім землякам драматычную старонку з гісторыі роднае зямлі

праз лірычны і мужны аповед вязня канцэнтрацыйнага лагера «Бяроза Картузская», здолела перадаць «лірычную мужнасць» твора і творцы.

Ніна Мацяш – перакладчык-сутворца – была і застаецца паслом беларускага слова ў дарагой ёй Украіне. Дарагімі былі стасункі з Маяй Львовіч – самабытнай паэткай і перакладчыцай. Верш Маі Львовіч «Пераклад», пераствораны Нінай Мацяш на беларускую мову, адкрывае тое агульнае, што яднае іх у поглядах на пераклад. У гэтым творы зліваюцца галасы дзвюх сутворцаў:

*Паэце, дзякую за верш.*
*Ён твой, у ім звініш ты ўвесь.*
*Ды ў ім – і я, ды ён – і мой.*
.....
*Хоць мы з табою – розных моў,*
*Твой верш азвацца раптам змог*
*Маёй і радасцю, й журбой,*
*Маёй мелодыяй жывой.*

Голас Ніны Мацяш так адметна гучыць у беларуска-ўкраінскіх валынскіх перазовах. Асабістае знаёмства з валынскімі пісьменнікамі, супольныя творчыя сустрэчы на Валыні і Берасцейшчыне былі дзейснай выявай культурнага супрацоўніцтва, дыялогу дзвюх духоўна і гістарычна блізкіх краін і культур. Па-беларуску загучалі ў перастварэнні Ніны Мацяш Васыль Гэй, Пятро Мах, Валадымір Барна. Знакам удзячнасці ад украінскіх пісьменнікаў стала кніга «Вічний корінь душі» – пераклады на ўкраінскую мову лірыкі Ніны Мацяш. Міжнародная прэмія імя Грыгорыя Скаварады – высокае прызнанне-ацэнка працы Ніны Мацяш у развіцці беларуска-ўкраінскіх культурных сувязяў. Паэзія Аляксандры Кавалёвай, напоўненая мудрым спазнаннем свету, таямнічай прасторы Космасу і чалавека – неаддзельнай ягонай часцінкі, – вельмі сугучная з творчасцю самой перакладчыцы. Нараджаецца адчуванне, як быццам гэта напісана самой Нінай Мацяш. Тут і светла-мудры погляд на свет, тут і прыгожае адкрыццё мілых вобразаў роднай зямлі, і лірызм, і філасофская глыбіня, і зажурана-светлая мелодыя слова. Нават афарыстычнасць мастацкага слова, такая характэрная для Ніны Мацяш:

*Мудрым бачна ўсё, што тлу не падлягае, чаго Хронас не з’ядае...*
*Усё перашаткуе часу моль, а ўзмах крыла павек не стане тленам.*
*Усе мы ў кроплі бурштыновай.*

Далікатным, чыстым святлом сагрэты перазовы Ніны Мацяш і Ніны Горык. Для перакладу паэтка выбрала дзіцячыя вершы, а ў іх – столькі мудрасці аўтаркі, столькі шчырасці і непасрэднасці чыстай дзіцячай душы. Душы, што ўключаецца ў гэты непаўторны навакольны свет, што спазнае прыцягальнасць, сілу і моц роднай зямлі ў вандроўцы на дзедавай гойданцы ад зямлі аж да сонца, у спазнанні повязяў свайго роду: *«...на нітачцы радаводу я – маленькі вузлік».*

Мелодыя ўкраінска-беларускіх перазоваў гучыць адметна ў шматгалоссі моў свету – гучыць у ёй мелодыя душы. І ў нябеснай высокай прасторы «над берагамі вечнае ракі» ажывае і напаўняецца гарманічным суладдзем колераў паэтычная вясёлка, лучыць-яднае берагі беларуска-ўкраінскіх творчых стасункаў, і ў гэтым шматфарбным і вечным сугалоссі гучыць непаўторны голас Ніны Мацяш. І ў вясёлкавых колерах галасоў, што гучаць у нябеснай прасторы, – голас мужных і таленавітых, вольных і незалежных – Чураёўны, Мацяшоўны… Гэта голас з глыбіні стагоддзяў. Гэта гучыць Слова...

***Марыя Новік***

## *Тарас ШАЎЧЭНКА*

*(1814–1861) – вялікі ўкраінскі паэт, пісьменнік (драматург, празаік), мастак, грамадскі дзеяч; заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. Ягоны славуты зборнік «Кабзар» (1840) стаў настольнаю кнігаю для многіх пакаленняў украінцаў. Шматлікія творы пісьменніка блізкія да вуснапаэтычнай творчасці, таго скарбу, у якім на працягу стагоддзяў складваліся светаразуменне народа, яго мараль і ідэалы. Многія творы пісьменніка вызначаюцца дзівоснай прастасцю, а ўвадначас глыбокай паэтычнасцю, праз гуманістычную скіраванасць, праз праўдзівае адкрыццё народнай маралі. Многія вершы Тараса Шаўчэнкі сталі народнымі песнямі. У вершах, баладах, паэмах, аповесцях пісьменніка («Кацярына», «Тарасова ноч», «Гайдамакі», «І мёртвым, і жывым…», «Наймічка», інш.) выяўлены дух і душа, сіла і краса ўкраінскага народа, украінскай зямлі, паняволенай у часы пісьменніка, ды – не скаронай. «Краса і сіла» – гэтак трапна ахарактарызаваў паэзію вялі-*

*кага Кабзара Максім Багдановіч. Творчасць Тараса Шаўчэнкі істотна паўплывала на станаўленне беларускай нацыянальнай літаратуры.*

**ДУМКА**

Цяжка-важка ў свеце жыць
Сіраце без роду:
Няма куды прыхіліцца –
Хоць з гары ды ў воду!
Утапіўся б маладзенькі,
Каб не нудзіць светам,
Утапіўся б, – цяжка жыць
І няма дзе дзецца.
Ў таго доля ходзіць полем –
Каласкі збірае;
А мая дзесь гультатуе,
За морам блукае.
Добра таму багатаму:
Яго людзі знаюць;
А са мною спаткаюцца –
Як не заўважаюць.
Багатага губатага
Дзяўчына шануе,
З мяне, сіраціны,
Смяецца, кепкуе.
«Ці я ж табе не прыгожы,
Ці не ў цябе ўдаўся,
Ці не люблю цябе шчыра,
Ці з цябе смяяўся?
Любі ж сабе, маё сэрца,
Любі, каго знаеш,
Ды не смейся нада мною,
Як калі згадаеш.
А я пайду на край свету…
На чужой старонцы
Знайду лепшу або згіну,

Як той ліст на сонцы.
Пайшоў казак, сумуючы,
Нікога не кінуў,
Шукаў долі ў чужым полі
Ды там і загінуў.
Паміраючы, ўзіраўся,
Дзе сонейка ззяе…
Цяжка-важка паміраці
У чужынскім краі!

***24 лістапада 1838 г., Гатчына***

***

Не зайздросці багатаму:
Багаты й не знае
Ні прыязні, ні любові –
Усё ён наймае.
Не зайздросці магутнаму,
Бо той прымушае.
Не зайздросці і слаўнаму,
Слаўны добра знае:
Не яго ўсе людзі любяць,
Любяць тую славу,
Што ён цяжкімі слязамі
Выліў на забаву.
Маладыя, як сыдуцца,
Ды люба, ды ціха,
Як у раі, – а разгледзіш:
Варушыцца ліха.
Не зайздросці ж анікому,
Не знікай у лёсах,
Няма раю на зямлі ўсёй,
Няма й на нябёсах.

***4 кастрычніка 1845 г., Міргарад***

## І МЁРТВЫМ, І ЖЫВЫМ, І НЕНАРОДЖАНЫМ

*ЗЕМЛЯКАМ МАІМ*
*НА УКРАІНЕ І НЕ НА УКРАІНЕ*
*МАЁ СЯБРОЎСКАЕ*

ПАСЛАННЕ

*Аще кто речет, яко люблю Бога,*
*а брата своего ненавидит, ложь есть.*
Саборнае пасланне
святога апостала Іаана.
гл. 4, в. 20

І змяркае, і світае,
Дзень Божы мінае,
І зноў люд напрацаваны
І ўсё спачывае.
Толькі я, як акаянны,
І дзень і ноч плачу
На развілінах шматлюдных,
Ды ніхто не бачыць,
І не бачыць, і не знае –
Паглухлі, не чуюць,
Кайданамі мяняюцца,
Праўдаю таргуюць.
І Госпада зневажаюць –
Людзей запрагаюць
Скрозь у ёрмы. Гаруць ліха,
Ліхам засяваюць.
А што ўродзіць? Пабачыце,
Што за жніво будзе!
Схамяніцеся, вар’яты,
Годзе, недалюдзі!
Паглядзіце на рай ціхі,
На сваю краіну,
Палюбіце шчырым сэрцам
Гэтую руіну,
Раскуйцеся, братайцеся!

У нянаскім краі
Не шукайце, не пытайце,
Чаго не бывае
І на небе, а не толькі
На чужым дзесь полі.
Ў сваёй хаце свая й праўда,
І сіла, і воля.

Няма другой дзесь Украіны,
Няма другога дзесь Дняпра.
А вам карціць адна чужына,
Там прэцеся шукаць дабра,
Дабра святога. Волі! Волі!
Братэрства братняга! Знайшлі,
Няслі, няслі з чужога поля
І на Ўкраіну прыняслі
Вялікіх слоў пышнабукеты,
Дый больш нічога. Крычыцё,
Што вы не зглуміце жыццё
На ўклоны прад няпраўдай свету!
А гнецеся, як і дагэтуль!
І абдзіраеце жыўцом
Братоў паслеплых, грэчкасеяў,
А сонца-праўду гадаваць
Да немца, ў мілыя вам землі
Зноў прэцеся!.. Калі б забраць
І ўсю мізэрыю з сабою,
Дзядамі ўрванае дабро,
Тады застаўся б сіратою
З святымі горамі Дняпро!

Ох, калі б так стала, каб вас ды прыбрала,
Каб там і здыхалі, дзе вы узраслі!
Не плакалі б дзеці, маці б не рыдала,
Не чулі б у Бога вашае хулы.
І сонца б не грэла смярдзючага гною
На чыстай, шырокай, на вольнай зямлі.
І людзі б не зналі, што вы за арлы.
І не паківалі б на вас галавою.

Ацямцеся! Палюдзейце,
Бо ліха вам будзе:
Раскуюцца неўзабаве
Акутыя людзі,
Настане суд, загавораць
І Дняпро, і горы!
І пацячэ старэкамі
У сіняе мора
Кроў дзяцей бязрадных вашых,
І ў страшнай расплаце
Ацураецца брат брата
І дзіцяці маці.
І дым хмараю закрые
Сонца перад вамі,
І сваімі ж праклянецеся
Навекі сынамі!
Умыйцеся! Вобраз Божы
Граззю не скварніце.
І не ўводзьце дзяцей вашых
У зман, не дурыце,
Што іх доля – быць панамі...
Бо простае вока
Зазірне ім прама ў душу
Глыбока! глыбока!
Даўмеюцца, небаракі,
Чыя на вас шкура,
Дый заступяць, і прамудрых
Невукі адураць!

Каб вы вучыліся, як трэба,
То й мудрасць мелася б свая.
А то залезеце на неба:
«І мы не мы, і я не я,
І ўжо ўсё бачыў, і ўсё знаю,
Няма ні пекла, ані раю,
Няма і Бога, толькі я!
Ды куцы немец жылаваты,
А больш нікога!..» – «Добра, братка,
Што ж ты такое?» –
«Няхай немец

Скажа. Мы не знаем».
Вось такая ў вас навука
У чужынскім краі!
Немец скажа: «Вы маголы».
«Маголы! Маголы!»
Залатога Тамерлана
Ўнукі-балаголы!
Немец скажа: «Вы славяне».
«Славяне! Славяне!»
Слава ж прадзедаў вялікіх
Зведзена дазвання!
І Калара* чытаеце,
Зубрыце штосілы,
І Шафарыка, і Ганка** ,
І ў славянафілы
Так і пнецеся... І мовы
Славянскага люду –
Усе знаеце. А роднай –
Што ж... Некалі будзем,
Дасць Бог, і па-свойму мовіць.
Як немец пакажа
Ды да таго й гісторыю
Нашу нам раскажа –
Вось тады мы заходзімся!..
Добра захадзілі
Па нямецкаму паказу
І загаварылі
Так, што й немец не ўшалопаў,
Вучыцель вялікі,
А не толькі люд звычайны.
А гвалту! а крыку!
«І гармонія, і сіла,
Музыка, дый годзе.
А гісторыя!.. Паэма
Вольнага народа!
Дзе тым рымлянам убогім!
Бруты ў іх? Ды годзе!
У нас Бруты!*** І Каклесы!****
Во героі, во дзе!

У нас воля вырастала,
Дняпром умывалася,
У галовы гора слала,
Стэпам укрывалася!»
Крывёй умывалася,
А спала на купах,
На казацкіх вольных трупах!
Абкрадзеных трупах!
Прачытайце толькі добра,
Агляньце нанова
Тую славу. Ды чытайце
Ад слова да слова,
Не мінайце ані цітлы,
А ні тое комы,
Усё ўкемце... дый спытайце
Тады сябе: што мы?..
Чые сыны? якіх бацькоў?
Кім? за што закуты?..
І ўбачыце, што ёсць ваша
Слава, вашы Бруты:

Рабы, ашмоцце, гразь Масквы,
Варшаўскі сметнік – ваша панства,
Яснавяльможнае гетма́нства.
Чаго ж вы ўзносіцеся, вы!
Сыны сардэчнай Украіны!
Што добра ходзіце ў ярме,
Шчэ лепей, чым бацькі хадзілі.
Пыхлівым, вам і не на ўме:
З вас пасы ўюць, з іх тук тапілі.

Мо вы гордыя, што брацтва
Веру заступіла,
Што Сінопам, Трапезундам
Галушкі варыла.
Праўда!.. Праўда, елі ўволю.
А вам цяпер вадзіць.
І на Сечы мудры немец
Картопельку садзіць,

А вы яе купляеце,
Ясцё на здароўе
Ды славіце Запарожжа.
А чыёю кроўю
Напоена зямля тая,
Што картопля родзіць, –
Усё роўна. Абы добрай
Была для гароду!
А гордыя, што мы Польшчу
Колісь завалілі!..
Праўда ваша: Польшча ўпала,
Дый нас раздавіла!

Вось як бацькі сваю лілі
Кроў за Маскву ды за Варшаву,
І вам, сынам, перадалі
Свае аковы, сваю славу!
Дазмагалася Ўкраіна
Да самага краю.
Горай ляха свае дзеці
Яе распінаюць:
Замест піва праведную
Кроў з-між рэбраў точаць.
Прасвятліць, тлумачаць, хочуць
Матчыныя вочы
Сучаснымі яснотамі,
Павесці за векам,
За немцамі, недарэку,
Сляпую калеку.
Што ж, вядзіце, паказвайце.
Хай старая маці
Вучыцца, як новых дзетак
Трэба дагледаці.
Паказвайце!.. за навуку,
Не бойцеся, будзе
Добрай матчыная плата;
Ападзе палуддзе
З вачэй вашых ненасытных,
Пабачыце славу,

Славу-праўду сваіх дзедаў
І бацькоў лукавых.
Не ашуквайце ж сябе вы,
Мудрэйце, чытайце,
І чужое паважайце,
І свайго не хайце,
Бо хто маці забывае,
Таго Бог карае,
Той і ад дзяцей уласных
Цуранне зазнае.
Гоняць прэч таго ўсе людзі,
Чалавеку злому
Анідзе няма на свеце
Прытульнага дому.
Я рыдаю, як згадаю
Дзедаў нашых дзеі,
Незабыўныя, цяжкія.
Каб не помніць мне іх,
Я аддаў бы вясёлага
Веку палавіну.
Вось такая наша слава,
Слава Украіны.
Прачытайце ж унікліва,
Каб вам не спрасонку
Мроіліся ўсе няпраўды,
Каб з магіл высокіх
Выйшлі да вас вашы дзеды,
Каб вы распыталі
Пакутнікаў: каго, калі,
За што распіналі!
Абніміце ж, браты мае,
Найменшага брата –
Хай да сплаканае маці
Прыйдзе ўрэшце свята,
Хай яна ўсміхнецца дзецям
І рукою цвёрдай
Блаславіць і пацалуе
Іх раскута й горда.
І забудзецца ўся ганьба

Даўняе часіны,
І ўваскрэсне ў добрай славе
Веліч Украіны.
І святлом, а не вячэрнім,
Ціха высь заззяе.
Абніміцеся ж, братове,
Малю вас, благаю!

***14 снежня 1845 г., В'юнішча***

---

* *Калар Ян* (1793-1852) – чэшскі і славацкі паэт і вучоны, прыхільнік ідэі яднання славянскіх народаў.

***Вацлаў Ганка* (1791–1861) – чэшскі паэт і вучоны, выдатны дзеяч чэшскага Адраджэння.

*** *Бруты*: *Люцый Юній Брут* (509 г. да н. э.) узначаліў паўстанне супраць этрускага цара Тарквінія і ўсталяваў рэспубліканскі лад у Рыме; *Марк Юній Брут* – рымскі палітычны дзеяч, адзін з арганізатараў змовы і забойства імператара Юлія Цэзара (44 г. да н. э.).

**** *Каклес* – легендарны рымскі герой, які ўратаваў Рым, адзін абараняючы мост на рэчцы Цібр ад войска этрускага цара Парсены.

***

Мінаюць дні, мінаюць ночы,
Мінае лета. Шалясціць
Рудое лісце, гаснуць вочы,
Заснулі думы, сэрца спіць,
І ўсё заснула, і не знаю,
Ці я жыву, ці дажываю,
Ці так па свеце валачуся,
Бо ўжо не плачу й не смяюся...
Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Няма ніякое!
Калі добрай шкада, Божа,
Дык дай злое, злое!
Не дай спаць хадзячаму,
Сэрцам заміраццa
І гнілой калодаю
Па свеце валяцца.

А дай жыць, сэрцам жыць
І людзей любіць,
А калі не... то праклінаць
І свет запаліць!
Страшна ўпасці у кайданы,
Канаць у няволі,
А шчэ горай – спаць, спаць,
І спаць на волі –
І заснуць на век-векі,
І следу не пакінуць
Ніякага, аднолькава
Ці жыў, ці загінуў!
Доля, дзе ты, доля, дзе ты?
Няма ніякое!
Калі добрай шкода, Божа,
То дай злое! Злое!

***21 снежня 1845 г., В'юнішча***

**ЗАПАВЕТ**

Як памру, то пахавайце
Мяне ў магіле
Сярод стэпу шырокага,
На Ўкраіне мілай,
Каб лугі шыракаполля,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як раве равучы.
Як памкне ён з Украіны
У сіняе мора
Кроў варожу... Вось тады я
І лугі, і горы –
Ўсё пакіну й палячу я
Да самога Бога
Маліціся... а дагэтуль
Я не знаю Бога.
Пахавайце ды ўставайце,
Кайданы парвіце

І варожай злой крывёю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
Ў сям'і вольнай, новай
Не забудзьце спамянуці
Не злым ціхім словам.

***25 снежня 1845 г., Пераяслаў***

***
Садок вішнёвы каля хаты,
Хрушчы над вокнамі гудуць…
З плугамі плугары ідуць,
Спяваюць ідучы дзяўчаты,
А мацяркі вячэраць ждуць.

Сям'я ў двары за стол сядае,
Над хатай зорачка ўстае.
Дачка вячэраць падае,
А маці павучаць жадае,
Дык салавейка не дае.

Уклала маці каля хаты
Маленькіх дзетачак сваіх;
Сама заснула каля іх.
Заціхла ўсё, адны дзяўчаты
Ды салавейка не заціх.

***[Між 19 і 30 траўня 1847 г., С.-Пецярбург]***

***
Каб зноў мы стрэліся з табою,
Ці ты злякалася б, ці не?
І слова ціхае якое
Тады прамовіла б ты мне?
Ніякага. І не пазнала б.
А можа, потым прыгадала б,

Сказаўшы: «Снілася дурной».
А мне было б такое свята!
Мой цудзе, долечка мая ты!
Калі б пабачыў, прыгадаў
Уцешнае ды маладое
Былое ліхачка ліхое.
Я зарыдаў бы, зарыдаў!
І ўкленчыў бы, што няпраўдзівым,
А сном ашукным знебыло,
Слязьмі-вадою адплыло
Святое колішняе дзіва!

***[Другая палова 1848 года, Кос-Арал]***

## *Лэся УКРАІНКА*

*(Ларыса Пятроўна Косач-Квітка, 1871–1913) – вялікая ўкраінская паэтка, пісьменніца, перакладчыца, культурны дзеяч. Аўтар паэтычных зборнікаў «На крылах песень» (1893), «Думы і мроі» (1899), «Водгукі» (1902). Першы верш напісала ў 9-гадовым узросце. Яе вершы, балады, паэмы («Даўняя казка» (1893), «Адно слова» (1903), інш.), драмы («Касандра» (1903–1907), «Лясная песня» (1911), інш.) выяўляюць любоў да роднага краю, да красы прыроды і свету, скіроўваюць да грамадска-сацыяльных праблем. Лэся Украінка ўзбагаціла ўкраінскую літаратуру новымі тэмамі і матывамі. Паэтка ведала шэраг еўрапейскіх моў, а таксама старажытнагрэцкую і лацінскую мовы, што дало ёй мажлівасць шырока азнаёміцца з класічнымі творамі сусветнай літаратуры і стварыць шэраг твораў на сюжэты сусветнай літаратуры. Яна актыўна ўдзельнічала ва ўкраінскім нацыянальным руху. У 1898 годзе пазнаёмілася з грамадскім дзеячам Сяргеем Мяржынскім. Да яго, смяротна хворага, Лэся Украінка прыехала ў зімовы Мінск у 1901 годзе. Ля яго ложка за адну ноч напісала драматычную паэму «Утрапёная». У сваёй творчасці сцвярджала сілу і неўміручасць украінскага народа і краю.*

## СЛЁЗЫ-ПЕРЛЫ

*Прысвячэнне Івану Франко*

### I

Староначка родная! любы мой краю!
Чаму ўсё замоўкла ў табе, занямела?
Сям-там толькі птушачка ціўкне нясмела,
Нібы перад бурай у нерушным гаі,
Азвецца – і змоўкне... Як глуха, як ціха...
Ой, ліха!

Ох, дзе ж бо ты, воля, зараначка, дзе ты?
Чаму ты не сыдзеш, таемная, з неба?
Няшчаснай зямлі так святло тваё трэба!
Ты бачыш, якая ў нас ноч – ні прасвету?
Ты чуеш, якія скрозь стогны, дакоры?
Ой, гора!

О люд мой гаротны, мая ты радзіна,
Браты мае ўбогія ў ковах кайданных!
Гараць незагойныя, страшныя раны
На ўлонні ў цябе, о мая Украіна!
Хто цяжкія ковы разбіць нам паможа?
Ой, Божа!

Калі ж засвітае?! Ці згінем без долі?
Пракляцце рукам, ападаным бязсіла!
Навошта радзіцца і жыць у магіле?
Як мусіма жыць у ганебнай няволі –
Няхай нас прыгорне зямелька сырая!
Ой, краю!

### II

Краіна мая! слёзы лью над табою...
Нядоля мая! толькі што з таго плачу?

Ці ж неяк пасоблю табе гэтай цяжкай журбою?
Мой Божа, ці ж нешта зыначу?!

Агнём слёзы тыя душу мне палілі,
Сляды іх пякельныя ўжо ў ёй навекі.
Гаркота ды жаль –
вы мне сэрца на лісцік ссушылі!
Дарэмныя ўсе яму лекі.

Такімі слязьмі тут ці ж мала нас плача?
Ці можам мы, дзеці, шчасліва смяяцца,
Калі ў нас матуля гаруе ў нядолі, нястачы,
Дзе ж той весялосці набрацца?

Гавораць, што слёзы гарачыя маці
І цвёрдую моцу камення праймаюць.
Няўжо ж найшчырэйшыя слёзы дзіцяці
Ніякае сілы не маюць?

**III**

Ўсе нашы слёзы полымнай тугою
Агорнуць сэрца – сэрца запалае.
Няхай палае, не дае спакою,
Пакуль душы трывання выстарчае.

Калі ж туга так сэрцайка дастане,
Што невыцерпным стане пал той люты,
Тады душа нямоглая паўстане,
Яе разбудзяць сэрцайка пакуты.

Калі ж паўстане – не мецьме ўгамону,
Зноў, як спярша, заснуць ужо не зможа,
Яна змагацца будзе ўжо да скону:
Або загіне, або пераможа.

Або пагібель, або перамога –
Паўсталыя, мы рушым без вагання,

Якая б ні судзілася дарога.
А мы паўстанем, бо душа паўстане.

Плачма, братове! здзеку яшчэ мала,
Бо йшчэ душа пахілая трывае.
Хай сэрца плача, тужыць апантала,
Хай не дае спакою, хай палае!

***1891***

***

Калі прыйдзе журба, не мяркуй, што яе
Ты развееш гульбой-весялосцю
За шумлівым святочным сталом, дзе твае
П'юць-гуляюць сябры-ягамосці.

Не йдзі ў хорам, дзе музыка хвацка гучыць,
Дзе танцуюць вясёлыя пары, –
Яшчэ горш табе сэрцайка там забаліць,
Шчэ паглыбшаюць одуму хмары.

Не шукай сабе рады і ў плыні людской,
Дзе натоўп стогаловы, як мора,
Ходзіць, плешча, шуміць, – ты патонеш у ёй,
Ды не ўтопіцца там тваё гора.

Лепш ідзі ў цёмны гай, у раскветнены май,
Або ў поле, дзе вецер гуляе,
На раздоллі там з ліхам сабе размаўляй,
Можа, ветрам яго разматляе.

Або сам заспявай, звонка, голасна, так,
Каб, маўляў, засмяялася ліха,
І адчэпіцца, сыдзе пачвара няўзнак,
І на сэрцайку зноў стане ціха...

***1891***

## З «НЯВОЛЬНІЦКІХ ПЕСНЯЎ»

***

І ўсё-ткі думка да цябе імкнецца,
Мой station заняпалы, мой няшчасны краю,
Калі цябе згадаю –
З маркоты, з жалю аж канае сэрца.

Шмат вочы ліха бачылі, насілля,
Ды горшага, як тут, не назіралі.
Яны б над ім рыдалі,
Ды сорам слёз, што льюцца ад бяссілля.

О, слёз такіх праліта ўжо нямала –
Краіна ўся ў іх можа утапіцца;
Даволі ўжо ім ліцца, –
Што слёзы там, дзе нат крыві – й той мала!

*1895*

## НА ЎГОДКІ[1]

Не ён адзін яе любіў,
Нібы «красу-дзяўчыну».
Паэты славілі здаўна
У песнях Украіну.

Запазычалі ейны смех,
І жарты, і таночкі,
І байкі-паказкі яе
Спляталі у вяночкі.

Той даўніну ў ёй падабаў,
Той мройку залатую.
Ён першы палюбіў яе,
Як любіць сын матулю.

Хоць бы яна была старой,
Змарнелаю, убогай, –

Няма раднейшай ад яе
Для сына анікога.

Хоць бы яна была сляпой,
Калекаю няшчаснай, –
Як рана, ятрыцца, смыліць
Любоў яго ўсякчасна.

Ўкраіна бачыла не раз,
Як лёгка забывалі
Пад вечар тое дудары,
Што зранку ёй спявалі;

Як, дар узяўшы ад яе,
Гасцілі ў іншай мілай,
Няздатныя на вернасць ёй,
На любасць да магілы.

Ён першы за сваю любоў
Уварціўся кайданаў,
Але да скону ёй служыў
Без здрады, без падману.

Усё змагла й перамагла
Яго любові сіла.
Таго вялікага вагню
І смерць не пагасіла.

***8 сакавіка 1911 г.***

---

[1] Верш напісаны ў сувязі з 50-годдзем з дня смерці Тараса Шаўчэнкі.

## *Аляксандр ГАЎРЫЛЮК*

*Украінскі пісьменнік, публіцыст, літаратурны крытык. Нарадзіўся 10 (23) мая 1911 года ў вёсцы Забалоцце Бельскага павета Седлецкай губерні (цяпер – Польшча) у сялянскай сям'і. У 1929 годзе ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, быў сакратаром павятовага камітэта. Сямнаццацігадовым юнаком спазнаў ён допыты і катаванні ў коданьскай турме. За сваю падпольную дзейнасць на працягу 1929–1939 гг. 14 разоў падвяргаўся арыштам, двойчы знаходзіўся ў канцлагеры Бяроза-Картузская, з якога быў вызвалены ў верасні 1939 года. Творчую біяграфію паэта адкрывае верш «Успаміны палітвязня», напісаны ў бяла-падляскай турме. Ён стаўся папулярнай песняй рэвалюцыйнага падполля. Пра зведаныя выпрабаванні ён раскажа ў паэме «Песня з Бярозы» і аповесці «Бяроза». Гэтыя творы адкрываюць балючыя старонкі гісторыі, біяграфію душы паэта. У 1979 годзе «Песня з Бярозы» загучала па-беларуску і па-руску. Прадмову да кнігі напісаў зямляк паэта касманаўт Пётр Клімук.*

*Аляксандр Гаўрылюк загінуў разам са сваёй сям'ёй у першы дзень нападу Нямеччыны на СССР у Львове ад выпадковай бомбы, якая трапіла ў групу галіцкіх пісьменнікаў.*

## Рэцэнзія на беларускі пераклад паэмы Аляксандра Гаўрылюка «Песня з Бярозы», зроблены Нінай Мацяш

Пераклад славутай паэмы «Песня з Бярозы» ажыццяўляецца на беларускую мову ўпершыню. Задача гэтая не лёгкая, паколькі паэма з'яўляецца высокамастацкім творам героіка-трагедыйнага плана і адначасова ўнікальным паэтычным дакументам, створаным аўтарам, выдатным рэвалюцыянерам, у засценках санацыйнага канцлагера Бяроза-Картузская. Твор такога тыпу патрабуе ад перакладчыка асаблівай сілы пранікнення ў эстэтычную, эмацыянальную і ідэалагічную атмасферу, а таксама тонкага аналізу моўна-стылістычных сродкаў пісьма. Кожнае слова ў такім творы – унікальнае слова.

На мой погляд, Ніна Мацяш, маючы значны вопыт паэтычнай і перакладчыцкай работы, здолела зразумець адзначаную спецыфіку паэмы. Перакладчыца пранікла ў эмацыянальна-псіхалагічны падтэкст твора, яна здолела данесці да беларускага чытача ідэйна-эстэтычны пафас паэмы, гарачы публіцыстычны пратэст супраць уціску і здзеку над палітычнымі перакананнямі і чалавечай годнасцю вязняў канцлагера, арганізаванага вайсковай групоўкай пілсудчыкаў, што правіла Польшчай у 30-я гады. Адначасна Ніна Мацяш тонка ўлавіла глыбокі напружаны лірызм паэмы. Публіцыстычны стылёвы пласт у паэме А. Гаўрылюка не аддзяляецца ад пласту індывідуальна-псіхалагічнага і лірычнага, паколькі ў цэнтры твора стаіць герой, надзелены багатымі душэўнымі рысамі, чалавек, які нясе ў сабе перакананасць, мужнасць і стойкасць камуніста і пяшчотнасць закаханага мужа, любячага бацькі і сына, а перадусім душэўную тонкасць паэта, надзеленага пачуццём уласнай асабістай непаўторнасці, гуманістычнай каштоўнасці сваіх перажыванняў, паказальнасці кожнага чалавечага лёсу. Вельмі змястоўнымі і глыбокімі з'яўляюцца

ўнутраныя псіхалагічныя працэсы, што працякаюць у душы гэтага рэвалюцыянера і паэта, прадстаўніка працоўнага люду, камуністычнай партыі, калектыву і ў той жа час непаўторнага сваім унутраным светам, сваёй асабовасцю. Шчыра і смела адкрывае паэт унутраную псіхалагічную барацьбу, своеасаблівы канфлікт паміж крайнасцямі асабістых пажаданняў і высокім пачуццём грамадзянскага і чалавечага абавязку. Зразумела, сацыяльна-псіхалагічная змястоўнасць задумы патрабавала ад аўтара і належнага багацця формы, пошукаў разнастайных моўна-стылістычных сродкаў пісьма. Аляксандр Гаўрылюк быў ужо сталым майстрам паэтычнага слова, калі ствараў «Песню з Бярозы». Мастацкая інструментоўка паэмы тонкая і багатая, хоць многія сакрэты майстэрства тут як бы прыхаваны пад знешняю прастатой. Аўтар не забываў пра даходлівасць, зразумеласць твора. Сваю паэму ён мысліў як акт грамадзянскага пратэсту, акт абвінавачання ўладароў буржуазнай Польшчы на судзе сумлення. Такое абвінавачанне павінна быць і змястоўным, і зразумелым масаваму чытачу. Уменне выказваць складаныя сацыяльныя погляды і грамадзянскія пачуцці простымі, можна сказаць аскетычнымі штрыхамі – вось, на мой погляд, аснова майстэрства арыгінала. Перакладчыца ўлавіла гэтую асаблівасць стылю паэмы і патрапіла перастварыць яе на беларускую мову. У перакладзе Ніны Мацяш беларускі чытач сустрэне і належную сілу грамадзянскага пафасу і тонкасць лірычнага пачуцця. Натуральную перашкоду стварала перакладчыцы лексічная зразумеласць для беларускага чытача многіх украінскіх слоў арыгінала, але яна адчула «небяспеку» гэтай блізкасці, калі механічна запазычанае ўкраінскае слова ці выраз раптам у кантэксце беларускай мовы стане лексічным ці фанетычным неалагізмам, не прадугледжаным ідэйна-эстэтычнай задумай твора. Перакладчыца аказалася на вышыні: дабіваючыся максімальнай набліжанасці перакладу да тэксту арыгінала, яна ўнікала лёгкага шляху лексічных калькаў. На тэксце перакладу можна бачыць і сляды пераадолення перакладчыцай спакусы збіцца на адкрытую чуллівасць пры перадачы лірычна-эмацыянальных партый тэксту. Думаецца, што ў цэлым пераклад даносіць мужнасць лірызму, сакрэтам якога так добра валодаў Аляксандр Гаўрылюк. Праца над

перакладам стала для Ніны Мацяш школай павышэння майстэрства. Лічу яе пераклад кваліфікаваным, вартым надрукавання. Публікацыя гэтага перакладу стане яшчэ адным штрыхом у летапісе ўкраінска-беларускага пабрацімства.

***Уладзімір Калеснік***

## ПЕСНЯ З БЯРОЗЫ

*Паэма*

Быццам лук, мая думка напята,
Б’ецца сэрца балюча, трывожна:
ці да вас далунае крылата
гэты спеў мой, сябры, мо апошні?..

Ёсць за плотам дашчаным тут поле,
поле ганьбы, ад свету хаванай,
дзе вартуе штыкоў частаколле
таямніцы двух блокаў цагляных.
Не відаць, як мы тут за парканам
у ярме цягнем друзу фургоны,
як мы трацім прытомнасць загнана
пад кіямі і ношай бетону,
ці, з ног збітыя дзікім загадам,
у размуленай поўзаем твані.
Што ж, няхай! Ды наш дух у балота
утаптаць ніхто ўжо не ў стане!
Смешны здзек нам, бо мы пераможцы,
хоць і катуюць цела злюцела,
з нас не вырвуць адступніцтва слова, –
сілы гэткай няма ў свеце цэлым!

Ўгору ж, дух незаплямлена чысты,
ціхі свет твой нязломнага гарту.
Гэта спеў мой, сябры, асабісты,
звон сталёвы ў радах авангарду.

***

Добра вораг цаніў маю працу,
пан адмерыў мне шчодрую плату:
ценем белым Ванцэцці і Сакка
сталі поруч са мною, як з братам.
Што ж, калі ўжо загінуць патрэбна, –
паміраць вы нас годна вучылі.
Ўгору ж, песня! Пад самае неба!
Лісся, поўная бляску і сілы!

***

Над зямлёю, настылай і слотнай,
дзіка вылі вятры без патолі.
Сцяцца сэрцам, забыць пра пяшчоту,
не будзіць болей песню б ніколі...
Ды снягі пасплывалі разліўна,
і задыхала поле, ўскрыяла,
і над багнай панурай так дзіўна
у няволі вясна наступала.
Птушкі ў сонцы ляцелі і душу
працялі маю крыкам вясняным –
чалавечаму сэрцу ўжо, мусіць,
быць павек да канца не спазнаным…
Не ўгадаць, дзе яно спатыкнецца,
не прадбачыць, што ў сіле агораць...
І скарыўся, і здаўся я сэрцу:
хай свабоднае сэрца гаворыць!

***

Над шырокім дашчаным памостам
цьмянай лямпкі маркотнае вока.
Нібы трупаў памучаных косці
тут пад саванам кінуты ўпокат.
Ды не могільнік гэта вайсковы,
хоць стаяць, як надгробкі, над кожным
паімённыя шыльдкі ў галовах.
Не, то гэтакі сон наш астрожны.

***

Хай жа сёння дазволена будзе –
я ў апошні мо раз шчэ дазволю
скалыхнуцца авеснена грудзям
і заліцца тугою і болем.
Я, хто ўсе пачуванні жывыя
з горкай сілай заціснуў сурова,
скамянелае сэрца абмыю
найпяшчотнейшым пахам ліповым.
Клічу вас, усе барвы і гукі,
чым юнацтва маё прамянела, –
хай уп'юся я вамі – да мукі,
хай паранюся востра і смела.

***

Сёлы, што абышоў я начамі,
ты, кагорта сяброў дарагая,
я пранёс сваю веру, як чару,
над прадоннем здрадлівым ваганняў.
Знаю жорсткага голасу ноты,
знаю радасці грамадзяніна,
ды хачу ў гэту ноч адзіноты
быць каханкам, і бацькам, і сынам.
Продань цемры, Бярозы прадонне,
а я сэрцам спяшаю няўтрымна
да цябе, мая мама, сягоння.
Чуеш крокі спазнелыя сына?
Да цябе я, старэнькай, ссівелай,
занямелай ад лютага болю.
Што ж, калі ўжо такую прыспела
сыну выбраць і высватаць долю:
выбраць долю – харомы, палацы,
выбраць долю – выгоды, раскоша,
і на зайздрасць зайздроснікам маці
шанаваць, як на рэдкасць хто можа.
...Хто ж сягнуў на твой скарб найдарожшы,
цёплы парастак родны, адзіны,

і нажом тваё сэрца палошча
з той часіны, як выкралі сына?
Ці сама гультая ўзгадавала,
што сысці яму ў свет закарцела,
і панёс аб жыццёвыя скалы
разбіваць сваё ўласнае цела?
Будзь здарова, галубка сівая,
ты й сама горка ведаеш гэта:
мацярынская доля такая –
нарадзіць і аддаць цуд свой свету.
Будзь, бывай, мая родная. Болей
чулай любасці ў нашым расстанні,
чым у тых, хто трымаецца дому,
а зямлю баязліўствам паганіць.

***

І яшчэ адна з сэрца ракою
плынь глыбознай пяшчоты сплывае,
з цёплай сілай і страсным спакоем,
як магутная хваля Дуная.
Да цябе яна, хлопчык мой, сыне,
мудравокі маленькі мой дружа!
Мо ўжо ростань над намі й прыстыне?
Як не ўбачымся мы, як загіну,
хай табе запавет мой паслужыць, –
каб у долі сірочай здрадлівай
ты ніколі не зведаў адчаю,
я табе – нібы бацька руплівы,
што маёнткі свае завяшчае.
Я, твой бацька, твой верны таварыш.
Скарб вялікі табе запішу я:
хай сумотныя вочы расхмарыш,
хай цяпло майго сэрца адчуеш.
Першы дар, першы скарб запаветны, –
лёгка жыць і памерці з ім потым, –
то бязмежнасць любові да свету,
што тваю запалоніць істоту.
Свет ліхі толькі гадам бяскрылым,

што жывуць для сябе і сабою, –
іх пагэтаму й страшыць магіла,
бо глыне ўсё, што сэнсам было ім.
Мы ж – спакойныя, смерці ў аблічча
усміхнемся, ідучы на страту;
мы – той шлях, што хвалюе, і кліча,
й пераможна сягае за краты.

***

Вырастаеш на плодным ты полі,
ты прызначан вялікаму часу:
хлопчык, няньчаны ўсёй грамадою,
што штандар наш пранесла у масы.
Быў ты там, дзе паўстаннем даспела
гневу й роспачы нашай калоссе,
і лягло, і ўжо ўстаць не здалела,
пад свінцовай залевай зайшлося.
Будзь жа гнеўным і гордым трыбунам,
сведкам будзь на судзе ўсяго свету,
раскажы, як злачынна камуны
расстраляны былі ў багнах гэтых.
Над тваім гэта ж лёсам сышліся
цені шыбеніц панскіх асудаў.
Сцісні, хлопчык, кулак. Пакляніся:
«Вось мае карані. Не забуду!»
Чыстым сэрцам ты змалку пачуеш
справу праўды тваёй і сумлення:
калі ў бітве няроўнай паду я,
сцяг табе паднімаць ў наступленне.
Сыне мой, бачу дні твае ясна:
пранясеш гэты сцяг ты праз слоты
і клады парыванняў пагаслых
у краіну святла і свабоды.
Сёння ж іншага шчасця не маем,
як за шчасце наступнікаў гінуць.
Узлунай жа ты, песня! Без краю
ліся, песня таварыша й сына!

***

Над зямлёй, як мелодыя з цішы,
з цемры ўжо выквітае світанне.
Дазваляю: няхай ускалыша
найшчымлівае ў сэрцы каханне.
У нязбытнай журбе зноў лячу я
да цябе, ўвесь табою працяты,
да калень прыпадаю, – ты чуеш,
о, мая ты, мая ты, мая ты!
Скрозь разлуку, пакуту, загубу
як бязмежна я, родная, шчасны!
Да пяшчотаў і рук тваіх любых
мая прага ніколі не згасне.
Хай нас дзеляць драты і засекі
ў царстве цемрадзі лютага змея,
ды навекі ўва мне ты, навекі,
і праз ростань навекі ў табе я.
Дзе упарта заціснуты зубы,
дзе нясіла цярпець і трымацца,
там услых не прыгадваюць любых,
там спяваць пра каханне баяцца,
каб туга, захліснуўшы барвіста,
маладушнай струны не збудзіла
і прынадаю ласк прамяністых
не згубіла змагарскае сілы.
Ці ж яно і напраўду такое,
чалавечае наша каханне?
Не! Сябе не спаганіць ніколі
яно ў буры зацішка шуканнем –
ты б ні роспач сваю, ні пагарду,
як дзіця б, не ўтаіла ў паглядзе,
калі б я і чапляўся, няварты,
за каханне, а гонар свой траціў.
Хто ж – зламоўца – так слінай забрудзіў,
хто ж – паўзун – гэтак подла спачварыў
тое, што напаўняе нам грудзі
і выстрэльвае душу ў надхмар’е?!
Нас любоў не вядзе да звыроды,

нам на крылах не вісне балесна:
спеў любові – як песня свабоды,
скрывавелая, гордая песня!

***

Намалюйце фрагмент невялікі загарожы з калючага дроту,
што заплецена густа і моцна, замыкае шляхі перад намі,
насупор парыванням у заўтра, як ашчэраны прывід звыродны,
злымі, чорнымі звоямі звіты і парослы наскрозь бур'янамі.
А на сплётах іржавых, як грудка, цела птушкі,
што страшна ў разгоне
аб калючкі свой лёт працяла тут, – мёртвай ластаўкі кволае цела,
пабурэлае, зжухлае блёкла, слоты выгрызлі вочы са скроняў,
запляліся зламаныя крылы між дратоў, нібы крык анямелы.
Лёгка, быццам маланка-зігзіца, у блакітным вясноўі шугала,
віравала натхнёна і ўзнёсла, песню сэрца ўкладаючы ў крылы,
і не ўгледзела, шчасная, здрады, што яе ў быльнягу пільнавала,
міг – і ў грудзі ўпілося жалеза, і калючкі праз сэрца прабіла.
Не, дратоў гэтых змрочнага зместу птушкам не ўразумець:
дайце ж веры,
што і нашая доля людская сходна з доляю ластаўкі гэтай,
бо, хоць кроў нашых ступняў і росіць шлях той, цяжкі,
цярністы без меры,
ды, забыўшыся ў радасці, бачым – як маячыць дзівосная мэта!
А драты – о, крылатыя, чуйце ж! – гэта проста бяздомная зграя,
звыраднелая ў дзікае племя, адшчапенскае племя сляпое,
што з нікчэмным зларадствам са шляху між калючак
засек заганяе
тых, хто ў першых шарэнгах паходу пабрацімаў вялі за сабою.
Аніколі зняможаных ног мы не павернем назад, – воля ўсведчыць,
хоць крутымі абрывамі часта пуцявіна нам нашая грозіць,
назаўжды – ў даль праменную вочы, хоць не раз трэба
грудзі знявечыць
аржавелым жалезам, як птушка. Вось фрагмент
дратавіння Бярозы.

***

Дзе мы цягнем камення фургоны,
пры чырвонай цаглянай дарозе
шчэ адзін ёсць будынак чырвоны
ў шчэ адной драцяной загароджы,
шчэ адзін паліцай з карабінам
сцеражэ яго мёрзлую цішу –
гэта карцэр; хто ў ім не загінуў,
пра засвецце спірытам апіша.
Пруцянее знямоглае цела
на бетоне аголеным, зрытым,
і паўзуць люта хвілі скалела,
і паўзуць... да канца... да нябыту...
Мoжа, ў лёд сцюжа думкі аберне,
у бяспамяцці ўсё перанесці б.
...Змена варты; на грукат у дзверы
як азвешся, замучаны: «Естэм!»
Ды шчэ розум пануе над целам,
шчэ свядома вартуе твой мозак,
аж надыдзе той час, і, сацьмелы,
ты загубішся ў жорсткай знямозе.
Толькі потым, як верне прытомнасць,
скажа твар твой, разбіты аб сцены,
як блукаў ты ў кашмарах сутонных
цераз стражы і дзён перамены.
Зноў хвіліны пацягнуцца ззябла,
зноў асклелая сцюжа ўцінае –
аж прыходзіць галоўнейшы д’ябал,
нібы пан на агляд ураджаю:
акідае дасведчаным вокам,
можа, пільнасць тваю закалыша,
можа, ты непрытомна, рукою
кантракт ганьбы на душу падпішаш.
Спакушае і ўлешчвае, вабіць,
кліча ў свет незахмараных высяў.
– Адыдзі! Служка здрады й падзення!

Сатана! Адыдзі! Адчапіся!
Чорны воблік твой, сам чэраваты,
голас-злодзей ўкрадаецца мякка.
Не за людскасць у логаве ката
заслужыў ты бразготкі адзнакаў.
Не спаганю я свету сабою,
прэч! Мой гонар на продаж не звесці!
...Зноўку ноч. Зноў гадзіна спакою й –
чобат гупае ў дзверы. Ці «естэм».
    Ноч. Ляжыць амярцвелае цела,
не ўзнімаецца болей з бетону,
ды з-пад зведзеных рэбраў прыцьмела й
насцярожана сэрца шчэ гоніць:
«Тук-тук, тук-тук!..» Я чую... я чую.
Верны й пільны ты мой валадару.
Абяцаю: я ёсць і я буду
                        да твайго
                                да апошняга
                                        ўдару!

***

Між дратоў у калючках, як джалах,
пад груваcткай сцяною катоўні,
як заўжды, нас на здзекі стаўлялі
ў два шнуры знумарованых, роўных.
А за намі, за катаржным полем,
там, дзе травы спаганьблены мордам,
сонца йшло так пяшчотна дадолу,
неба чыстае клікала горда.
Люты Пыталь* глуміўся над намі,
а ўгары, над панурым тым мурам,
з поўдня й поўначы йшлі апантана
хмар лавіны, цяжарныя бурай.
Долу дзіўная ціша стаяла,
захад неба быў ясны, прыветны,
а ўгары быццам грозныя скалы
скалыхнуліся й рушылі з нетраў,
нам вясной папярэдняй падобна**,

напіралі й крышыліся з сілай –
і так білася – ціха і годна –
наша сэрца, што буры прасіла.
І такі быў пусты і плюгавы
лад, што нелюдзі твораць сляпыя,
вобак з тым, як у доблесці й славе
йшло жыццё і змаганне стыхіі.
І раптова з нябёс гэтых гнеўных,
быццам кліч, каб не змякнуць у горы,
буйна й радасна з хмар загрымеў нам
першы гром, малады і бадзёры.
Следам кроплі дажджу, як слязіны,
лёгка й светла дадолу упалі –
і душа падалася парыўна,
і ўспрыймала напружана й палка,
і ўбірала, раскрытая насцеж,
да глыбінь, неба гордую мову:
«Толькі вытрымаць! Духам не ўпасці!
Свет збалеў па абнове вясновай!
Вы ці хмары?! Стыхія ці людзі?!
Рух усё знітаваў непадзельна.
Ані ўстрашыць таго ўжо, ні знішчыць,
хто у цудзе жыцця тут удзельны!»

...І хоць гнаныя крыкамі ката,
у ліхім паядынку са смерцю
мы ляцелі, як птахі, крылата
ў свет на крылах, што выраслі з сэрца.

***Бяроза – Забалоцце, 1937***

---

* Пыталь – бярозаўскі паліцай, вылучаўся асаблівай жорсткасцю.

** У траўні 1936 года паліцыя расстраляла дэманстрацыю беспрацоўных у Львове. Гэта выклікала магутнае паўстанне львоўскага пралетарыяту.

**27.04.1977**

У адным радзе з бессмяротнай кнігай Юліуса Фучыка «Рэпартаж пад шыбеніцай» стаіць аповесць-рэпартаж «Бяроза» ўкраінскага пісьменніка Аляксандра Гаўрылюка. Матэрыялам для яе, як і для паэмы «Песня з Бярозы», служылі факты з жыцця самога аўтара. Аляксандр Гаўрылюк, які пражыў на свеце ўсяго трыццаць гадоў і амаль палавіну з іх правёў у турмах і дэфензівах, двойчы быў вязнем Бярозаўскага канцэнтрацыйнага лагера – гэтай «самай жахлівай катоўні з усіх, якія ствараў сусветны капіталізм». Але палітычныя зняволеныя, палымяныя барацьбіты за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, за ўз’яднанне народаў гэтых краін у адзінай братэрскай сям’і, гатовы былі аддаць жыцці за сцверджанне камуністычных ідэалаў – і гэтым перамагалі, выстойвалі ў самых нечалавечых умовах нават такіх «лагераў смерці», якім слыла ў трыццатыя гады Бяроза-Картузская.

Прапаную ўвазе чытачоў урывак з аповесці Аляксандра Гаўрылюка – у маім перакладзе.

***Ніна Мацяш***

**БЯРОЗА**

...Бяроза! Два гады таму прагучала з газет гэтае слова і адразу лягло на краіну пачварным ценем, скалыхваючы народныя масы хваляю агіды, жаху, абурэння і гневу. Загад пра стварэнне Бярозы падпісаў у 1934 годзе сам «вялікі маршал» і «дарагі камендант» Пілсудскі. Гэта быў апошні выдатны яго твор, і твор гэты адразу вырас да значэння сімвалу здзічэлага,канаючага свету. Нават рэакцыйныя польскія колы былі трошкі збянтэжаны такім ці не надта «адважным» крокам свайго ўрада і пыталіся ў сябе: а ці паплатна ім так адкрыта скінуць з сябе лічыну ўсялякай добрапрыстойнасці і культуры?

Ідзе цягнік. Арыштаваны ведае: яго вязуць не зняволіць, не пакараць, не ізаляваць ад свету. Яго вязуць нават не проста забіць. Яго вязуць зламаць. Яму створаць такія абставіны, дзе яго рэвалюцыйны гарт, ягоная годнасць, адданасць, вернасць павінны скрышыцца, як грудка ў жорнах, распасціся, як габлюшына ў полымі.

На гэта створана Бяроза.

Уласна кажучы, амаль нічога канкрэтнага пра Бярозу не было вядома, а пісаць пра яе сурова забаранялася. Ён таксама нічога не ведае, хоць менавіта для такіх, як ён, і прыдумалі яе. Не сустракаў ён нідзе былых вязняў Бярозы, хоць, здаецца, і ёсць такія... Але пры ўсёй таямнічасці ведама ўсім адно, што гэта самая жахлівая катоўня з усіх, якія ствараў сусветны капіталізм. Польскія паны, што з такім запалам наследавалі сваім настаўнікам з Захаду, у гэтым выпадку пахвальна пераўзышлі іх.

.......................................................................................

...Цягнік імчыць. Мільгаюць назвы польскіх станцый: Жабінка, Тэўлі, Кобрын. Праз абмерзлыя вокны нічога не відно. Ды й што ўбачыш на Палессі?

Нарэшце, вось яна – Бяроза: маленькая станцыя сярод аснежаных палёў. Некалькі прыгорбленых абдзёртых візнікаў.

Ага, выяўляецца, што ад станцыі трэба праехаць яшчэ шэсць кіламетраў.

На марозе і ветры кайданы адразу пачынаюць пячы, як агонь. Паліцай бачыць, што рукі арыштаванага прымярзаюць: ён хоць і не раскоўвае рук, але сяк-так нацягвае на іх свае рукавіцы. Сані імчаць. Вецер рэжа твар. Вушы калеюць, іх ніяк не прыкрыць скаванымі рукамі. Візнік маўчыць і не акідаецца. Мабыць, ён штодня возіць такіх падарожных, і ад гэтага жыццё яму – катаргаю.

Вочы шукаюць страшнай мэты. Пустыннае зімовае поле. А ўдалечыні злева нейкія шасцікутныя вежы, каменная сцяна.

– Не, – кажа візнік, не абарочваючыся, – гэта руіны манастыра ордэна Картузаў, праз яго і Бяроза-Картузская. Гэта вунь там!

Сярод плоскага поля вырастаюць два велічэзныя чырвоныя будынкі, трохпавярховыя, панурыя. Тут, на пустцы, яны ўражваюць сваімі памерамі. Яны прыгнятаюць і ўсю мясцовасць, і душу. Будынкі абнесены высокім парканам, але абгароджа здаецца нізенькай у параўнанні з іх агромністымі чырвонымі сценамі. А ў сценах даўжэзныя рады вакон, – якія ж аднастайна даўжэзныя рады вакон!

.......................................................................................

Усё гэта пісьменнік спраўна і выразна адзначае ў памяці.

.......................................................................................

Па шашы ўздоўж паркана ім насустрач коціцца цяжкі, нагружаны фургон. Без коней – цягнуць людзі, людзі ў шэрых арыштанцкіх халатах, у маленькіх блазенскіх шапачках. На плячах нашыты вялізныя нумары, выведзеныя чорнай тушшу.

З пякучай цікавасцю глядзіць на іх пісьменнік, намагаючыся па іх абліччах вычытаць таямніцу Бярозы. Што на гэтых тварах? Адчай? Закамянелая нязломнасць? Жах? Спакой?

Як на іх адлюстравалася сутнасць Бярозы, якую яны спазналі ўжо да дна? Не, гэтыя твары непранікнёныя, мёртвыя для якіх бы там ні было адчуванняў твары. Драўляныя маскі. Ніхто нават не глянуў на яго, хоць, без сумнення, усе яго заўважылі. У мёртвай маўчанцы воз пакаціўся далей у суправаджэнні апранутага ў доўгі кажух паліцэйскага.

Цяжкая драўляная брама. У будцы паліцай у кажусе. Сані спыніліся. А! Пад’язджаюць яшчэ адны сані – відаць, тым самым цягніком прыехалі і іншыя таварышы па нядолі.

З форткі выходзяць некалькі паліцэйскіх; нават прыезджы эскорт баязліва ўцінаецца перад імі: бярозаўскія паліцаі – здаравенныя боўдзілы з сапраўды звярыным выглядам. Агідныя ўсмешкі на вуснах, у руках гумавыя дубінкі, хіжыя і адначасна ласыя пагляды абмацваюць постаці арыштаваных, як быццам загодзь смакуючы нейкую прыемнасць. Ёсць у гэтым нешта жудаснае. Таму і ўцінаюцца трывожна прыезджыя паліцэйскія, хоць кожны з іх у сябе дома на «пастарунку» напэўна штодня лупцуе розных «грамадзян», якім выпала сутыкнуцца з «законам». Але паліцаі адчуваюць, што ўся іх хатняя работа – кустарніцтва ў параўнанні з фабрыкаю катаванняў, арганізаванаю ў тых сценах.

Паліцаі-гаспадары легкаважна і пагардліва, як у шкаляроў, нешта выпытваюць у прыезджых калег.

Расчыняецца брама Бярозы, каб каўтануць ахвяры.

Паліцаі, глумліва пасміхаючыся, падступаюць да групкі арыштаваных.

П***а***дае ціхая каманда:

– Бягом!

Адначасна люты ўдар па галаве аглушае з левага боку. Такі ж удар дубінкі справа вяртае раўнавагу. Удар гумавай дубінкі глуха прыгваздаў галаву зверху.

Арыштаваныя рынуліся ў браму, але і тут удары сыплюцца з усіх бакоў. Бягуць, спатыкаючыся і падаючы, усхопліваюцца пад ударамі, губляючы і рассыпаючы клункі і хуталікі. Бягуць па нейкіх засеках з калючага дроту, але ўсюды натыкаюцца на паліцэйскіх. Тыя выскокваюць наперарэз сваім ахвярам, як футбалісты на разагнанага мяча, і страшным замахам дубінкі валяць людзей з ног.

– Бягом!

Арыштаваныя бягуць пад градам удараў. Не, не ўсе бягуць: ззаду нехта стогне перадсмяротным стогнам на снезе. Але гон не спыняецца.

– Бягом!

Арыштаваныя прабягаюць паўз астатніх паліцаяў. Але тады грыміць новы загад.

– Падай!

Вязні выконваюць загад. Перад імі і так сыходзяцца высокія іржавыя калючыя засекі. Паліцэйскія падыходзяць і пачынаюць біць па распластаных на снезе целах. Пераходзяць ад аднаго да другога і б'юць, зноў вяртаюцца і б'юць, – ці гэта й будзе ўжо канец, тут затаўчуць да смерці?..

– Уставай!

– Бягом – марш!

Людзі зноў кідаюцца наперад пад ударамі. Бягуць – куды? У вачах цёмна, але ведаюць, што бягуць углыб Бярозы, на дно Бярозы. Кіраваныя ўдарамі, трапляюць у нейкую клетку з калючага дроту. Ударамі заганяюць іх у маленькі пакой. Глыбей, штораз глыбей, на дно Бярозы.

Тут, за сталом, у зухавата збітым на патыліцу картузе, сядзіць сухі паліцэйскі. Задзёршы галаву ўгару ды заклаўшы нагу на нагу, паглядвае на вязняў, на збітыя, пакалечаныя, скрываўленыя постаці. Тыя чакаюць, ледзьве трымаючыся на нагах ад пабояў. Чакаюць: яны ўступілі ў Бярозу. Але яна, уласна, пачынаецца менавіта тут, у гэтым агромністым будынку.

– Ну, прачытаю вам статут Бярозы, – азываецца, нарэшце, паліцэйскі скрыпучым, драўляным голасам. Дастае са стала нейкі зашмальцаваны шматок паперы з машынапісным тэкстам і чытае прыблізна такое: кожны арыштаваны павінен няўхільна падпарадкавацца ўсім загадам і выконваць іх неадкладна. У выпадку непаслушэнства застасоўваецца прымус, а ў якасці кары даецца арышт і карцэр. Да кожнага паліцэйскага арыштаваны мусіць звяртацца не інакш як «пане камендант». Пра ўсё трэба «рапартаваць слухмяна» і «прасіць слухмяна». Без дазволу няможна зрабіць аніводнага кроку. Усе загады выконваць бягом. У Бярозе вымагаецца поўнае маўчанне. Пры выяўленні самага дробнага непаслушэнства будзе ўжыта зброя.

– Зразумела? – скрыпіць паліцэйскі і плюгава пасміхаецца. – Відавочна, гэта не ўсё, усяго не напішаш, – тлумачыць ён спакойна. – Шмат спазнаецца на вопыце!

Так, вязні разумеюць, што гэта не ўсё. Паслушэнства, арышт, карцар, – якая ідылія! Ужыванне сілы пры супраціўленні... Так, яны пераканаліся ўжо... Хоць у статуце, нават бярозаўскім статуце, пра гэта не напісана.

.........................................................................

...Арыштаваныя зноў выгнаны ў калідор.

– Смірна! Камуністычнымі мордамі павярнуцца да сцяны! Не азірацца!

Мімаходзь пісьменнік адзначае: там, у канцы калідора, муры як бы расступаюцца, утвараюць нейкія залы, брудныя і вялікія, як стайні. Там віднеюцца сталы і людзі за сталамі. Людзі не людзі – трупы; гэткая несамавітая іх нерухомасць і маўчанне. Іх там шмат. Маладога чалавека апаноўвае трывога. Неўзабаве тыя жывыя трупы некуды знікаюць.

– Па калідоры бягом – марш!

Калідор уліваецца ў неахайную, велічэзную залу, падпертую слупамі. Усюды разбітыя вокны, праз шчыліны ў дзвярах свішчуць скразнякі. Два знялюджаныя вязні, у лахманах, з нумарамі на спіне, увіхаюцца ля паравіка. Падкладваюць дровы.

Прыбылым зноў загадваюць распрануцца нагала.

Таўраваныя нумарамі вязні абыякава і тупа працуюць далей, нават не глянуўшы на сваіх таварышаў. Збіраюць вопратку, моўчкі кладуць яе ў паравік, не праяўляючы ніякай зацікаўленасці да голых навічкоў, якія зноў стаяць тварам да сцяны, свецячы жахліва скатаванымі спінамі. Прыходзіць яшчэ адзін знялюджаны лахманамі вязень і пачынае па чарзе стрыгчы новаз’яўленых. Але робіць гэта з такой тупой халоднасцю, быццам перад ім стаяць не таварышы па нядолі, а мёртвыя прадметы. Гэта жахліва. Твар без выразу, без думкі, без пачуцця. Нумараваныя, бяздушныя целы.

На навічкоў гэта робіць страшнейшае ўражанне, чым збіванне, і вочы ў іх круглеюць ад жудасці. Як? Дык да гэтага даводзіць Бяроза? Дык і гэтыя нумараваныя, тупыя аўтаматы таксама былі людзьмі, саратнікамі, палкімі і адданымі, гордымі і мудрымі?! Дык да гэтага даводзіць Бяроза?! Да гэтага і іх давядзе, што страцяць усе рысы чалавека? Будуць тупа-драўлянымі вобак скатаваных братоў?!

Але раптам за плячыма чуецца шэпт:

– Таварышы, адпачніце!

Што? Што? Гэта да іх звяртаюцца гэтыя бяздушныя?! Навічкі не даслухалі слоў. Ах, шэпчуць, каб каля сцяны не стаялі напята, а вольна, бо так лягчэй! Нюансы Бярозы, «палягчэнні» ў ёй! Але не гэта важна,  найважней іншае, і яго навічкі зразумелі адразу: вось гэтыя таўраваныя людзі – таварышы, жывыя і чулыя, як усюды. Пад нумараваным рыззём у іх такое ж сэрца і розум. Яны толькі носяць на сабе нейкую пачварную маску, маску Бярозы.

## *Ліна КАСТЭНКА*

*(1930) – славутая ўкраінская пісьменніца. Лаўрэат Шаўчэнкаўскай прэміі (1987), прэміі Пятраркі (1994) і інш. Ганаровы прафесар Кіева-Магілянскай акадэміі, ганаровы доктар Львоўскага і Чарнавецкага ўніверсітэтаў. Аўтар паэтычных зборнікаў «Промні зямлі» (1957), «Ветразі» (1958), «Вандроўкі сэрца» (1961), «Над берагамі вечнае ракі» (1977), «Непаўторнасць» (1980), «Сад нятаючых скульптур» (1987), «Рака Геракліта» (2011) і інш., гістарычнага рамана ў вершах «Маруся Чурай» (1979), празаічнага рамана «Запіскі ўкраінскага вар'ята» (2010). Вядомая сваёй незалежнай грамадзянскай пазіцыяй. Самабытная паэтка сучаснай украінскай літаратуры.*

### «Я ВЫБРАЛА ДОЛЮ САБЕ САМА...»

Няпроста пераступіць цераз уласны страх. У маім разе – цераз страх перад чыстым аркушам. Паэтка Ліна Кастэнка надзвычай папулярная не толькі на радзіме, дзе яе мянуюць «*царыцай украінскай паэзіі*». Яе творы гучаць на шматлікіх мовах свету. У Інтэрнэце процьма прысвечаных ёй рэфератаў, спасылак

на яе творчасць, даўнейшых і навейшых вершаў. Што да ўжо шмат кім сказанага пра гэтую сапраўды Богам уталентаваную паэтку магу дадаць я? Не быўшы асабіста знаёмай, контурна-павярхоўна ведаючы яе жыццяпіс... Не маючы схілкі да «правярання гармоніі алгебрай»... Падбадзёрвае хіба толькі тое, што падобны стан нерашучасці ды сумневу ведамы ці не кожнаму творцу. Вось жа і сама Ліна Кастэнка прызналася: «*Страшні слова, коли вони мовчать, / коли вони зненацька причаїлись, / коли не знаєш, з чого їх почать, / бо всі слова були уже чиїмись...*» Але ёсць душа, ёсць індывідуальная рэакцыя на вакольны свет, у тым ліку і на культурніцкі, інтэлектуальна-мастацкі, духоўны свет, і яна, душа, прагне ведаць праўду аб самой сабе. Таму і адважваецца ўзірацца, асэнсоўваць, ствараць. І даходзіць «*праз Літару Чужую да сэнсу ўласнага быцця*» (Ірына Багдановіч).

Адной з такіх «чужых літар» у тыя ўжо далёкія васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя з'явілася для мяне кніжка «Над берегами вічної ріки» Ліны Кастэнкі. Гляджу на яе здымак тае пары, на тонкі, як вытачаны, профіль з ідэальна выверанымі рысамі твару: прыгожа акрэсленыя спелыя вусны не маленькага і не вялікага рота, тонкі прамы нос, вялікія вочы пад ахоўнымі дугамі цёмных броваў, адкрыты высокі лоб і акуратна ўчасаная капа раскошных валасоў; позірк глыбокі і засяроджаны, прысутна-адсутны і прыцягальны, з адчувальнай вабнай моцай усёй гэтай жаночай натуры.

Цвёрды, валявы характар даецца разам з лёсам – як зычлівае папярэджанне, што чалавека чакаюць няпростыя жыццёвыя выпрабаванні.

Украінская паэтка з годнасцю прыняла і пераадолела ўсё, што квапілася на яе чыстае сумленне, што сілілася збяскрыліць яе ўпарты, нікому не падлеглы творчы дух.

Ліна Васілеўна Кастэнка нарадзілася 19 сакавіка 1930 г. на Кіеўшчыне ў мястэчку Ржышчаў. Праз шэсць гадоў сям'я перабралася ў Кіеў, дзе дзяўчынка, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, прадоўжыла вучобу ў педінстытуце, а ў 1956-м на выдатна закончыла маскоўскі Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Вершаваць пачала ў няпоўныя шаснаццаць. Па вяртанні з Масквы ўжо мела падрыхтаваную да выдання кніжку, якая з'явілася ў друку ў 1957 годзе пад назовам «Праменне зямлі» і вельмі ўхвальна была сустрэтая ў інтэлігентным і літаратуразнаўчым асяродках. Праз год чытачы ўжо шукалі ў кнігарнях яе «Ветразі» (1958), потым «Вандроўкі сэрца»

(1961) і... перад паэткай ажно на 16 гадоў замкнуліся дзверы ўсіх буйных часопісаў і выдавецтваў. Тое, што ўжо ад пачатку добра праглядвалася ў творчасці Л. Кастэнкі і моцна вабіла, хвалявала, узрушала чытачоў, – непрыхаваная любоў да роднай зямлі, нятоеная нацыянальная годнасць, духоўная незалежнасць, зварот да гістарычнай спадчыны ўласнага народа – заўважылася, вядома, і пільнымі ідэалагічнымі наглядчыкамі за літаратурным працэсам ды самімі літаратарамі. Пагатоў за такімі, як Ліна Кастэнка, чый бацька – настаўнік, які валодаў дванаццаццю мовамі, мог прафесійна выкладаць (і выкладаў) усе прадметы пачатковай школы, – быў рэпрэсаваны і цэлых дзесяць гадоў адпакутаваў у жахлівых сталінскіх канцлагерах. Паэтка была ўжо замужам, мела на руках дваіх дзетак – без капейчыны дзеля пражытку... Яе імя гэтаксама, як шырока знаныя цяпер імёны Івана Драча, Мыколы Вінграноўськага, Васыля Сыманэнкі ды іншых маладых тады ўкраінскіх паэтаў, апынулася ў спісе асоб, падазраваных і звінавачваных у нацыяналізме, фармалізме, упадніцтве і да таго падобных недаравальных у вачах таталітарнай сістэмы грахах. Шмат хто з творцаў удала прыстасоўваўся да вымогаў «*чорных лебедзяў часу*» з «*пурпуровымі дзюбамі*» («22»), ахвотна «*жертвовал лицом ради положения*» (Барыс Пастарнак). Ліна Кастэнка арганічна не прымае прыстасаванства ў любых яго формах. Хай сабе, пакуль «*жанглюе будзень святасцю і свінствам*» («Ой не, зарана думаць мне пра ўсё»), камусьці здаецца, што «*можа, й невялікая тут шкода – / сяк-так свой верш на патасе стуліць. / Але паэт прыродны, як прырода. / Ад фальшу ў яго слова забаліць*» («Навошта ж дэкламацыя?»), – сама яна не магла паступіцца сумленнем дзеля «поўнай кішкі», як у нас кажуць, дзеля сытасці ды іншых дабротаў. «*Я дужая, нават злая*» («Доля»), прызнавалася яна і мужна трывала нястаткі, абгаворы, шальмаванне і замоўчванне. Бо што ж: «*Я выбрала Долю сабе сама. / І што са мною ні станецца – / ў мяне аніякіх прэтэнзій няма / да Долі – маёй абранніцы*» (тамсама). Бо куды страшней і непапраўней – самаруч выціснуць з сябе ўсё спадчынна гордае, прынцыповае, маральнае. «*Калісьці ж яны пазнікаюць, усе скрыні усіх Пандор*», – суцяшала яна ў вершы «Іспанская Кармэнсіта» маленькую іспаначку і сябе. «...*Лёс нялёгкі – што ж, карысць тут і свая ёсць: /шчаслівы сон душы мастацтву не спрыяе*», – з сумнай усмешкай дадавала паэтка.

Пэўна, не знойдзецца ніводнага чалавека, непапраўна глухога да вялікай музыкі слова ва ўсёй паўнаце яго вытанчанай прастаты, праўды і любові, неймавернай напрузі пачуццяў і афарыстычнай інтэлектуальнай глыбіні, чым ёсць лірыка Ліны Кастэнка.

Я пераклала блізу чатырох дзясяткаў яе вершаў. Абазнаны ведае, якая гэта няпростая справа. «*Даже репродукции картин дают большее представление об оригинале, чем прекрасные поэтические переводы: у каждого языка своя фауна слов, свое звучание, свои ассоциации*», – перасцерагаў Ілля Эрэнбург. І чым бліжэйшыя мовы, тым складанейшая праца. Элементарны прыклад – два радкі верша «Казачка пра трох асілкаў»:

*Мы велетні, мы велетні, мы велетні.*

*Мы телепні, мы телепні, мы телепні!*

*Велетень* – казачны сілач, здольны дзейсніць розныя невераемныя чыны і лёгка перамагчы процьму ўсялякіх ворагаў; па-нашаму* *асілак, волат, велет, магут, вялікманец*. Украінскі *телепень* – гэта беларускі *цяльпук, цяльпух, целяпень, целяпей, дурань, няўдака, недарэка, ёлуп*. З пяці сінонімаў сілача найпрымальнейшыя два: *асілак* і *волат* (*велета* апускаем як слова абласнога ўжывання). Каб захаваць сэнсавы націск, трэба захаваць аўтарскі парадак слоў: «Мы асілкі, мы асілкі, мы асілкі», але тады націск з другога складу радка перамяшчаецца на трэці склад і скажае ўсю кастэнкаўскую інтанацыю. Памяняць месцы дзейніка і займенніка? «Асілкі мы, асілкі мы, асілкі мы?»... Трошкі прыцьмелася важлівае тут *мы*, але хай сабе, глядзім далей. А калі скарыстаць *волата*? «Мы волаты, мы волаты, мы волаты»... Тое, што трэба, ніводнай страты! Цяпер другі радок. А з гэтым яшчэ складаней. Не знаходзяць у ім прытулку ні *цельпукі*, ні *недарэкі*, ні *дурні*, нават *целяпні* ды *няўдакі*, бо то рытм пакутуе, то рыфмы аніякай, а ў арыгінале такая музыка, такая даладнасць і дакладнасць!.. Добра-такі намучыўшыся, зміраешся з уласным бяссіллем захаваць у перакладзе чыста ўсе адметы арыгінала і спыняешся на апошнім варыянце: «*Мы волаты, мы волаты, мы волаты. Мы ёлупы, мы ёлупы, мы ёлупы*!» Грубавата, канешне, і падтэкст мацней напаверх вылез, але ж хоць тры літаркі ды запераклікаліся...

Ліна Кастэнка – паэт з вельмі выразнай і нехаванай грамадзянскай пазіцыяй: «*Не баязліўцы, не дэбілы, / Але*

*чаму так душы спяць? / Тады авацыі грымелі, / Цяпер авацыі грымяць»*, «*Рэжымы хунты і прэторыі. / Мінала ўсё – / заўжды былі народы, / а краты – што ж, / гэта канва гісторыі. / Трэба ж на нечым вышыць аблічча свабоды*» («Лятучыя катрэны»).

Не бывае спелага паэта без яго звязу з людзьмі, з усім вакольным светам, без суўдзелу і асэнсавання жыцця. «*Я толькі інструмент, / якім выплакваюцца сны майго народу*» («Якая розніца – куды і хто пайшоў»), – удакладняе паэтка свой творчы статус. Гэтым інструментам пранізліва выплакваюцца і ўласныя сны...

*Гэта чад, а не цуд, я баюся такога кахання.*

*Чарнакніжніца-ноч, адкажы мне хоць голасам рэк:*
*гэты тропат, пяшчота, неазмрочнены рай без выгнання,*
*заварожнае шчасце, – ці бывае такое навек?*

*Што губляем штодня мы з уласнай святлістасці ўзнёснай?*
*Як лякаецца розум! Натамілі душу крумкачы.*
*Заклінаю цябе, будзь навекі такім жа дзівосным.*
*Чарнакніжніца-ноч, мне хоць голасам рэк адкажы.*

Гэта з «Саду нетанучых скульптур» (1987). У маёй бібліятэцы яшчэ і «Неповторність» (1980), і «Вибране» (1989), і, канешне ж, гістарычны раман у вершах «Маруся Чурай» (1979, Дзяржаўная прэмія Украіны імя Тараса Шаўчэнкі за 1987 год), падараваны сціплым валынскім сябрам – паэтам Мыколам Чарняком. «Ніночко! Сподіваюся, що в недалекому майбутньому зможу отримати од Вас такий же роман у перекладі білоруською мовою. Сонця, щастя Вам!» Подпіс і дата: «26 липня 1980 року, смт. (паселішча гарадскога тыпу, гарадскі пасёлак. – Н. М.) Любешів».

Леташнім прадвеснем Міколу заўчасна адклікалі Нябёсы, і ўжо дзесь там азывае яго мая светлая падзячлівая згадка пра ягоную прыязнасць і падтрымку ў жыццёвай дарозе, пра нашы сумесныя, у гурце ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў, паездкі па Валыні ды Берасцейшчыне дзеля ўзаемнага знаёмства з літаратурай і літаратарамі нашых пасуседжаных земляў...

Ці варта казаць, што ён быў найпершым з маіх украінскіх сяброў, хто ў 1990 годзе прачытаў беларускамоўны том выбранай лірыкі сваёй знакамітай зямлячкі з вершамі ў майстэрскім перакладзе Валянціны Коўтун і маёй «Марусяй Чурай».

Цяпер, калі я азіраюся ўслед гэтым «з рэактыўным свістам» (Ліна Кастэнка) праляцелым дваццаці пяці гадам жыцця, мне шчасліва здаецца-думаецца, што пераклад рамана даўся без ніякай намогі, святочна-лёгка. Вядома ж, гэта не зусім так, або й і зусім не так. Але той натхнёны ўздым, тая апантаная жарсць, што не адпускалі мяне цягам працы – год?.. паўтара?.. не памятаю, – не пакідалі ўсім немінучым, натуральным рабочым цяжкасцям ніводнага шанцу выйсці на першаплан. Чым я тады ні займалася б па-за пісьмовым сталом, творчая напруга не спадала ні ўдзень, ні ўночы; пакуль не правальвалася ў глухі асвяжальны сон, у памяці бясконца круціліся, паўтараліся, і так, і гэтак паварочваліся радкі, падбіраліся найдакладнейшыя словы-адпаведнікі. Я «ўтопла», «патанула» ў першароднай, як стыхія, прадоннай плыні рамана і, нібы фальклорная русалка, асвойвала, абжывала яе, каб потым – а як жа! на тое ж і русалка! – зацягнуць у віры гістарычных падзей і жарсцяў твора не аднаго яшчэ зачараванага цікаўніка. Каб і яму, як мне, балела душа па сумленных і несумленных, ахвярных і сквапных, хітрых і абыякавых палтаўчанах, прагнулася справядлівасці дзеля кожнага і волі дзеля ўсяго люду, каб разам з Марусяй прайсці ўсімі ўздымнымі ды пякельнымі сцежкамі кахання і здрады, у прорве роспачы ўжо схіляцца да тагасвецця і ўсё-ткі не зламацца дарэшты, вярнуцца да жыцця, жорсткага, крывавага, бязлітаснага – і такога неасяжна вялікаснага, велічнага, загадкавага ў касмічнай цэласнасці відомага і невідомага, з мянлівым, вечна ўразлівым прыродным харáством. Не падпіраюся цытаваннем: лыжка марской вады – не мора. Паасобныя, хай і найярчэйшыя радкі твора здольныя аздобіць і падмацаваць пэўную думку, аднак бяссілыя ўвасобіць уразлівую эмацыйную, інтэлектуальную, маральную напругу рамана, яго неймаверна размаітую, псіхалагічна адэкватную інтанацыйнасць, яго непадробна жывое дыханне.

Легендарная Маруся Чурай, якая, без увагі на тое, што пра яе пакуль не адшукана ніводнага афіцыйнага дакумента, ужо не адно стагоддзе жыве ў народнай памяці як паэтка і спявачка, вабіла і натхняла многіх украінскіх, расейскіх, польскіх пісьменнікаў. Згадайма хоць гістарычную аповесць «Маруся – маларасійская Сафо» Аляксандра Шахаўскога. Але толькі Ліна Кастэнка патрапіла надаць гэтаму вобразу праўдзівае аблічча рэальнай гістарычнай асобы часоў паўстання Багдана Хмяльніцкага.

Слушна кажуць літаратуразнаўцы, што талент – не адзіная гарантыя поспеху, што гарантыя поспеху – у асобе паэта. Ліна

Кастэнка ўсё жыццё ад верша да верша, ад паэмы да паэмы сцвярджае любоў і годнасць як аснову й апору чалавечнасці і няўтомна вяртае «пересічному (сярэдняму. – Н. М.) українцу» ягоную гістарычную памяць. А ў гэтым вяршынным творы сваёй лірыкі ўжо ўсяму свету паказала сапраўдны, не скажоны ніякімі «крывымі люстэркамі» твар роднай Бацькаўшчыны, душу свайго народа, такога вялікага – у годнасці, вызвольным духу, мужнасці, у шанаванні высокіх маральна-этычных прынцыпаў, свабоды, праўды, песні. Чураёўна хвалюе, да слёз узрушае нас не толькі сваёй горкай жаночай доляй, але найперш як таленавітая і гордая дачка свайго народа, як палымяная грамадзянка. Бо «сама сабою фізічная драма хвалюе нас толькі тады, калі нам стаецца відавочным яе духоўны сэнс» (Антуан дэ Сент-Экзюперы).

***Ніна Мацяш, 2007***

***

Такі чужы
            І раптам – канаваны.
Хімеры хмар задушаць гарызонт.
Зямля ўдыхне глыбінна й раскавана
на вішняках настоены азон.
Мне знемагальна, душна, невыносна.
Чад бэзу туманее, нібы лёс.
Гудуць лясы, рыпяць зеленакросны,
парчовы лівень выткаўшы з нябёс.
Лягла далонь натхнёнай навальніцы
на залатую страту галавы.
Мне ўжо ніколі, мабыць, не дасніцца
шалёны ўсплёск заўзятых бліскавіц.

А навальніца грозіць мне грамамі,
і на дыбкі – зацуглены адчай.
Няхай смакуюць пачуццё гурманы,
стыхія ж ты – кахаеш, дык кахай!

І я…
   Чужога.

Раптам – канаванага.
Маркота сэрца не стыкае воч.
Туга і шчасце піранітаваны.
Уся маланкамі праткана ноч!..

**ПІНГ-ПОНГ**

– дабрыдзень –
– добры дзень –
– як справы? –
– дзякую – добра – як у вас? –
– работа – лета – спёка – прага –
– а як настрой? –
– выдатна –
– вочы ж –
– вам здалося –
– няпраўда –
– асцярожна – мяч! –
агнём маўчання працялося –
спляліся позіркі – прабач –
слоў не шкадуй пустапарожніх –
кажы іх зноў – кажы іх зноў! –
а так – а так глядзець няможна
ў настольным тэнісе размоў. –

***

Штогод я сведкаю: вясной, у маі
прыносяць людзі фарбу, інструмент.
Хтось агароджу дбайна папраўляе,
або, на шэры стаўшы пастамент,
фарбуе помнік воіну жанчына,
ад фарбы срэбнай бліскаўкі ў вачах.
А ўсё цвіце, й не плакаць немагчыма.
Яна таму салдату да пляча.
Яна яго, каменнага, фарбуе.
Як шызая галубачка, шчыруе.
Хінецца да яго, краёчкам ходзіць,

і цягнецца, на пальчыкі ўстае.
І так ужо той шчотачкаю водзіць –
бы ў новы шынялёчак адзяе.

***

Старэнькая кабета! Магда?.. Эльза?..
Вялікі свет, ліхія ў ім вятры.
У нас дагэтуль Крупава жалеза
выворваюць у полі трактары.

Ну, як там вальсы – граюцца ў Вальсродэ?
Як доктар Фаўст – змагаецца са злом?
У нас навекі хлопцам нашым родным
жыць сабе й жыць у рамачцы за шклом.
Не, я нічога да цябе не маю.
Магчыма, й твой загінуў на вайне.
За што, супраць каго ён біўся, Магда?!
Ён не крычыць «Хайль Гітлер!» на сцяне?

***

Жыццё ідзе і ўсё без карэктур.
І час ляціць, не сцішвае галопу.
Даўно няма маркізы Пампадур,
і мы жывем даўно пасля патопу.

Не знаю я, што будзе пасля нас,
прыродзе ў шаты у якія ўбрацца.
Адзіны, хто не мае ўтомы, – час.
А мы жывыя, й трэба нам спяшацца.

Каб тое здзейсніць, што прызначыў лёс,
пакінуць след – хоць пройдзем мы, як цені,
каб толькі вочы светлыя нябёс
заўжды зямлю тут бачылі ў цвіценні.

І каб лясы не вымерлі, як тур,
каб не зачэзлі словы, нібы руды.

Жыццё ідзе і ўсё без карэктур,
і як напішаш, гэтак ужо й будзе.

Але не бойся прыкрага радка.
Як і празрэнняў, бо яны як лекі.
Не бойся праўду горкую спаткаць,
не бойся смуткаў, хоць яны як рэкі.

Людское сэрца бойся ашукаць,
бо ў гэткім схібіш – дык ужо навекі.

***

Перабірае струны бор сасновы.
Ракоча ціша на глухіх басах.
Звіняць бярозы. Ходзяць перазовы,
з паўдня людзьмі забытыя ў лясах.

Бор – сівы лірнік. Ён багата знае.
Яго паслухаць сходзяцца вякі.
Усё ідзе, але не ўсё мінае
над берагамі вечнае ракі.

Світае свет ў цярноўнікавым голлі.
Кладуць вятры смычок на цеціву.
Шукае дзесь маіх сяброў мой голас,
і чую – хтось крычыць і мне: ау!

І зноўку ціша. Толькі перазовы.
Праз дзень
            праз міг,
                        праз душу,
                                    праз вякі.
Перабірае струны бор сасновы
над берагамі вечнае ракі…

***

І не мінае, не мінае!
І ўжо, напэўна, не міне.
Душу трывога распінае:
што, як кахаеш не мяне?
    Я па-латыні: amore amo!
    Няўжо ратунку і тут не маю?
    А мора, мама, а мора, мама,
    яно таксама не мінае.
А мора, мама, amore, amo,
amore, amo! А ты адзін.
Я абламлю ўсім хвілям пальцы,
каб не спляліся ў журбу гадзін.
    Былыя храмы – не міліграмы,
    і ўсох калодзеж твой, ягамосць.
    Куды падзецца? Аморэ, амо…
    Нават на месяцы моры ёсць.
Чмурэе сад ад цвету ўласнага.
Іду, збіваю расу хвашчоў.
Мора Крызісаў.
Мора Яснасці.
Мора дажджоў.

***

Не гавары журботнымі вачыма,
пра што у слоў адвагі не стае.
Так узнікае ласка самачынна.
Так перад бурай ціша настае.
Ці ты мой сон, ці ты мая уява,
праява чорнай магіі чала.
Між намі гэтакая радуга стаяла!
Між намі гэтакая прорва пралягла!

***

Што ў нас было?
                    Каханне й лета.
Каханне й лета без трывог.
І ўсё. Увогуле, не гэтак
ужо й замала, як на двох.

А жнівень выжне нашу ўзнёсласць,
адкоціць верасень грамы,
і неба ўродзіць зноў дзівосна
шклянымі зоркамі зімы!
А потым чмель разбудзіць кветку,
зноў лета ўсядзе за лато.
Зноў на прутках змудруе сетку
старукі волат – Аніхто.
І ў гэтым часу калаўроце,
дзе ўсё мінае, як у сне,
як тая птушачка на дроце,
душа натомлена спачне.

***

Шалёнасць тэмпаў. Час не наша ўласнасць.
Фантастыка – не мроіў і Жуль Верн.
Кіпіць у нас ў артэрыях сучаснасць.
Нас, як з металу, выклепаў мадэрн.

Душа належыць свету і эпохам.
Чаму ж яе так раптам працялі
зімоўкі-яблыкі, з тужлівым пахам лёху,
і рукі матчыны, што яблыкі ўняслі?!

***

Заваражылі крумкачы світанак –
не ўсходзіць сонца – толькі кар ды кар.
Разбіўшыся з налёту аб паўстанак,
бярозавы ў траве ляжыць Ікар.

За пераездам чуйна ціша дрэмле.
Шлагбаўм… Туман… Світанкавая стынь…
Як шапкамі закіданыя, дрэвы
стаяць у гронках гнёздаў, шчэ пустых.

Прайсці наранку вуліцамі цішы.
Знайсці гатэлік. Скінуць паліто.
І дзе я, і хто я, – паўстанкаў тысячы, –
хоць дзень, хоць два не ведацьме ніхто.

І толькі шум далёкага прыбою –
абсада, людзі, вуліцы, масты…
Прывезці чамадан паэм з сабою
з прытулку супакою й саматы.

***

Пасля дажджу нібы смарагд дуброва,
гамоніць рэчка жвавая ў палях.
І сонца стужкай тонка пурпуровай,
як пэндзлікам, кранае далягляд.

Ляжаць гароды гарбузовай Меккай.
Паруе ў неба ціхае цяпло.
І бусел па-над комінам старэнькім
пасля дажджу прасушвае крыло.

***

Глядзіш, глядзіш… А я ўжо – як на трапе.
І слоў няма. І смутак цераз край.
Жыццё ідзе па «Гаусовской шляпе»:
вось так – «дзень добры», а вось так – «бывай».

Бывай, бывай, чужы мне чалавеча!
Шчэ не было раднейшага, як ты.
Вось ён, выпадак той, калі дарэчы
адзінае: ўцячы й спаліць масты.

***

Што лёс нялёгкі – што ж, карысць тут і свая ёсць.
Шчаслівы сон душы мастацтву не спрыяе.

***

Заходзіць сонца за кулісы бору.
Таполя б'е паклон з далечыні…

Заслона мякка абцякла прастору, –
касмічны цырк запальвае агні!

І задарма глядзі ўжо хоць да дня ты
у тую продань, дзе гарыць Персей,
гарэзяць з Псамі Гончымі Блізняты,
Сусвет жа кружыць гэту карусель.

Іржэ Пегас, выблісквае Карона,
і Валапас пасе сваіх Цялят,
і мігацяць у ззянні Арыёна
хімерна сальта Оўна і Плеяд.

Зямныя сёлы і зямныя дрэвы,
і дым салодкі гэтых родных сёл!
Усё ў кружэнні – Воран, Возны, Дзева, –
і мігаціць усё, і ззяе ўсё!

Ляціць Нептун, і мне з ім налятацца.
Не трэба, зоры, за мяне дрыжаць.
Яшчэ мне тут і плакаць, і смяяцца,
і думаць, і пакутваць, і спяваць.

Гляджу, як гне прастор свае падковы,
туман галактык бачу за плячом.
І хтось нязнаны, страшны і суровы
ў касмічнай цемры ляскае бічом!

І ўсё нясецца ў дзіўнай кругаверці,
само сабе апора і працяг.
І ёсць прырода. І няма ёй смерці.
Ёсць розныя перыяды быцця.

***

Ой ды на Івана, ой ды на Купала
каціласе мая зорка, ой ды з неба ўпала.
    Ой упала ў рэчку, ды й заклекатала, –
    мусіць, мая зорка гаснуць не жадала…

(Варыянт)
Ой ды на Івана, ой ды на Купала
каціласся мая зорка, ой ды з неба ўпала.
Ой упала ў рэчку, ды й забулькацела, –
мусіць, мая зорка гаснуць не хацела…

***

Той, што стварыў нас, дужа быў разумны:
нам толькі бліжняе святло свядомасці ўключыў.
Імчымся трасаю касмічнай,
так і не ведаючы –
а што ж там, у канцы Млечнага Шляху?..

***

Ўсё, што будзе, было і што ёсць на зямлі,
І сто тысяч разоў ужо бачана, чута,
ранку шэрыя вузлікі – твае салаўі, –
гэта ўсё ёсць адным неразгаданым цудам.

Знаю склад біясферы, структуры кіслот,
свет прымаю як дадзенасць і мэтазгоднасць.
З дваццаць першым стагоддзем гаманю ля варот, –
заваражана ж бачу адну першароднасць!

**АСТРАЛЬНЫ ЎСКРЫК**

Дзень добры, людзі! Стрэлам збіты ў снег,
у зорнай апрытомнеў я пустэльні.
І ўсё, што на зямлі было ў цане,
асыпалася мёртвай імартэляй.

Там, на зямлі, штосьпадала, цвіло,
было ружовым, сінім і зялёным.
Вятры мне там пазычылі крыло,
я праз вякі свет бачыў незамглёна.

Я натаміўся ўжо не мець душы.
Няма на чым пазанатоўваць страфы.
Усе арапы-продкі й гармашы
ўва мне крычаць сагрэцца хоць бы трохі.
Я міг тут, год, вякі – хіба злічу?..
Я не хачу ні вечнасці, ні славы.
Мне холадна. Я ў Пецярбург хачу.
Адзецца ў цела і напіцца кавы.

Там стол мой, там вага майго пяра.
Яно ляжыць, яно даўно не піша.
А напісаць хачу я вершы пра –
пра тое, як калыша голька цішу.

Хачу я ўстаць на золку, на зары.
І песціць жонку, ліст чакаць з Адэсы.
Хачу я волі, волі!.. А цары?
І жыць, і жыць хачу я!.. А Дантэсы?
Праз сто паэм я маю шчэ прайсці,
а я гляджу у вочы пісталету…
Ў бяссмерці золка. Золка і ў жыцці.
О Божа мой! Падзецца ж дзе паэту?!

***

Ох, не ранняе гэта каханне!
А прыйшло – як усходзіць трава.
Ў магнетычнай сіле абрання
таямніца твайго хараства.

***

Тых жураўлёў адлётавыя сурмы…
Сюіты той блакітная журба…
Дажджы нацягнуць восенькія струны,
кране іх сумна пальчыкам вярба.

Мая арфістка, – ручанькі вярбовыя! –
Ты аж па плечы ўхутана ў туман.

Заграй жа мне мелодыю любові,
каб абмінула мой радок зіма.

Заграй жа мне асенні плач каліны.
Заграй усё, што я цябе прашу.
Я не скрыпічны ключ, а жураўліны
табе над полем сціхлым напішу.

***

Гэта чад, а не цуд. Я баюся такога кахання.
Чарнакніжніца-ноч, адкажы мне хоць голасам рэк:
гэты тропат, пяшчота, неазмрочнены рай без выгнання,
заварожнае шчасце, – ці бывае такое навек?

Што губляем штодня мы з уласнай святлістасці ўзноснай?
Як лякаецца розум! Натамілі душу крумкачы.
Заклінаю цябе, будзь навекі такім жа дзівосным.
Чарнакніжніца-ноч, мне голасам рэк адкажы.

***

Усе мы – яблыні, аблітыя купарвасам.
Усе мы здатныя раджаць толькі дробныя
гаркушчыя яблычкі.
Калі ж наш гаспадар чапляе на нас
румяныя бутафорскія плады –
ілюзію ўраджаю –
балюча карэнню нашаму ў нашай зямлі.

Я выйшла з гэтага саду.
Нада мною няма гаспадара.
Мне дарагая толькі зямля, з якой я расту.
Я стаю адзінока, але ў прамерзлых суквеццях
Прадчуваю свае першыя сапраўдныя
яблыкі.

***

Жыццё – як вакзал.
Хтось прыязджае,

хтось ад’язджае.
Пацалункі і раны,
клункі і чамаданы,
словы і фразы –
усё разам.

Хто едзе ў мяккім,
Хто – у плацкартным.
Хто – ў камбінаваным,
Хто – у закратаваным.

Квадраты – краты,
жалезныя рамкі,–
можна зорамі
гуляць у дамкі.

А сёй-той – зайцам.

Прыпынкі.
Аварыі.
Перон.
Гучнамоўцы.
Залы чакання.
Карты.
Вагоны – парыі.
Вагоны – службоўцы.
Вагоны – арыстакраты.
Люстра –
сястра электрычная архідэй.
Чарга. Буфет. Касы.
А ці нельга так, каб для ўсіх людзей –
вагоны першага класу?

***

Відаць, шчэ вельмі малады ўвесь люд,
Бо колькі б мы ні загіналі пальцы, –
XX  век! – а й зараз дзе-нідзе
Трапляюцца яшчэ неандэртальцы.

Як паглядзіш: і што гэта такое?
Тут нават лупа яснасці б не ўнесла.
Здаецца, людзі, усё ў іх людское,
душа ж дасюль так з дрэва і не злезла.

***

Такі звычайны міг. І хата пад прысадкай.
І пышны бэз, п’янкі ад росаў і дажджоў.
А заўтра гэты міг рэальны стане згадкай,
а паслязаўтра – казкай казкі ўжо.

А йшчэ праз паўжыцця, калі ты ўжо здарожаны,
хімерны гэты міг – як сон, дзе сад цвіце!
І гэтае акно, і позірк заварожаны,
і нават вожык той, што ў лісцы шамацеў.

## ПЕСЕНЬКА З ВАРЫЯЦЫЯМІ

І ўсё на свеце трэба пераўжыць.
І кожны фініш будзе новым стартам.
І напярод не трэба варажыць,
і па мінулым слёзы ліць не варта.

Дык весялей жа, людачкі, на людзях.
Хай лёс у млын свой падсыпае ўшчэрць.
Асколачкам засела сэрца ў грудзях.
Нічога, гэта ўсё загоіць смерць.

Хай будзе ўсё нябачанае ўбачана.
Хай будзе ўсё прабачнае прабачана.
Хай будзе век пражыты, як належыць.
На жаль, ад нас нічога не залежыць.

А трэба жыць. А неяк трэба жыць.
Завецца гэта вопытам і гартам.
І напярод не трэба варажыць.
І па мінулым слёзы ліць не варта.

Вось так, як ёсць. А можа быць і горш.
А можа быць зусім, зусім пагана.
А покуль розум ад бяды не згорк –
не будзь рабом і смейся раскавана!

Дык весялей жа, людачкі, на людзях.
Хай лёс у млын свой падсыпае ўшчэрць.
Асколачкам засела сэрца ў грудзях.
Нічога, гэта ўсё загоіць смерць.

Хай будзе ўсё нябачанае ўбачана.
Хай будзе ўсё прабачнае прабачана.
Адзінае, што тут ад нас залежыць, –
прынамсі, век пражыць свой як належыць.

***

Той лес жывы. Ён з дабратой у згодзе.
Шумяць вятры ў ягонай галаве.
Сівыя пні, касматыя страхоцці –
летазлічэннем цішыні ў траве.

Дубовы Нестар там глядзіць скрозь пальцы
на белы вальс гарэзлівых бяроз.
І сонны грыб ў смарагдавай куфайцы
дажджу напіўся і за дзень падрос.

Барвяны промень сонца на заходзе
ў прасвеце хмар паказвае кіно,
а дзесьці пад сасною на калодзе
мядзведзі «забіваюць» даміно.

Азёркі пад змяркальнаю завесай
нязлосна пераблісквающь вачмі...
Давай паедзем пагаворым з лесам,
а потым я змагу ўжо і з людзьмі.

***

Шчаслівіца, я маю трошкі неба
і дзве сасны ў стуманеным акне.
А ўжо здавалася – жывога нерва,
жывога нерва не было ў мяне!

Ужо душа не знала, дзе той бераг,
ужо ярмом ёй падаў кожны міг.
У громе дня, ў аркестрах дэцыбелаў
былі мы ўжо, як хор глуханямых.

І раптам – Божа! – пасля тога чаду
і калатні, што роўная нулю, –
я чую дождж. Ён ціха плача праўду,
што я кагось далёкага люблю.

І чую цішу. І пяюць сініцы.
І людзі гожы воблік набылі.
У пахкай хмары дажджавой ігліцы
стаіць туман, як неба на зямлі.

Пасуцца цені вымерлых тарпанаў,
на дыбках ходзяць прыцемкі і сны.
Вясна падніме келіхі цюльпанаў –
за неба вып’ю і за дзве сасны!

***

Над зрубам манастырскае крынічкі
схіліла восень гронкі арабін.
Сюды калісь прыходзілі чарнічкі,
блакіт вады зачэрпвалі з глыбінь.

Сама журба былі іх сілуэты
у сне маім, іх профіль – як зіма.
Дзівосы з гэтых мастакоў, паэтаў –
усё ім сніцца штось, чаго няма.

Усё ім сніцца штось, чаго не будзе.
І кожны з іх і мудры, і дзіця.
Па срэбнай ліне ў гэтай амплітудзе,
як цуд, праходзяць воблікі быцця.

І цэлы свет... і гэтая драбнічка –
дымок туману ў прыгаршчах далін,
і куфлік той, і яр той, і крынічка,
і ўжо цяжкія гронкі арабін...

***

Крушы, ламай, касуй стэрэатыпы!
Яны крычаць, працівяцца, – ламай!
Хоць тая звычка з профілем Ксантыпы
і просіць, і галосіць: «Не чапай!»

Адпрэч яе дрымоту мяккіх спальняў.
Яна табе нялюбая. Гары.
Знікай у папялішчах самаспальванняў,
усходзячы на горкія кастры!

Звугольвайся. І з д’яблам грай у тэніс.
Згарай да прыску ў думах і гадах.
Хай вылятае не той самы фенікс –
а ўжо інакшы, неймаверны птах!

***

І гляне праўда сумнымі вачамі:
жыццё сплывае, як рака Пачайна.

Цераз гады – пашчасціць, праз вякі –
рака ўжо стане згадкаю ракі.

І толькі вербам не забыць старым:
кіян хрысцілі ў ёй, а не ў Дняпры.

***

Мы выехалі ў ноч. Мы проста звар'яцелі.
Спаўзала ў хмару даль. Мы выехалі ў ноч.
Замёрлі явары – і шапатнуць не смелі.
І грымнуў гром, і даль – бы выхапіла нож!

Аслеплыя на міг, мы ўрэзаліся ў цемру.
Машыну павяло, і мы згубілі шлях.
Усіх маіх лясоў такі прыветны церам
раптоўна пасткай стаў у зліве й перунах.

І думалася мне: паклон маёй гардыні!
Мы выехалі ў ноч. Дарогі не відаць.
Было маё жыццё – як ночы вераб'іныя.
Нічога я ў жыцці не ўмела пераждаць.

О, колькі мне ўсяго было наканавана!
І як білося мне ў тым горане пакут!..
Дык што ж ты ёсць, жыццё? Ўсё, што перачакана,
ці ўсё-ткі тое ўсё, што адбылося тут?

***

Цень чорны крута нізрынае ўніз –
то белы голуб узлятае ўгору.
Праспект птушыны, сонечны карніз –
каронай строгім лініям сабору.

Стракаты рытм натоўпу і чубы
абсад, пахілых дахаў старасвецце.
Над горадам гамоняць галубы.
Пра што, не ведаю. Пра ўсё на свеце.

Пра той сабор. Пра свет наш. Пра вайну.
Пра чалавецтва, пра нябёсы й крылы.
А можа, ён галубцы кажа: – Ну,
пакуль я лётаў, ты па мне тужыла?

***

Я ніколі не звыкну.
Да цябе не патраплю звыкаць я.
Гэта ты за капрызы мае
так прыгожа мяне пакараў.
І прыходзяць світанкі,
штодзённых турбот адвакаты,
і прыносяць пад пахай тысячы розных спраў.

Я кажу ім: світанкі, ўсё на свеце так ілюзорна.
Ураджай мітусні – толькі колкая пожня адна.
Колькі мы мілаваліся!
І ніводнага разу – паўторна.
Колькі летаў кахаю –
ты ж мне любы ўсё болей штодня.

***

Не трэба класці на плячо руку.
Падобны рух дарэчы хіба ў танцы.
Давер – пудлівы, гэтаму звярку
больш даспадобы халадок дыстанцый.

Ён любіць час. Што зробіш, ён такі.
Ён дзіўны звер, ён любіць нават муку.
Ён любіць нават далеч і разлуку,
але не любіць на плячы рукі.

У тых садах, ў санатах салаўёў
ён чуе крок скрадальны браканьера.
Чакае пасткі ад вачэй, ад слоў,
і той спектакль яму ўжо не прэм’ера.

Смуга і смага людскага ўсяго!
Нам без яго нясоладка жывецца.
Але не трэба падклікаць яго.
Ён прыйдзе сам і ўжо не адхіснецца.

***

Ружэвінь соснаў... Арфа вечаровая...
Але прыслухайся: мы не адны.
Вунь гномікі рыхтуюць сабе дровы
ў смарагдавай вячэрняй глушыні.

Маленькія Гаруны аль-Рашыды
ў чароўных тапцях, глянеш – і няма.
Ляжыць дарога, золатам прашытая...
Бярозава ідзе з нябёс зіма...

***

Ты памятаеш, ты прыехаў з прыстані?..
О як сады былі тады расхрыстаны!
Уся ў гірляндах, як на свята жрыца,
вясна зіхцела ў бліскаўках расы,
і не было як вербам зажурыцца –
так падавала птаства галасы!..
Палаў гародчык наш у ружах ранніх,
і сутак не хапала ўсё зрабіць.
Па гулкім даху нашае веранды
хадзілі то дажджы, то галубы...

## ЛЕЙТМАТЫЎ ШЧАСЦЯ

Аж страшна, што можна быць
        гэткай шчаслівай...
Гады за гадамі, а ты мне ўсё люб.
Шалее кахання трапічны лівень –
зямлі і неба шалёны шлюб.
Я ў ноч успяваная, табою амытая.
Хістае мяне сярод белага дня.
Каўшамі самотнасці сплачана мыта
за ўсе наўздагаддзі ва ўсіх мітуснях.

Нягодаў маіх жніво залатое!
Душа мая, аж цяпер раскашуй.

Ох, я не Фауст. Жанчына ўсяго я.
«Імгненне, спыніся!» – я не скажу.

Імгненне, будзь!
        Толькі не хвілінаю,
а цэлым жыццём – хвалюй і трывож!
Аж покуль мяне панясуць з калінаю
туды... адкуль ужо... Тады ўжо што ж...

***

Нічога такога не сталася.
Бо хто для мяне ты? Староннi.
Жыццё маё ткалася, ткалася
з горкіх нітак іроніі.

Жыццё маё ткалася, ткалася...
Застаўся клубочак болю.
Нічога такога не сталася.
Ты проста падобны на Долю.

***

Настане дзень, звагомлены пладамі.
Не страшна ім ні славы, ні хулы.
Мае суквецці, вы й пад халадамі
усё-ткі завязь добрую далі.

Нічога, што падсцерагалі крукі,
што прамінула так багата год.
З такога болю і з такое мукі
душа не створыць бутафорскі плод.

## АПОШНІ КАНЦЭРТ
## ОЙСТРАХА Ў КІЕВЕ

Шалеў пярун. Двары былі, як гроты.
Рудой залевай захлынаўся дзень.
Бы грузныя маруды-бегемоты,
машыны йшлі па фары у вадзе.

Чарнеў таполяў схваляваны допіс.
Вада змывала непахіснасць чэрг.
А мы лавілі хоць які аўтобус,
таксі, пікап, хоць Ноеў, а каўчэг!

Былі сукенкі нашы ўжо, як радны.
І кожны крок ужо нагадваў трук.
І парасонік, смешна беспарадны,
шукаў дарогу, перамацваў брук.

І мы прайшлі, праехалі, прамчалі,
мы праляцелі, ўласна, праплылі.
Мы на калёсах да фае прычалілі.
Мы ў цішу на пуантах увайшлі.
Канцэртны зал быў круглы, нібы востраў.
Пагасла люстры яркая пчала.
Яшчэ жывы, а ўжо далёкі Ойстрах
падняў смычок... і скрыпка ажыла.

Улада гукаў... І абвал авацый!..
І зноў магічнасць геніяльных рук!..
Відаць, заўсёды трэба нам спяшацца,
бо смерць і вечнасць – гэта ўжо не рух.

Не рух. Мо веліч, можа, час і пространь.
Але ж не скрыпка!.. Не жыццё маё...
Мы неяк вельмі звыклі, што ён – Ойстрах.
Мы неяк вельмі звыклі, што ён ёсць.

І вось няма. І струны анямелі.
І проці смерці слава не рэцэпт.
А мы тады... мы ўсё-ткі... мы паспелі...
Мы думалі, што гэта йшчэ канцэрт!

***

Мужанёчак мой, запрагай каня!
Гэта ж змей, не конь – даімчыць з-за дня.

Дабярэмася за тры гадзіначкі
за стонаццаць вёрст да радзіначкі.

Чуеш, родзе мой, мой раднюсенькі,
хоць бы выйшаў хто хоць аднюсенькі!

Што ж тут дзверы ўсе пазамыканы?
Ці ж прыехалі мы няклікана?

Ой ты ж родзе мой, родзе-роданьку!
Што ж бур’ян пайшоў па гароданьку?

Працавіты мой з дзеда-прадзеда!
Двор запушчаны, Божа праведны!
Дзевяць дзён душа б’ецца чаіцай,
сёння мусіць дзесь прызвычаіцца.

Тую моркаўку, тую ж кветаньку
не праполеш ды з таго светаньку...

Памінаюць людзі. Мы наведаліся.
Вось мы, роданьку, й пераведаліся.

***

Паміраюць майстры, пакідаючы памяць, як рану.
Ім імгненне спынілася ўжо ў барэльефах журбы.
А падмайстры не ўспелі яшчэ стаць майстрамі.
А работа не церпіць. Яе трэба рабіць.

І тады заяўляюцца беспардонныя нейкія чмуты,
прыбіраюць да рук усё пакрысе.
Покуль генія душаць беспараднасць і смутак,
мітуслівая нездар свае статкі пасе.

Дужа дзіўны пейзаж: ходзяць таленты касякамі.
Сваё сёмае неба прыгінае сабе мітусня.
Пры майстрах нейк лягчэй. Як Атланты, над намі
яны неба трымаюць. Таму яна й ёсць, вышыня.

## КАЗАЧКА ПРА ТРОХ ВОЛАТАЎ

У чыстым полі, ў чыстым полі на раздоллі,
дзе каласочкі проці сонца жмурацца,
Вярнігара, Вярнівада і Вярнідуб –
тры волаты – сышліся там ды й журацца.

– Мы волаты, мы волаты, мы волаты,
мы ёлупы, мы ёлупы, мы ёлупы!

І сіла ж ёсць, і сэрца не мізэрнае,
і сто вякоў ні ўмерці, ні заснуць –
усё мы вернем, вернем, вернем, вернем,
а ўжо ж пара было й перавярнуць!

## НА СПІЛАВАНЫМ ЯСАКАРЫ

Ішоў дзед з мястэчка, цераз гару, у сваё сяльцо.
З трыма буханкамі хлеба ішоў у Макаўшчыну.
Найкароччая сцежка туды – праз цвінтар.
Сеў дзед на спілаваным ясакары, думае.

Запаліў цыгарку – што гэта ж яму
восемдзесят гадоў.
Закашляўся – а зімою ж будзе слізка.
Нацерусіў попелу на калені –
ужо й ясакар спілавалі.

Вунечка яго хата, а тут ахватней.

Бо ў хаце ж анікагусенькі,
                    а тут і жонка, й суседзі.

***
Шукайма цэнзара ў сабе.
Ён там жыве, дрымучы, без галення.
Ён там сядзіць, як чорцік у трубе,
і ціха пазбаўляе вас сумлення.

Знутры, па крапялінцы, не за раз.
Падступна зніме кожную іконку.
І непрыкметна вылушчыць вас – з вас.
І застанецца толькі абалонка.

***
Вячэрні промень, дзякую за дзень!
Вячэрні промень, дзякую за стому.
І за лясоў прасветлены эдэм,
і за валошку ў жыце залатому.
За твой світанак, і за поўдзень твой,
і за мае апечаныя поўдні.
За ўсё, што ўчора цвет здарыла свой,
за ўсё, што заўтра ў рост зялёны пойдзе.

За смех дзіцячы, за мой зорны міг.
За ўсё, што я магу, за ўсё, што мушу.
Вячэрні промень, дзякую за ўсіх,
хто анічым не апаганіў душу.

За ўсё, што прагне песні і надзей.
Што дзесь у свеце кроў шчэ не праліта.
Вячэрні промень, дзякую за дзень,
за набалеласць слова, як малітвы.

# МАРУСЯ ЧУРАЙ

**Гістарычны раман<br>у вершах**

## НЕАПАЛІМАЯ<br>ЗНАЙШЛАСЯ Б КНІГА…

Раздзел І

Улетку 1653 года Палтава згарэла дашчэнту.
Гарэлі саламяныя стрэхі над Ворскляю.
Плавіліся купалы драўляных цэркваў.
Вецер быў моцны. Полымя аж гуло.
І доўга шчэ лётаў над руінамі магістрата
лёгенькі попел
згарэлых папер –
усіх тых кніг гарадскіх Палтаўскіх,
дзе былі запісы бягучых судовых спраў.
Можа, была там і справа Марусі Чурай?
Можа, таму й не дайшлі пра яе аніякія звесткі
да нас,
што кнігі гарадскія Палтаўскія «праз вайну,
падчас рабавання
горада, агнём спалены»?
А што, калі б знайшлася хоць адна, –
дзесь у манастыры ці на гарышчы?
Як бы ўцалела ўсё-ткі ў тым агнішчы –
неапалімая – як купіна?

І мы б чыталі старадаўні том,
дзе выведзена пісарскім пяром,
што году Божага такога вось, і месяца такога
вось, і дня
перад Марцінам Пушкаром, палкоўнікам,
ў прысутнасці Сямёна Гарбаня,
што быў на час той войтам у Палтаве,
перад суддзёю, Богам і людзьмі
Чурай Маруся – на падсуднай лаве,
і паў-Палтавы сведкаў за дзвярмі.

І загулі б старонкі галасамі,
і ўсе казалі б штось не тое самае.
І грозна буры хваляванняў тых
прайшлі б над полем літарак густых.

Тады ўдава Бабрэнчыха устала б
перад судом і гэткае сказала б:
– Пане палкоўнік і пане войт!
Скарджуся Богу і вам
на Марусю,
што яна, забыўшы страх Божы,
атруціла сына майго Рыгора.
І сын мой Рыгор гвалтоўнаю смерцю памёр,
на здароўе да таго не жалячыся, –
праз атруту і праз чары вядзьмацкія.
Гэта вам я, панове, чыстую праўду кажу
і людзьмі гэта ўсведчу.

Падсудную Марусю Чураёўну
тады суддзя сурова запытаў,
калі, з якой прычыны і навошта
яна бязбожжа гэткае ўчыніла?
Але яна ні слова не сказала,
ніякіх апраўданняў не дала,
стаяла – як каменнаю была.

Тады натоўп ускалыхнуўся люта:
– Яна ж прызналася ва ўсім прылюдна!

Калі да Грыца, мёртвага, прыпала,
казала ўсё: як зелля накапала,
як вымыла яго, і як варыла,
і як на ранку Грыца атруціла.
Яна спявала, быццам галасіла,
сабе ж у Бога кары ўсё прасіла.
Адна яна вось так спяваць і ўмела!
І раптам сціхла – быццам анямела.

Тады мы, ўлада, спраўдзіўшы дазнанне,
што Грыц памёр, атручаны, ў чацвер,

далі радні дазвол на пахаванне,
прызнаўшы справу «крыміналітэр».

Згубіцельку ж, Марусю, да расправы
трымаць пад стражай горада Палтавы.

А зацная Бабрэнчыха, нябога,
у горы спадзяецца хай на Бога
ды хай паставіць сведкаў, годных веры,
не западозраных у злым намеры.
Каб сведчылі суду папраўдзе кожны,
што тут забойцы іншага няма,
таму што гэты доказ не апошні,
калі падсудная прызналася сама.

Прысягнуўшы, Параска Дземіха, у летах сталых,
засведчыла:
– Душы ад Бога не ўтаіць, было ж вось як.
Нядаўнечка, на золку, выйшла я...
– ...патрэсці грушу Леўкаву, – падкінуў нехта.

– Панове суддзі,
          Лясько Чаркес мяне жыўцом ахайвае!
Тады мы, ўлада, казалі-сьмы Чаркесу і ўсім
                              іншым,
асобам прынаяўным, каб мову сведкам
                              не перабівалі,
іначай будуць выведзены з ратушы,
а дзверы ўзяты будуць на завалу.

– Дык вось, кажу, нядаўнечка, на золку,
калі я выйшла глянуць з панадворку,
бо нешта комін заваліла мне, –
гляджу: Грыцко вяртаецца дадому.
Адкуль бы гэта? І як на падпітку.
Ніяк на плечы не нацягне світку.
То я й кажу, мы ж бо суседзі: – Гэй,
і дзе ты, хлопча, ходзіш гэтак позна?
          – Ды чарку выпіў у адных людзей.
          Чагосьці ў грудзях завіло, аж млосна.

А неўзабаве чую – у Бабрэнкаў
вялікі гвалт. Дык я туды гародам.
Ляжыць Грыцко, увесь ужо ссінеў,
хрыпіць, звіваецца, ірве каўнер.
А я кажу Бабрэнчысе: ой, кумка,
ой, кумка, гэта ўздзеяна яму!
І што мы ўжо Грыцку там ні рабілі –
вышэптвалі, зганялі, высылалі,
святое зелле клалі пад патыліцу,
вадою мылі і пералівалі
хваробу на Бабрэнкавага пса, –
не памагло. А што ўжо ён балакаў!
Там хто стаяў, дык мала хто не плакаў.

У столькіх бітвах куля абмінула,
не амагла варожая рука,
каб дзе? каб дома! дзеўка падманула,
насмерць звяла са свету казака!
І вось цяпер ляжыць у чарнабрыўцах,
атручаны. А тая чараўніца...

– Ёсць доказ, што яна дала піццё?
– А хто ж бо шчэ труціў Бабрэнку Грыца?
Каму ж яшчэ ён так зглуміў жыццё?

Тады перад уладай стаў Хвясько,
млыноў дазорац (скарбу вайскавога),
які пад страхам Божым мовіў так:
– Панове суд!
Хлусіць тут немагчыма.
Грахом не ляжа на душу мана.
Панове суд, я гэтую дзяўчыну
разоў мо з восем бачыў ля млына.
Над Ворскляю з нябожчыкам стаяла.
То-бок, ну, ён шчэ быў жывы тады.
І што яно, гадаю, за праява –
дзве цені, млын і водбліскі вады.
Мне што? На гэта ж бо няма заказу,
стаянне ў пары, ведама ж, не зло.

А ўсё ж чамусь падумаў я адразу:
ты глянь, сышліся дзе, аж за сялом!

А неяк бачу – штось мільгнула з грэблі.
Усплёскнула – аж войкнула вада.
Ну, думаю, нічога ўжо не трэба
той дзеўчыне, утопла, вось бяда.
То добра, што Іван тут нахапіўся
ды паўжывую выцягнуў з вады.
Там некалі сваяк мой утапіўся,
загібель, я й не даплыву туды.

Суддзя сказаў: – Яно нядобра, праўда,
і гэты млын, і ўтоплены сваяк.
Але ж мы зараз разглядаем справу
не як тапілася – труціла як.

Не тое сведчыць сведка, скажам шчыра.
Тут трэба строга правясці мяжу.

– Дык я ж не бачыў, як яна труціла.
Тапілася ж як – бачыў. То й кажу.
Тады Бабрэнчыха ставіла іншых асоб,
лікам сямнаццаць,
а з тых сямнаццаці маецца пяць,
што да прысягі годныя будуць.

Яны ж сказалі, што Маруся – ведзьма,
па ёй відно, што горшае няма
ва ўсёй Палтаве, што ўсім гэта ведама
і што яна ж спявала і сама:
«Ой, калі дзяўчына чорны бровы мае,
то тая дзяўчына усе чары знае».
Яна ж гэта няўрокам насурочыла,
што пакалечыў Саўку Саўрадым.
Умее перакінуцца ў сароку
або выходзіць з коміна, як дым.

– Панове суддзі, я перапрашаю, –
сказаў Гарбань і ўзяў папераў стос. –

Каб суд не збілі з тропу, нагадаю
вам сэнс абвінавачвання. Дык вось.

Казак Бабрэнка, хрышчаны Рыгорам,
адзіны сын шаноўнае ўдавы,
якая – бачыць Бог – у гэткім горы,
што не схіліць няможна галавы,
чатыры леты будучы ў паходах,
ні ў чым нідзе сябе не зганьбаваў.
Быў на Пыляве, і на Жоўтых Водах,
і скрозь, дзе полк Палтаўскі ваяваў.

А ўлетку вось вярнуўся ён дадому,
дзе за вайну прыйшло ўсё ў заняпад,
і, як належыць хлопцу маладому,
увесці жонку ў дом свой быў бы рад.

І вось, калі сабе нагледзеў роўню,
а ведаў, пэўна, што і ён ёй люб,
Грыцко пасватаў Галю Вішнякоўну
з намерам браць з дзяўчынай гэтай шлюб.

Чурай Маруся, што яго любіла,
любіла, праўда, верна і даўно,
тады яго ад рэўнасці забіла,
падсыпаўшы атруту у віно.

Свядома ўсё рабілася, ці хвіля
змагла так цяжка розум засляпіць –
як ні было, а хлопец у магіле.
Забойца ж перад намі во стаіць.

Такая страшная, панове, справа.
Няхай сумленне будзе стражам права!

Параіўшыся, загадалі мы
тады паклікаць Грыцаву нявесту.
Вось Галя Вішнякоўна падышла,
была пра ўсё распытана дыскрэтна

і мякка, як асоба маладая,
з пазбегам падрабязнасцей, якія
маглі б шчэ больш душу ёй развярэдзіць.

Яна таксама пад прысягай сцвердзіла,
што так было, любіліся мы з Грыцам,
пабрацца меліся... і вось... а тут...

А што хадзіў да той ён чараўніцы,
няпраўда гэта ўсё, панове суд.
Яна ў яго ўвесь розум адняла,
але было гэта даўно, калісьці.
Калі яму нямілая была,
то хто ж яго прысілуе: жаніся!
Яна ж, дурная, нечага тапілася,
а потым і занемагла, злягла.
А я кажу: чаго ты прычапілася?
Ці ты яго ва ўласнасць набыла?
А ён такі, што ён брахаць не будзе.
Грыцко не блуднік, хлопец з галавой.
Ён сам казаў, што ўжо яе забудзе.
У доме ў нас ён быў ужо як свой.
Мы восенню збіраліся пабрацца.
Адпомсціла, прапала і сама.
Наш тата ўжо і на вяселле страціўся,
а Грыц памёр... а Грыца ўжо няма...

– Аднак у гэткім разе будзем шчырыя, –
сказаў суддзя, – бо тут не да прыкрас.
Чаго ж тады у ноч сваёй канчыны
ён быў-такі ў яе, а не у вас?

Тады Вішняк, прыгнечаны такою
абразай цяжкаю сваёй гасподы,
прасіў больш не дапытвацца дачку.
І сплаканую Галю спачувальна
ў бабінец бабы адвялі,
паколькі

пры кожнай справе
свой бабінец ёсць.

Суддзя ўзняў вочы на падсудных лаву:
– А што забойца скажа нам на сё?

Яна ні слова не сказала праву.
Стаіць. Маўчыць. Адно глядзіць. І ўсё.

Тады ўдава Бабрэнчыха устала
перад усімі і вось так сказала:
– Маўчыць, бо сорам. Бачыў Усявышні.
Я знаю ўсё, як быццам там была.
Яна яго, распусніца, сумысна
той ноччу зманам да сябе звяла.

Такая ўжо стаіць – маліцца можна.
Ды гэткаю ўдалася ўжо яна,
аблічам – нібыта анёлак Божы,
а вось душою – чыста сатана.

Калі б я вам усё тут расказала,
што пра яе хто гаварыў каму!
Бо ўжо ж яна ў Палтаве завязала
свет хіба толькі Грыцу аднаму?!

І раптам як дайшло да Гарбаня:
– А мо тут мела месца варажня?
Чар-зелле нейкае ці прывароты,
не змог асіліць хлопец іх – і ўсё тут.
Вось і зайшоў ад Галі да Марусі,
паддаўшыся той д’ябальскай спакусе.
А зелле – рэч, як ведама, капрызная:
тут яно чары, тут яно труцізна.

Суддзя сказаў, што выпадкі былі.
Камусь калісьці нешта падлілі.
У справе той было ўсяго спаўна,
і слёз праліта болей, чым даволі.

І ўсё ж дасюль так і не ясна нам:
ці не было чыёй тут злое волі?

У гэткіх справах праўда і хлусня
заўсёды поруч ходзяць, так і бойся.
Я ж так мяркую: яд ці варажня
была там, а забойства ёсць забойства.

Гарбань сказаў, што так і ёсць яно.
Вядома, што забойства. Шчэ й няцнота.
І ён, Гарбань, дадаў бы шчэ адно:
ёй трэба дзёгцем вымазаць вароты!

(Дарэчы, варта будзе тут заўважыць,
што дзёгцю, сапраўды, меў ён удосыць,
паколькі ён, як потым стала ведама,
«з каморы гарадское дзёгаць краў»,
за што і быў аддадзены пад суд.

А да таго яшчэ ён войтам быў.
І ўжо аж гетману Дзям'яну Мнагагрэшнаму
ужо аж на палкоўніка Жучэнку
паспеў яшчэ «крамолку» зрыхтаваць.)

Пушкар сказаў: яно, вядома, так.
Не шанавацца дзеўчыне нягожа.
Але ж і з Грыца добры быў гайсак.
Тут, таварыства, дзёгаць не паможа.

Бо незалежна, што ўжо там ён піў,
якім намовам дадзена папуста,
не хто ж, а Грыц дзяўчыну з шляху збіў.
І там была любоў, а не распуста.

Тады ўдава Бабрэнчыха азвалася:
– І трэба ж сплясаць гэткую ілжу!
Яна самая Грыцу навязалася.
– Як гэта?
– А от зараз раскажу.

Было то, людзі, на Пятра Капусніка,
якраз на самы сонцапаварот.
Я мела, людзі, сына не распусніка.
Ёп шанаваў і хату, і гарод.

Калі ж яна яго прычаравала,
ён як здурнеў, адбіўся ўшчэнт ад рук.
Хай вам раскажа Процык Кулявара,
Сямён Капканчык і Рамашка Струк.

Ён перастаў хадзіць на вечарніцы,
не заўважаў дзяўчат, ні маладзіц.
А ўсё хадзіў да тое чараўніцы, –
ох, нездарма іх топяць, чараўніц!
Яна адных гадоў з Грыцком, панове.
Пара ўжо галаву мець на плячах.
Я й зелле ўжо варыла палыновае,
каб мой Грыцко з маркоты не зачах.
А ён – знай там! Якраз перад паходам
не спалася мне штось, як на бяду.
Грыцко ўстае ды шусь каля гарода.
А я ціхутка назіркам іду.

І вось заходжу па той бок цыбулі.
А далей луг, раздолле для пчалы.
Стаю сабе дый думаю: а дулю,
каб гэта вы мяне ды правялі!
Абутку мела – лапцікі свінячыя,
каб не шасцела – шчэццем дагары.
Трава ж, як пух...
Тут штосьці мкнецца, бачу,
ад Чураёў, туды, ў ясакары.
А вечар цёмны. Хмары, як сумысля.
Гара шуміць... Было перад дажджом.
Яна ж на шыю так яму й павісла! –
дык я сабе й засела за кустом.
Тут нехта засмяяўся недарэчна.
Марцін Пушкар брывамі варухнуў:
– Зрабілі непахвальна вы, бясспрэчна.
– Які вас гэта д’ябал падшчыкнуў?

– Дык сын жа мой – адзінчычак, панове,
адна маркота на душы ў мяне,
адна у сэрцы голачка цярновая –
крый Бог, у прымакі яшчэ шмаргне!

– Ну добра, як яно вам у ахвоту,
дык ваша справа, што ўжо тут вучыць...
Вы, маці, зналі гэткую няцноту, –
чаму б іх шчэ тады не разлучыць?

– Каб у замужніх пагубляў падмёткі?
Ці, як манах, скароміўся мірскім?
Ці каб пайшоў да Таці Кісламёдкі,
якой усё адно ўжо, дзе і з кім?!

Тут як падскочыць Тацця, як адрэжа,
спадніца-звон аж з дзесяці аршын:
– А хай цябе падучая скарэжыць!
Ты на мяне хоць, сука, не брашы!

– Дык гэта я брашу?! А каб не ўстала
я з месца гэтага, панове суд,
каб мне давеку мову адабрала,
калі хоць нешта я збрахала тут!
О Божа, дзе святая справядлівасць!

Мы загадалі сціхнуць удаве,
а Таці за язык і за сварлівасць
два фунты воску перадаць царкве.

Наледзьве ўціхамірылі кабетку.
Па гэтым быў пакліканы як сведка
Сямён Капканчык, першая рука
ды непітушчы прыяцель Грыцка.

Мы загадалі сведку ўсё ды з толкам
казаць суду, але папраўдзе толькі.
І ён сказаў:
– Тут кожны штось гаворыць.
А ўсё адны недагаворы спрэс.

Ну, бо каму чужога бацькі гора?
Душа чужая, кажуць, цёмны лес.

Вось і суду ўжо ў тым няма сакрэту,
што зналі ўсе, і Галя, што брахаць,
што сватаў тую, апынуўся ў гэтай.
А хто між нас, як кажуць, без граха?

Тут, як у песні:
«Ой, у полі тры крынічанькі.
Любіў казак тры дзяўчынанькі,
чарнявую, ды бялявую,
ды рудую распаганую».

Было Грыцку, я знаю, несалодка.
Рудой тут, праўда, не было.
Былі адно чарнявая з бялявай.
Смаліў да дзвюх,
то й папаліў халявы.

А каб парваў ён тыя каніцелі
ды пачакаў яшчэ з паўгода дзе,
то мы б сядзелі ў Гальки на вяселлі,
а не вось тут балакалі ў судзе.

Загаманілі людзі, закивалі,
што там казаць, усе юнакавалі.
І ўсё ўсім зразу стала зразумела,
ужо й слаўко скаромнае зляцела.

Тады ўстала маці, Чураіха,
і сказала так:
– Пане Пушкар, палкоўнік палтаўскі,
а дабрадзею наш!
Што вам маю сказаць? Дзякуй людзям за цішу.
Вунь пісар сядзіць, Туранскі Ілляш.
Хай ён слёзы мае запіша.

Гаворац, чалавек – што цёмны лес.
А я скажу: не кожны, ой, не кожны!
Душа чужая – слёз і мук замес,
і грэх цяжкі пляваць ў яе, няможна.

Якую ж кару вы цяпер, якую
майму дзіцяці горкаму дасцё?
Няўжо дабраць мажліва больш ліхую,
страшнейшую, чым гэткае жыццё?!

Вы граматныя. Лёс ваш пастараўся.
Прад вечным сном, за крок да небыцця
прашу я толькі: словамі, як граззю,
не кідайце, прашу, ў маё дзіця!

Запала моўча, ўсе зніякавелі,
у нейкай цёткі слёзы заблішчэлі.

Затым, ужо не стаўлены нікім,
прыняў прысягу Шыбыліст Якім.

– Даруйце... я... не ўмею дужа гладка
выказвацца... Ды век не прамаўчыш...
Марусю знаю я шчэ з немаўлятка
і Грыца знаю шчэ ў спавівачы.

Няшчасная Чураіха... Скажыце,
ці бачыў хто яе калі ў судзе?
Падворкам іхнім ехаў я ў той дзень
якраз, калі на цвінтар везлі Грыца.

Ці маці так, скажыце, галасіла,
як зазванілі па яго душы?
Ды ён жа для яе быў родным сынам,
у іх і вырас там на спарышы.

Яна ж сваё малое гадавала
ды ўжо й чужое бавіла, Грыцка.
Бабрэнчыха ж тым часам ваявала –
за курыцу, за ўзмежак, за бычка.

Няма ўсё часу. Так і пракачаўся.
Як кажуць, сыт не сыт, абы здароў.
Ды ён жа і на ногі там успяўся,
і розуму набраўся ў Чураёў.

Калі ж у Грыца выспела навуссе
і Чураёўна стала на пары,
то палюбілася хлапцу Маруся, –
было б адзіна цешыцца старым.

Яно на тое і вяло спачатку.
Грыцко тым часам у паход ідзе.
Пападрасталі вербы і дзяўчаткі –
пра гэта мо й не варта на судзе, –

але ж Маруся так яго чакала,
адна такія леты прабыла!
Нікому ні рукі не шлюбавала,
ні на каго і вокам не вяла.

Грыцко ж, ён мераў іншай меркай. Горка,
бо ўсё ж крывы быў той яго аршын.
Ён нарадзіўся пад такою зоркай,
і штось двоілася ў яго душы.

Хацеў то аднаго, то зноў другога.
То песня, то дастатак у цане.
А гэта ўжо, як, скажам, верыць Богу,
але душой прадацца сатане.

– Няхай пачуе Бог усюдыісны! –
Бабрэнчыха забілася ў плачы.
– Панове суд! Я веру Шыбылісту, –
сказаў Пушкар.
І ўлез Гарбань:
– А чым
давер ваш можа быць абгрунтаваны?
На хібную не зводзьце каляю.
– Маё, васпане, слова не куплянае,
і я яго не прадаю.

А хто тут, можа, хоча хабара,
то хай чужым не мажа салам плечы.

– Панове! Да Марціна Пушкара
пасланец з Сечы.

...Зайшоў, як гром, абветраны з дарогі.
Адбіў паклон усім, хто быў на радзе:
– Палкоўнік, я з лістом ад кашавога.
– Давай. Сядай. Спачынь з дарогі, браце.
Ну, як у вас там?
                    – Абступае вораг.
Багдан пад Белай сцягвае ўсю сілу.
Патрэбна помач. І патрэбен порах.
Патоцкі йдзе насустрач Радзівілу.

Пушкар сарваў паважліва пячатку.
І покі ўважна ён той ліст чытаў,
ганец крыху асвойтаўся спачатку
і тых, бліжэйшых, радцаў запытаў:

– Ну, як тут, ціха? Крэмзіце паперы,
язык зламаўшы на судзейскі лад?

Ўздыхнулі радцы. Адазваўся першы:
– Казак у нас загінуў. Во як, брат.

– Казак? Загінуў? Як гэта? Ў Палтаве?
Ды што ў вас тут – баі ўжо? Здрадзіў
                                        хтось?
– Ды не. Маруся. Вунь сядзіць на лаве.
– Струціла хлопца дзеўка. Судзім вось.

Той засмяяўся:

                    – К лесавому бесу!
Пад Белаю Царквой стаяць палкі.
Палае Кіеў, знішчаны Трылесы.
У вас жа вунь як гінуць казакі!

Там бой. Там смерць. Там набрыдзь чужаніцы.
Людзей нястатак. Наша кроў цячэ.
А тут – загінуў... Часам на спадніцы
харугваў тут не перашылі шчэ?

– У вас, у нас. Вы Сеч, а мы Палтава.
У вас правы, мы – вартавыя права.
          Забойства там у вас караюць як?
          Казак сказаў:
          – А проста. Калі часам,
          крый Божа, казака заб’е казак –
          дык у труну жывога з мёртвым, разам!

– Сядла чужога тут не прытарочыш.
Казак загінуў ад рукі жаночай.

– Закутнікі, такая ў вас і смерць.
За так памёр, а кажаце – забіты.
А запарожцы – людзі без круць-верць,
усё на лад свой шчыра ў іх, адкрыта.
Каб мы жавалі жвачку, як валы,
каб мы адно мянцілі языкамі,
то ўжо даўно Ўкраіну б аддалі,
не меўшы часу быці казакамі.

Дзяўчына гэта... Воблік, як з ікон.
Няўжо няма ў вас да яе спагады?
А што, як іншы паглядзець закон, –
пайсці не ад забойства, а ад здрады?

Ну, ёсць праз здраду ж нейкія стацці?
Караецца ж там нейк праступак кожны?
Бо што ж выходзіць? Здрадзіць у жыцці
дзяржаве – нельга, чалавеку ж – можна?!

– З наскоку тут не ўскочыш у страмёны.
Тут, запарожац, трэба Саламона.

Казак сказаў: – Мудруеце ўсё вы.
Тут трэба толькі сэрца й галавы.

Шчэ больш былі тым спрэчкі падагрэты.
Адзін мяркуе гэтак, другі так.
Лясько сказаў:
          – Каго шкада, дык гэта

Івана Іскру. Гэтакі казак!
Такое гора хоць каго зняможа.
З адчаю сам хоць у вяроўку лезь.
Любіў жа ён Марусю, не дай Божа!
Сядзіць во, як зямля счарнелы ўвесь.

У сведкі больш ніхто не аб’явіўся.
Суддзя счакаў, каб гоман трохі змоўк.
Марцін Пушкар устаў, перапрасіўся
ў суддзі, бо мусіў рыхтаваць свой полк.
Адсунуў трохі войта і бурмістра.
Люд просты расступіўся на аршын.
І выйшлі ўдвух. За імі выйшаў Іскра.
І колькі іншых палкавых старшын.

Назаўтра, згодна пастановы права,
суд прыступіў зноў да разгляду справы.
Сказалі Чураёўне, каб яна,
звіноўленая, значыць, старана,
сваіх стаўляла сведкаў, годных веры,
не западозраных у злым намеры.

Бо мы-сьмы, ўрад, паводле права чынім,
пра справядлівасць дбаючы адну,
што, можа, ёсць хоць нейкія прычыны,
прыдатныя змякчыць яе віну.

Забойца ж і апраўдвацца не стала,
адмоўна галавою пахітала.
Было нам гэта доказам яскравым –
не мела апраўдання перад правам.

Тады, пачуўшы гэткае, устала,
не быўшы сведкай стаўленая тут,
Яшчыха з Балаклеі і сказала:
– Я маю што сказаць, панове суд!

Удома дзеткі ж у мяне малыя.
Муж у баях палёг у Прыазоўі.

Аж з Балаклеі вунь прыйшла сюды я,
хоць я ўжо чалавек не пры здароўі.
Дык вось, скажу адкрыта і ўсёлюдна.
Век – не чарэнь. Спаткнёмся не адзін.
Каханне ж, людзі, справа неасудная.
Ва ўсе вякі. Павек вякоў. Амін.

У Гарбаня перасмыкнула плечы:
– Чаму жанчын і не бяруць у Сеч.
Сказалі вы, Яшчыха, недарэчы.
Дарма вы тут сваю прыткнулі печ.

– Суддзёю столькі год ужо ў Палтаве, –
сказаў суддзя. – Нямала бачыў спраў.
Усякія сядзелі тут на лаве,
ды гэткай ліхасці я шчэ не знаў.

Затым устаў, ускінуў броў навессе:
– Тут гаварылі сведкі й вачавідцы.
Па выслухоўванню ўсіх контраверсій
суд мае перайсці да прапазіцый.
Хоць розныя былі тут меркаванні,
усё-такі на верным мы сляду.
Як хто дадаць што мае, хай устане
і думку сваю выкажа суду.

Маўчалі ўсе.
              Не вызваўся ніводзін.
У кнізе пісар літаркі нізаў.
Пушкар, палкоўнік, як даверу годзен,
тады, устаўшы, гэтак вось сказаў:

– Панове суддзі! Цяжкія тут гадкі,
што да чаго і як яно было.
Няхай даруюць нам абедзве маткі,
а дзеці іхнія ўчынілі зло.
Грыцко такой дзяўчыны адцураўся!
Заблытаўся ў такой глухой ілжы.
І вось – расплата. Надзяцюкаваўся.

Дапяў няшчасця, мір яго душы.
Але ж хіба няпраўда гэта, людзі, –
у свеце й так зла поўна, і калі
плаціць злачынствам за злачынства будзем,
то як і жыць тады ўжо на зямлі?
Гвалтоўніцтва жывой душы агідна.
Не апраўданне нават і любоў.
І трэба ж так харунжаму загінуць –
няма як нават пахіліць сцягоў!
І хто ж забіў харунжага? Дзяўчына!
А як па ім гаруе – слоў няма.
Пагляньце. Ёсць жа нейкая прычына.
Яна ж як мёртвая ўжо і сама.
Так гэта ўсё жахліва, непапраўна.
А ўсім карціць прысуд пачуць хутчэй.
Яно, скажу вам, як па мне, то справы
у бітвах шабляй вырашаць лягчэй.

Па гэтым атаман Гук гучна кінуў,
каб суд папраўдзе тут судзіў дзяўчыну.

Тады Гарбань сказаў яму у вочы
і ўсіх нязгодных так вось разграміў:
– Панове суддзі! Праўды не сурочыць.
А праўда ў тым тут, хто каго забіў.

Гук адказаў: – Ёсць і другія факты,
каму хто здрадзіў, жытку скатаваў.
А праўда, пане, слова слепаватае.
Яно не бачыць, хто яго сказаў.

Гарбань адцяў: – У гэткім, пане, разе
мы маем праўды розныя на ўвазе.
Той цягне ўлева, іншы гне управа.
А ёсць адно, так, як было спакон:
статут Літоўскі, Магдэбурга права,
панове суддзі, – вось ён, наш закон!

– Што скажуць радцы? –
Радцы – ні паўслова.

– Параілі, – суддзя сказаў тады. –
Такім, хто надта жаласны, панове,
павінны быць заказаны суды.

Чатыры ўжо разы мы тут збіраліся.
Дапытана ўжо столькі сведкаў тут.
А як труціла, і не разабраліся.
А мусім слушны вынесці прысуд.

Яна ж маўчыць, згубіцелька.
Што ж, значыць,
да справы й гэта трэба далучыць.
Бо маці ў горы. Вішнякоўна плача.
Віноўніца ж маўчыць. Чаго маўчыць?

Такога шчэ не бачыла Палтава.
І суд такога шчэ не адзначаў,
каб той, хто быў прыцягнены да права,
зняважыў права і вось так маўчаў.
Загаманілі лаўнікі і радцы:

– Так можна ўсе законы занябыць!
І праўда, скуль атрута ў гэтай
здрадніцы
такая, што насмерць магла забіць?

Дайшло, што самі сварку ўжо ўсчынаем.
А дзе былі, так і таўчэмся там.
Што нам не трэба ведаць, тое знаем.
А што патрэбна, невядома нам.

– Апроч таго, – сказаў суддзя, – дагэтуль
з усіх гаворак нам ясней не стала,
а ці былі ў яе ў злачынстве гэтым
памочнікі, ці пак кампрынцыпалы.

То што ж мы будзем думаць ды гадаць,
як і на гэта ўказ ёсць акурат.
Падсудную па квесцію аддаць,
няхай-тко з ёю пагаворыць кат.

Іван сказаў: – Панове, гэта жорстка.
І слёзы не ўпадуць з святых ікон?
Ды дзе ж яно, ўсёвідзячае вока?!
Ды гэта ж нейкі аспідскі закон!

– Што ж гэта, людзі? Дзеўчыну на мукі?! –
Лясько як вымкне шаблю з-пад палы.
Ляська ўхапілі, заламалі рукі
і да дзвярэй з ураду павялі.

Казак збялеў аж, вусны закусіў,
ды так усіх з сябе і сцерусіў:
– Вы, канцылюгі, у чарніле пальцы,
малельцаў кодла пузу ды машне,
хапужнікі, ў паходах небывальцы,
каго падужаць хочаце... мяне?!

Ды напрасткі, ў два скокі ад парога, –
такога ўжо ўтрымаеш ты, але! –
паміж людзей праклаў сабе дарогу –
як секане
наводмаш
па стале!

Суддзя уздрыгнуў. Гурт назад адхлынуў.
Гарбань абвяў ад чуба да халяў.
Лясько ўспацеў. А сталь – напалавіну.
А стол стаіць сабе. Як і стаяў.

– Палкоўнік! Ды мячы атакялецкія
шчарбіла шабля гэтая мая.
Шаломы туркаў, панцыры шляхецкія
Лясько Чаркес раскройваў у баях!

Чаму ж я гэтага не разрубаю?!
Іван сказаў: – Бо гэта век не ўмрэ.
Лягчэй нам крэпасць скорыцца любая.
А гэты стол і шабля не бярэ.

(Яны з Ляськом хадзілі ў бітвы разам.
Ляська шчэ штуку не адну утне.
Ён потым стане пабрацімам Разіна.
Загіне на прыдонскай старане.)

І ўстаў Пушкар. Авёў людзей вачыма.
Чапцы ды хусткі, світкі, жупаны.
І галава ў яго па-над плячыма
была, як вежа, ў шапцы сівізны.

Шчэ поўны сілы. Славай абагрэты.
(Пасля і думу пра яго складуць.
Міне сем год – сівую голаў гэтую
Вігоўскаму на дзідзе пададуць.)

Пушкар сказаў, што даравацъ няможна.
Злачынства неабходна пакараць.
І гэтак трэба пакараць, каб кожны
убачыў: суд няма чым дакараць.

Закон ёсць сутнасць, і яго аснову
аберагаць і дадзена судам.
Але, як хочаце сабе, панове,
а на тартуры згоды я не дам!

Тады мы, ўрад, судзейская ўся гронка,
на сказанае зважыўшы і ўважыўшы,
без ката вырашылі абысціся.

І прадаўжалі справядлівы суд,
няўзрушнасць праявіўшы, так,
нібы нічога і не адбылося.

Ляська ж Чаркес за тое, што скандаліць,
хай штраф належны сплаціць, загадалі.

...Як ружа панская, сядзела Галя.
Іван сядзеў з пахіленым чалом.

– Тварыся, воля Боская! – сказалі
з уздыхам радцы й селі за сталом.

Суддзя сказаў:
– Законы судачынства
не дазваляюць больш вагацца нам.
Засцерагаючы, каб гэткія злачынствы
не множыліся больш між хрысціян,
забойцу засудзіць да страты мусім,
як вымагае права і статут.
І толькі спосаб – як Чурай Марусю
караць – быць тэмай спрэчкі можа тут.

Што скажуць радцы, лаўнікі? А возны?
Як бачыцца, пан войце, гэта вам?
Падняўся Іскра, палкавы абозны,
сын Астраніцы Якава, Іван.

(Загіне й ён, здабыўшы ў бітвах
славу,
у хуткім часе пасля Пушкара,
вяртаючыся да руін Палтавы
з пасольства да маскоўскага цара).

Асунены, аж пад вачыма чорна.
– Прашу вас, людзі, выслухаць мяне.
Багата страшных слоў тут нагаворана.
І кожны толькі хто на што кіўне.

Я, можа, вам вар'ятам тут здаюся.
Мы з вамі людзі featur рознага каша.
Але ці ж гэта проста так – Маруся?
Ды гэта ж голас наш! Сама душа!

Калі ў паход Палтава нас збірала,
чыімі песнямі па нас рыдала?

А на вайне той песнямі чыімі,
як шаблямі й знамёнамі, жылі мы?

Пакуты нашы, слава і руіны
увойдуць у вякі праз гэты спеў.
Яна ж была як голас Украіны,
які ў харугвах нашых клекацеў!

А вы цяпер шукаеце ёй кару.
Бо, ад самоты немая, маўчыць.
Людзей такога рэдкаснага дару
хоць трошкі, людзі, трэба берагчы!

Цяжкі закон. І я яго не зрушу.
І што да болю гэтага дадам?
Яна у песнях выспявала душу.
Цяпер усе іх пакідае нам.

Адно прысуд – і ўся на гэтым справа.
І ўвесь на гэтым Чураёвы род.
А як жа запяе тады Палтава?
Ці слёзы не душыцьмуць ад згрызот?!

Запала ціша, як у сне злавесным.
Гарбань заёрзаў:
– А пры чым тут песні?
Яна ж адказ за іншае трымае.
І потым, чутка маецца, гі-гі,
што сведак гэты свой інтэрас мае.
Ягоным словам тут няма вагі.

Тады мы, ўрад, з прыстойнымі асобамі
апошняе далі падсуднай слова, –
ці хоць пячэ раскаянне яе,
і перад тым, як выслухаць прысуд наш,
ці хоць слязу пакуты не пральe?

Яна слязамі вочы не зрасіла.
І міласэрдзя ў права не прасіла.

Тады, усё прыняўшы пад увагу,
параіўшыся між сабой не раз,

кандыцыямі права паспалітага
тады мы гэткі вынайшлі наказ:

Мы, ўрад, на грунце паказанняў голі
так вырашылі справу на далейшае,
што мае быць скараная на горле,
на шыбеніцы, значыцца, павешана.

Пра што людзей пачцівых зведамляем
і ўпісваем цяпер і на векі.
Дэкрэт пячаткай нашаю змацняем
і подпісам судзейскае рукі.

## ПАЛТАЎСКІ ПОЛК
## ВЫХОДЗІЦЬ НА ЗАРЫ

Раздзел II

Заход барвяны дужкай залатавай
стаіць над чорным каптуром гары.
На пяць варот замкнёная Палтава
хавае свае вочы ў явары.

Сыходзіць вечар стоена, памалу,
варушыць зоркі ў цемрыве крыніц.
Углядваецца ўдалеч варта з вала,
і совы спяць ва ўпадзінах байніц.

«Вартуй! Вартуй!» – з Курылаўскае брамы.
«Вартуй! Вартуй!» – ад Кіеўскіх варот.
Ужо стаяць вазы пад яварамі.
Палтаўскі полк гатовы у паход.

Карміце коней. Блізкі свет – дарога.
Паблаславіце, родныя двары.
А што там будзе, смерць ці перамога, –
Палтаўскі полк выходзіць на зары!

Там бой грыміць. Там гіне наша воля.
Там трэба рук, і зброі, і плячэй.
І што там варт адна чыясьці доля,
той ціхі войк у бездані начэй?..

Агняна знічка ў небе пралятала,
сычы крычалі, вестуны бяды.
Задуманая на сто дум Палтава
чупрыны вербаў хіліць да вады.

Быў суд папраўдзе. І абвешчан вырак.
Усё як след. За што сябе карыць?
...Маўчыць Палтава. Толькі думкі вірам.
Перахацелася ўжо й гаварыць.

А зрэшты, што ж, сам час такі крывавы.
І што жыццё? Ну, страцяць шчэ кагось.
Прамчаўся коннік па нямой Палтаве –
як громам, рэха працяло наскрозь.

Прагрукацела смуткам вечаровым,
хіснула цішы сіні аксаміт.
І толькі коннік за палтаўскім ровам
дзесь заціхае цокатам капыт...

Самотны коннік знікне за туманам.
Прыпыніць позірк варта ўслед яму.
Той коннік звецца Іскраю Іванам.
Яму нясцерпней сёння, чым каму.

Ужо ён там, ужо ён за смугою,
ляціць, стужнелы, скрозь тугу сіўца.
Што ж, гора горам, а вайна вайною.
Паслаў палкоўнік гетману ганца.

«Вартуй! Вартуй!» – з Курылаўскае брамы.
«Вартуй! Вартуй!» – ад Кіеўскіх варот.
Ужо стаяць вазы пад яварамі.
Палтаўскі полк гатовы у паход.

Карміце коней! Шлях ім не блізенькі.
Шануйце славу палкавых знамён.
Палтава! Рана ўстануць казачэнькі.
Ты зноўку прыпадзеш да іх страмён.
Устануць раным-раненька з паўночы.
А ты за іх, Палтава, памаліся.
Ды не залье слязамі карых вочак
Марусенька ўжо гэтак, як калісьці...

## СПОВЕДЗЬ

### Раздзел III

...Прайшло жыццё. Чаго было й радзіцца.
Адно абразы набярэшся ўшчэрць.
Ну што ж. І гэта нејак загаіцца.
Ды ўжо й канец. Пераначую ў смерць.

А што яшчэ я маю тут рабіць?
Свае зямныя клопаты адбыць.
Апошнія ўжо клопаты ў жыцці.
Куды мяне вядуць, туды й ісці, –
абы адбыць, нарэшце ўсё адбыць, –
і каб не быць, і каб ужо не быць!

Тры дні далі яшчэ па дабрыні.
Нашто ўжо тым смяротнікам тры дні?

Ці ж іх ужо трымае што тут, людзі?
Як быццам прывід возьмеш на ланцуг...
Здаецца, штось варушыцца ў тым хлудзе...
І колькі ж тут сядзела валацуг,
злачынцаў усялякіх. Ім, відаць,
таксама не хацелася ўміраць.

Што ж, вашы болі ўжо вам адбалелі.
Хто б ні былі, сваё вы адбылі.

Напэўна ж, і забойцы тут сядзелі,
пастаўлена ж турма яшчэ калі.

Аж вось дзе прыхілю сваю я ўтому
за столькі дзён, за столькі доўгіх год!
Ці хоць перамянілі тут салому?
Ці кінулі хоць свежы акалот?

Ну вось знайшла пра што яшчэ журыцца.
І я ж забойца. Я забіла Грыца.

За гэта ж мне такая і заплата –
з муроў каменных ледзяная хата.
Стары кажух... салома... пасцялюся...
Хоць паляжу ды ў цемру падзіўлюся...

...А я заснула, Божачкі, заснула!
Упершыню як адпусціла мне.
Ды так заснула, быццам патанула.
Шчэ й нешта светла мроілася ў сне...

Пракінулася – і не разбяруся,
дзе я,
хто тут забойца,
хто Маруся?

Усё ніяк да явы не вярнуся,
здаецца, вось прынёс мяне той бусел
дый апусціў у мальвах і язмінах
на зрошаных світанкавых сцяжынах.

І я шчэ, як малое дзеўчанятка,
шторанку пачынаюся спачатку.

Салодкі поцяг... промнік за смугою...
як добра жыць... і думаць пра другое...

А сон мінуў, растаў. І зноў натому
раптоўным болем апякла свядомасць.
Два словы толькі вынiклі: *няўжо я*?!
Душа баліць, і цела як чужое.

Навобмацак з падлогі паднялася.
Не расчасаўшы косы, заплялася.
Усё як ёсць. Асуджана. Адна.
Сцяна. Сцяна. І краты. І сцяна.

...А ўжо світае. Сумна, сумна, сумна
дзень бласлаўляецца на ўсход.
Дзесь коні ржуць і глуха граюць сурмы.
Палтаўскі полк выходзіць у паход.

Дзесь граюць сурмы. Ў добры час іграць ім.
Б'юць у літаўры гэтак, як калісь.
Душа рванулася – й захрасла ў кратах,
бяссільна рукі краты аплялі.

Далёкім гулам поўніцца цямніца.
Дзесь пыл зрудзелы крые лебяду.
У першы раз, у першы раз так, Грыцу,
што я цябе ў паход не правяду!

Ой, льюцца слёзы матчыны, ой, льюцца!
Святая роспач, боль без гаркаты.
Пагінуць хлопцы, дык хаця па-людску.
А як загінуў, як загінуў ты?!

Там кожны едзе, – і агню, і грому,
ўсяго ў іх будзе ў клёкаце дарог.
А ты ляжыш на цвінтары старому,
дзе шчэ ніхто з казацтва не палёг.

Вось і заранкі ў небе дагараюць.
У першы раз за столькі, Грыцу, год –
і коні ржуць, і сурмы, Грыцу, граюць,
а ты з палком не выйдзеш у паход.

...Ужо малебен, мабыць, адслужылі,
бо затужылі ўголас, затужылі
званы! Бо зарыдалі, загулі! –
то ж там за браму хлопцаў правялі.

То ж полк выходзіць – за лясы і гоні.
Камусь таполя стане ў галавах.
І б’юць званы,
і звоняць, звоняць, звоняць
па ўсёй Палтаве і па ўсіх царквах!

Зацісну вушы, чую праз далоні
і гэту цэркаўку, што ў бастыёне,
і той саборны велічэзны звон, –
усё ўзрыдала хлопцам наўздагон.

І гэтая – раз-пораз дый азвецца
астрожная царква, і гэта ўсё ж!
Яна ў Палтаве хораша завецца:
«Усіх Маркотных Радасці». Ды ўжо ж.

«Усіх Маркотных Радасці»... Я рада.
І што мяне найболей весяліць –
калі душу так выпаліла здрада,
то ўжо душа нібыта й не баліць.

Анічагуткі ёй не шкода болей.
Так лёгка стала, мала не смяюся.
А гэтая турма – напраўду воля,
бо я ўжо тут нічога не баюся.

Званы ж галосяць, а званы рыдаюць!
Вось-вось зямлю і неба расхітаюць!
І тут, і там, і дзесь аж на гары
здалёку б’юць званы ў манастыры.

І дзесьці там гурты, натоўпы, людзі!
Там зоры чыстыя, нібы рамон.
І жонка мужу падае на грудзі,
і дзеці цягнуць рукі да страмён.

Чыясь ля шляху плача там нявеста.
І хворы, і малы – усе прыйшлі.
І толькі мне адной няма там месца.
Я лішняя ўжо людзям на зямлі.

...А полк ідзе. Няма калі журыцца.
З харугвай іншы ўскінуў галаву.
Харунжых шмат, няма вось толькі Грыца.
А я жыву... Чаго я шчэ жыву?!

Жанкі слязьмі дарогу перамылі.
А Грыц ляжыць, загінуўшы за так.
Ці хоць яму сцяжочак той прыбілі
там на крыжы, для знаку, што казак?..

Прамчалі коні паўз маю цямніцу.
Б’юць капыты ўжо дзесьці ля варот.
У першы раз, у першы раз так, Грыцу,
без песні полк выходзіць у паход!

Гул заціхае... Сурмы ўжо не граюць...
Шум – воддаль, воддаль...
Звоны заміраюць...
Бывайце, казачэнькі. Ў добры час.
А я ўжо й песню не складу для вас.

***
...І ноч другая. Не заснула й хвілі.
Такі ж спакой акрыў – бы небыццё.
І згадкі – з тых, што слёзы не амылі,
прыходзілі развітацца з жыццём.

Чамусьці прыгадалася купалле.
Ноч зоркамі ўсё неба паўсыпала.
Бяздоннасць неба і бязмежжа свету,
а нам адно па васямнаццаць летаў.
І сэрца б’ецца, быццам шпачаня.
Вось так да ранку – ноч і вышыня.

Яшчэ згадала – вогненнае кола
цераз мяне ляціць з гары дадолу.
Абвітае саломаю, ляціць,
шугае ў ветры полымем, трашчыць!

І, аджагнаўшы іскрамі наўзбоч,
абвугленае, ўкочваецца ў ноч...

А ўжо дзяўчаты ў плахтах, у маністах
вянкі пускаюць за вадою ўніз.
А ўжо гадаюць, хто каму да мыслі,
а хлопцы зносяць да агнішча хмыз.

Плывуць вянкі, і мой плыве, не тоне.
А сэрца шчэ ў такім безабаронні,
такім спяваю срэбным галаском!..
Здымаюць чэрці зоркі рагачамі...
Вянок плыве, знікае за начамі...
Ці дзесь яго прыбіла за карчамі,
ці дзесь ляжыць, прымулены пяском?..

А потым – як зламалася вясло.
Душу так падхапіла, панясло.
І закруціла гэткім ужо вірам!..
Было б тады й спыніцца ўжо гадам.
Душа ў маленства рвецца, як у вырай,
бо ёй на свеце цёпла толькі там.

...Было, пад вечар лушчым мы фасолю,
а Грыц ідзе гародамі да нас.
Пяшчотна неба свеціцца красою,
цяжкі сланечнік пнецца ў пералаз.

Ціхмяна восень ходзіць берагамі,
рудое з вербаў лісцейка прадзе.
А Грыц бадылле цягне за нагамі,
ідзе, маленькі, дыбае, ідзе...

Такое міленькае хлапчанятка.
Цікаўны. А ласкавы – як цялятка.
Харошы хлопчык, трошкі неслух быў,
усё па вербах шабелькаю біў.
Усё, было, мы разам, мы ўсё разам –
бяжым на рэчку і па кручах лазім.

Шукаем глогу і пасём карову,
гуляем у лапту альбо ў квача.
Або зімою доўгім вечароўем
начэшам з коней поўсці для мяча.

А шчэ ўдваіх панадзіліся змалку
мы ў дзедаву Галернікаву балку.
У стэпе ён жыве, за ветракамі,
адзін-адзін, адвык і гаварыць.
І толькі з коміна дымок гадамі
у неба ўсё курыць сабе й курыць.

Там у яго і зараслі ажыны,
і таямнічы матузок сцяжыны,
і вулейкі, і ў жолабе вадзічка,
і жываплоту бузіновы цвет,
і хата, як старая рукавічка, –
там кот жыве, цвыркун жыве і дзед.

А сам ён дзед старэнькі, палатняны.
А барада ў яго, як сівы дым.
Расказвае пра Кафу, паланянак
і пра свае паходы маладым.

І кажа нам, што мы яго унукі,
не даў Бог родных – не было калі.
Усе ў рубцах Галернікавы рукі
выстругваюць нам чоўнікі з кары...

А то – шчадруем. Нізачкаю ходзім,
старанна галасочкамі выводзім:
«Ой на рэчцы, на Ярдані,
Прасвятая рызы мыла...»

Во крыж на Ворсклі высякаюць пешнямі.
Зальюць вадою, каб умёрз у лёд.
Гарбухі-вербы ледзянымі клешнямі
шкляную наледзь стрэсваюць з барод.

Ляцяць з гары развалкі міма хатаў
і саначкі – адно мігцяць тыны.
Тым часам не было ў мяне ўжо таты,
мне маці ўжо зрабіла каўзуны.

Аж віхар белы ўсчыніцца наўкола,
як нас па схіле сані растрасуць, –
зіма ўцякае, падабраўшы полы.
А ўжо пратэсы з песнямі нясуць.

Ідуць Бабрэнкі, Гукі, Шыбылісты.
Брыдзе дыякан-барадань.
І поп, нібыта звон, басісты,
на Ворсклі робіць рэчку Іярдань.

Ляцяць у спудзе галкі ці вароны.
Лёд стракаціць ад баб ды іх абноў.
І Грыц малы, ад холаду чырвоны,
з-за пазухі вымае галубоў.

Трапеча сцяг нерукатворным Спасам.
Вада святая крыгай шамаціць.
І крыж, абліты бураковым квасам,
пад белым сонцам дзіўна мігаціць.

Вада святая – бузіновай гушчай
кудысь пад лёд плыве, плыве, плыве...
Пытаюся: – Вада гэта жывушчая?
Пакропім раны – тата ажыве?

...Я не забуду, тата, вас ніколі.
Душыла галадуха, сівер дзьмуў –
вы ж, дзякуй вам, паслалі мяне ў школу,
там дзяк вучыў чытанню і пісьму.

О, тая школа, крытая чаротам!
Шарпак на сценах, сплеценых з лазы,
дзе паўакна заплюшчана сумётам,
тры лавы, стол, Псалтыр і абразы.

Аз-букі-ведзі... Што тады я ведала?
Не асягла й глыбокасці пісьма.
Ішла дадому – снегам паабедала.
Аз-букі-ведзі... Голад і зіма.

За ноч бяруцца намараззю сенкі.
Не знаюць рагачы ў кутку рукі.
Ды ўсё-ткі неяк зіму, нібы семкі,
ўдваіх на печы злузгалі-такі.

...Пра бацьку весткі не было з паўгода,
ужо й Кузьма з Дзям’янам размінуўся.
Бо аніхто жывы з таго пахода
тады яшчэ ў Палтаву не вярнуўся.

Хадзілі чуткі, што Паўлюк не выждаў,
што ў тых Кумейках снег крывёй прамок.
Што хто там здаўся, толькі той і выжыў.
А наш жа бацька – здацца ён не мог.

Ён горды быў, Гардзеем ён і зваўся.
Ён рыцар быў, дарма што пасталы.
Стаяў насмерць. Ніколі не здаваўся.
Яму скруцілі рукі і здалі.

Што з Паўлюка, жывога, скуру здзерлі.
Што чатырох яшчэ схапілі з ім.
Што ў параўнанні з тым, як вязні ўмерлі,
і Страшны Суд не страшны ўжо зусім!

Пасля галовы іхнія на палях
павыстаўлялі ў месцах палкавых.
Людзей зганялі. Маці мая ўпала,
і крык замёрз на вуснах нежывых.

А смерць усё кружыць, і кружыць, і кружыць,
і кружыць наўкола па́лі.
Наносіць белага снегу ў вочы яго запалыя.
А я нічога не бачу...
кружэнне нейкае... ўзвеі...

Кружыць, і кружыць, і кружыць
                    гэтая жудасная завея!
Танцуе, хіжая, і п'яна
рагоча, завушніцамі трасе.
Як галаву – ў крыві ўсю – Іаана
над белым светам Іраду нясе...

А цераз год, і цераз два, і тры
не зналі свята мы ў святвечары.
Усё журба, ўсё цень яго нябачны.
Каляднікі спяваюць неабачна:
        «Ой ты, пане-гаспадар!
        Ці спіш, ці чуеш,
        ці ўдома начуеш?»

А памяць пра яго на покуці
галавою на рукі ўпала.

***

...Ішоў кабзар у нас цераз Палтаву.
Ну, абступілі, просяць, што каму, –
той пра сіротку, той пра вояў славу,
той пра Азоў, а той пра Кадыму.

І я стаю. Вось так стаяла, з краю.
А ён спяваў нявольнікаў «плачы».
І раптам чую: «Орліку... Чураю!»
Я анямела. «Орліку... Чураю!..»
Як сплакалася я тады ўначы!

Усё гучала: «Орліку Чураю,
Ой забілі цябе ляхі, ой ды ў родным краю!»
Ўсё думала: было ж хоць папытацца,
хто склаў так словы пра яго ды край.
Што гэта ж быў ён родненькі мой тата,
а вось цяпер ён – орлік, ён – Чурай.

Цяпер ён з намі ў радасці і ў суме.
І сэрца вынесла з начы тае:

пайшоў у смерць – і вось вярнуўся ў думы,
цяпер ніхто яго ўжо не заб’е.

І дзесь тады, нясмела, выпадкова,
хоць я ўжо й песню склала не адну,
упершыню крануў мой смутак
*слова,*
як той кабзар кранаў сваю струну.

...Сплыло жыццё, як лісце за вадою.
Я прыгадала маці маладою.

Яна ў мяне, калі была малодшай,
была дзівоснай, як на глузд людскі.
Было, слязамі набягаюць вочы,
а вусны ўсмешкай зорацца-такі.
Ці гэткі твар, ці гэткая ўжо звычка.
А галасочак! – чысты, бы крышталь.
Такой была прыгожай маладзічкай,
смяюцца вусны, а ў паглядзе жаль.

Яна і мне казала:
– Як ні будзе,
мая дачушка, толькі не скуголь.
Здушылі слёзы – не выходзь на людзі.
Баліць душа – не выяўляй свой боль.

Як гора тое здарылася з намі –
не стала бацькі, то праз год пасля
так хлопцы і хадзілі табунамі,
каб хоць пабачыць маці, хоць здаля.

Дый бацька быў з удалага заводу.
А што ўжо дужы, то, відаць, найдужшы!
Звяла іх доля, як ва ўзнагароду
за невымерныя прадонні-душы.

Было, гляджу і думаю: «Ой, мама,
які ж у мяне тата!» – альбо зноў:

што і ў мяне, як вырасту, таксама,
таксама будзе гэткая любоў!

...Ну, вось я й вырасла.
Лаўлю сябе на слове.
То як, Маруся? Пакахаў? Такі ж?
Я – шаляніца. Я – дзіця любові.
Мне без яе свет белы – цяжкі крыж.

За гэта вось мяне й судзіці трэба.
Якія кары па віне былі б?!
Мая любоў чалом сягала неба,
а Грыц хадзіў нагамі па зямлі.

Мой бедненькі, намучыўся ён тутка.
Вясёлы быў, а я хадзіла ў смутку.
Ласкавы быў, і добры, і пакорны.
Прапаў за мною як за даллю чорнай.

Гукаў мяне, а я ўжо не азвалася.
Заблытаўся – сказала: выбірай.
А ў хлопца ж сэрца напал разрывалася.
А ён Бабрэнка. Ён жа не Чурай.

Чурай, той так: сваю пабачыў долю –
вось ты, вось я, цяпер нас будзе двое.
Ну а што ў хаце гола, дык даволі
павесіць будзе на сцяну пістолі
ды твой кілім. І ў гэтым будане
век соладка з табою будзе мне.
А Грыц не так. Бо розум тут не таткаў:
– З'яднаем што, нястаткі да нястаткаў?
Багатаму і чорт дзяцей калыша,
а беднаму й анёлы не радня.
А як зямлі нам маці не адпіша?
А шчэ сцягнуцца трэба й на каня.
Падбаць жа мушу пра кубло якое.
Яшчэ й вяселле мушу справіць я.
То ж быў адзін, цяпер нас будзе двое.
Аж маці не ўтрывала раз мая:

– Што ты ўсё:
                    мушу, мушу, мушу, мушу?!
Зямля, зямля... А неба твоё дзе?
Як будзеш гэтак распаношваць душу,
яна, глядзі, з сумлення ападзе.

А ён прыйшоў тады з-пад Берастэчка.
Разгром жахлівы душы ўсім паліў.
Нервовы стаў. Ледзь што – ужо і спрэчка.
Аблічча думкі горкія гнялі.

Прыходзіў рэдка, ветлівы не дужа.
І курыць, курыць, люлька на губе.
Такі ўжо стаў – не зазірнеш у душу.
Чужы якісьці – мне ці ўжо й сабе?

А неяк кажа: – Шчасце трэба красці.
Даў Бог, не завязалася дзіцё.
Вяселле, любка, мусім зноў адкласці.
Што зробіш, як такое ўжо жыццё.

Пустое лета не дало ўраджаю.
Узбіцца б як на боты ды кажух.
А я такі, я матку паважаю.
Я ўпоперак ёй слова не скажу.

Бабрэнчыха ўсё губы падціскала,
нікуды з дому Грыца пе пускала.

Сустрэла маці дзесь каля крыніцы.
Пра дождж, пра гром, пра курку, пра бычка.
Што добры гетман выйшаў з Астраніцы
і гаспадар харошы з Вішняка.
Што час ляціць, а трэба неяк жыць.
Любоў любоўю, а жыццё цяжкое.
Што ўжо дзяцей пара б і ажаніць.
А пад канец прамовіла такое:

– Як бы ты ў Бога добра папрасіла,
то мелі б мы шчэ й радасць на вяку:
твая пайшла б за гетманскага сына,
і мой з заможных выбраў бы дачку.

А маці – й слова. Толькі пачала,
нібы за хворай, прыглядаць за мною.
Гляджу: на старасці ў царкву пайшла
цераз гару дарогаю кружною.

Пытаю: – Мама, хто вам так дапёк,
што вы цяпер не ходзіце тудою?
– Я, – кажа, – й сцежку абміну ў іх бок
і закраплю свячонаю вадою!

– Чаго вы мама, не злюбілі Грыца?
Ну што вас гэтак мучыць без канца?
– І вочы не глядзелі б, як дваіцца,
навыварат ідзе душа ў хлапца!

– Не верце, мама!
Грыц такі харошы.
Ён, мама, мне пакляўся ж навякі.
– Ой, доню, доню, там жа процьма грошай.
І гэта ж Галя. Гэта ж Вішнякі...

–А гэта ж мама, Грыц. І я. Мы з Грыцам.
Ды ён такі на свеце ўсім адзін.
Ён, мама, горды. Ён казак. Ён рыцар.
І што для Грыца грошы, мама? Дым.
Хіба наш бацька ласы быў на грошы?
Хоць талер ён у вузлік завязаў?
Хіба ж не вы былі ў Залатаношы
адзіны скарб, які ён там узяў?

– Ох, не раўняй. Раты ў людзей, як вершы.
Ты кажаш – бацька, а жыццё бяжыць.
Наш бацька – з тых, што паміралі першыя.
А Грыц Бабрэнка – з тых, што хочуць жыць.

Я ж чутак як недачувала:
людскія вечныя памовы.
Але й сама ўжо адчувала:
ёсць праўда ў мацерыных словах.

Каго прыждала? Парабка ці воіна?
Чаму не йдзе? У чым мая віна?
Здавалася, так горыччу напоена
была душа, што выгарыць да дна.

І скуль жа столькі подласці і бруду?!
Віліся думкі, быццам гулкі рой.
Сама нічога, неяк перабуду.
А што скажу я мацеры старой?!

А маці знала. Маці ўсё ўжо знала.
Снуе няшчасце плёткі, як павук.
Не дакарала і не папікала,
а толькі ўсё ёй выпадала з рук.

А раз сказала з роспачы й гаркоты:
– Ёсць рыцары ж у нашым краі, ёсць!
О Божа, на каго ты, на каго ты
сваю прамарнавала маладосць?!

...Мне з дня таго бы й не пякло ўжо болей.
Адмучылася. Адлягло. Даволі.
Аклікнуць Грыца не зрабіла й спробы.
Хаджу – хістае, як пасля хваробы.
І хоць якая б злосць ці варажнеча –
няма нічога. Пустка. Паражнеча.
Мне ўсё шкада было яго чамусьці.
Або да Галі думкамі звярнуся:
– А можа, можа, й трэба так, хто знае.
Бо хто я, Галю, ці ж табе раўня я?

Ты Вішнякоўна. Гэты род слыве.
Такіх радоў не густа у Палтаве.
Твой бацька, Галю, значны чалавек.
Ягоная і жонка ў златаглаве.

Ён не хто-небудзь тутка. Ён Вішняк.
У яго скроні ў срэбнай прыпарошы.
Бывае так, што слава – на дурняк,
а слава ў Вішняка – за процьму грошай.

Яму дабро само сплывае ў двор.
Багаты садам, нівай хлебадарнай.
Ён не якісьці звер ці жывадзёр,
ён проста ўзяць умее запаўдарма.

Яго і грэблі, й ворная зямля,
сваю душу ён пацерамі лечыць.
Хто – за Багдана, хто – за караля,
а ён за тых, якія не пярэчаць.

Як ён умее гожа гаварыць!
Якія займішчы ў яго, палеткі!
Уся Ўкраіна полымем гарыць –
Вішняк нагрэе рукі і на гэткім.

Дзе трэба, ў час ён прытаймуе гнеў.
Дзе трэба, скажа праўды палавіну.
Шчаслівы дар. Мой бацька так не ўмеў.
Ён знаў адно – змагацца ці загінуць.

Вішняк жа змружыць складачкі павек,
усё разважыць, змерыць, не пагрэбуе.
Твой бацька, Галю, мудры чалавек.
А мо хто знае, можа, так і трэба –
ва ўсіх гэтых маркотах, скутках, жалях,
ва ўсіх адвечных гэтых калатнечах –
і Чураёвы галавы на палях,
і Вішняковы галавы на плечах.

Вішняк ішоў угору ўсё ды ўгору.
Вішнячка йшла ушыр усё ды ўшыр.
А Галя дбала ў скрыню ды ў камору.
А Бог на небе долю нам вяршыў.

...Яны жылі далёка, за Раскатам.
Ад нас ісці праз Задыхальны Яр.
Крынічка ў іх пад дашкам лускаватым
і пяцісценка – вокны на базар.

Дажджы нальюць ля тое хаты лужу,
глядзяць харомы ў люстраны блакіт.
А ў лужы той плывуць сабе праз ружы,
як лебедзі, і гускі, й гусакі.

А гаспадыня пышная і ладная.
А Галя ўсё трасе кілімы й радна.

Адна фігура ў маткі і ў дачушкі –
абедзве круглыя, нібы кадушкі.

Нібы пампушкі, ў Галі ручаняты,
касы бялявай куценькі хвасток.
Як асаток зялёны, вачаняты
і пышна закапылены раток.

Глухая ў песні, заўжды фальшу ўпора.
Ўсё вышывае прошвы падушок.
Пакуль маўчыць – нічога. Загаворыць,
пакажа зубкі – чыста парсючок!

А вось – як выйдзе, як заграе броўкамі,
вачыма стрэльне і туды й сюды –
у боціках ды з меднымі падкоўкамі,
зялёны верх, казловы перады!

І сніцца хлопцам – там пасаг гарою,
каморы, скрыні, хатулі, вазы!
Наўкола свахі так і ходзяць роем,
а зверху Галя коціць гарбузы...

А можа, я несправядлівая, нечага не разумею?
А можа, якраз такую казак гаспадыню і хоча, –
да печы і да гарода, да коней і да свіней, і

да рады і да парады, і да любові ўночы?
Такую мяккую, цёплую, як пераспелую грушу,
каб толькі глядзела ў вочы і ні пра што не
пыталася.
Прынёс муж дадому патоўчаную сваю душу,
а жонка, нібы трыпутнік, да ўсенькіх болек
прыклалася.

І хата ў яе не хата, а так – закутачак рая.
На двух у яе дурноты, ён – глузду на двух
збярог.
У гэтым няўзрушным свеце ён, можа, ніякі з краю,
затое як прыйдзе дадому, для жонкі – ён цар
і Бог.
Можна яе аблаяць, пабіць або выгнаць з хаты.
Яна даруе, прылашчыць, яшчэ й прынясе расол.
Ты мо ад мяне стаміўся. Хачу ж, каб мяне
кахаў ты.
А там трэба толькі жаніцца. Вось ажаніўся –
і ўсё.

Дык дай жа вам, Божа, шчасця. Прыбіце сабе
падкову.
Нічым не журыся, Грыцу. Усё, як я, праміне.
Але ні наўмысна, Грыцу, ні проста так, выпадкова,
ні словам ліхім, ні добрым ніколі не згадвай мяне.

...Не маю зла на Галю й на цябе я.
Так сталася, і я цяпер адна.
Але я йшла з царквы на Макавея,
і засмяялася мне ўслед яна.

Ішлі дзяўчаты гаманкой гурмою.
Я павіталася, мінула іх.
І раптам з гурту, ззаду, за спіною
раздаўся смех. І абарваўся, сціх.

А я ішла. Падкошваліся ногі.
Хтосьці ціха папракнуў яе, пры мне.

А я ішла, не бачыла дарогі,
і смех – як нож, тырчаў ён у спіне.

І не было чым дыхаць, млосна, колка.
Сек душу сорам, як бізун. Наўме –
яна ж дзяўчо. Адпасвеная цёлка.
Даруй ёй, Божа, неразумны смех!

Вярні яго стократнаю тугою.
О не, я не заплакала пры ўсіх.
Вада самкнула сонца нада мною
на грэблі Ворсклі, у Млынах Старых…

Братка мой, ахрышчаны Іванам!
Ратаваў мяне нашто? Бяда.
Кажуць, дзесь далёка, за ліманам
мора ёсць – куды ні глянь – вада.

Кажуць, мора – зелень і сінеча,
большае за Днепр і за Дунай.
Мне яно якраз было б дарэчы:
там не знойдзеш, колькі ні ныра́й.

Заплысці – і крапінкаю стаць
там, дзе ўжо адно вада ды неба.
Мора ўмее ўзяць і пахаваць,
ні труна там, ані крыж не трэба.

А над морам –
там жа ні вароны,
толькі чайкі, роспач і нуда...
І аплача, бо яно салёнае,
і абмые, бо яно вада...

Ты не бойся, гэта не гарачка.
Дзень мінуў, ці, можа, ўжо і два?
Між карчамі ракі ходзяць рачкам,
шмыгае чародкамі платва.

Дажылася ж мукаю зямною,
што ўтапіцца й то няма куды...
Што ты ходзіш назіркам за мною?
Выцягнуў мяне нашто з вады?

Я схілялася, бо спрагла піць,
бо задуха ж гэткая асела!
Я ж хацела не сябе ўтапіць,
я ж свой боль там утапіць хацела!

Братка мой, ахрышчаны Іванам!
Не любі нікога ты, бяда.
Кажуць, дзесь далёка, за ліманам
мора ёсць – куды ні глянь – вада.

...Нашто ўсю гэту варушу маркоту?
Як той нямы, што ў камені крычыць...
Душа і тут знайшла сабе работу,
няма таго, каб сесці й адпачыць.

А як згадаю, Божа, як згадаю,
у сэрцы гэткі смутак разгайдаю! –
ноч тую, тую ласку, той парыў,
усё, што мне тады ён гаварыў,
абдымкі тыя, пацалункі тыя –
яны на мне, як таўры агнявыя!

Як нам было бязвоблачна, высока!
Які пяшчотны ён і палкі быў!
А ўжо ў Палтаве набіралі сотні,
а ўжо Хмяльніцкі збор палкам трубіў.

Даўно ўжо сурмы адгучалі,
даўно заціхлі капыты.
Ужо дзяўчаты дакучалі:
чаго, чаго чакаеш ты?
Ты бач, што за жыццё настала.
Чакай, гады свае спыні.
Дый будзеш дзеўка-перастарак,
пакуль ён вернецца з вайны.

Я ж песнямі свой боль таймую.
Увечары, бывала, сядзімо –
задумаюся, сціхну, засумую.
Праду журбу... Спяваецца само:

«Павей, ветру буйнесенькі, скуль цябе прашу я.
Развей, ветру, маю скруху, што ў сэрцы нашу я!»

А вечар доўгі, завірушыць сцюжа.
Дзяўчаты ж гаманкія, – дзе той сон!
Папраўдзе, на гаворку я не дужа.
А ў песні ўмею выспяваць усё.

Спявалася. А тыя не вярталіся,
што ўсталі на зары ў паход з паўночы.
На голас словы самі навярталіся,
як слёзы навяртаюцца на вочы.

...Марцін Пушкар дадому адпусціў
свой полк Палтаўскі ў пяцьдзясятым годзе,
каб кожны сабе добра пагасціў,
але пры шаблі – у любой нагодзе.

Часы былі няпэўныя. Злавесна
усхмарвалася блізкая вайна.
Каханне ж гэта пачалося з песні.
Магло і абарвацца, як струна.

А мы свайго кахання ўжо й не тоім.
Душа мая ад песень аж звініць!..
У той любові штось было святое,
такое, што няможна ачарніць.

Адно аднаму свет як завязалі,
ужо да дня стаялі ля ракі.
Ссумнелыя, ні слова не сказалі,
хоць бачылі ўсё нашы мацяркі.

Было, пытаю: – Ну чаго вы, мама?
Ён вам як сын. Цяпер ён будзе зяць.

А ў маці вочы – нібы за туманам,
так, бы чагось хацела не сказаць.

Журылася, бо не была б то маці:
– Мне што, мне ўжо абы каб добра вам.
А тут яшчэ пачаў бываць у хаце
сын Астраніцы Якава, Іван.

То ў манастыр з палкоўнікам праедзе,
то ў хату зойдзе, каб папіць вады.
А гэта нейк праведала я дзеда
Галерніка – і ён прыйшоў туды.

Пабыў там трохі, дый пайшоў так, моўчкі.
Такі суровы, погляд ледзяніць.
Грыцко быў гожы, вочы – як цярночкі.
А гэты спалатнее і маўчыць.

А слова скажа – з памяці не выкінеш.
А больш маўчыць пры мне, такі дзівак.
Як меч, аблічча, зразу і не звыкнеш, –
твар рэзкі й тонкі, быццам цеціва.

А ў позірку такое штось трывае,
што часам нават думка прамільгне:
ці, можа, ён супроць мяне што мае,
ці, можа, ненавідзіць ён мяне?

Ну што ж, няхай. Маўчанкі не парушу.
Лепш абыду ўжо. А сустрэну дзе –
дык як маланкаю пратне мне душу
і зноў спакойна вочы адвядзе.

Дзяўчаты кажуць: – Ён цябе кахае.
А я кажу: – Ды ну яго зусім!
А Грыц – той і злуецца, і ўздыхае.
– Ён, – кажа, – хітры, асцярожней з ім.

У нас яго не дужа любяць нашы.
Шляхетны надта і чалом не б’е.

Ён, – кажа, – горды. З ім не зварыш кашы.
Ён і маўчыць, бо штось сваё снуе.

Грыц быў інакшы. Шчырымі вачыма
ён так прыязна на ўвесь свет глядзеў.
Грыц, гэта што, была твая лічына?
Якую ты душу на сподзе меў?!

Ці ж справа ў тым – жаніўся не жаніўся,
прыйшоў, пайшоў, забыў ці не забыў?!
А справа ў тым, калі ён так змяніўся?
Ці, можа, гэткі ён і зроду быў?

Пякельнасць празарэння! Не ўтаймую.
Якой хлусні паддацца так магла?
Ці ён мне тут няроўны, ці яму я.
Няроўнасць душаў – горай, чым кубла!

***

...Ішлі мы з поля. Чмель гудзеў у глозе.
Быў месяц май, уся зямля цвіла.
А тут насустрач Галя на падводзе.
А Грыц і кажа: – Бач, як падрасла.

Мінае час, і хто тут вінаваты?
А я й не згледзеў, покі ваяваў.
Такой была мышасценькай, мурлатай,
а вось глядзі – хоць замуж выдавай!

А Галя едзе, стужкай грае ў вочы.
А воз высокі, як гарба амаль.
– Вось гэта воз! – смяяўся. – Не даскочыш.
Відно, чый двор гадуе гэткіх краль.

Апавіло пылюкай нас. І ў пояс
кляночак пакланіўся, заківаў.
А Грыц ідзе, задумаўся уголас:
– За гэты час дзе я не пабываў!

Быў на Пыляве і на Жоўтых Водах,
пад Корсунем і Збаражам стаяў.
Каторы год, а я ўсё у паходах.
А ты чакаеш, бедная мая.

А я чакаю. Ды не думай, Грыцу,
не стану я на долю наракаць.
Бо я ж чакаю не каго, а мсціўцу.
Я ж рыцара чакаю, казака.

Няма ж бо славы ў закутку сядзячаму.
Мой мілы, думаць пра сябе не час.
– І чым жа мы за ўсё табе аддзячым? –
казала так Бабрэнчыха не раз.

А дні мінулі. Зноў палку заграна.
А нам было ўжо й не па дваццаць год.
Яно й жаніцца ўжо зусім не рана,
дык зноў жа, зноў гукаюць у паход.

Не гаварыў ніякіх слоў.
Пакорным смуткам абняволіў.
Абняў за плечы і павёў
пад лісце срэбнае таполяў.

Такой самотай, як на дне,
такой маркотай нас звязала!
Штось надарвалася ўва мне,
і я тады яму сказала:

– Калі загінеш, буду я ўдавою.
Ці і ў табе так, як са мной яно,
а я ўжо, Грыц, адзіны дух з табою,
хай мы ўжо й целам будзем як адно.

Я цалавала яго вочанькі,
аж покі месяц не пагас.
Хай свеціць табе гэта ночанька,
апошняя ўжо, можа, ў нас!..

Прывязала біклагу яму да сядла.
Недалёка, адно да варот, правяла.
Ні сястра ж я, ні жонка... П’ю горыч да дна.
Засмяюся пры ўсіх, а заплачу адна.

А пра мяне пайшлі ўжо й пагаворы.
Зноў пацягліся нудна вечары.
Яно ўжо ж гэтак, як пайшло на гора,
то так і пойдзе, нібыта з гары.

Хапала слоў, здаецца, гэтаксама ж,
а не спявалася ўжо, як раней.
Ужо й сяброўкі выдаліся замуж,
ужо й не клічуць дружкаю мяне.

Бо я такая стала, як чарніца.
Куды ўжо там спяваць мне на віду?
Куды ўжо там хадзіць на вечарніцы,
як я і да царквы ўжо ледзьве йду?

А людзі судзяць, ім абы прычыну.
Дарма што ліха, гэткія часы.
Ішла праз вочы, быццам праз ажыну, –
абдзерлі да крывавае расы.

А суд, а суд! З усіх пакут пакута.
Паслухаць – дык гады як не мае.
Бы да слупа ганебнага прыкута,
і хто захоча, той і абплюе.

Ківаюць радцы сонныя, як мухі.
Гарбань гудзе, як ліпкі авадзень.
Дурныя плёткі нейкай звадытухі
загуслым дзёгцем льюцца на мой дзень.

Усмешкі, словы – подлыя, агідныя!
А я стаяла, думала – ўпаду.
О людцы, о гіены ненасытныя,
як чуеце чужую вы бяду!

...Хоць бы заснуць, аднак ужо не спалася.
Душа да ранку смуткам асыпалася.

Згадала ўсё, кажнюткую драбнічку,
і хату нашу, й нашую крынічку,
і ластаўкі гняздзечка тое з гліны,
што шчасце прынясці было павінна.

Той бераг наш, чаротам абагрэты,
і наш буслiны, наш буслiны двор,
дзе на гняздзе з вярбовым мінарэтам
маўклівы бусел моліцца да зор.

А потым зранку адлятае ўгору.
Бусліха ж як прышыта да гнязда.
Аж вось – для крылля аж малы падворак:
трапеча буслянятак чарада!

Гняздо як жменька, па назе паставяць,
ды ўсё пад восень як залапаціць! –
ды ўсе буслы ўраз крылы як расправяць! –
здаецца, й хата ў неба паляціць.

Чагось яшчэ тужыла за дажджамі,
за цветам яблыневым, за хрушчамі,
за сонцам і за кветкамі-травою –
усё чамусьці стала, як жывое.

Здаецца, што й лісток бы цалавала,
ў званочку б начавала, як пчала...

Вось так сабе ўсё характво згадала.
Шчэ трохі чалавекам пабыла.

...А ўранні ў краты вейнуў вецер вольны
і правяло, як шоўкам, па руках.
Турма світаннем поўніцца павольна,
змрок прытаіўся толькі па кутках.

Там Хо сядзіць.
                    З’явіся, калі ласка!
Шматочак цемры ў закануpках дня,
маленькі Хо, майго маленства казка,
звярок, магчыма,
                    можа, чарцяня.

Цяпер ты тут мой прыяцель адзіны.
Ці ты са мною пойдзеш і туды?
Не трэба, Хо. Там холадна. Там зімна.
Ты, можа, хочаш з куфліка вады?

Падходзь, не бойся. Вып’ем па глыточку.
Сягоння што? Аўторак? Серада?
Хо шамаціць у цёмным закуточку...
Якая ў кубку тухлая вада!

        На краты ўецца зеляненькі вусік.
        Куды ён пнецца ў гэткую нару?
        Зайшоў турэмшчык, тыцнуў нейкі вузлік,
        штось прабурчаў, а што – не разбяру.

Бяру той вузлік, не пытаю скуль жа.
На гэты боль і слоў ужо няма.
Мну той наміткі выбелены кужаль...
Вось як. Паспагадала і турма.

Вось я і маю хоць якую радасць.
Раўняю ды разгладжваю пружкі.
Тых колькі яблык з мамінага саду!
Галубачка, пякла шчэ й піражкі...

        Як там яна? І як ёй будзе жыць там?
        Пустая хата і парожні двор...
        Дашчаны хлеў, саломаю накрыты...
        Маўклівы бусел моліцца да зор.
        Цвіце драсён, і зарастае сцежка.
        Таму двару не трэба ўжо варот.
        Рамон, як пажаўцелая мярэжка,

барвёнак, мак, настулька і стакрот –
усё цвіце і кланяецца лету.
Мядовы пах пад спадзістай гарой.
І ёй глядзець на буйнацвет на гэты –
адным-адной, прыгорбленай, старой.
І ўжо ніхто не вернецца ніколі.
І хата ўмрэ... і я ўжо не прыйду...
І толькі ў садзе манастырскім пчолы
гудуць сабе на схілах і гудуць...

Той манастыр нядаўна збудавалі.
Там ёсць званы на рознагаласы.
Яго Пушкар з Іванам фундавалі,
раней лясы былі там ды лясы.
Шчэ памятаю – угары над намі
коз дзікіх, коз! – хадзілі табунамі.
Раўлі вясною туры-пераможцы,
шугалі кажаны-чапіргачы.
І пугачы, як тыя запарожцы,
«пу-гу! пу-гу!» выгуквалі ўначы.

А потым – лесам цятая дарога,
пайшлі угору коні ды валы.
А мы за ўсім глядзелі ўсё з парога,
любілі цішу – звыкнуць не маглі.
Так тыя людзі ўпарта шчыравалі,
так ад сякер хіліла вербы ў жвір.
Вазілі ўгору бёрны, ладавалі
дзярніну, цэглу – ўсё на манастыр.

Дый вырас там ён на скале пустэльнай –
тры шапкі купалоў на бервянах,
дый мружыць вочы  манастырскіх келляў
на Крывахаткі нашы ў бур'янах.

Хаціны ў нас і сапраўды не хвацкія.
Прысёлак даўні, хто якую ўсіліў.
Сям'і адно са тры былі казацкія,
а тыя ўсе на манастыр рабілі.

Вось што ў нас гожае, дык то садочкі.
І мы жылі, – каб горш за ўсіх, дык не.
Дастатак? Быў. Як кажуць, дзве сарочкі –
адна ў карыце і адна на мне.

Бабрэнкі ж дык не дужа бедавалі.
Яны зямлю ў арэнду аддавалі.
У Крывахатках нашых хата тая –
адзіная мо хатка не крывая.

Але й жылі! Капейчыну душылі,
у дзве душы без продыху рабілі.

Як тых людзей двух доля спаравала?
Там вечна сварка вісла, быццам чад.
Каб з немачы якой, дык не, – звягала
Бабрэнчыха от проста так. Не ў лад
усё было ёй, і мужык, і хата.
Ўсё штось баліць, то грудзі, то жывот.
Такой была высокай і цыбатай,
як чапля з Перашчэпінскіх балот.

І ныла ўсё, хадзіла неяк бокам.
Бабрэнку ўсё кляла на ўсе лады.
А ненасытная! – што згледзіць вокам,
так дзюбай тое й выхапіць з вады.

Жылі ад нас за трэцім пералазам.
Мой бацька спачуваў гаспадару.
Яны яшчэ й дзяцюкавалі разам,
і пажаніліся ў адну пару.
На Дзмітра дзесь. А ўжо дзесь на Варвары
прыйшоў Бабрэнка, нахіліўшы грэбень:
«Знайшоў сабе ты дзеўчыну да пары,
а я ж – бы жаба ў жар... Так мне і трэба!..»

І кроў яго казацкая ўскіпала,
і тыя шаблі ў памяці гулі.
Яна ж яго бы ў зямлю закапала,
і ён прыціх, заблытаўся ў зямлі.

Дый стаў харугваў хатніх ён харунжым.
Не паднімаў вачэй на Чурая.
Пайшоў бы з войскам у паход, –
дык грунт жа.
Строс бы з сябе хамут той, – дык сям'я.
Баяўся думак, гнаў іх прэч, бы злыдняў.
Ды, нарабіўшыся, храпліва спаў.
Стаў гладкі, запузацеў, пасаліднеў
і страціў сэрца да казацкіх спраў.
А неяк ехаў цераз Ворсклю возам,
ці задрамаў, ці што – ды неўспадзеў
у Іярдань, зашэрхлую з марозу,
з канём і возам поначы ўляцеў...

Бабрэнчыха, як мужа пахавала,
ўдвая люцейшай да работы стала.

Было, не з'есці, беднай, не папіць –
кіпіць работа, але й злосць кіпіць.
Такая ўжо зрабілася Яга.
Ўсё на курэй пакрыквае: «Гай-га!»

З старога чалавека кпіць нягожа.
Ды ўласна, што ж, вядома ўжо даўно:
спяваюць песні, хто якую можа,
і так пяюць, як дадзена яно.
Хто пра каліну, хто пра жыгана,
А ў тое заўжды песенька адна:

– Чаго сядзіш, бы ў Бога на палацях?
Нявестку б маладую гэта мне.
А то ўсё маці, маці, маці, маці!
Ці я дажджу хоць помачы, ці не?
Вось ты прыйшоў з вялікага пахода,
а не прынёс ні славы, ні дабра.
А мне, старой, і ў хлеў, і да гарода,
за гаспадыню й за гаспадара.
Маўчыш, глядзіш, ды ўсё з якойсь
касінай.

Усё якаясь дума вочы мгліць.
Пра марцыпаны ў небе мроіш, сыне.
А трэба жыць, мой сыне, на зямлі.
Цячэ паветка. Хата заняхаяна.
Зламаўся воз. Падмокла сена спрэс.
Прыкласці б рукі ўжо ці не пара яно?
І грошай, грошай трэба пазарэз!

– Чаго вы, мама, ёсць жа, дзякуй Богу,
хлеб і да хлеба, поле і валы.

– Калі б ты ўзяў шчэ дзеўчыну не ўбогую,
то, можа, неяк мы б і пражылі.
А што ў Марусі? Словам перастрочыць.
Ды ў іх жа хата прахне ў бур’яне!
Мне гэткую нявестку ні на вочы,
пакуль жыву, сын, ні на вочы мне!

– А што пакрыў я дзеўчыну няславаю?
Не будзе, мама, доля нам спрыяць.
А грошы?
Вунь, у горшчыку, пад лаваю,
шэ й попелам прысыпаны, стаяць.

– Яны твае? Тваім надбаны каркам?
Туды ты ўкінуў талер хоць адзін?
Ну што ж, ідзі, бяры сваю вядзьмарку,
бо грошы ёсць у мацеры, – вядзі!

Вось ад цябе якая, сын, падзяка.
Жыву, раблю, гарую цэлы век.
Ды ўсё ж адна.
Цяглую, што каняка.
Пакуль жывы быў шчэ мой чалавек,
дык удваіх гаротнічалі з татам.
Мы працай укладаліся ў грунты,
стаўком сябе прымножылі і садам.
А чым прымножыў гаспадарку ты?

А я ж цябе не толькі выглядала,
я ж у зямлі сядзела, быццам крот.
Я ж кожную капейчыну складала,
не грошы тут, а мой крывавы пот!

Табе карціць з галотаю пабрацца?
Ну што ж, ідзі, пячы мяне, пячы.
Ды помні, напладзіўшы галадранцаў,
не пасылай да бабы па харчы.

Каб так і знаў: калі пайду са свету,
дык не пакіну нават запавету.
Царкве ўсё адпішу, на манастыр, –
на ўсю Палтаву будзеш багатыр!

І мне ўжо Грыц казаў: – Не будзь дзіцём,
любоў любоўю, а жыццё жыццём.

Было, жартую я: – Дзівосы, й годзе.
Такі бясстрашны быў ты у паходзе.
Пад Берастэчкам, Зборавам, Пыляваю
сваё імя ты не пакрыў нясславаю.
І толькі у баі ва ўласнай хаце
чамусьці ты сваю адвагу страціў.

А ён таймуе гаркату і злосць:
– Не смейся, – кажа. – Так яно і ёсць.
Не гэтак страшна кулі казаку,
як пекла тлуму ў хатнім закутку.

Калі я йшоў, Маруся, у паўстанне,
я цвёрда ведаў: ты цяпер мая,
што ўжо навек яно, маё каханне,
і першае, й апошняе. Што я
не збочу ўжо. Што я ўжо анікому,
нікому ў свеце так не паклянуся.
Што з тых баёў, – з такіх баёў! –
дадому

ужо навекі іншы я вярнуся.
Бо ўжо такое ўзяў сабе на плечы,
такой крывёй хрысціла ўжо мяне,
што хатнія ўсе звады-калатнечы
мяне ўжо не засмокчуць, як раней.

Над Ікваю я трапіў у палон.
Як нас вялі, прывязаных да сёдлаў, –
той страшны шлях пад карканне варон
урэзаўся мне ў памяць назаўсёды.
Ужо й не здужаў сціснуць кулакі,
як ляхі нас абшуквалі ў тым полі.
А што ў кішэнях? Толькі каласкі,
адзіна куль ды пораху даволі.

Я ноччу ўцёк. Застацца было згубна.
Зубамі неяк рукі развязаў.
А тых усіх, тры тысячы, пад Дубнам
Ярэма-князь дабіць пераказаў.

Ярамі йшоў, хаваўся дзесь пад кручай.
Еў ягады, грыз горкую кару.
Сцёр ногі ў ботах, прэлых і хліпучых.
Не раз рашаў – вось лягу дый памру.
Хай гэтая зямля мне ўжо даруе,
І ўсё, і ўсе, – бо вычарпаўся я.
Але ж я маю маці шчэ старую,
нявенчаная жонка дзесь мая.

Знясілены, я падаў у прымлосці,
і абдзіраўся ў кроў, і карчанеў.
Я ўжо звярам – ваўку, дзіку – зайздросціў.
Цяпла хацелася, прытулку мне.

І вось я прыблукаў да нейкай хаты.
Уежна, ўлежна й дзеўка шчэ апроч.
Яна мяне хацела прыкахаць там,
то я ў яе пабыў адзіна ноч.

А ўранні выйшаў – чорнаю тугою
мяне рванула ў стэп з таго двара.
І я пайшоў, бо жыў адной табою,
бо ты свяціла мне, нібы зара.

І вось – вярнуўся да радзімай хаткі.
І  зноў патокі мацерыных слёз.
І пачалося ўсё спачатку.
Канец ты знаеш. Я павёз.

Рабіў як вол. Без продыху й прасвету.
Што заняпадак – ці ж мая віна?
Ужо ў пячонцы ўсе нястаткі гэты
і ўся гэта прагорклая вайна!

Змагаемся... За кроў крывёю плацім...
Не думай, што няверны я Фама.
Але ж чатыры ўжо гады я страціў.
І што? Хоць бы прасвет які. Няма.

Я перастаў ад мацеры адсоўвацца.
Патрошку так пачаў і прыслухоўвацца.
– Увёў бы ў дом сабе ты пару, дзетка.
Яна ж быць мае рыбкай залатой.
А што ўжо за палёгка, што за ўцеха
у хаце будзе ад пануркі той?

Яе ж і песні – смутак ды жалоба,
і сэрца надта гордае – ці ж не?
Тваё каханне да яе – хвароба.
Адужвай, сыне, пашкадуй мяне.

Ці ж гэта дзеўка? Гэта ж гультаіца.
Усё б спявала. Божа барані!
Мы й без яе дайшлі да ручкі, Грыцу,
а з ёй зусім падкосім карані.

Дый то падумаць, – што яна спявае?
Навыдумляе слоў сабе, й давай...
Такіх дзяўчат на свеце не бывае,
хіба ж на тое дзеўцы галава?

Што ў той «На золку ўсталі казачэнькі»?
А цэлы полк спявае. Дзівата.
Для дзеўкі, сыне, гэта высачэнька.
Не веру, што сама складае так.

Бо людскія, Грыцко, нявесткі й дочкі
спявалі зроду, сыне, і цяпер:
    «Пасеяла агурочкі»
    ды «Натрапала канапель»,
    «Ішлі каровы з дубровы»,
    «А нашто мне чорны бровы», –
а пра любоў, паходы і няволю –
на гэта дзеўкам не талан, саколе.

– Я покі мог, то неяк адгрызаўся.
Яе ж язык і джаліў, і калоў.
Што я зазнаў, што я накатаваўся!
А потым здаўся, рады не было.

Душа размякла неяк, замарылася,
ужо як воск зрабілася душа.
Прывыкла да ўсяго, з усім змірылася
і ад жыцця запрагла барыша.
Бо хто, як я, знямогся на вайне,
таму жыццё падскочыла ў цане.

А маці стогне, маці лямантуе,
што Божы дзень, пілуе ды пілуе:

«Вось мы, Бабрэнкі, б’ёмся, як аб камень.
А хто, Бабрэнкі, ёсць на свеце мы?
А вось як параднімся з Вішнякамі,
і ты вагу набудзеш між людзьмі.

І мы, нарэшце, зажывём багата.
Схапнёмся й мы, як човен з меліны.
Тут – поля клін, там – нібы лялька, хата,
а там і вінакурня, і млыны!

Вось бачыш – праўда, бо якраз і чхнулася!
Ты думаеш, не ўцяміць мне, старой?
Тваё ўжо сэрца, сын, распаласнулася.
Рабі, рабі ўжо, сыне, выбар свой.

І бацька твой... ён з гэтаю...
з Лікерай...
А змеркаваў – і след загакаваў.
Пра што журыцца? Дзеўка не галера.
Бог да яе цябе не прыкаваў.

Ці мала хто ды з кім хадзіў да гаю!
Сваіх жанок кідаюць і цары,
як той Давід. Дык сватай сабе Галю.
А хто што скажа – ў голаў не бяры».

...Вось так штодня, такі атрутны верад.
Каб маці ды свайго не дапяла?
Яна са слоў усё пляла свой нерат
ды паціхеньку так мяне й вяла:

«Старая, сыне, я. Ўся абміраю.
А як жа ты? Чым будзеш, сыне, сыты?
Вайне няма ані канца ні краю.
Жыццё ж – хвілінка. Звекаваў – і квіта.

Я, можа, сын, скажу неасцярожна.
Але ці ж нам аддзячыцца ў раю?
Ці мо яшчэ адно жыццё – раскошнае –
даточыць Бог за праведнасць тваю?

Не адкладай жа, ты цяпер на часе.
І не дратуйся, заўжды так было.
Да гожых хлопцаў дзеўкі зараз ласыя, –
багата хлопцаў, сыне, палягло.

У іншы час пасватаўся б ты, дзіва!
Жаніх знайшоўся б ёй і прывазны.
Хапай свой лёс, як кажуць, за загрывак,
бо хлопец ты няўрокам паказны!

Кажу ўсё гэта я не для прынукі.
Свой розум май. Чужым не пражывеш.
Але ж падумай, шчасце йдзе у рукі.
Няўжо сваё ты шчасце адапхнеш?!»

Як бы яна сварылася, крычала,
я б там усё пусціў па крутаверць.
А то аціхла нейк, усё маўчала,
сарочку шыла ўсё сабе на смерць.

Вось так і сталася. Я выйшаў з хаты.
Сваіх дзядзькоў я за дружкоў узяў.
І сам не знаю, – каб адну кахаў так,
з другою ж рукі ручніком вязаў!..

Якіх згрызот зажыў я, мук пякельных!
Ад крыку сэрца як я не аглух!
Душа сквірчэла, нібы па патэльні,
адмахвалася ад зялёных мух.

Мне, мусібыць, давеку будзе сніцца,
як я стаю, гатовы бегчы прэч,
дружкі мае лапочуць пра куніцу,
дурніца ж тая калупае печ!..

Як скрозь зямлю я там не праваліўся?
Як аб сцяну кулак не змалаціў?!
І як я потым у шынку напіўся,
на маці крыкнуў першы раз ў жыцці!

Яна ж сядзіць, ды ўдзячна так хінецца,
ды ціха гладзіць галаву маю.
«Нічога, – кажа, – я надзейнай дзеўцы
цяпер цябе, мой сыне, аддаю».

...Ужо й кіндзюк на шлюб наш начынялі,
гусей лавілі, дзежы расчынялі.
Ужо начуем з Галяй у каморы.
Гляджу да ранку на шкляныя зоры.

Світае. Душна. Ліхтарок няхітры,
паліцы ў макацёрах ды збанах.
Тры бочкі мёду, восем мер селітры,
ды мы ўдваіх на шлёнскіх дыванах.

Ды дзякуй звычаю, што да вянчання
бароніць дзеўку. Я ж бы і не змог.
Мяне паліла гэтакім адчаем –
хоць кінься прэч, каб век – ні на парог!

Яна ж, тупая, нават не заўважыць –
пячэ, скубе, затоўквае ды смажыць.
Бы ў тыя бубны, ў дываны дубасіць
ды прамывае кішкі на каўбасы.

А заспявае – моташна ўдвайне –
нібы па місцы лыжкаю шкрабне!..

А неяк раз прыходжу, застаю –
спявае песню – і пры мне! – тваю.
Пра нашу грэблю і пра нашы вербы,
пра дні, што душу згадкаю пякуць.
А я збялеў. А я б сканаў цяпер бы,
каб толькі раз шчэ голас твой пачуць!

***

...І трэцяя ўжо ноч над яварамі.
Дзесь пераходзіць ціша Ворсклю ўброд.
«Вартуй! Вартуй!» – з Курылаўскае брамы.
«Вартуй! Вартуй!» – ад Кіеўскіх варот.

Чагось так сумна, так шчымотна-ціха.
Стаяць у ззянні месячным двары.
Палтава, як старая варажыха,
ступае з клункам цёмнае гары.

Уночы мне ўсё неяк быццам бліжай.
Гарыць бяссоннем горкім галава.

Ўсіх абыду. Пабуду каля крыжа.
Там Грыц ляжыць. Над ім расце трава.

Зайду ў наш двор. Пабуду ля парога.
Што робіць маці? Як яна, нябога?
Заснула, можа, ці, не звёўшы воч,
збалелая, глядзіць таксама ў ноч?

Пайду на грэблю сцежкаю пустою,
пагаманю да нашых яवароў.
Нап’юся шчэ салодкага настою
тых маладых вішнёвых вечароў.

Як цень Саулам гнанага Давіда,
мільгну нячутна на вадзе шкляной, –
Хвясько-дазорац ходзіць самавіта
ў Старых Млынах, на грэблі варскляной...

На вокны цемра нацягнула шоры.
Цалюткі горад у суровым сне.
Адны сабакі сцерагуць каморы,
ды шчэ турэмшчык – сцеражэ мяне.

Вунь да «ваўчка» прыпаў, бы што прышыла,
турэмны крот, што неяк не аслеп.
Каганчык свеціць, – рук не налажыла б,
бо гэта ў ката ж я адбіла б хлеб.

Заходзіць: не разгледзеў... Прыглядаецца,
ці тут ніхто на кратах не гайдаецца.
Правёў рукою па маім плячы.
Ішоў бы спаў, куды ўжо мне ўцячы?

Сапе, не верыць, тупае, адходзіць,
бы хтось яго вядзе на павадку.
І зноўку ноч.
А дзе мой Хо?
Мой Хо дзе?
Стуліўся недзе, бедненькі, ў кутку.

Ідзі сюды. Пасядзімо да ранку.
Якая ў нас жалезная фіранка!
Самая доля выткала для нас.
А ноч стаіць, нібы іканастас.

Бяжыць-бяжыць, караскаецца ўгору.
Па сценах цок-цок-цок, угору, ўніз.
...Шматочак неба і шматок падвор'я...
...І Хо на кратах хвосцікам завіс...

Дзесь гонкі вецер воблакі кудлаціць.
Як душна ў гэтай выклятай нары!
Там, пад гарою, ў пасумнелай хаце
стаіць труна... а там, на той гары...

Яшчэ ўсё лета... бабкі ў ціхім сонцы...
і маці... хлопчык пудзіць вераб'я...
А там, у той труне... Ці ўсе забойцы
так цяжка задыхаюцца, як я?

О Божачкі, яго ўжо ж пахавалі!..
Яму ўжо ўсе зязюлі адкувалі.
Я зблытала... у пятніцу...
ў той дзень...
калі я шчэ стаяла на судзе...
яго вязлі... мяне вялі...
дамоўка нейкая... валы...
а нехта мне падаў вады...
а я не знала, хто, куды...

Я, праўда, звар'яцела ўжо, магчыма.
Памёр мой Грыц з раскрытымі вачыма.
І нежывы мяне ён выглядаў.
Ад мук адхлання й там сабе не даў.
Адну ж бо тут пакінуў. Не віню.
Я йду. Я хутка ўжо. Я даганю.

Сустрэнемся там недзе-такі мы.
Не будзе рук – абнімемся крылмі.

***

...Апошні дзень.
Прыйшоў святар.
– Ойча!
Знімі з душы нясцерпны боль ліхі.
Так чалавек яму глядзіць у вочы,
а ён – ужо трасе епітрахіль.

– Пакайся, – кажа. – Сцежкаю гардыні
цябе вядуць спакусы па жыцці.
А Бог нас вучыць: чалавек павінен
далінаю пакорнасці ісці.

Пакаялася. І перапрасіла.
Бо я тут дужа грэшная была:
аднога разу матцы нахлусіла,
адной суседцы соль не аддала.

А што скажу?!
Душа змярканнем поўна.
Ці данясу, як свечачку, на Страсць?
Бог знае ўсё. А бацюшку ўсё роўна.
Хіба ён праўду Богу перадасць?

Малітвы хуткай шапаткое прадзіва.
Наспех пабарматаў, паваражыў.
І ўладаю, яму ад Бога дадзенай,
ну, дзякуй, адпусціў і разграшыў.

Скрыгоча засаўка цяжкіх дзвярэй.
Пайшоў сабе дастойны іерэй.

...Спакойна жабы кумкаюць з балота.
Лягла на мур заходу пазалота.
Расстайны промень бліснуў па сцяне.
І сонца, сонейка – жывой істотай,
адзінай, што ўсміхаецца шчэ мне!

Я заўтра, сонца, йду адсюль на страту.
Я перайшла ўжо крайнюю мяжу.
Дык дзякуй, сонца, ты прайшло праз краты.
Я аднаму табе ўсё раскажу.

Хто без прычын звядзе каго са свету?
Не помсціла, не звар'яцела я.
Тады праклятую атруту гэту
ён выпіў сам. Яна была мая.

Я трунак той з адчаю згатавала.
Мне змалку зелле ведама было.
Мне гэта шчэ ад бабы перайшло, –
яе лічыла ведзьмаю Палтава.

Быў у яе каток, як чарцяня,
і чорны лёс ды з чорнымі вачыма.
Атруту, лекі, чары, наслання –
ўсё знала баба. І мяне навучыла.

Я наварыла мяты драгалюбу.
Не памагло. Я наварыла шчэ.
Вось-вось той дзень, што ім ісці да шлюбу,
а мне пячэ ўсярэдзіне, пячэ!

«Баліць мая галованька ад самага чола:
не бачыла міленькага ні цяпер, ні ўчора», –
вось так сабе заспяваю, быццам не журуся. –
«А як выйду за вароты, ад ветру хілюся».

Любіліся ж, кахаліся, як галубоў пара!
«Не дай Божа разысціся,
як чорная хмара...»

А найпякотней, што й трываць нязмога, –
жаль, на якім сама сябе лаўлю:
нявернага, хлуслівага, чужога,
агіднага, – а я ж яго люблю!

«У нядзелю рана зелле капала...
А ў панядзелак перапаласкала...»
Смертухна, ад болю паратуй ласкава!

А ўжо Бабрэнкі з тым усім не крыліся.
Не ўспела іх душа й пачырванець.
Я зроду не спявала на два кліpасы,
было мне гэта цяжка зразумець.

Там нейкія й сябры ўжо на паслузе:
Сямён Капканчык і Рамашка Струк.
Адзін хоць быў дзесь у Вялікім Лузе,
а другі зброі і не браў да рук.

Дзесь перабыў, дзесь ціха пераседзеў
на пасецы ці, можа, ў лебядзе.
Ніхто яго ў паходах і не ўгледзеў,
адно цяпер вось вылез на судзе.

Было, ідуць, – Рамашка зарагоча,
Капканчык шапку скруціць, – а чаго,
маўляў, ім толькі галавы й марочыць,
усе дзяўчаты з цеста аднаго.

Ужо й са мной спаткацца не баяцца,
ідуць туды, праз Задыхальны Яр.
Які жаніх, такія ўжо й баяры.
Бадай бы век не бачыць тых баяр.

...Ваду ўжо брала я з другой крыніцы
і ўжо не знала, дзе сябе падзець.
Дзяўчаты пацяглі на вечарніцы,
то я й пайшла, каб дома не сядзець.
Яны сабе жартуюць з дзецюкамі,
а я сяджу самотна пры сцяне.
Праду кудзелю. Думак не згукаю.
Усе спяванкі вымерлі ўва мне.
Яны ж спяваюць жаласна пра тое,
як нехта дзесь кагосьці загубіў.

Я ўкамянела: Грыц заходзіць з ёю!..
Мяне пабачыў – вочы апусціў.
А шчокі зразу заліло румянцам.
Так невыносна не было яшчэ.
Ён з Галяй танцаваць пайшоў і ў танцы
бы штось таптаў абцасамі нашчэнт.
Яно з тым танцам сходна й не было ўжо,
звіванне мук у сінім кунтушы.
Аж хтось тады сказаў:
– А не дай Божа
так танцаваць навыварат душы!

Мянялі цені твар блядней саломы.
Скрасаў гапак агонь з-пад падашоў.
Я ціха выйшла. І пайшла дадому.
Не бачыў Грыц. Упрысядкі пайшоў.

...Мне гэта ўсё ў вачах так і мігцела.
А пасля тых праклятых вечарніц
прайшло два дні, ўжо добра так значэла,
аж, Божа мой! – заходзіць раптам Грыц.

Сам як не свой, набраклыя павекі,
прыгаслы позірк, вочы за смугой.
– Маруся! – кажа. – Я прыйшоў навекі.
Я на калені стану прад табой!

– Я сплакала найлепшыя гады.
Чаго вярнуўся да маёй ты хаты?
Мы ж разышліся... Божанька святы!
Хіба ж я прымушаю, каб кахаў ты?!

Калі сваім каханнем паступіўся
з-за грошай тых, з-за поля, што шукаў,
ці ад мяне тады ты адступіўся,
ці сам сябе навекі ашукаў?

– Сябе, Маруся. Не глядзі варожа.
Мне тыя дні павек не адбаляць.

Тут двое мацярок. Твая і Божая.
Хай нас на шлюб яны благаславяць.

Людзей наклічам, зробім перапросіны,
каб зналі ўсе, хто чэша языком.
Маруся, чуеш, зараз, шчэ да восені
мы пабярэмся, ўступім у закон.

А маці – з дому. Плача, зацінаецца
і слухаць ні пра што не хоча ўжо.
А маці кажа: – Рукі не ўздымаюцца.
Ідзі, ідзі туды, адкуль прыйшоў!

– Я здрадзіў, так.
Але ж і боль як точыць!
Скажу ўсю праўду, мы адны цяпер.
Каму з нас горай? Ты глядзіш мне ў вочы,
а я згараю з сораму, павер.

Я мучуся, і гэта ўжо давеку.
Паверыш, сам сябе не пазнаю.
Нібы ўва мне жывуць два чалавекі,
і век сябе, як коршакі, клююць.

А найцяжэй: што мучуся ж я марна,
бо здрада – справа ж цёмная, ці ж не?
Ты – гэта ты. Табе й бяда да твару.
Ты можаш нат пашкадаваць мяне.

Або сказаць: што прагнуў, тое маеш.
Мяне, ці верыш, кідае ўжо ў сне.
Табе прасцей, ты гэтага не знаеш.
Твая і мука песняй палыхне!

Табе і верыць дадзена, й любіць.
А мне што? Мне ўжо што тут за кушы?
Нялёгка, кажуць, на дзве хаты жыць.
Ды не дай Божа – жыць на дзве душы!

Адступнік я. Нікчэмны і прапашчы.
Але ты любіш і таму даруй.
Жыццё – крутая коўзанка. Не ўпаўшы,
хто змог адолець гэтую гару?

Ён гаварыў, і дзеялася дзіва.
Ён здраду неяк так пераўтварыў,
так гаварыў адкрыта і праўдзіва –
нібыта ён пра подзвіг гаварыў.

А я стаяла, слепнучы ад слёз.
Як звялы май, душа мая марнела.

Хоць бы хто-небудзь мне
жменьку зямлі
з магілы яго прынёс...
прыкласці да сэрца...
можа б, трошачкі палягчэла...

Абняў мяне, зваў любаю навекі.
Штось гаварыў пра долю, пра даўгі.
Што там, пад Дубнам, быў ён чалавекам,
а тут ён сам з сабою ворагі.
Што Галя – гуска добрая, ўжо ведама.
І ўсё. І годзе. Я ад Галі збег.
А можа, й праўду кажуць, што ты ведзьма,
прываражыла ж нечым да сябе.
Бо што б мяне іначай так паліла,
чаго ж я так пакутую і б’юся?
Куды б мяне ў жыцці ні прыхіліла,
а ўсё адно я да цябе вярнуся.
Ты ж ноч мая й святло маё ўсёдзённае!
Кажу як перад Богам, не ілгу.
Прабач за ўсё, забудзь, яно будзённае,
а я ж без тваіх песень не магу!

Калі я там і гаварыў, і кляўся,
я знаў адно: збрашу – не памылюся.
Як хочаш ведаць – так, я ім прадаўся,
але ў душы я на цябе малюся!

Тады я дзверы адчыніла ў ноч.
Не ўспеў падняць ён недаўменных воч,
як я сказала:
– Ну, ідзі сабе!
А ён сказаў: – Куды ж мне без цябе?..

– Ідзі да Галі. Будзеш між панамі.
Я ж за цябе ўжо, Грыцу, не пайду.
Бо гэтаму ўвесь век стаяць між намі.
А песню ж, Грыцу, я з чаго складу?!

...Пластаўся цень ад лавы аж да печы.
Лампадка трапятала ў бажніку.
А ён сядзеў, угнуўшы тыя плечы,
падпёршы цяжка й горасна шчаку.

«Як не хочаш, маё сэрца,
Жонкай маёй быці,
Дай мне гэтакае зелле,
Каб цябе забыці.

Буду піці цераз сілу,
кропелькі не ўпушчу.
Тады я цябе забуду,
Як вочы заплюшчу...»

Павольна шклянку ўзняў да вуснаў белых.
Павольна піў. І выпіў. І пагас.
Ой сонца, сонца, промень звечарэлы!
Дык вось яна, ўся праўданька пра нас.

А потым – суд. Штодня туды вадзілі.
Няпроста быць суддзёй чужой віне.
Яны папраўдзе, добрыя, судзілі,
найлёгкую дабралі кару мне.

Чаго было мудрыць ды час той траціць,
параграфы артыкулам круціць?
Было б адразу прысудзіць да страты.
Страшней бы пакаралі, даўшы жыць.

Ну што ж, вядзіце, вешайце злачынку!
Хоць там, хоць там даждуся супачынку.

Хоць там ужо дыхну на ўсе я грудзі,
пабачу зблізку Госпада хоць раз.
Так будзе лепей. Цяжка было, людзі,
і вам са мною тут, і мне між вас.

– Куды б хацела ты: у пекла? Ў рай?
– Туды, дзе бацька, дзе Чурай.

***

Унёс турэмшчык вузлік. Вось і маю
адзежу, каб назаўтра быць у чыстым.
Якое хараство, – хоць патрымаю...
Яны яшчэ бабуліны, маністы.

Цяпер такія і не прадаюцца.
Ажно гарацъ, як шкода гэты  дар.
Замоўленыя: інеем бяруцца,
калі кідае чалавека ў жар.
Магла б я ўсё адбыць і ў шарачочку.
Збіраюся ж ужо не да вянца.
А маці ўклала белую сарочку
і новенькія боты ад шаўца.
Найлепшую, узорыстую плахту.
Чырвоны, ў рубчык залаты, пояс...
А як жа, смерць усё-ткі гэта свята, –
яна ў жыцці бывае толькі раз.

## ГАНЕЦ ДА ГЕТМАНА

### Раздзел IV

Тым часам ганец даганяе світанне
і далей, і далей, і далей імкне,
і роспач агортвае ўсё безадхланней,
і кропля надзеі крычыць яму: «Не!»

О колькі нам, Божа, ты стэпу адмераў!
Даліны і кручы, – калі б напрасцяк!
Трубеж, Пераяслаў, Дняпро, Трахтамераў...
– Няўжо не паспею? І станецца так?!
У Кіеве – пекла. У Фаставе – чорна.
Кіпіць і клякоча усё за Дняпром.
Калі б хоць не позна. Калі б пазаўчора.
Які ён марудны, пракляты паром!
Палёў Прыдняпроўя скрываўлены смутак,
кругі груганння, папялішчы наўзбоч...
Каня замяніць у казацкіх рэдутах
і мчацца, і мчацца праз дзень і праз ноч!
Пракрадвацца там, дзе праскочыць няможна,
як звер, давяраць сваю стому лясам.
Я век меў пагарду да тых, асцярожных.
А сёння, цяпер асцярожны і сам.
Я зроду аглядку і страх ненавіджу,
а сёння, цяпер першы раз у жыцці
я мушу ўцалець тут, я мушу тут выжыць,
я мушу тут смерць на шляху абысці.
Даруй мне, зямля мая, выбачце, травы!
Не дбаў я пра славу, не дбаў пра майно, –
я мушу вярнуцца жывы да Палтавы,
а там хоць і смерць ужо, мне ўсё адно.
Нясі мяне, конь мой...
                    надзея, не чэзні...
Шляхі перакрыты... і варта не спіць...
Калі я ўпаду –
                    зацкаваная песня,
стаптаная песня ў пятлі захрыпіць!

Над Белаю Цэрквай смуга – нібы рана,
і коні загнана аж дыба ўстаюць.
Усе да Багдана і ўсе ад Багдана –
з начы вырастаюць, ўначы растаюць.
Наткнуўся мой конь на дымы і руіны.
Ці ў лагеры гетман? – калі б хоць знаццё.
Тут мо вырашаецца доля краіны! –
а я пра адзінае недзе жыццё!

...Гетман узняў натомай набраклыя вочы.
Гетман сядзеў за паходным сталом у шатры.
Трое старшын – у рубцах, у скрываўленым
клоччы –
толькі што з бою – гаварылі пра бой на Дняпры.
Пісар Вігоўскі сядзеў над лістамі ў куточку.
Шалі схіснуцца маглі ад любой драбязы.
Гетман падпісваў яшчэ адзін ліст да Патоцкага.
Гетман прымаў пасла ад Карач-Мурзы.
Лагер не спаў, гатовы зняцца з прывалу.
Іскра ўвайшоў – шацёр быў ужо без дзвярэй,
вогнікі свечак у медных трайных шандалах
цьмяна хіснуліся ў чорных крылах кірэй.
Зразу запала вострая ціша і моўча.
Вушы наставіў хітры пасольскі стан.
Гетман падняў натомай набраклыя вочы.
– Полк у дарозе, – з парога сказаў Іван.
– Іскра, Іване!
Хмяльніцкі ўзняўся настрэчу. –
Дзякуй Палтаве, сумленным яе ваярам.
Штось адбылося, ты дужа засмучаны нечым?
Іскра прамовіў: – Караюць у нас песняра.
Выслухаў гетман. Спытаў пра падставы, прычыны.
Джуры пра госця належна падбаць загадаў.
– Зменіш каня. І няхай адпачне дзе
хвіліну. –
Раптам замоўк. І вялікай тугою абвяў.

Паслы усталі з ліпавае лавы.
Няблізкі свет Ракітнае – з Палтавы.
Бліжэй бывае з іншае краіны,
чым тут – на Украіну з Украіны.
Вігоўскі выйшаў, прычыніўшы дзверы.
Сто розных спраў крычала на паперы.
Іван устаў, падаўся ўслед за джурай.
Стаялі лавы ў дыванах парожнія,
фатэль нямецкі з набіўною скурай,
жалезам куфры кутыя дарожныя.

І, абхапіўшы галаву рукамі,
сядзеў Багдан Хмяльніцкі ў тым шатры...
ды воблік Спаса, выбіты на камені...
ды то святло, то цень на тым пяры...

...Пра што ён думаў, сам-насам з сабою,
апоўначы, перад чарговым боем?
Які цяжар яго душу згібаў,
аб чым у час той раіўся ён з Богам? –
знаць мо пяру з чарніліцай хіба,
дзе срэбны леў змагаўся з аднарогам.

З плячэй сцякала чорнай плынню феразь...
Ці не Галену згадваў ён найбольш,
і боль уласны, перажыты шчэ раз,
даў зрок душы і на староннi боль.

Ці ўспамінаў Гардзея Чурая
і славу тых шляхоў, крывёй палітых,
дзе перамога, з гора нічыя,
глядзела ў вочы мёртвыя забітым.
А ён, тады шчэ пісарам вайсковым,
падпісваў тую выклятую згоду.

...Задзьмуўшы недагарачак васковы,
ён, можа, зноўку думаў пра свабоду?
Што складваецца неяк так яно,
гады ідуць, свабода ледзьве дыша,
што быццам і не пісар ён даўно,
а выклятую згоду зноў падпіша.

Ці думаў пра Марусю, песні тыя,
такія па Ўкраіне ўсёй гучныя,
што й сам, было, ў паходзе іх спяваў,
і ўсё яго бязмерны подзіў браў, –
што вось, скажы ж ты, дадзена ж ёй сіла,
каб так, на словы гэткія, спяваць!
Яна лягчэйшай кары хоць прасіла?
Гарачая й Чурай быў галава.

...Ці думаў пра той дзень, як да адцятай
той галавы ў Палтаве люд ішоў.
Ці пра дзяўчо, што закрычала: «Тата!» –
і стогн яе у песні перайшоў.

Ці што ў Палтаве, там жа, у Палтаве,
Чурай Марусю ў гэтакай няславе,
у гэтакай знявазе на віду
да зашмаргі ў натоўпе павядуць.
І не здрыгнецца песенны наш край...
І мора гневам не ўскіпіць на сушу...
І попелам развеяны Чурай
бяссмертным болем пазірае ў душу...

Тым часам конь іржаў каля шатра.
Зайшоў Іван. І, толькі з-пад пяра,
пячаткай змацаваны ўжо якраз,
Багдан падаў свой гетманскі наказ.

## СТРАТА

### Раздзел V

Світае, Божухна, світае...
Зямля ўся ў росах, бы ў парчы.
Марыя, Дзева Прасвятая,
ты гэтак плакала ўначы?

У нейкіх кветачках, бы ў сіньцы,
старыя голыя муры.
П’е ранак росы па расінцы,
бы ў нас калісьці на двары.

Прайшлася варта, завярнула
за вугал на чарговы круг.
Як хутка ночка прамільгнула!
Сягоння ўранні я памру.

Журба асыплецца, як макі.
Мясціну сплужаць плугары.
Адно на хутары сабакі
дзесь будуць выць аж да зары.

Душа ў загадкавасць адхлыне,
вачыма зоры правядуць.
Ці хоць пучочак той каліны
і мне на грудзі пакладуць?

...Што ж, аджыла. Адгасцявала
на гэтай мучальнай зямлі.
І адспявала... адспявала!..
Вось адхрыпець яшчэ ў пятлі –

і ўсё. І досыць. Засынаеш.
Правалле гэткай нематы...
Ну што, цяпер, Маруся, знаеш,
што значыць у самоце стыць?

Ніхто і слоўкам не азвецца,
хоць бы й паклікала каго.
Адно аб сцены абаб'ецца
гук-рэха голасу твайго.
Адно цагліна да цагліны
ды дзве худзенькія сцяблiны,
акенца ў кратах, павукі...
А хоць бы голас хто дакінуў!
А хоць бы развітацца з кім?

Былі ж сяброўкі нейкія ў мяне,
і песні ж хтось спяваў мае калісьці...
Чамусьці толькі дзічка пры сцяне
яшчэ зялёным трапятнула лісцем.

Мур абхапілі ручаняты.
Ўзышлі над мурам вачаняты!

Праменне сініх, карых, шэрых!
Я занямела з таго дзіва.
А дзеці дзічку так абселі,
бы дзічка імі і ўрадзіла.

Аж ззяюць вочы, аж дыханне стоена.
Трашчыць галіна, хтось аж паляцеў.
– Ты бачыш?
– Дзе?
– Дай глянуць мне!
– А во яна!
– Ты праўда ведзьма? Там няма чарцей?
– Паслухай, ведзьма, эй, мо хочаш грушу?
– А дзе ты спіш? А есці там даюць?
– Хавайся, ведзьма! Йдуць па тваю душу!
Ключы з кішэні дастаюць!

І ўсё маё з людзьмі тут адвітанне –
вось гэты рой, ласкавы рой дзяцей
па гэтым дрэве іхняга пазнання –
адзіным гэтым, дзе бяссільны змей.

...Грыміць жалеза. З глыбіні, са змроку
усё бліжэй чыесь цяжкія крокі.
Ну, вось і смерць. Яна ў людской падобе.
«Не рыдай па мне, маці, зрашчы ва гробе!
Не рыдай па мне, маці, зрашчы ва гробе...»

Каля варот цікаўныя пасталі.
Чаго там людзі толькі не вярзуць?
Пракрочыў кат, аж вухнула ў Палтаве:
– Вязуць Марусю, людачкі, вязуць! –

Вязуць Марусю за лагі, за гоні,
дзе шызым марам ходзяць кавылі.
Ужо галоў судзейскіх макагоны
на пругкім ветры медна загулі.
І п’яны Дзызь азызла губу крывіць
ды павады нацягвае: – Ацьцё! –

А ў стэпе, там...
а ў стэпе, там, як прывід,
стаяць вароты тыя ў небыццё.

Усе – ў той стэп, хто пеша, хто на возе.
Гук, атаман, дзівуецца:
– Куды?!
Вам, людзі, што, са смерцю па дарозе,
што прэцеся вы горай чарады?
Што іх вядзе – і добрага, і злога?
Дзе тая грань – хто людзі, хто натоўп?
Людзей у браме стрымвае залога.
Вось добра хоць, што полк сышоў, а то б...
Бо як было б ім з гэтым пагадзіцца,
і да каго б тут шаблі агаліць?
Ды лепш ужо самому задавіцца,
чым дзеўчыну пабачыць у пятлі!

Лясько Чаркес, той мала што не плача.
Што страце быць – відно, як двойчы два.
Пушкар сказаў: – Застанься тут, казача.
І тут патрэбна шабля й галава.

А што змяркуеш тою галавою,
як варта, суддзі, войт, – не падступі?
Ото ж схапіць бы дзеўчыну жывою –
і ў стэп, і нават смерці – не ўступіць!

А людзі йдуць...
І што ім тут цікавага?
О Божа, уратуй нас ад лукавага!
Карціць смяротнае?..
Відаць, карціць,
калі аж так баяцца прапусціць.

Уперадзе поп крыж нясе... Аж гожа...
Бы хрэсны ход...
Да шыбеніцы?! Божа!
На возе чалавек ці цень адзін?

Усіх Маркотных Радасці. Амін.
Чытае поп штось з Вечнай Кнігі. Млосна.
Па самы небакрай трава блішчыць.
І так самотна, так безадгалосна
сцяпная чайка ў стэпе дзесь крычыць...

А тут і вецер, неба ў хмарах спрэс,
зямля да ног з паўпуда наліпае.
А тут яшчэ ўсіх за грудкі хапае
вунь той папраўдзе ўражаны Чаркес.
Пытае:
– Людзі! Быў жа гэткі звычай? –
Як пагражала страта казаку,
тады дзяўчына, ўхутаўшы аблічча,
што ён не знаў, ні хто яна, ні скуль,
казала:
– Вось што, я з ім пабяруся! –
І аддавалі ж смертніка такі.
А што, як я ўратую так Марусю?!
– Дык ты ж не дзеўка, браце. Сам прыкінь.
як ты ім з’явішся, ў якой падобе?
І што ім скажаш? Не, не аддадуць.
«...Настане час, і сушчыя ва гробе
пачуюць глас Хрыста і ізыдуць...»

Поп дачытаў. І зноўку рушылі.
Прайшлі вярсты ўжо з паўтары.
Далёка ззаду дзесь за йгрушамі
ледзь відныя ўжо хутары.

І цвінтар той, дзе пад грудкамі
спакой нячэпаны смужыць,
і тыя на грудках крыжы,
нібы сваты – ўсе з ручнікамі.

Паход спыніўся. Свежай стружкай
бялеў, кудзерыўся палын.
Упарта нейкая таўстушка
наперад пхалася з малым.

Стаяў памост. Удаль атары
брылі папасам па гарбе.
Пятлю гайдала.
Несла хмары.
Хтось перамовіўся ў гурбе:

– Людзі! Хто прывёў сюды дзіця?!
– Ды яно ж маленькае, шчэ не разумее.
– Дык і гучукалі б удома,
навошта ж прывялі яго сюды?

– Прапусціце маці, хай стане бліжэй.
Хто-хто, а яна заслужыла.
– Перахрысціцеся, якую маці?!
– Ды Грыцкаву.
– А-а-а, Грыцкаву.

– Марусіна ж злягла, нябога, лістам.
Як бы ёй тут?.. І так напаўжывая.
Там недзе з ёю жонка Шыбыліста.
Яшчыха там таксама, Кашавая.

І праляцела скопішчам стракатым:
«Вядуць!»
Жанкі – бялей сваіх хусцін.
Круцель шавец пашэптваецца з катам,
каб потым даў вяроўкі той адцін.

Замоўклі ўсе,
ніхто й не варухнецца.
І толькі дзве кумы з гурмы тае:
– Ну ты паглянь, ідзе і не спаткнецца!
– Ідзе ў пятлю, а глянь ты на яе!

– У матку ўся, адно што вышай ростам.
А тыя вочы, тая ж і каса.
– Ну, вось скажыце, людцы, і навошта
такой забойцы – гэткая краса?

– Судзі, як кажуць, ды не памыліся.
А я рашуча б гэтак не сцвярджаў.
Злачынка, глянь, – а так бы й пакланіўся.
На смерць ідзе, – а так бы шапку й зняў.

– Бо ты ў мяне ўжо зроду гэткі во:
знай вочы й лыпіў бы на хараство, –
сказала жонка з посмехам даўкім. –
Здымаці шапку? Гэта ж перад кім?

Во перад гэтаю? Перад такою,
што атруціла ўласнаю рукою?
Ды каб над ёй абрынулася цвердзь!
– Пабойся Бога, яна йдзе на смерць!

...Яна ішла. Гнаў клочча хмараў вецер.
І стэп быў шызы ад начной расы.
І з кожным крокам ад жыцця да смерці
была віднейшая зусюль усім.
Прыціхлі людзі, злякана сцяліся.
Яна ішла туды, як да вяршынь.
Ужо змярцвелі і здранцвелі рысы,
і толькі вецер косы варушыў.

І толькі неяк страшна, недарэчы,
на фоне хмар тых і пятлі была
галоўка тая, точаныя плечы,
той горды вырыс чыстага чала.

І ў мёртвай цішы, ўжо такой, аж дзіўнай,
калі яна цалуе абразок, –
на той высокай шыі лебядзінай
маністаў тых крывавы паясок.

Аж нават кат не вытрымаў, зачоўгаў
хутчэй мяшок смяротны той надзець, –
ці каб яна не бачыла нічога,
ці так нясцерпна на яе глядзець!

А вунь стаяць і ўлады ў купцы збоку,
каб тут жа й смерць засведчыць дбайным
вокам.

Даруй нам, Божа, гэту сарамоту!..
І раптам коннік гурт прашыў з налёту.

Узнёсся конь узмылены прад стражай.
Паперай коннік трос, аж чорны сам:
– Пастойце!
Гетман вас упаўнаважыў
чытаць уголас гэты ўніверсал!

– Іване! Братка! Як ты ўспеў? –
крычаў Лясько і трос яго за грудзі.
Суддзя стаяў, як анямеў.

І раптам зарыдалі ўголас людзі.

Яшчэ не ўлёгся гэты плач кругом,
не ўспеў Іван і повад перадаць,
а Шыбыліст ужо ўцяў батагом –
хутчэй у горад! – мацеры сказаць.

Гарбань памацаў гетмана пячаць.
Суддзя памацаў, перадаў бурмістру.
Кат мітусіцца, людзі штось крычаць.
Глядзець жахліва на Івана Іскру.

Гук, атаман, ступіўшы на два крокі,
раўнуў з памоста – ўсе замёрлі ўраз:
– Гетман наш, уладаю высокі,
загадаў чытаць такі наказ!

«Дайшла да нас, да гетмана, вядомасць,
іж у Палтаве стаўся грэх такі,
што смерцю мае пакараны быць.
На што мы
ўсім абвяшчаем словам вось які:

у цяжкі час крывавае сваволі
смярцей і кары маем мы даволі.
Смерць нас і так з усіх бакоў асела,
і так больш пахаванняў, чым вяселляў.
Дык ці ж да ладу будзе нам – жыўцом
пусціць на прах яшчэ адно жыццё?

Чурай Марусі толькі ў тым віна,
што мсціла ў страшнай роспачы яна.
Злоўчынак той усё ж не ёсць злачынны,
бо толькі здрада ёсць таму прычына.

Караючы ж, заказана пры гэтым
зыходзіць толькі ад заган адных.
Яе спяванкі – гэта ж самацветы,
дзівосны скарб між марнасцей зямных.

Тым пачэ зараз, пры такіх напасцях.
Тым пачэ зараз, калі льецца кроў, –
што памагае духам нам не ўпасці,
калі не песні нашых песняроў?

Пра нашы бітвы – на паперы гола.
Адзіна ў песнях вір той будзе жыць.
Цяпер пяснярку пакараць на горла –
што ўзяць ды песню нашу задушыць!»

Гук-атаман замоўк на момант (вейка
тузнулася) і далей прачытаў, –
такі ўжо голас моцны ў чалавека,
бадай, хапіла б і на пяць Палтаў:

– «За тыя песні, што яна складала,
за тыя мукі, што яна зазнала,
за бацьку, што распяты у Варшаве,
а не схіліў прад ворагам чала, –
дык не хапала б гораду Палтаве,
каб шчэ й яна загублена была!

Дык адпусціць дзяўчыну неадкладна
і скасаваць прылюдна вырак той.
А суддзям на далейшае уладна
такі загад ад сёння будзе мой:
не важыцца на страты самачынна,
перш мне даводзіць, як і што яно,
пра страту кожную, па той прычыне,
што смерць усюды, а жыццё адно».

Універсал прылюдна зачыталі,
каб справы той павек больш не
ўзнімалі.

Паколькі ледзьве не дайшло да страты
і смерць сваю яна перажыла,
пытанне перасуду гэтым знята,
бо ўжо яна караная была.

...Гайдаўся шнур, ужо ён непатрэбны.
Таўкліся людзі, радасць-навіна.
Смяяўся цесля, галавою срэбны,
што не прыдасца тут яго труна.

Падбег Іван –
і з маху свайго росту
збіў тыя лескі ў небыццё з памосту.

А да Марусі беглі ўжо кабеты.
Паміж людзей падскоквала дзіця.
Яна ж стаяла, ўжо чужая свету,
ужо па той бок сонца і жыцця.

– Шчэ не чувана гэткага нідзе.
Яе пусцілі, а яна не йдзе!

– А можа, звар’явалася? Іване!
Ідзі хоць ты звядзі яе сюды!

...Яна стаяла. І над галавамі
асеннія плылі ўжо халады.

І не было ні радасці, ні цуду.
Адзін адчай: памерці не далі.
Ёй штось казалі, а яна не чула.
І толькі калі маці падвялі,
яна адразу як апамяталася,
і ад пятлі хіснулася тае,
і як з далёкай далечы вярталася,
і рукі ўперад выцягла свае.

Збялелая, бялей ад крэйды белай,
ды ўжо нібы і ўсмешкаю затлела:
– Ну, вось і абышлося, – лепятала.
І валасы матулі цалавала.

## ПРОШЧА

### Раздзел VI

...Цяжка чмякала гразь у старых пасталах,
нахіляліся вербы ў асеннім няўтуллі.
Ой, павезлі матулю маю на валах,
на валах ды на белых павезлі матулю.

Спачывай, мая мама, там утульней табе.
Там ніхто не задасць незагойнае мукі.
Я ішла за табою – адна – у гурбе.
Вось і ўсе твае, мама, і дзеці, і ўнукі.

Анікога, нікога няма на зямлі,
ні адзінай галіначкі нашага роду!
Толькі пудзіла, мама, ў дзіравым брылі
Адзіноту вартуе ў пустазёле гароду.

Я й сама ўжо не знаю, я жывая ці не.
Толькі знаю адно – што, не ўзняўшы павекі,
праплыла мая маці ў тым цесным чаўне
і ўтанула ў зямлі, утанула навекі.

Дабрыла я дадому з цвінтара напрасткі.
Дый нашу яе смерць у душы, як правіну.
Усё мроіцца: чорнай зямлі камякі
глуха гупаюць, мама, аб тваю дамавіну...

...Нядоўга штось тады й пратлела ўжо яна,
штось тыдні паўтара і пабыла.
Кляночкамі чырвонымі й ружовымі
яе на той свет восень правяла.

І адрыдалі ў небе жураўлі
па чалавеку, мне тут найдарожшаму.
Вось той гарбочак свежае зямлі
пацалавала. Дый пайшла на прошчу[1].

...Мінаю рэчку Палузор'е. Мерна
калыша высь – і птаха ў ёй – бруя.
Такі прасцяг, такая невымернасць!
Мой боль ва мне. А ў гэтым стэпе я.

Лагодны ветрык травы даплятае.
Пасе карову цётка на мяжы.
Ніхто мяне нічога не пытае.
Пра што пытаць чужую між чужых?

Іду. Брыду. Захочацца – спачыну.
Самлеюць ногі – астуджу ў расе.
Ніхто не думае глядзець у спіну.
Іду, дый годзе. Чалавек. Бы ўсе.

Пакуль не слотна, заначую ў лузе.
А там прытулак нехта дасць на час.
У хатах шчэбет дзетак галапузых.
Чамусь як гляну – так і замаўчаць.

Дрыготкі голас мой як надламаўся.
Дарога, стэп – усё, бы ў тумане.

[1] Падарожжа да святых мясцін на багамолле.

А вунь яшчэ ідуць прачане[2]. Мабыць,
няма нікому ў свеце горш, як мне.

…«Прычынна»[3] , – хтось сказаў учора
з жалем.
Такая ўжо я чорная, худая,
такая ўжо няпэўная хада мая.
Гляджу, а свету як не заўважаю.

Бывае, часам слепну ад красы.
Спынюся і не цямлю, што за дзіва –
вось гэты стэп, і неба, і лясы,
усё так гожа, высака, цнатліва,
усё як ёсць – дарога, явары,
усё маё, ўсяму імя – Ўкраіна.
Такой харашынёй дыхне хвіліна,
што хоць спыніся й з Богам гавары.

...А стэп ужо трызну па леце спраўляе.
Вось-вось запаветрацца неба глыбіні.
І, быццам рука кармеліта, трымае
сухая галіна аранж арабіны.

Як глянеш у працяг – дарога ў маністах.
А фэст гэтых фарбаў – барвяных, гарачых,
а шчодрасць садоў у лістоце агністай! –
а людзі брыдуць і брыдуць, бы не бачаць.

Шуляк цікуе з вышыні на мышы.
Гараць на сонцы гронкі арабін.
Шарэе стэп. Сарока брые цішу.
Вандроўнікі вымаюць хлеб з тарбін.
Сцяпная чайка б'ецца аб дарогу.
Вандроўны дзяк палуднуе на пні.
– Чаго кульгаеш?

[2] Падарожнікі, вандроўнікі на прошчу.
[3] Не зусім пры розуме, «ціхая» вар'ятка.

– Пазбівала ногі.
– Ну то прысядзь на хвілю, адпачні.

– Няма калі мне.
– Вось і я ўсё ў спеху.
Яно ж – хоць як бяжы, ўсё ў даўжыню.
Дык я й не сілюся.
Памерці ўспею.
А часу ўсё адно не даганю.

– Ці Кіеў шчэ далёка?
– Дакульгаем.
Варшава далей, – усміхнуўся дзяк.
Сядзіць і мне кіёк стругае.
Такі стары, нябрыты, як бадзяк.

– Дык ты на прошчу, кажаш? Гэта шчэ
дарога добра ногі напячэ.
Шчэ будуць сёлы, будуць гарады.
Ды ты шчэ маладая. Не бяды.

Але чагосьці ты нібы вуголіна.
Як быццам з крыжа знятая ты ўжо.
Тут, – кажа, – кій стругаць даволі нам.
А тут шчэ, – кажа, – пройдземся нажом.

А я гляджу: мы з ім зусім чужыя.
Разыдземся, ці стрэнемся калі?
– Хацела жыць, ды не ўдалася жытка.
Хацела ўмерці – людзі не далі.

А ён сумліва мне: – Мае ж вы дзеткі!
Пакуты Бог дае, каб узвышаць.
Вось я й гляджу, ў цябо ж бо тварык гэткі,
што ў ім наскрозь прасвечвае душа.

А як падумаць, дзеўчынка мая ты,
дык хто на свеце гэтым не распяты?
Яно як маеш сэрца тут не з лёду,
распятасць наканована ад роду.

Ды ёсць, дальбог, адхланіна ў журбе:
камусь на свеце горай, чым табе.

– Дык ты з Палтавы?
– Ды, – кажу, – з  Палтавы.
– А дзе жывеш там, а завешся як?
Кажу: – Маруся, як ужо спыталі. –
І зноў маўчу. Такі настырны дзяк.

– Ну як там вашым вуліцам Ганчарным,
Кавальскім, Чабатарскім? Ты чыя?
Якія песні сумныя гучаць там,
пра Астраніцу ўсё ды Чурая?

А сам глядзіць так ціха ды ласкава.
Што добры чалавек, так і відаць.
– А вы, – кажу, – даўно былі ў Палтаве?
– Ды летась давялося зімаваць.

Люблю Палтаву. Людзі там не сонныя.
І горад слаўны. Дзе ты там жывеш?
Купцоў палтаўскіх бачыў я ў Саксоніі,
і Шлёнск, і Франкія ім не рубеж.

Там шаблі не ржавеюць у каморах
і збрую ў стайні мышы не грызуць.
А што ўжо порах – добры робяць порах,
у бочкі сыплюць, гетману вязуць.

Якія ў вас там піція ды стравы!
А як дзяўчына тая во пяе!..
– Ды я, – кажу, – не з самае Палтавы.
Я там, – кажу, – з сялібкі аднае.

Хоць не пазнаў бы!..
Ён сабе стругае.
– Людзей ліхота скрозь падсцерагае.

Вось на, бяры, апірачка што трэба.
Я і сабе вунь выстругаў, бо так.

Дзвюх ног замала, трэцяю не грэбуй.
Хоць адганяцца ноччу ад сабак.

Бо тут чым далей, тым з начлегам горай.
Чаго ўжо людзі тут ні зажылі.
Чумою ўродзіць, як шчэ з год каторы
вось так вайна паходзіць па зямлі.

Бо ўжо тут скарбу нажылі-такі, –
мор між людзей, на дрэвах – чарвякі.

Прайшоў я паднябесныя ўсе долы,
як некалі казаў святы Іоў.
Куды ні глянь удалячынь наўкола –
тут спакон веку скрозь лілася кроў.

Там адступала войска Астраніцы.
Тут сёлы капытамі збіў Канчак.
А у даліне рэчкі Саляніцы
слязьмі пакуты высах саланчак.

Вунь бачыш – крыж і тую павіляйку
вунь, рэчку, высахлую ўжо на чвэрць, –
якраз вось тут скруцілі Налівайку
на лютую, пакутніцкую смерць.

Быў малады і гожага заводу.
Жыў так, як і пасуе казаку.
За тое, што змагаўся за свабоду,
яго спалілі ў медзяным быку!

А вунь абрысы й горада відны.
Сталіца Вішнявецкага – Лубны!

Там жыў Ярэма, сын Раіны,
ліхі руйнатар Украіны.

Вампір з халоднымі вачыма,
пыхлівы словам і чалом,

душой падступны і злачынны,
закуты ў панцыр і ў шалом.
Адшчэпак рыцарскага роду,
кат люты ўласнага народа,
крывавы гад з-пад цёмнае зары, –
вунь там ён жыў, на Замкавай гары.

З тае гары, узнесенай высока,
у коле рэчак ды равоў-канаў,
лубенскі родзіч кракаўскага Цмока
ў зямлю Ўкраіны кіпцюры ўвагнаў.

Знай баляваў, сядаў на шыю хлопу,
пускаў дзяўчат па свеце без касы.
Страляў казуль, вёз проса у Еўропу
і на паташ выпальваў скрозь лясы.

Заха́паў край, бы спадчыну бязродную,
і браў за ўсё – жывое й нежывое.
За дым, за торг, стаўшчызну, агароднае,
пага́цевае, з воза, рагавое.

Абклаў падаткам вулейкі, браварні,
з далін ды стэпаў ссаў, як ваўкалак.
Манастыры перарабіў на псарні,
змушаў манахаў гадаваць сабак.

Трымаў усё азброенай рукою.
Каменнейшы быў ад сваіх цвярдынь.
Гарэлі сёлы, кроў цякла ракою,
калі ўцякаў, шалёны, на Валынь...

А ўжо ў Лубнах няма ні бернардзіна.
Вада спятрэла ў замкавых равах.
Самой журбой, адвечнай, двуадзінай,
душа Раіны плача па царквах.

А там, дзе жыў ён, дзе ўжо ціша ўкола,
дзе ўжо ўзбуялі глуха гушчары, –

яшчэ каменнай зяпаю дракона
шчарбаты мур чарнее на гары.

Дзе быў палац – ляжаць адны руіны:
абломкі сцен, абвугленасць цаглін...
Усё сумуе смуткамі сваімі...
Душа Раіны плача між руін.

І толькі навісь хмараў пурпуровых...
І пры дарозе – мальвы ды цярны...
І, як крыві павечны прысмак, словы –
сталіца Вішнявецкага. Лубны.

Ўжо ледзьве йду. Баюся, што прыстану.
Лубны мінулі, ёсць шчэ трохі дня.
І, як крысо здзіраўленай сутаны,
накрыла горад зграя варання.

І зноўку стэп. І зноўку даль-разлога.
І я маўчу. І дзяк ужо маўчыць.
Ідзеш, ідзеш... Дарога ды дарога.
Ідзеш, ідзеш... Хоць трохі б адпачыць.

Зайшлі ў сяло. І жудасна, і дзіўна.
Не гаўкне пёс, ні корбы не скрыпяць.
Як сцірты, хаты – ні агню ў хацінах.
Няўжо так рана людзі леглі спаць?

Панурай золлю вее ад падворкаў.
На ўсё сяло сустрэлі дзвюх жанчын.
Бязлітаснай насечкаю маршчын –
насечка думак на абліччах горкіх...

А дзяк нічога, падцягнуў раменьчыка,
шчэ й да мяне бадзёранька гамоніць,
маўляў, раз гэтае сяло Сымонаўка,
ну, то хадзема, – кажа, – да Сымона.
А хоць і ў гэту хатку во пры шляху.
– Нам, – кажа, – што. Усё ж такі пад дахам.

А там той дах – там дзірак, бы ў дзярузе,
падпёрта хата сцвілымі дзвярмі,
абтулена патрухлым кукуруззем
яшчэ мо з пазалеташняй зімы.

А ў хаце пустка, аж зямля на сподзе.
Сляды крата, маснічыны стырчма.
– Сядайма, – кажа, – у чужой гасподзе.
Гаспода ёсць... Гаспадара няма.

Тут ад Лубён да самае Валыні
скрозь сёлы ўдоў, скрозь гэты сум
палынны.
Падстрэшшы выглядаюць з крапівы.
А тут няма, як бачыш, і ўдавы.

Па трупах уцякаў Ярэма згэтуль.
За бунт рахункі зводзіў з кожным стрэтым.
Адсекваў рукі, вешаў, распінаў,
садзіў на палі, голавы сцінаў.
Страшэнны след кідаў хіжак злюцелы –
крывавы жываглот казацкіх целаў.

Усіх касіў, віноўных і бязвінных.
І засталіся сёлы ўдоў адзіна.
Ды назвы сёл, па большасці з імён, –
бо ўсё ж такі Панфіл, Рыгор, Сымон.
...На ранку выйшлі. Цішыня наўкола.
Мярэжка павуціння на мяжы.
А на парог нажыўлена падкова.
А на падворку рала ўсё ў іржы.

Іду. Маўчу. Не надта каб спачылася.
Па хаце ўночы ўсё хадзіў Сымон.
Ці сэрца зноўку плакаць навучылася
тут, на шляху да Кіева з Лубён?!

Маўчу. Іду. Адмерваю дарогу.
Глыбей у восень з кожнае вярсты.

Якому, княжа, тут, якому Богу
наставіў гэтых страшных свечак ты?!

Мінае сёлы, рэчкі – далей, далей! –
а ўсё перад вачыма тыя палі.
Над плынню часу, порослю ялін,
жоўта-гарачым цудам арабін,
дагэтуль чуцен стук касцей сатлелых,
    і рукавы на ветры лапацяць,
    і тыя світкі на казацкім целе
    за вараннём ніяк не адляцяць...

А варання! Яго ўжо тут – аж цёмна.
І крача, крача, крача – да жуды.
А крук – самотнік. Ён сабе асобна.
Сеў і чакае новай злыбяды.

І кажа дзяк: – Вось запытаць бы ў крука,
ён крук стары, набачыўся ўсяго, –
ці думаў Байда пра такога ўнука,
што здрадзіць славе прадзеда свайго?!

Ці не таму такі Ярэма й люты,
гатовы трупамі зямлю змасціць,
што кожная асіначка яму тут
пра Юду, Юду лісцем шалясціць?!

А ўжо й палі імглою агарнуліся.
На голас словы самі навярнуліся:
  «У Палтаве, на рыначку
  Дый п’е Байда мёд-гарэлачку.
  Ой, п’е Байда, Байда маладзецкі.
  А насустрач Байдзе едзе Вішнявецкі.
  – Скуль ты, – кажа, – гэткі тут узяўся,
  Што дасюль на вочы мне ты не трапляўся?
  Хто ты, – кажа, – і якога роду,
  Што цябе не бачыў я ў Палтаве зроду?

– А я Байда, Байда Вішнявецкі,
Што мяне павесіў колісь цар турэцкі.

Што ў Царградзе дый мяне схапілі,
Дый за рабро гакам, гакам зачапілі.
У раі сядзеў я, дужа залядачыў,
Бо ўжо Украіны год са сто не бачыў.
І тады кажу я ды Пятру святому:
Пусці мяне, Пётра, на зямлю, дадому.
Там жа род мой крэўны, там жа мае дзеці.
Як ім там, што робяць, як жывуць на свеце?
А Пятро паслухаў,
Дый спусціў драбіну,
Дый спусціў драбіну
Проста на рабіну.
Як гукне ж сваіх ды гайдукоў Ярэма:
– А ўзяць тога Байду, а скруціць як трэба!
Гэй, вазьміце Байду, гэй, звяжыце,
Дый за рабро гакам, гакам зачапіце!
...Ой, вісіць Байда на рыначку,
Дый не дзень, не ночку,
дый не гадзіначку.
Кажа Байда, Байда Вішнявецкі:
– Лепш бы мяне вешаў шчэ раз цар турэцкі!
Бо вісець на палі гэта шчэ не мука,
Як цяпер глядзець на гэтакага ўнука!..»

– Э, дзеўчынка, я слухаю, ды зрэшты,
пра Байду ўжо не пра таго пяеш ты.

А галасочак! Ды чаго ж ты крылася?
То ўсё маўчыш, то я аж занямеў.

Спяваў і я на хорах і на клірасе
і знаю свецкі і духоўны спеў.

Дысканты чуў я, тэнары, басы.
А ты пяеш – усю душу праймае.
Мо ёсць і лепшыя дзе галасы,
ды *гэткага* другога свет не мае!

Паслухай,– кажа, – дзеўчына з Палтавы,
хто навучыў цябе такім актавам?

– Дзявочая мая навука тая:
як засяваецца, так і спяваю.

– А я пазнаў рыторыкі, інфімы.
І так скажу: душа жыве не імі.

Пііты пішуць соладка, пад метры.
Пра тры персоны боскія. А ты
гатоў счумець ад тых ялейных нетраў,
ад слоў навыдумляных, мёртвых тых.

Вазьмі любога з нашых вершапісцаў,
бадай іх муха дзёбнула ў калысцы, –
убогі словам, думкаю нячысты,
у трыццаць год пляшывы і стары,
складае сабе вершыкі ўрачыстыя,
а ў сёлах рыдма плачуць кабзары.

Або такія вось, як ты, дзяўчаты
зажурана выспеўваюць жыццё.
Яшчэ Ўкраіна ў слове не зачата.
Пашлі ёй, Божа, гэтае дзіцё!

Бо ўсё, што пішуць, гэта шчэ палова,
шчэ не засевак для такіх палёў.
З часоў з'яўлення кнігі «Часаслова»
ўжо й час мінуў, а штось не чутна слоў.

Усё камусь штось пішуць на дагоду,
ды чачавіцы хочуць, як Ісаў.
А хто напіша ці ўжо напісаў
пра шлях, пра долю нашага народа?!

Ці мо над кнігай той вялікай
у келлі свечка дзесь дрыжыць?
Ці мо ў царкоўным дзесь прытворы
у куфры пад замком ляжыць?

...І зноўку шлях. Таполі ды магілы.
Арцёмаўка. Рыгораўка. Панфілы.
Астапаўка. Карпілаўка. Цішкі.
Так во і йдзем праз гора напрасткі.

Хтось у сяле пратарахцеў арбою.
Дый зноў журбою цішыня звініць.
А дзяк гаворыць, быццам сам з сабою.
Ідзе, старэнькі, нешта ўсё бубніць.

– Калі я ў бурсе пазнаваў навукі,
Афіны й Рым прайшлі праз мае рукі.

Вось быў народ, скажу табе, калісьці!
Праславілі сябе на ўсе вякі.

А мы... А мы!.. Няхай бы ўжо ў калыску
Гамэра й нам прынёс бацян які.

Усе вякі мы чуем бразгат зброі,
былі багі ў нас і былі героі,
які нас вораг толькі не згрызаў!
Але гавораць: «Як руіны Трої».

Пра Кіеў так ніхто шчэ не сказаў.
Калісь, даўным-даўно, за цьмой былога
была адна жахлівая дарога.
І зваўся Апіеў той шлях.

Ўжо колькі тых вякоў мінае,
а ў свеце, пэўна, кожны знае,
калі й каго там распіналі.
Пра гэта цэлыя аналы
напісаны, і так, і ў рыфму,
звучылі ўздоўж і ўпапярок.
Але ж дарога тая з Рыму,
як кажуць, вёрстаў сотні тры мо.

А тут аж да Валыні ўкола
ляжаць удовіныя сёлы!

Хто знае, што тут адбылося?
Хто людзям толкам расказаў пра ўсё?
І спакваля імглой апавілося.
І спакваля пайшло ўсё ў небыццё.

І недзе, некалі, праз шмат гадоў,
пра гэта ўжо не ведацьме ніхто,
не зніме шапку, не пралье слязы,
бо што? – дарога, ездзілі вазы,
гулі вятры, луналі шулякі...
А каб ды ў літаркі ўсё, ды ў радкі!
Каб на паперы ўсё сказаць як след!

Гісторыі ж бо пішуць на стале.
Мы ж пішам плугам, шабляю, мячом,
спяванкамі, нявольніцкім плачом.
Магіламі у полі без імён,
дарогаю да Кіева з Лубён!

Ідзеш, ідзеш, а шчэ й не палавіна.
Ідзеш, ідзеш, хоць добра – не адзін.
Крывавым градам плача арабіна.
Плыве туман, як белы лебядзін.

Праз навісь хмараў ледзьве гляне сонца.
Стаяць лясы ў падпалінах рудых.
Глыбее восень. Вось ужо і сойка
хавае ў ліст апалы жалуды.

Ідзеш, ідзеш... Прасветліна хоць дзе б, –
глухія хаты, выпалены хлеб.

І кажа дзяк: – Дзе будзем начаваць?
Пра хлеб і соль даўно штось не чуваць.

Вось я вандрую, хоць ужо й не молад.
Зямлі бязмеж, а радасці няма.
Паўсюль бяда.
Не толькі ўсчаўся голад,
а й немачы ўжо смертаноснай цьма.

Мруць людзі й мруць, падцятыя хваробамі.
Гасподзь магіламі зямлю ўкараў.
Палі засеяў воямі харобрымі,
а ў нехаробрых розум адабраў.

А тут яшчэ во гэтая камета,
бы ў небе волат скрыжаваў мячы.
А пад Смаленскам голы воўк шчэ гэты,
што есць людзей і вые штоначы...

Ну, выбачай, а то нагнаў, бач, жаху.
Я нешта сёння дужа гаваркі.
Хоць бы карчма якая каля шляху
альбо начлежны дом які.

Табе б, галубка, хоць вады напіцца.
Падыдзеш першай, можа, не злякаюцца.
Шчэ будзе й горш. Чым бліжай да сталіцы,
дык тым надзейней людзі замыкаюцца.

– Пусціце дзеўку хоць,
што вам зашкодзіць?
Няўжо шкада саломы той пад бок? –
Хтось прабурчаў:
– Багата вас тут ходзіць.
Такі ўжо зараз свет. Даруй нам Бог.

– Прыстойна паганараваны мы.
Так во і прастаім тут пад дзвярмі?

Ты толькі гэта... галавы не вешай.
Адчай не лепшы сябар у жыцці.
А як Ісус, сын, – кажа, – чалавечы,
не мог прытулку між людзей знайсці?

Дый то сказаць: паморнае паветра.
Хто знае, скуль мы. Ды і хто мы ім?
– Няма ў нас месца, людачкі, паверце.
І самі ў хаце покатам во спім.

Там дзеці, там самога колька коле,
там парадзіху трэба сцерагчы.
Баяцца людзі. Мор ідзе з Падолля.
Дарэмна ў вокны й стукаць уначы.

Счарсцвелі людзі ад усякіх ліх.
Ярмо няволі душы раздваіла.
«Расшыру страх мой на зямлі жывых», –
як сказана ў прарока Данііла.

Дык покуль сонцу крок да патуханія,
хадзем мо пашукаем укрыццё,
дзе ані смутку ўжо, ані ўздыханія,
а ёсць адно бясконцае жыццё.

Такія ўтульныя клады бываюць –
шацёр нябёс ды пліты ў бур'яне.
Жывых адно жывыя забіваюць,
а мёртвыя век не зачэпяць, не.
Тут толькі поўна ўсякай патарочы,
а могілкі, Маруся, ўжо не зло.
Спакойна там. Хіба што проці ночы
чыясь душа чыркне цябе крылом.

Во глянь, – ну чым не райскія нам кушчы?
Ў траве ляжыць вароніна пяро.
Ёсць нават райкі, яблыкі гаркушчыя,
на дрэве зла прышчэплена дабро.

Дзесь, пэўна, й змей схаваўся тут здаровы.
Сама не еш, не спакушай мяне.
Бо як анёл угледзіць мармуровы –
з надгробка зыдзе, з раю ўміг турне.

Магілы ўсё, бач, з алебастры, панскія.
Анёлы варту думную нясуць.
Стары цвінтар. Відно, што душаў пастыры
тут часам і біблейскіх коз пасуць.

Якія склепы, глянь! Што камяніцы.
Гербы, скляпенні, сходы і грабніцы.
З жалеза дзверы, злодзей не ўцярэбіцца.
І ўсюды плюшч павіўся на прыгрэбіцах.

А прозвішчы якія ўсе тут панскія! –
Быдлоўскі, Казабродскі, Себасцьянскі.
А з годнасцю якой гучаць вялікай! –
Рох Ябланоўскі і Тадэвуш Пыка.

Ты бач, якія йменні ганарыстыя.
Не спіцца штось у гэткім таварыстве.

А тут каго заткала павуцінаю?
Каму час гэтак амфару надгрыз?
Антон Ключэнка, пісана лацінаю.
Няйначай з тых, юхтовых, блюдаліз.

Шкада, змяркае. Тут, відаць, нямала
знайшлося б гарэльефаў дасканалых.

А гэты помнік... –
Дзяк аж адхіснуўся. –
Ды ён жывы, дальбог, паварухнуўся!

«Абняў мя страх», – як сказана ў псалме.
Мы не адны, а нам і не наўме.

То, можа, ногі атрахнём ад праха?
Не дай Бог, прывід шчэ пачне лякаць.

Штось дужа бедна ўбраны, як на графа,
і зашляхетна, як на жабрака.

Глядзі, сядзіць і нас не заўважае,
нібыта помнік той сівога жалю.

Відаць, паляк. Стары-стары які.
Тут, пэўна, ўсе яго ўжо раднякі,
у доле гэтым...

Жалю благачынны!
Вось гэта ўжо і ёсць яго айчына.

Давай адыдзем, што ўжо тут паможаш?
Адны крычаць: «Ад можа і да можа!»[4]

А гэтага старога вунь вазьмі?
Жыве, як мы, і мучыцца, як мы.

Нашчадкі будуць некалі старацца
адмыць жаль гэты ад крыві й брыдот.
Бо ўся віна ляжыць на можнаўладцах.
А што народу прычыніў народ?

...Во ўжо і зоры сыплюцца з Каўша.
Складаны свет, цьма ўсякіх супярэчнасцей.
А як падумаеш, – што ёсць душа?
Як той казаў, яна – абсяг да Вечнасці.

На ранку горкіх раек пажавалі,
дый зноў да ночы далей вандравалі.

А ўжо й бары тым часам пачаліся.
Тут цёмна ўдзень і жудасна ўначы.
Кагосьці тут зарэзалі калісьці,
дык ён у поўню і дасюль крычыць.
Я ўжо й не чую страшных казак тых.
Я ледзь брыду, падкошваюцца ногі.
Начное птушкі жудкі стогн-уздых
і чорны сум лубнянскае дарогі.

І раптам... Што там гэта? Светлячкі?
Патрухлых пнёў густыя мільгацінкі?
Трымцяць, трымцяць...
Вакол жа – ні хацінкі.
Ажно – ды гэта ж свечак аганькі!..

[4] Ад мора і да мора – намёк на граніцы шляхецкай Рэчы Паспалітай, афарызм шляхецкіх вялікадзяржаўнікаў (*польск.*).

Ляжаць пад лесам людзі на траве,
са свечкамі ў руках, неварушкія,
вачыма ў неба, цемрай апавітае,
прыкрытыя хто каптаном, хто світаю, –
ці ўмерлыя ўжо, ці яшчэ жывыя?

Завостраныя твары... Ціша спрэс...
І на грудзях сухія рукі складзены...
Палаюць свечкі...
                    Сосны пахнуць ладанам...
Шуміць над шляхам векавечны лес.

Шурхочуць птушкі нейкія ў галлі...
Дзесь воўк ў нетрах чарналесся вые...
Што ж, тую ноч мы з мёртвымі збылі,
цяпер пераначуем з паўжывымі.

Хоць не падыдзе звер, агнёў збаіцца.
Дый перабудзем неяк да дзянніцы.

Вунь хтось жывы яшчэ, рук бадыліны
шчэ ўздрыгнулі, бач, воскам прыпякло.
– Адкуль вы, людзі?
                        – З голаду. З Валыні,
– З сяла якога?
                        – Вымерла сяло.

Ні наракання, ні чакання цуду.
Аблiччаў цем, кашуляў белата...
– Куды вы, людзі?
                    – Ужо цяпер нікуды.
Спакой... і свечкі... свечкі... немата...

        І кажа дзяк: – У іх там на Валыні
        плачы такія ўжо горкапалынныя,
        то край такой дзівоснае красы.
        А галасы якія, галасы!
        У іх жа і кашулі там, як доля.
        Сасонку там, крывульку або чоўнік –

па лебядзінай белі рукавоў
як пусціць – ды ўсё чорным,
чорным,
чорным!
аж да запясця ў некалькі радоў!

Ноч прамінае... Свечкі дагараюць...
Дзяк кажа: – Тут хоць лёгка паміраюць.
А то ж ішлі, як жыта налівалася.
Папасам вось як пойдуць у жытах,
то, верыш, потым енчылі, звіваліся,
паўскрай дарог паўзлі на жыватах.

Вось так вось. Я сумоты не нагнаў?
Паслаў жа Бог табе гаваруна.
Усё гарну ў душу, як у шкатулку.
Ужо душа гарчэй ад палыну.
І хоць не маю на зямлі прытулку,
ды знаю ўшыр яе і ўглыбіню.

– Дык вы б усё ўзялі дый напісалі,
дый быў бы след па вашаму жыццю.

– Я напісаў, дык торбу маю ўкралі,
і ўсе мае папірусы цю-цю.

Ці думалі, што там віно ды брашна?
Ці золата, надзёртае ў вайну?
А ўсё распачынаць нанова страшна.
Стары ўжо, зараз гэтак не утну.

І чуб мой, во, як пух той тапалёвы.
І вочы да пісьма ўжо ўсё слабей.
Калісьці думкі хутка йшлі на словы,
а зараз думкі самі ўжо ў сабе.

Ды ўжо, відаць, вось так я і памру,
а замыслаў аявіць не сумею.
Бо хоць і ў рот гарэлкі не бяру,
але ж і кнігу напісаць не ўспею.

Мае сабранні вунь і з пустазёлу
слоў пышных набылі сабе пастаў.
Найпершы дурань і апошні ёлуп
ужо ў навуках, пэўна, докам стаў.

Я ж – як гусак абскубены ў алёсе.
Гагоча штось пра праўду і дабро,
а ў лапе утрымаць яму ўдалося
адно сваё гусінае пяро.

Не трэба мне ні славы, ані грошай,
ані каб моцны свету пахваліў, –
абы хто-небудзь, мыслію вазросшы,
і да мяне тут слых свой прыхіліў.

Ды я прыхільнікаў не маю.
Сам во пішу, і сам сабе ўнімаю.

...Як у танку, таполя выгінаецца.
Лягае пыл ў густы чартапалох.
І ўецца ў даль дарога – не канчаецца.
І мы ідзём, і добра нам удвох.

Бо ён брыдзе, а я сабе кульгаю.
Гамоніць знай, а я сабе маўчу.
Ужо й на кій старанней налягаю,
і торбу ўсё на тым плячы лаўчу.

А ён ідзе, любуецца дарогаю.
Ён малады, яму яшчэ не сто.
За пазухаю кніга, світа доўгая
і торба – быццам рэмеза гняздо.

...Цвярдзейшы грунт намацваюць кійкі.
Часцей адхон аплецены карчамі.
Рыззём чапляючыся за сукі,
выходзяць – з лесу – у пяскі – прачане.

Пяскі, пяскі... І дзе ён, той прычал?
Ці так ісці, ці сцежка падвяла тут?

Плывуць, плывуць караблікі прачан –
над пасталамі ветразі напяты...

Адна ішла, закутая ў вярыгі,
у каўпаку жалезным, неабутая.
Ці хто сказаў, ці вычытала з кнігі,
што Богу ўгодна гэткая пакута?

Ішла маліцца ў боскія пячоры,
казалі, – дзесь здалёку, аж з Пячоры.
Пудовы посах, і сама, як мошчы.
Ды так і ўпала, не дайшла да прошчы.

Ці грэшніца, ці не зусім пры розуме.
Прысыпалі. Спакой яе душы.
А ўдалечы ўжо Лаўра ў горнім роздуме
няўзрушна сонца брала на крыжы...

І вось ён – Кіеў!
Зазіхцеў крыжамі.
Прыгаслы зрок красою паланіў.
Тут сам Гасподзь бяссмертнымі пярстамі
святыя гэты горы асяніў.

Так доўга йшла, так прагнула цярпліва.
І вось ён, Кіеў, за валамі, ён! –
той стольны град залатаверхі, дзіва,
душы маёй малінавы пазвон!

...І мы ўвайшлі ў жалезныя вароты.
Чагось так ціха, бы прайшла чума.
І кажа дзяк: – Згадай пра жонку Лота.
Не азірайся. Кіева няма.

Я азірнулася. Не ўзгаласіла.
Слупом саляным не ўкіпела там.
Вось так прайшло тут войска Радзівіла! –
Ў руіны вуліц затачыўся храм.

Званіцы мёртвай закурэлы вырыс.
Нямое ўсё – Падол і крутасхіл.
Маўчаць званы. Ў Літву званы ўсе вывез
літоўскі гетман Януш Радзівіл.

Папаленыя, жудкія, як мары,
маўчаць падворкі, бровары, базары.

Сады стаяць абвугленай мярэжай.
Людзей не бачна. Коні не іржуць.
І толькі на валах высокіх вежы
тырчаць у неба. Попел сцерагуць.

Дык вось ён, Кіеў мой, мая айчына.
Людской крывёй залітыя валы.
Ой, Божая падоба, што ж мы чынім,
ой, да чаго ж зямлю мы давялі?!

І кажа дзяк: – Падоба... Божа існы!
Як наляцелі раці наўскапыт,
насустрач Радзівілу выйшаў Трызна,
пячорскі прасвяты архімандрыт.

І так, сівы, звярнуўся ён, схілёны:
– Яснавяльможны гетман, брат кароны!
Вось ключ ад града. Мы адчынім брамы.
Ідзі. Заходзь. Адно палітуй ты
свяшчэнны град наш і святыя храмы.

Вось, і ўвайшоў ён, можны князь, сюды.
Як нож у спіну. А Патоцкі – ў грудзі.
Багдан між імі, як між дзвюх аблаў.
Што тут тварылася! Казалі людзі –
тры дні, тры ночы Кіеў палыхаў!

...Стаяў сабор старажытны з выпаленай душою.
Мы ціха ступілі ў морак,
што дымам едкім прапах.
Маліліся ў паражнечу, на попел ікон маліліся,
шукалі жывога Бога ў сонечных шызых слупах.

Ляжалі чорныя пліты стаўма, бы чорныя крыгі.
Анёлы ў белай апратцы ўпрытул абступілі алтар.
Крычалі шчылястыя сцены.
Звуглелыя нейкія кнігі
забеглы знадворку вецер халодным пальцам
гартаў.

Перахрысцілася й заплакала.
І ціха пабрыла з сабора.
Ішла на прошчу, а патрапіла
ці то ў Садом, ці то ў Гамору.

...А Лаўра і ўначы святлела з кручы.
Ішлі ўгару вузенька, ў каласок.
Яры ўсё нейкія ды лес дрымучы.
Яры нічога, лепей, чым пясок.

А па ярах, па схілах, як тубыльцы,
зямлянкі пакапалі пагарэльцы.
Ідзеш, аж дзіўна: вечар, цемната,
а з-пад зямлі дымок то там, то там.

І кажа дзяк: – Як у часы Батыевы.
Пайшло ў зямлю жыхарства Кіева.

Вунь хтось, пабач, ужо й абгарадзіўся,
а нехта й сена склаў у копкі ўжо.

А нехта ўжо ў зямлянцы й нарадзіўся,
бо вунь пялюшкі сохнуць за лаўжом.

Жыццё ідзе. Як сказана у Паўла:
«То будзьце багалюбныя ў жыцці».
Ты патрывай. Ужо вось-вось і Лаўра.
А там спачынеш па трудах пуці.

...Адно ўначы дайшлі да Лаўры ўжо мы.
Пад цёмным небам ля святых варот
сядзелі здані нейкія, смаўжова
ўтуліўшы й рукі, й ногі, і жывот.

Абдзёртыя, увітыя ў дзяружкі,
не разбярэш, дзе злыдні, дзе зладзюжкі.
Яшчэ і рукі цягнуць: дай, парадуй.
І гэта людзі. Толькі што ж дасі,
калі, мінуўшы селішчы і грады,
сам трэці тыдзень сухары ясі?

Святая брама ўзята на ланцуг.
У Лаўру не пускаюць валацуг.

Уночы брама Лаўры не гасцінная,
дарэмна і крычаць у гэты час.
Глас вапіючага ў пустыні,
напэўна, быў чутнейшы, як у нас.

Хтось мармытаў. Хтось у падучай біўся.
Да дня й перакунялі з дзякам так.
А ў небе хмары цяжкія віліся
і жоўты ўсё пакручвалі мядзяк.

...Назаўтра мы былі ў святых пячорах.
Цягнуліся ў паўзмроку галерэй.
Паклоны білі. І чакалі ў чэргах,
бо тут што свечка – дык і рой людзей.

Дзядок пячорскі спераду ідзе,
прачанам мошчы ў шчылінку паказвае.
А я ж не ведаю, ні хто, ні дзе,
дык час ад часу дзяк мне і расказвае.

– Во прападобны лекар Агапіт,
што вылечыў самога Манамаха.
А во Алімпій – быў дзівосны спрыт
да малявання ў гэтага манаха.

А гэта Нестар, самы слынны дзед.
Навекі помны ўласнай працай гордай,
бо ён пісаў і ў келлі век сядзеў,
а я хадзіў, то й паплаціўся торбай.

Далей пайшлі падзвіжнікі, святыя,
што тут сядзелі ў келлях, шчыраверцы,

якіх Гасподзь за подзвігі ў жыцці
спадобіў быць нятленнымі па смерці.

Вунь той – Мардарый, што не меў майна.
А той – Пафнуцій, што не піў віна.

Во прападобны схімнік Сілуян,
які без шуму, без пагоні-бітвы
разбойнікаў, што уцяклі ў бур'ян,
звязаў адзіна сілаю малітвы.

А гэта – Нестар, толькі ўжо –
Някніжны.
За тое ласку ў Бога атрымаў,
што быў заўжды на ўсіх богаслужэннях,
а й разу, ты скажы, не задрамаў.

А тут Сысой. Вось воля дзе была!
Штодня да рэчкі па сваёй ахвоце
хадзіў і распранаўся дагала,
каб камары пяклі яго ў чароце.

Такі ўжо час тады быў славадарны,
што кожны вышчыроўваў недарма.
Ніводзін подзвіг не застаўся марны.
Цяпер такіх падзвіжнікаў няма.

Кашчунна думка вынікла мая:
«Чаму на іх маліцца мушу я?»
Хіба ж у тых, без німбаў, без імён,
на тым шляху да Кіева з Лубён
ці ў тых, з Валыні, вечным сном
акутых, –
хіба не большыя былі пакуты?!

Стаю. Гляджу на Днепр, на кручы-схілы.
Сысой... Мардарый... Подзвігі Ахіла...

Тут кроў лілася. Тут прайшоў Батый.
Сафроній... Пімен... Мучанік... Святы...

А дзяк: – У іншых ліра – лёсаў мера.
А ў нас за корч і розум зачапіўся.
Сысой, Мардарый – мучанікі веры.
А Байда што, ад веры адступіўся?

Знай вер, хоць у лухту другазаконія.
А што мацней тут падпірае цвердзь –
малітва прападобнага Антонія
ці Налівайкі жудасная смерць?

Я сам калісь час бавіў у малітвах.
Дый думаю, ў зямлі чужастаронскай:
што як жа так – хто смерць прымаў у
бітвах,
а хто хаваўся на гары Афонскай?

Трылесы ўзяты, сотня там стаяла.
Нядаўна, побач. І – як не бывала.
За пару дзён варожае аблогі –
ні сотні той, ні жыхара жывога.
Было мястэчка... А падыдзеш бліжай –
няма нічога. Папялішча. Ціша.
І толькі смерць з крываваю касою...
А ты прыйшла паклоны біць Сысою.

Сядзеў падзвіжнік, як мядзведзь той, нішкам.
А ў Лаўры ўжо друкуюцца ж і кніжкі.
Пад вокнамі друкарні пройдзеш – Божа мой,
прасушваюць лісткі такія гожыя!
То ж колькі скарбу там для сэрца ўвішнага!
А ён табе пра Нестара Някніжнага!

Ужо ў нас ёсць паўсюдна школы брацкія.
Куды ні глянь – сіроты ўсё казацкія.
Ад Лохвіцы да самае Малдовы
куды ні глянь – казацкія ўсё ўдовы.
Дзяцей без мужа падымаць на ногі.
Ні радачкі ў жыцці, ні дапамогі.
Такія горкія ў сваім безабаронні!
А ім усё – пра подзвігі Феўроніі.

Ты, пэўна, шчэ была тады малою,
не помніш лёту зоркі той з мятлою.
Было ж гэта ў той страшны год, калі
пяцёх старшын казацкіх аддалі
на смерць. Галовы ж –
               хто скуль родам –
паставілі перад народам.

То жонцы той, харунжага ці сотніка,
што пад стаўпом падцята ўпала там,
то можна ёй пра Сімяона Столпніка,
што на стаўпе карункі выплятаў?!

...Ох, не такою я была й малою,
калі ляцела зорка над Сулою.
То ж ён пра бацьку, то ж пра Чурая.
То ж маці там ляжала так мая.

Была зіма. Якраз пасля Вадохрышча.
Людзей зганялі з усяе Палтавы.
Каб кожны бачыў гэткае відовішча.
А маці крыжам ляжала,
                    валасы прымярзалі да снегу.

Ужо давеку! – покі я жыву –
мне бачыць снег той... тую галаву...

– Чаго ты плачаш? – дзяк мяне пытае.
Кажу: – Нічога...
                    Лісце аблятае.
Заплакалася нечага само. –
...Ужо з царквы гуськом выходзяць людзі,
а мы як прыкіпелі, сядзімо.

– Я ж, – кажа дзяк, –
                    чарсцвею ўжо з гадамі.
Змяркае ўжо. Ужо, відаць, хадзем.
Мо там, за манастырскімі садамі,
на дом які начлежны набрыдзем.

...Знайшлі той дом дзесь на задворках Лаўры.
З дзвюх дошак збіты стол, абшмуляныя лавы.
Як ведзьміныя кудлы, дух бялёсы,
аж вогнікі на кноціках дрыжаць.
        І багамольцаў шчытна стосы
        усюды, дзе ні глянь, ляжаць.

І кажа дзяк, схіснуўшыся: – Дзяўчына!
Маўчу пра лес і не кажу пра стэп.
Ды лепей пераседзець ноч пад тынам,
чым лезці ў гэты лахавы вярцеп!

Мы й выйшлі пад навес на панадворак.
Сухога лісця трохі награблі,
дый леглі, дый глядзім сабе на зоры.
Дый, кажа дзяк, свабоду набылі.

Хістаецца галлё перад вачыма,
утыканае гнёздамі грачынымі.

Навес дзіравы, дол сыры,
гундосіць вецер угары.

        Усё б нічога, мы б ужо і спалі.
        Здарожаных сон морыць неўпрыцям.
        Але чанцы на ногі наступалі,
        званочкам вырывалі з забыцця.

        Вунь зноў адзін выходзіць з-за сабора,
        цяжкую расу цягне за сабою.
        Праз момант бачыш іншага спрасонку –
        збірае зноўку медзякі ў скарбонку.

– Вось гэта сон прытрызніўся ў сталіцы, –
прамовіў дзяк, сядаючы бачком. –
Што варыш ты варэнікі ў крыніцы
ды жаўталісце ловіш друшляком.

Але ж і ўцяў стары, смяхота людзям.
Што ж, можна й тут на сон не паграшыць,

калі б не лезлі капытом на грудзі
мне праведныя гэтыя мужы.

Пашарыўшы ў сухім шамоткім лісці,
знайшоў тытунь у торбе, уздыхнуў:
– От сатанота, – кажа, – чарнарызцы.
Сон перабілі. Я ўжо не засну.

Сяджу, гляджу вось – век пражыў на
свеце, –
на тое во гняздо ў тым верхавецці,
дый думаю: дурны ты чалавек,
што вось пражыў на свеце цэлы век,
і, налавіўшыся варон уволю,
гнязда сабе зляпіць так і не здолеў.

...Нейк у сяле з назовам Цёмнагайцы,
а йшоў тады дваццаты мне гадок,
мяне хацелі прыкруціць пры Гальцы.
Я, дзякуй Богу, вырваўся і ўцёк.

А шчэ калісь, за Дзядзькаваю Грэбляю,
на Ірпені, во ў гэтай старане,
я зноў прытульным зацішкам пагрэбаваў –
было ж тады гадоў пад сорак мне.

Любіў я панну, Птымчанка-Заглобску.
Паветраныя замкі будаваў.
«О раны Езу, пан муві по-хлопську!» –
сказала панна. Я зрэзыгнаваў.

Ну, ды нічога. Гэтак мне і трэба.
Жыццё й без шчасця складваецца ў лёс.
Ў душы людской, кром бачнага ўсім неба,
ёсць адзінаццаць іншых шчэ нябёс.

Быў рэгентам і быў я канархістам.
Любіў людзей і абмінаў гурму.
Прад можнаўладцамі не слаўся лістам,
працівіўся духоўнаму ярму.

Спазнаў любоў, спазнаў я і нянавісць.
Гарачы быў, заводзіўся жыўцом.
Калісь я жыў. Цяпер я размінаюсь
з людзьмі, з лясамі, з небам і з жыццём.

Адно дарогу й маю, гэту ўцеху.
Лафа дзяку, аж покі не зіма.
Як кажуць людзі – чык-чырык ды ў стрэху.
А што, як стрэхі ўласнае няма?

Бываў я скрозь. Душой сваёю босай
прайшоў цярнамі безлічы зямель.

І брагу піў, напараную з проса,
мальвазію таксама, мушкатэль.
Крыху ў турме варшаўскай кукаваў,
у Празе сямідальні хлеб жаваў,
ў Малдове еў салодкі вінаград,
схадзіў увесь-усенькі Сяміград, –
але ў якой ні быў я старане,
штось быццам вечна плакала ўва мне:
ідзі туды і веку там дажый,
у родны край, дзе ўсім ты, ўсім чужы.

Вандроўны дзяк, па свеце валачуся,
не маю ні сям'і, ані радні.
Сустрэў цябе, ды неяк і нясчуўся, –
так пацяплела мне за гэты дні!

Ты хутка пойдзеш, дзеўчына, дадому,
ў сваю Палтаву, да тае ракі.
А там якомусь хлопцу маладому,
відаць, твае ўжо сняцца ручнікі.

Шанцуе ж людзям. Эх ты, дзяча, дзяча!
Не быў бы ты самотны на зямлі,
калі б хоць раз шляхі твае бадзячыя
з такой дзяўчынай некалі звялі!

Ты не дзівуйся, калі раптам знікну.
Баюся смутку, што к табе прывыкну.

...Дзесь б'юць у біла, клічучы манахаў.
Во што за звон тут, на святой гары.
Так білі ў біла першыя пустэльнікі,
калі шчэ лес тут з небам гаварыў.
Калі яшчэ ў разбойніцкіх пячорах
валяліся то косткі, а то чэрап.
І не было ані муроў, ні брам,
адно на вырубцы гушчар маліны
і першы, драхленькі, драўляны храм
з прастолам з каменю яшчэ ды з гліны...

Цяпер у Лаўры – дзе тыя лясы?
Дзе малітоўе цішы над лясамі?
Адно Дняпро, брат вечнасці й красы,
цячэ ў лугах тых самых і так сама.

А над Дняпром, на той святой гары, –
тут цэлы горад, з гутамі, равамі,
з надбрамнымі мацнюшчымі царквамі,
з манастырамі ўжо ў манастыры.

Аж страх бярэ. Хто ўпершыню прыбудзе –
датуль блукацьме, покі не спытаў.
Тут толькі келляў – пару вуліц будзе.
Тут цэркваў тых – на некалькі Палтаў.

Калі б не дзяк, то што б я і рабіла?
Ён знае ўсё, сівесенькі спудзей[5].
...Пустэльнік б'е ў пустэльніцкае біла.
А ў той пустэлі – тысячы людзей.

Тут ёсць такія, што амаль не плазам.
Сляпцы, нямкі. І ў кармазінах ёсць.
А ці Гасподзь пачуе ўсіх нас разам,
калі так просіць кожны пра сваё?

[5] Навучэнец духоўнай навучальнай установы.

А я ж прыйшла з такое далі дальняй!
Тут, кажуць, недзе ля святых варот
бальнічная царква ёсць пры лякарні.
Богведама ўжо колькі ёй і год.

Даўным-даўно калісь, па ўсіх нясталасцях,
як кажа дзяк, яе пры Лаўры ўзвёў,
тут быўшы брамнікам па ўсім, што сталася,
адзін з чарнігаўскіх князёў.

Дык людзі ўсё ідуць сюды адвеку,
бо нібыта лягчэе чалавеку,
як памянуць тут, менавіта ў ёй,
у цэркаўцы каменнай той,
сваіх памерлых... Памяну
і попелам развеянага бацьку...
І маці, што звяла я у труну...
Тых, што душа не выгаворвае...
Гардзея... Ганну і... Рыгорыя...

Яшчэ б малебен адслужыць.
Жывая ж, то павінна неяк жыць.

***

...Апошняй ноччу мы ўжо і не спалі.
І зноў чанцы на ногі наступалі.
Бухікаў дзяк, і дожджык марасіў.
От, мусібыць, гразюку размясіў!

Варочаецца дзяк: – Охо-хо-хо!
Халодны свет, ліхота на яго.
Ў жыццё прыходзіш чысты і прыгожы.
З жыцця ідзеш ані на што не гожы...

Відаць, пад ранак я такі заснула.
Такая мяне ўтома агарнула! –
кароткі нейкі, непрабудны сон...
Прачнулася ад каркання варон.

Благі навес, дашчаная сцяна.
Дзяка няма. Ціхота. Я адна.

А ўзбоч ляжыць на саквах мне абнова –
ў жарынкі-кветкі хустачка цярновая.
І ранак быў, і дожджык марасіў.
Ужо й лісцём дуб хустку прытрусіў...

Пара і мне. Пара і мне, пара.
Пяскі, пяскі... і сіні гон Дняпра...
І лес... і шлях... і явар... і крыніца...
Куды іду?!
Хто жджэ мяне, кром Грыца?

Крычаць ключы у небе жураўліныя.
Каму, і што, й навошта гаварыць?
Прылегчы б так, як тыя, што з Валыні...
І дагарэць... і свечка дагарыць...

Але іду, размотваю дарогу.
Была на прошчы, памалілась Богу.
Купіла ў Лаўры свечачак святых.
І чалавека добрага спаткала.
І з дзякавых усіх гамонак тых
чамусьці ў памяць найглыбей запала,

што ёсць, дальбог, адхланіна ў журбе:
камусь на свеце горай, чым табе.

А ўжо і тыя сёлы, як магілы.
Патрохі ўжо даходжу й да Лубён.
Рыгораўка. Сямёнаўка. Панфілы.
Святы Рыгорый... і святы Сымон...

ДЗЕДАВА БАЛКА

Раздзел VII

Зіма ўсе стрэхі шчыра залатала.
Снягі ружова меняцца ў палях.
На ўсе замкі замкнёная Палтава
дазор казацкі выслала на шлях.

Далёка бачаць казакоў тых вочы.
Між імі Іскра і Лясько Чаркес.
Снягі, снягі... Як след – дык толькі воўчы.
Ды неба ціша і пустыня спрэс.

Кусаюць коні цуглі з нецярплячкі.
Парыўны вецер тузае крыссё.
Снягі, снягі... З якой гэта балячкі
так ціха ўсё? І ціха так не ўсё.

Вось хутароў глыбока змоўклых вырыс.
Вунь хтось ідзе ў Палтаву з клумаком.
І далягляд на ўсе бакі чатыры
перахрысціўся чорным ветраком.

...Палтаванька мая, мая Алтава!
Не забывае пра цябе бяда, –
нібы званы навекі расхітала
з пары, як нішчыла цябе арда!

І як ляталі стрэлы палавецкія
і клекацелі сцепнякі-арлы!
Былых гадоў вялікадні мярцвецкія
цябе густым маўчаннем абляглі.

І ад красы тваёй што засталося?
Асот між папялішчаў, бадзякі,
падворышчаў бязлюддзе, безгалоссе,
гароды, дзе паклычвалі дзікі.

А потым зноў на тым баку, ў той моўчы,
нібы трава і квеціва ў траве,

узніклі людзі і працёрлі вочы, –
Палтаванька, ты ўсё-такі жывеш?!

Сышла з вадою едкая пылюка
гадоў гаротна адбалелых тых.
З падземных нораў волечку пад рукі
зноў вывела на свет на белы ты.

Пазарасталі рутаю руіны.
І зноўку смуткам голас твой прыгас.
Ў лясах тваіх, над водамі тваімі
сваім багам маліўся Вітаўт-князь.

Мінулі дні. Сталела ты гадамі.
Ішла ў нябёсы і ўрастала ў грунт.
Цябе абняў жалезнымі рукамі
чужы кароль, нясыты Сігізмунд.

І зноўку, зноўку, зноўку пад’ярэмнасць!
Ці ўжо сабе мы рады не дамо,
што й Вішнявецкі, вырадак Ярэма,
уласны кат, запрог цябе ў ярмо?!

І зноў заход – нібыта баграніца.
І зноў надзея – зёлкаю да ран.
Дзе ўпаў Паўлюк, там вырас Астраніца,
і ўсе вярыгі разарваў Багдан!

І зноўку ліха. Не прайшло і года –
а пад Царквою Белай склалі згоду.
І зноўку бы ніколі не світала,
і зноўку панства прэцца на Палтаву.

Каб зноў цябе сагнуць у падняволлі,
каб ты, як некалі, была рабой.

Вунь зноўку хутаранцы з наваколля
шукаюць рады ў крэпасці тваёй.

Ідзе, бяжыць – усё, што ёсць жывога.
І гоніць статак, і кульгае ў яр.
О даўні горад, звыклы да аблогі,
якой трывожнай будзе ноч твая!

...Дазор казацкі азірае шлях, –
як зрок сягае – ні душы ў палях.

Цяпер паны хай пройдуць хоць аблаваю,
ды ўжо стаяць спусцелыя двары –
і ўсе прысёлкі за Палтаваю,
і ўсенечкія хутары.

Пустэльня, стэп...
варон галодных гвалты...
Няма каму хоць з кім загаварыць.
Адно дымок во з Дзедавае Балкі
курыць сабе у неба ды курыць.

Там дзед жыве, той самы дзед Галернік,
нямрушчы дзед, самотнік і хімернік,
што быў гадоў мо дваццаць у няволі,
і ўжо ж калі вярнуўся, а й цяпер,
што ні вырэзвае – усё міжволі
з абрысамі маленечкіх галер.
Талеры, лыжкі, конаўкі ды кубкі,
мыльнічкі розныя, салонкі, ступкі.
А ўжо такое гожае ды лоўкай
ніхто больш не змайструе салатоўкі.

То вынесе ў Палтаву, то па сёлах
(як не заносы, ведама, й дажджы).
Так во ў турэцкіх дзедавых галерах
Палтава і затоўквае баршчы.

Бязлюдна, пуста ўжо ва ўсёй акрузе,
і толькі з Балкі Дзедавае – дым.
То ж, пэўна, ён у той сваёй ярузе
на цэлы свет застаўся сам-адзін.

– Гэй, дзеду, дзеду, побач шлях-дарога!
Гэй, дзеду, дзеду, блізка ад агню!

– Э, ды хіба па галаве ў старога
чужое войска пройдзе ўпершыню?

Прысунуў пень – ён у яго за ўслонік.
Дый сеў стругаць ліповы апалонік.

У хаце цёпла. Водарыць драўнінаю.
Карэння поўна, рознае разьбы.
Пад бэлькаю, між макам і калінаю,
шматкі сухое ліпы і вярбы.

Сказаў Іван: – Калі не маняць людзі,
шчэ толькі снежань, лета шчэ калі.
І невядома, як яно ўсё будзе.
Вы б у Палтаве лепш перабылі.

– Не варта людзям задаваць марокі,
бакі на печы на чужой таўчы.
Свая тут хата маецца, няўрокам,
свой дамавік, свае вунь рагачы.

Зіму ўжо не адну так перачоўгаў.
І дамавік са мною дамаваў.
Вунь там сядзеў, на прыпечку, учора, –
смяяўся, плакаў, руку падаваў.

Калі б хоць я мог быць вам у прыгодзе,
а то ж пра шаблю думаць мне ўжо годзе.

А быў калісь такі велікавоін! –
яшчэ й дасюль ад шабляў не загоен.

Дый зноў узяўся за сваё струганне.
– Вось так памалу й тупаю, Іване.

У Бога смерці не благаю.
Нічога, прыйдзе і сама.

Я апалонікі стругаю,
а людзям есці што няма.

...Прымоўклася. Душа шукала слова.
Яно як лёс. Не выважыш на фунт.
Канчаўся дзень. Гарэлі ў печы дровы.
Гуло й палала, быццам Трапезунд.
Мігцелі розныя ў агні хімеры,
мяняўся бляск на варушкім разцы.
Плылі па хаце дзедавы галеры –
салонкі, ступкі, лучнікі, карцы...

– Ну, хто пра што, а я пра Налівайку.
Яна спявае ці ужо маўчыць?

– То ўжо не спевы. То сцяпная чайка,
падбітая, упаўшы, так крычыць.

У ёй бы штось навекі прамінула.
Прыйшла з той прошчы дзіўная такая.
Так ад людзей Марусю адвярнула –
нікога ўжо і ў хату не пускае.

Усё адна. Нічога ёй не трэба.
Каб хоць здароўе, а й яго ж няма.
Начоўля тая пад адкрытым небам...
Нястаткаў гэтых вечная турма...

Крый Божа, можа, у яе й сухоты.
Я ўсё баюся – рыне горлам кроў.
А не прымае жаднае турботы,
а ў хаце ж так – ні хлеба, ані дроў.

Парадзьце, дзеду, вы ж ёй быццам бацька.
Няўжо ж яна й загіне так сама?!

– Такой бядзе ніхто ўжо не парадзька.
Няма тут рады. Рады тут няма.

Чаго ірвеш каўнер? Ці ж тут задуха?
Стрывай, брат, плачам не направіш рот.
Найпершае ў жыцці – свядомасць духу,
тады і выйсце знойдзецца з ліхот.

Душа ў цябе павінна быць што крыца.
Так гараваць не годна казака.
Твой бацька быў, Іване, Астраніца –
наступны гетман пасля Паўлюка.

Ты ж сын яго! Душы не заняхаеш.
Не маеш права, ты ж такі не Грыц.
Вось пройдзе час, кагось і пакахаеш.
Праслаўны род палтаўскіх Астраніц!

– Ды, можа, й будзе Гандзя альбо Насця.
Ды, можа, й сынам замацую род.
Але не будзе мне на свеце шчасця,
пакуль мне жыць і бачыць сонца ўсход.

Мы з ёю душы аднаго тут кораня.
Адзін, няйначай, бусел нас прынёс.
Бо што бацькі ў нас – казакі няўкорныя,
што мацяркі, ссівелыя ад слёз.

Мінуў той час, заціхлі тыя буры.
Ды новы гром ачуўся на мячах.
Мы з ёю – дзеці аднае зажуры.
Сябе чытаю я ў яе вачах.

Мінаюць ночы думкамі, паўснамі...
Яна маўчыць, клубкі самоты ўе...
Мінаюць дні... І мы, і мы мінаем...
І толькі песням не мінуць яе.

...Канчаўся дзень. З тугой з-пад тонкіх
бровах
Марыя пазірала з бажніка.
Агонь гарэў, трашчалі гулка дровы,

шаўкова бегла стружка з дзяржака.
Кот выгнуў спіну ў тыграву палоску,
памуркацеў, зноў стружкай зашалёскаў.
І хаце зноўку не хапіла вока:
хтось дзесь прамчаў, а балка заглыбокая.
І толькі снег пасыпаўся з галлякі.
– Эгей, Іване, вунь ужо й палякі!

– Вось мы тут трохі і прытрэм ім рогі.
А вы ж во тут зусім каля дарогі, –
сказаў Іван, устаючы з услоніка.

А дзед сабе стругае апалоніка.
– Нікуды я, Іване, не паеду.
А там і Ворскля ўскрэсне ў берагах.
Дый ляхам тым які спажытак з дзеда,
з мае бярлогі ўбогае ў снягах?

– Глядзіце, дзеду. Гэтыя ватагі...
Жыццём рызыкаваць не варта б вам.
– З жыццём мы, браце, век наперавагі.
Сюды-туды, не сцяміш – а ўжо й там.

– Што ж, выбачайце.
– А за што, казача?
Па мне што турак, што літвін, што лях.

...Пратупацеў дазор, і конь гарачы
з глыбокай балкі выімчаў на шлях.

Ужо і месяц вытыркне рагульку,
і спакваля парог пачне лядзець.
А дзед запаліць самаробку-люльку
і доўга-доўга будзе ўслед глядзець.
І доўга-доўга будзе слухаць цішу,
што аблягла раптоўна хутары.

Жар з печы выграбе, каб да хаціны
на той дымок чужы хто не забрыў.

Заліў той жар. І вынес галавешкі.
А ты ў кутку пастой во, качарга.
Ды гэтак во пасноўдаўся, пакешкаўся,
ды так нібы яно яшчэ й мага...

## АБЛОГА ПАЛТАВЫ

Раздзел VIII

Бязмежны стэп і ноч. І свішча замець.
Палтаўскі шлях снягі перамялі.
Чужое войска марна б'ецца ў брамы:
глухія брамы. І маўчаць валы.

Стаіць абоз па грудзі у сумётах.
На ўсім рыштунку з наледзі брыжы.
Цярпі, Палтава, за жывых і мёртвых, –
вунь вершнікі ўжо ўехалі ў крыжы!

Палтава спіць. А панства – як у госці.
Адскочыў конь. То ямы, то гарбкі.
Крыжы, крыжы...
І тарахцяць, бы косці,
пад ветрам на крыжах тых ручнікі.
Сячэ пурга калючая, скуголіць.
Паўвойска ўжо не ўстоіць на нагах.
Бязлістая ды чорная таполя
трасе варон на цвінтары ў снягах.

Паны клянуць у люці ды бяссіллі.
То ж да Палтавы й так ледзь дабрылі!
Праслана войска на чатыры мілі –
хоць галавою біся аб валы.

Было ўжо імі зведана ўсяго тут,
Бог манну з неба не спяшаўся слаць.
У стэпе круціць гэтакая слота –
руку працягнеш – пальцаў не відаць.

Шалее завіруха, вецер свішча.
Каб вогнішча развесці – й не кажы:
аж дзе той лес!
Хоць спальвай тапарышча
або сячы на цвінтары крыжы.

Але ж няможна люднасць дратаваць.
Тут трэба увайсці без перашкод.
Тут трэба мірна.
Ўсё ператрываць.
Схізматыкі – распалены народ.

Як ні крычы, як браму ні выламвай, –
а згода ёсць, то ўпусцяць. Ды калі?
...Валы крутыя. Што там, за валамі?
Глухія брамы. І маўчаць валы.

А ўранні, толькі стала днец смугата,
дзе не было, здаецца ні душы, –
наведзеныя ўжо стаяць гарматы,
і пры лафетах ходзяць гармашы.
Ніхто з панамі не ўсчынае бою.
І нават словамі не задзірае.
Хто насагрэйкай пыхкае даўгою,
хто ў гакаўніцы порах набівае.

Дазорныя стаяць сабе ў дазоры.
Ды ўсё іх больш вынырвае з бакоў –
тых чорных світ, кашлатых шапак чорных,
з авечага сукна кабенякоў.

Ніхто нічым ані не пагражае,
не блісне шабля ні ў адным канцы.
Адно сабе казацтва пахаджае,
і за шчытамі заляглі стральцы.

А ўжо шляхецтва шэранню ўзялося,
і ўжо кляцьбу ахрыпла панства слаць.
Крычаць, грукочуць, брамы ўшчэнт разносяць.
Яны ж сабе, каваныя, стаяць.

Бадай, з гадзіну гэта ўсё трывала.
Дык вораг тлумачэнняў зажадаў.
Тады ад Пушкара казак ім з вала
на дзідзе гэткі ўніверсал падаў:

«Панове! Вы і мы – два роўныя народы.
Мы волю набылі праз гэтакую кроў!
А вы прынеслі зноў да нас свае кляйноды.
Як і свайго арла. Навошта ж нам арол?

Наш полк – Палтаўскі полк. А значыць,
і не лішне
напомніць, што стаім мы на сваёй зямлі.
А што тут трэба вам? Стаялі б дзесь на Вісле.
У нас тут гетманат, у вас там каралі.

Былі б і вы, і мы такім бы чынам дома.
Было б і вам, і нам шмат лепей, – што й казаць.
А што да нейкай згоды – нам гэта невядома.
Пра што і спавяшчаем. Вось герб наш і пячаць.

Між іншым, вы ўжо так паскубены вайною
і маеце харчоў так мала пра запас,
што калі раптам тут паднімеце вы зброю,
то месца гэтых дзей не сведчыць проці нас».

...Здаецца, ранку век не перавіць
хвілін марудлівых на часу шпульку.
Палтаўскі полк бы ўкопаны стаіць.
Пушкар маўчыць.
І толькі смаліць люльку.

– Калі мы здзейснім тыя пункты згоды, –
казацтва гаманіла на валах, –
дык і апошні астравок свабоды –
Палтаўшчыну – чакае кабала!

То што, мы столькі выбылі вайны,
каб зноў сюды вярнуліся яны?

Каб у Палтаве, у палковым месце,
стаяла шляхты на кутку па дзвесце?!

Жыццё ўжо й так гарчэй ад гарчака.
Няма калі і жонку пагалубіць.
Бы мала ўжо свайго нам Вішняка,
патрэбны шчэ й чужыя шкуралупы!

Пусціць у горад войска яго мосці?
Э не, даруйце, тут няма дурных.
Калі цяпер у рукі не дамося,
то з часам згэтуль і дамо па іх.

Ужо сёй-той і знудзіўся патроху:
– Эх, пальнуць бы, хоць соллю, хоць гарохам!

Гук, атаман, што так гукае ўдала,
ужо на ўсе лады іх крые з вала.

Пасмейваюцца, ходзяць казакі.
Адзін Гарбань ад страху сам не свой там.
Ён думае, – як пусцяць іх такі,
то перш за ўсё яны павесяць войта.

Вішняк – той круціць, дужа важны пан,
такі, што ўсіх паноў перапануе.
Учора, кажуць, прымяраў жупан.
Ісці паслом да шляхты прапануе.

Аднак палкоўнік не вядзе і вухам.
Няўжо так бою і не распачнем?
Лясько сказаў:
– Адным як бухнем бухам!
Пушкар сказаў: – Пагаварыце мне!
Тут самае галоўнае – адвесці
пакуль бяду крывавую ад места.
А там каляды, знойдзенне главы...
То ж перамір'е, хлопцы, да травы.

...Іван стаяў на вале. Перад ім
усё было відно як на далоні.
Курыўся ўзняты войскам снежны дым.
Вось коней дык шкада. Такія коні!

То ж дзе не йшлі, забралі пад сядло.
Такая сцюжа, проста іярданская.
Бач, колькі панства з імі прыбыло!
Адзін прыехаў у карэце гданьскай.

І немцы ёсць. І рыцары тэўтонскія.
Усё крычыць, матлошыцца, гудзе.
Спрабуюць зрынуць сцены ерыхонскія.
Нічога. Вал надзейны. Не ўпадзе.

Вось толькі балка блізка ад дарогі.
Гэй, дзеду, дзеду, блізка ад агню!..
Дый то сказаць –
па галаве ў старога
прайшло там войска ўжо ці ўпершыню?

Плывуць над стэпам хмар кудлатых раці.
Жыве там, быццам лісцік на сучку.
Адзін-адзін.
І дамавік у хаце
смяецца, плача, падае руку...

А дзесь асобна, як пра боль нагадка,
стаіць настылая за зіму хатка.
Над Ворскляю, над тымі яварамі,
дзе ўжо ніхто не свеціць вечарамі.
І толькі вогнік блымае ўгары.
Там, пэўна, Бог жыве ў манастыры.

Забытая і Богам, і людзьмі
жыве Маруся ў засені зімы.
У снегавых выкрутах завірушша,
дзе толькі скрыпкі ветру цешаць слых,

калінай корміць жоўтых амялушак,
тых птушачак натомленых малых.

Азвецца часам ціша капытамі.
Туды ж ні сцежачкі не пратаптана.
Сумёты ўкола хаты, як гара.
Снег у буслянцы. Лёду паўвядра.

Хоць зрэдку выйшла б дзе ў царкву, між людзі,
а то ж адна, ці свята ўжо, ці будзень.
Сухотны кашаль надрывае грудзі.
Стаіць зіма. Насупістыя дні.
Ўначы гараць дазорныя агні.

Штодня, штохвілі полк напагатове.
Іван маўчыць.
                    А думкі ўсё цярновей.
І ўсё балесней паміж іх адна:
а як Маруся, як жа там яна?

...Ды як... Ды так. Грэх скардзіцца.
                    Уласна,
хіба ўжо я тут самая няшчасная?

Жыве ж Яшчыха вунь. А галасіла
гадоў мо паўтара па мужыку.
А ён жа на вайне знайшоў магілу, –
жыве ж яна, не мрэ ж яна пакуль.

Вось так і я, прывыкну, неяк жыцьму.
Ніхто і не пабачыць, як тужыцьму.

Ды толькі ж не Яшчыха я – Маруся.
Яе мужык з паходу не вярнуўся.
Упаў, палёг, забіты маладым.
Ёй можа вечна слёзы ліць па ім.

Шчаслівы чалавек ты, Кашавая!
А я... Хто я? Па кім тут удава я?!

...Так і жыву. Мінаю, нібы хмарка.
Век дажываю, як асенні ліст.
То мышаня шмыгне ў куточак шпарка.
То дроў надкіне дзядзька Шыбыліст.

То ты разважыш смутак без прасвету.
Дык і агораю нейк зіму гэту.

Сама з сабой, хоць плач, а хоць скачы.
І вые пёс на ветах уначы...

Была рука яе – што ледзяшына
ў руцэ Івана:
– Доленька мая!
Хадзем са мною, стань маёй дружынай, –
такой бы ўцехі дачакаўся я!

І галавы не павярнула.
Адно журботна з-пад брыва зірнула.
Туга цяжкая чорнае касы,
і толькі цень ад колішняй красы.

– Каго ты любіш, Іване?
Мяне
ці памяць сваю?
Прыгожай была я, праўда?
На маці сваю падобная.
Адважнай была я, праўда?
На бацьку свайго падобная.
Пявуннай была я, праўда?
Як песенны мой народ.
А зараз маё аблічча зведзена сутаргай болю.
Паміраю ад сухот.

Сама ад сябе ўжо адмерла.
І ты гэта знаеш, Іване.
Бо што ад мяне засталося,
гэта ўжо, ўласна, не я.

Ты не гэтую любіш, Іване.
Ты памяць сваю кахаеш.
Шчаслівы будзь ёю, Іване.
Бо памяць заўжды твая.

– Я і тады любіў цябе да болю.
А ўжо цяпер, Маруся, й пагатоў.
Дазволь застацца мне ў цябе, з табою.
Не трэба ні заручын, ні сватоў.

У цэркаў пойдзем. Поп нас абвянчае.
Вяселле справім. Пушкара пазвем.
Як не палюбіш, у мяне хапае
на двох любові. Неяк пражывем.

– Са мной, Іване, – гэткай панявечанай?
Са мной, Іване, – горкаю такой?

Дай бог табе сустрэць такую дзеўчыну,
каб ты шчаслівы быў давеку з ёй.

На гэтым досыць. І канец размове.
Не трэба й гаварыць пра гэта нам.
Маё жыццё – руйновішча любові,
ніякі цвет не працвіце ўжо там.

– Апошні плод на Чураёвым вецці!
Абіты гэткім перуном ліхім...
Няхай бы хоць пакінула на свеце
дзіцятачка ты з голасам тваім!

– Ўжо не пакіну, долю змарнавала.
Ўжо не пакіну, час мой падаспеў.
Калі б цяпер я, мусіць, заспявала,
было б гэта хрыпенне ўжо, не спеў.

Так і жыву, без голасу, нямая.
Памерлі песні – ўмерла і сама я.

...Вось што цяпер адно і маю я,
матулька, мама, мамачка мая! –
магілу гэтую, крыж заінелы,
на дрэвах ды кустоўі шэрань белая.

Была ў мяне матуля, быццам пчолачка.
Цяпер я засталася тут адна.
У хаце ўсё, да чорнай ніткі з голачкай,
як і было. А мацеры няма.
То я ж яе, я давяла да лавы!..
Карай сябе цяпер ці не карай.
Прашу цябе, Іване, будзь ласкавы,
пайдзі з магілы снег паадкідай.

Ідзе Іван. І зноў назад вяртае.
Зноў снег з магілы ў думках адкідае.
Варожы лагер... Цвінтар пры дарозе...
Чацвёрты тыдзень горад у аблозе.

...Сякуць, падлюкі, Пушкароўскі лес.
Трашчыць і стогне, валіцца на дровы.
Там і сяло за лесам – Пушкарова.
Сякуць, падлюкі, Пушкароўскі лес!

Старэзныя дубы і маладняк –
абы цяпер, пра заўтрае не дбаюць –
сякуць без ладу, крыва, так і сяк, –
аж так і бачна: не сваё ссякаюць.

Што дзень, што ноч – сякуць, ажно гудзе.
З валоў відно, як звозяць да дарогі.
Ды шчэ й падстрэляць зайца дзе-нідзе,
ды шчэ й мядзведзя выкураць з бярлогі.

Стагоддзе рос. І шчэ стагоддзе рос.
Палкоўнік! Гэта ж трэба праваліцца,
каб гэта во ўсё бачыць і мірыцца, –
ды бес бы іх душу па пекле трос!..

Пушкар – нічога. Глянуў – і нічога.
Спакой вачэй. Сівая галава.
Кірэі крылы колеру начнога.
Глядзеў.
Маўчаў.
– Хутчэй бы ўжо трава!

...Высока ў неба полымя ўзлятае.
І попел пахне доляю Трылес.
Як дзікі звер, абкладзена Палтава.
Гараць кастры – прапрадзедаўскі лес.

Гараць кастры. Чужынцы смажаць вепра.
Дзесь падцялі старога секача.
Сядзяць, як выхадцы з самога пекла,
усе паны палтаўскага ключа.

У тых снягах, уночы, ў тым паланні,
заслуханыя у сваю трызню,
сядзяць, нібыта д'ябальскія здані,
у пурпуровых водблісках агню.

І толькі цвінтар чорнымі крыжамі
з цямноты падступае да кастроў.
І толькі замець доўгімі вужамі
ускідваецца ў цемру зноў і зноў...

Пакольki ж мір,
то нам страляць няможна.
Лясько тупоча, моцна перамерз.
У трубы граюць. Навалач вяльможная
сама з сабой танцуе паланез.

Пазліць казацтва ўздумалі, няйначай.
Вось пачакай жа, шчэ мазурку ўтнуць.
Мы вытрымаем. Хай да ўпаду скачуць.
Ды першымі яны страляць пачнуць.

...Стаяць паны. І пляга не бярэ.
Здаецца, будуць так стаяць давеку.

Лясько смяецца: – Голад падапрэ,
паджгаюць, быццам чорт ад кукарэку.

Вось дзе ўжо хто вясёлы, дык Лясько.
Бяда яму для смутку не прычына.
Бо як прынёс на свет яго бусько,
то так і вырас наймітам хлапчына.

Так змалку зацугляў яго кулак,
так збрыдлі кпіны ды паштурхалякі, –
а тут вайна. А чмыр-кулак, аднак,
табун во мае, а ў Ляська – й канякі.

Удовін сын, душа – што прамянёк, –
вось выйшла сотня іхняя з Апешні,
а ён бяжыць услед, як стрыгунок,
і горка думы думае няўцешныя, –

што як жа так, яму ў паход пара,
сямнаццаць год, дакуль сядзець ён будзе?!
Калі б каня пазычыць у чмыра,
а шаблю ён і ў бітве раздабудзе!

...Яго злавіў у стэпе гаспадар.
З чужою ў суд прыведзены канякаю,
ён растлумачыў, што ў паход спяшаўся,
не меў калі сказаць за косю «дзякую».

Падумаў суд і вымеркаваў так:
што ён жа ўкраў не грошы, не з гарода.
Ідзе вайна. А што ж то за казак,
які каня не мае для пахода?

Што ён чмыру зусім і не радня,
а ўсё жыццё стараецца, гаруе.
Не дарабіўся да свайго каня –
хай гаспадар ласкава падаруе.

Дык вось цяпер ён хлопец пры кані.
Харобры хлопец, не якаясь хліпаўка.

...Лясько сказаў: – Ды Божа барані!
Ці ж гэта голад? Проста пост. Піліпаўка.

...А дні ідуць. І цягнецца аблога.
Ужо і звыкла, хоць дабра не жджэш.
З усіх бакоў адрэзана дарога, –
Палтаванька, ты ўсё-такі жывеш?!

Сёй-той пайшоў ужо й на вечарніцы,
хоць так аб дол тым ліхам бразнуў хват.
Стаяць сабе дзяўчаты ля крыніцы,
а дзецюкі стаяць каля дзяўчат.

Грыцкова маці век свой дажывае.
Гук-атаман гукае на валу.
Шынкарка Таця ганьбу адбывае:
за блудадзейства ўрэзалі палу.

Ў нядзелю быў базар.
Чым там ні таргавалі,
але ж такі – ў нядзелю быў базар.
На гурт дзвюх качак бабы прадавалі.
Хто вынес мак, хто рыбу, а хто ўзвар.

Была, казалі, нават паляніца.
Дзызь нават і душу дзесь закрапіў.
Лясько, прадаўшы грыву грывастрыжцу,
сабе пішчаль вінтовую купіў.

Затое краму там ляжала – горы! –
зарбаф, штамэт, аб’яр і алтабас.
Але каму наўме ўжо тыя ўборы?
Цяпер купляй кітайку пра запас.

А шчэ былі там розныя прыправы.
Дзівосныя прыправы, як на смех.
Шафран ды перац – да якое стравы?
Ці той мускатны водарны арэх?

Імберцу, можа? Можа, кардамону?
Цытрон заморскі – грош яму цана,
калі гарсэцік вунь які чырвоны
даюць за вузлік прэлага пшана.

Такі свят-вечар, што няма й куцці.
Стаіць Іван. Над валам крупка сее.
– Чаго стаіш тут на віду? Глядзі,
шчэ стрэліць хто.
– Не стрэліць. Не пасмее.

Быў у Марусі. Снегам замяло.
Прыйшоў у хату, нават не зраднела.
У той свят-вечар, як яна сядзела,
то ад яе ўжо й ценю не было.

Маўчыць Іван, сцяў зубы і маўчыць.
Вачэй не зводзіць з поля і дарогі.
І кожны міг апошнім можа быць,
быць можа першым мігам перамогі.

...І вось якраз пасля каляд уранцы
ушкварылі панове драпаканцы.
Наладавалі з ночы свой абоз,
без лютых задзіранняў, без пагроз
зняліся ціхенька – і ў стэп бязмежны.
То ўжо цяпер хоць цвінтар незалежны.

Бо покі тут яны пад валам бегалі,
у гэту браму ступаю таўклі,
у спіну ім з Брацлаўшчыны й Чарнігава
агні паўстанняў новых прыпяклі.
То й мусілі забраць свае заставы,
відаць, ужо не толькі з-пад Палтавы.

І адступілі – у палях тых самых.
За імі следам панства ў простых санях.
І іхні ксёндз, няголены, маўклівы,
захутаны ў тутэйшыя кілімы.

І тое войска марнае кварцянае,
і тыя зведзеныя на нішто гусары,
у каўняроў шкарлупіну лядзяную
уткнуўшыся павіслымі насамі...

Ужо і далі меркнуць вечарова.
Ужо й людзьмі дарога загула.
І голасам царквы прыцвінтаровай
Палтава людзям голас падала.

Зноў чыстаполле пад дазор узята.
А пры дарозе, ў гурбе па лафет,
стаіць пакінутая ляхамі гармата,
чыгунны львоўскі фальканет.

Дзе следна коньмі, заскакалі галкі.
Вось-вось дарэшты сонца дагарыць.
...І зноў дымок той з Дзедавае Балкі
курыць сабе у неба дый курыць!

## ВЯСНА, І СМЕРЦЬ,
## І СВЕТЛАЕ ЎВАСКРЭСЕННЕ

### Раздзел IX

Вясна прыйшла нейк зразу гаспадыняю!
Зіма стаяла моцна да пары.
Вятры дыхнулі з поўдня. І тады яна
нібыта ў Ворсклю з’ехала з гары.
Яшчэ каўтала павадзь снег пярэсты,
яшчэ выглядваў рала цвёрды лан.
А пад гарою вішня, як нявеста,
ужо на вэлюм мерае туман.
Пабольшаў дзень.
                І палягчэлі цені
вячэрніх згадак і вячэрніх хмар.
І дзічка-груша ў белым ацвіценні
на ўсё ваколле свеціць, як ліхтар.

Ужо ў дзяцей паружавелі шчочкі.
Ужо дажджом здаволена ралля.
І скрозь трава-травічка,
скрозь лісточкі!
І сонца сыпле кветкі, як з брыля.

Ужо, глядзіш, і сеюць у даліне.
І песні часам з далечы ляцяць.
І туркаўка аўрукае ў брызгліне,
і ад ліноў затокі зіхацяць.

А як зазелянела наша балачка!
Там возера, няма яму і дна.
Зноў лётае блакітная рыбалачка,
нос у яе даўжэйшы, чым яна.

Ужо і гусі ў небе пралятаві,
і лебедзі крычалі праз туман.
Зноў ходзяць у балотах бліз Палтавы
хадулічнік, крахаль і турухтан.

І людзі акрыялі – самы кволы
і той ужо варушыцца жвавей.
І манастыр ад квеціва наўкола
нібы ў ружовым воблаку плыве.

О Божа духаў і жывое плоці!
Я ўпершыню ўсміхаюся, даруй.
Вунь нейкая галінка ў жываплоце
і тая ў кветках пнецца угару.

Вясна прыйшла. Зноў скасавана згода.
Зноў па Ўкраіне ўсёй агонь імкне.
Цвіце зямля, ёй мроіцца свабода.
Аж хочацца ўжо нават жыць і мне.

Як гожа ў хаце, як прасторна ў сенях!
Як ажываюць нівы і сады!
А каб хоць крыху зберагчы насення,
хлеб елі на Вялікдзень з лебяды.

Зноў бусел зорцы моліцца на змерку.
Гарод чакае на сяўбу маю.
Ёсць жменя зерня, маку ёсць паўмеркі,
і чарнабрыўцы, й трохі рыжаю.

Зямелька, дзякуй за твае шчадроты!
За белы цвет, за сонейка ў акне.
Прыйшла вясна. Сухоты ёсць сухоты.
Знай горшае ды горшае ўсё мне.

Ужо ад кашлю ўсё ў грудзях збалела.
То жар, то зноў ад холаду трасе.
Ужо й мае маністы пабялелі,
нібыта ў шызай памаразі ўсе.

Як дзіўна, жар, ды халадзеюць рукі.
А навакол шалеюць салаўі!
Самотным добра – ніякой разлукі.
Сухотным добра – гаснуць у маі.

Вось толькі шкода – ўжо не заспяваю.
Гарод глушэе – ўжо не прапалю.
Штоbecause ноч, як смерць, пераплываю,
жыццё, як промень сонечны, лаўлю.

А дні стаяць – не хочацца тужыць!
І кожная пташынка хатку ўе.
– Скажы, зязюля, колькі мне шчэ жыць? –
Куе зязюля... Цэлы дзень куе...

Іван прыходзіў. Так, сядзеў больш моўчкі.
Устаў, пайшоў, акінуўся з варот.
Ледзь толькі ўбралася вясна ў лісточкі,
зноў паднімае гетман у паход.

Зайгралі зноўку трубы да паходу,
дыхнула громам з Цясьміна-ракі.
Багдан падняў казацтва за свабоду,
універсалам абаслаў палкі.

– І зноў зямля кіпіць у барацьбе.
І зноўку я належу не сабе, –
сказаў Іван. Глядзеў з такой тугою,
нібы навек развітваўся са мною.

Не знала я, што будзе гэтак горка.
Нясцерпным смуткам сэрца ўпавіло.
Апошні раз мільгнула за пагоркам
кірэі чорнай цяжкае крыло.

І я, што ўжо была такой няўзрушнай,
ужо нічым я слёзы не ўпыню.
Бывай, Іване, найвярнейшы дружа,
святая іскра вечнага агню!

Выходзіць полк. Харугвы над Іванам.
І я ўскрай шляху зводдаля стаю.
І ўсю аж працяло неспадзявана:
спяваюць песню, Божа мой, маю!

І «Зеляненькі барвіночку»,
й «Не плач, не журыся,
а за свайго міленькага Богу памаліся».
І пра таго казачэнька,
што ехаў за Дзесну.
«Расці, расці, дзяўчынанька,
на другую весну!»
І пра воду каламутну,
ці не хваля ўзбіла.
І пра тую дзяўчынаньку,
што верна любіла.
І пра гару высокую,
пра тую крыніцу...

Дзяўчаты ўчора берагам ішлі
дый заспявалі: «Ой, не хадзі, Грыцу».

А я стаяла... Што ж было, крычаць мне?..
Спадала сонца нізкае ў траву...
Дзяўчатачкі, дзяўчатанькі, дзяўчаты!
Не трэба гэту, я ж яшчэ жыву.

Сапраўднае мастацтва не вымагае ад чалавека нейкіх незвычайных здольнасцей, каб стаць зразумелым. Хіба што калегам творчага цэху іх асабістая духоўнасць часам выдае яшчэ і пэўныя ключы для пранікнення ў прафесійныя таямніцы майстэрства. Звычайна ж мастацтва дзейнічае найперш на ўзроўні неўсвядомленага, няўлоўна абнаўляючы душэўны стан чалавека.

З пашанаю ўдзячна я Ліне Кастэнцы за вярэдлівую гаму пачуццяў і думак, якія высока ўзнімаюць і маю душу над штодзённымі дробнымі клопатамі і турботамі. За шчымлівую радасць, зведаную ў час прыручэння яе паэзіі ў плыні беларускай мовы.

***Ніна Мацяш, 1982***

## *Мая ЛЬВОВІЧ*

*(1933) – украінская пісьменніца, перакладчыца. Нарадзілася ў Адэсе. Гомельшчына – радзіма бацькоў. Пасля вайны сям'я пераехала ў Харкаў. Мая Львовіч скончыла Харкаўскі ўніверсітэт, жыццёвай доляю выбрала ўкраіністыку, працавала ў выдавецтве «Прапор». Пісаць вершы пачала па-руску. Наведаўшы радзіму бацькоў, зацікавілася беларускай літаратурай. Сустрэчы, сяброўства з многімі беларускімі пісьменнікамі натхнілі пісаць па-беларуску. У беларускай прасторы Мая Львовіч вядома праз беларуска-ўкраінскі пераклад. Яна падарыла ўкраінамоўнаму чытачу творы шматлікіх беларускіх паэтаў і празаікаў. Аўтар зборнікаў вершаў «Зямля мая» (1985), «У зязюльчыным барку» (2002), «Жывая» (2008), інш. Украінскаю моваю ў перакладзе Маі Львовіч загучала балесная кніга не толькі беларускага народа «Я з вогненнай вёскі».*

Кажуць: вялікая любоў, з вялікай любоўю…

Хіба бывае маленькая любоў? Да радзімы, да людзей культуры, якую яны ствараюць з пакалення ў пакаленне, да

мовы, на якой гавораць не толькі людзі, а і травы, і дрэвы, і птушкі радзімы? А цераз гэты зямны куточак – і да ўсіх нацый, якія насяляюць нашу «планету людзей»? Мусіць, так прасцей: любоў ёсць любоў, і не патрабуе ніякіх мерак. Таму што годнай платай, чым можна аддзячыць лёсу за тое, што адарыў талентам мець гэтае пачуццё, можа быць толькі ўласнае жыццё, не з нашых слоў, а з нашых учынкаў створанае.

На пытанне паэтэсы Маі Львовіч, з якіх моў яна перакладае ўкраінскаю, быў атрыманы адказ: з польскай, з чэшскай, з серба-харвацкай, з рускай. Але найбольш багата і плённа – з беларускай. Паэзію М. Танка, П. Панчанкі, А. Сербантовіча, А. Пысіна, А. Вялюгіна, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, Д. Бічэль-Загнетавай… Мо прыйшлося б даваць спіс амаль усіх нашых паэтаў, каб пералічыць крынічкі, з якіх няўтомна чэрпае гаючае пітво натхнення гэтая перакладчыца. Варта згадаць толькі два самыя буйныя выданні – «Білоруську радянську поезію» і «Калинови мости» – дзе найбольш удалае перастварэнне беларускіх арыгіналаў пазначана імем Маі Львовіч. А ненадрукаванага шмат больш, і гэта, мабыць, заканамерна, калі чалавек працуе па душэўнай патрэбе. Не абыйдзена ўвагай М. Львовіч і проза, асабліва творчасць Янкі Брыля. Колькі любасці і сіл укладзена ў пакуль што невыдадзеныя ва Украіне яе пераклады. Мабыць, не варта даводзіць, якога напружання, якога высокага майстэрства патрабуе перакладанне «Вогненнай вёскі». У Маі Львовіч хапіла мужнасці ўзяцца за гэтую адказнейшую работу, і кніга Я. Брыля, А. Адамовіча і Ул. Калесніка «Я з вогненнай вёскі» ідзе да чытача нашай братняй рэспублікі. Выключная ўвага, чуйнасць да першароднасці слова, карпатлівае вывучэнне дыялектных асаблівасцей украінскай і беларускай моў – ці не самае галоўнае, што абумовіла і яе поспех як перакладчыцы. Дарэчы, М. Львовіч працуе над складаннем «Украінска-беларускага слоўніка», працуе пакуль што самастойна…

Вось і думаеш: ці бывае маленькая любоў?..

А нарадзілася Мая Львовіч у 1933 годзе. Потым – вайна. Эвакуацыя ў Казахстан. Вяртанне ў родны Харкаў. Школа. Універсітэт – спачатку аддзяленне замежных моў, затым – пасля паўтара року змагання за сваю мару – аддзяленне ўкраінскай мовы. Дыялекталагічныя экспедыцыі. Актыўнейшая праца ў СНТ. Родная мова. Паэзія. Перакладчыцкая дзей-

насць (поруч з працай карэктара ў выдавецтве «Прапор», часта звышсілы…).

Жыццё, якое выклікае думку: ці бывае маленькая любоў?..

Хочацца верыць, што некалькі вершаў Маі Львовіч у маім перакладзе, цікавей і значна паўней скажуць пра аўтара арыгіналаў.

***Ніна Мацяш, 30.11.1976***

***

Падае,
Моўкне
Мележ
На ўсім неабходным слове…
Ой, не канец размове –
Толькі завея сцеле ж,
Снежань ідзе да селішч…
Змагарнасць гарэння,
Трывожнае люду сумленне –
Гаворыць
Мележ.

***22.08.1978***

***

Не была маўклівай такою –
Стаў баяцца слоў мой паўдзён…
Колькі дзён ужо, колькі дзён
Ты са мною.

Балбатлівасці слоў баюсь:
Як, за што…
        Тваё сэрца чуе…
Колькі дзён да цябе маўчу я,
Беларусь…

## ПЕРАКЛАД

Паэце, дзякую за верш.
Ён – твой, у ім звініш ты ўвесь.

Ды ў ім – і я, ды ён – і мой.
Здаецца нават: быць ён мог

Тым вершам, што калісьці мне
Прымроіўся, прычуўся ў сне,

І воблачкам растаў, і знік.
Сустрэлася з тваім – як з ім.

Хоць мы з табою – розных моў,
Твой верш азвацца раптам змог

Маёй і радасцю, й журбой,
Маёй мелодыяй жывой.

Так поўніцца душа… Калі б
У пераклад свой пераліць…

Мой сон далёкі, ажывеш?..
Паэце, дзякую за верш.

***

Хто майму ты сэрцу? Як дазнацца?
Як назваць? Якое даць імя?
Як цябе пытацца? Як звяртацца?
Як прыклікаць? Як мне дагукацца?
Не ўгадаю я.
Хто ты… А навошта дазнавацца?
А навошта падбіраць імя?
Ты ідзеш і рэху не стамляцца
Светла ў маім сэрцы адзывацца,
Радасць ты мая.

## ЛАСТАЎКА

І ўсё ж нязбытнае зямное
Даступным хочацца лічыць.
Адчынім фортачку зімою,
А можа, ластаўка ўляціць!
А. Пысін

А можа, часам, ластаўка… І гэтак
Ты верыў, прагнуў, што і сапраўды
Яна ўляцела да цябе!.. Не з лета:
Спазнала птушка халады.
Пакутвала. Дзе толькі брала сілы…
Завею лютую перамагла.
Жалезнымі ад стужы сталі крылы,
Забыла і не прагнула цяпла.
А вось жа прыляцела!.. Не сагрэцца,
Хоць зледзянелі крылы, а – сагрэць
Тым, шчодрым, нерастрачаным, што сэрца
Аберагала, поўнае ушчэрць.
Дзеля каго? Ды ёсць, відаць, такая
Душа… А ты гукаў: «Даверся мне,
Я – родны той, што ластаўку чакае
Зіму ўсю пры адчыненым акне!»
…………………………………………
Як толькі вырвацца змагла… Не вернеш…
Жывому сэрцу брацца лёдам зноў.
А можа, ластаўка… Ты гэтак верыў,
Так прагнуў: разнасцежана вакно…

## МОВА

Я не хачу хваліць любоў маю,
Нікому я любоў не аддаю,
Не набіваюся. Калі пішу,
То да яе тым ласкі не прашу.
Я не хачу хваліць, яна – краса.
Красу б ты, вочы меўшы, бачыў сам,
Красу б і сам пачуў ты, меўшы слых,

Красу б ты, сэрца меўшы, сам спасціг.
Што свеціць абакрадзенай душы?
Ёй гэты свет красы – такі чужы…
А ў кімсьці сонца гэтае звініць,
Хтось прыпадае да яе крыніц,
Хтось гэтым і жывы… Не аддаю,
Я не хачу хваліць любоў маю.

***

Гарнуся ў бяссоннай журбе,
Гарнуся да цёплага сэрца.
Не катуй сябе, не зняверся,
Не дайся ўласнай згрызьбе.

Хай промень адзіны прабег,
А далеч блакіту не сведчыць, –
Але ж і нялюдска – нявечыць
Душу так жывую сабе.

Пульсуе ў маркоце-турбе:
Не ўзводзь ледзяную загату…
Не катуй сябе ты, не катуй.
Гарнуся ў бяссоннай журбе.

## ***Пятро МАХ***

*(1934-2011) – украінскі паэт, пісьменнік, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны, ганаровы прафесар Валынскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Лэсі Украінкі, лаўрэат шэрагу літаратурных прэмій. Скончыў украінскае аддзяленне філалагічнага факультэта Львоўскага ўніверсітэта імя Івана Франка. Працаваў журналістам, выязным рэдактарам львоўскага выдавецтва «Каменяр». Быў першым старшынём створанай у 1980 годзе Валынска-Роўненскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Украіны. Пятро Мах з’яўляецца аўтарам шэрагу кніг, у якіх паўстае тонкім лірыкам, незламаным барацьбітом за роднае слова, за волю Украіны: «Першыя промні», «Песня клёнаў», «Паклон Джакондзе», «У гасцях у маці», «На белых крылах ручнікоў», «Ластаўка з крыламі журбы», двухтомніка «Крайполе» і інш. У яго творчым набытку таксама сцэнарыі тэлефільмаў, на тэксты вершаў створаны шматлікія песні.*

Трывалыя повязі сяброўства звязваюць літаратурную Брэстчыну і літаратурную Валынь. Абменныя паездкі творчых груп па памятных мясцінах гэтых абласцей-суседак, сумесныя

выступленні ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў – гэта не проста натуральны абмен літінфармацыяй, гэта – для саўдзельнай душы – у любую пару года – кароткі цёплы летні лівень, што натхнёна змывае пыл будзённасці, і вось ужо зноў узрушана і молада пераблісквае ў сонцы лістота памкненняў, спадзяванняў, аптымізму!..

Прыемна было асабіста пазнаёміцца ў паездцы па Пружаншчыне з вядомым украінскім пісьменнікам Пятром Махам. Родам ён з сяла Корхава, што на Холмшчыне, цяпер жыве і працуе ў г. Луцку. Аўтар некалькіх кніг прозы і паэзіі. Істотнейшае пра паэта Пятра Маха няхай скажа гэтая невялікая падборка ягоных пастэляў – сам аўтар азначыў гэтак жанр сваіх твораў, – якія з прыемнасцю пераклала я.

***Ніна Мацяш, ЛіМ, 13.07.1979***

## УРОК РАДЭНА

З украінскага горада
дзеўчына.
У Парыжы
Радэна
шукала.
Прагла скульптарам стаць.
Ён спытаў незнаёмку:
– А цярпенне ў вас ёсць,
шаноўная?
– Што, цярпенне?! – здзіўлена стала, –
Я натхнення шукаю...
– Пустое!
Я не веру ў натхненне...
– Але ж вы...
– Так, я скульптар, дзяўчо...
– І...
– ...дазвольце яшчэ
запытацца:
што вы
любіце
ў свеце
найболей?

– Ну, вядома ж,
мастацтва,
скульптуру...
– Не, не тое
мне кажаце,
любая...
Вы адкуль?
– З Украіны.
– Дык вы знаеце,
што вам патрэбна
любіць найшчырэй,
мая панначка,
каб скульптарам стаць?
– Што?
– Украіну!

**КАЛІНА НА ПАГОРКУ**

Я ў Корхаве.
На высокім чале пагорка
скруха струменіць крыжамі.
А побліз
каліна стаіць...
Што тады, часінай узбуранай,
да магілы бацькі майго
прыйшла яна,
схілілася шчыра,
як Айчына няскораная,
над цвінтаром вайны...

***

Яе лісты бяссоннаю любоўю
імкнуць сягоння у журбу маю...
І сэрца рвецца, як у неба птушка,
у шорсткія далоні, дзён палын...
Цалую слова кожнае ўтрапёна,
што прожылкамі маці апякае...

## ВІД НА ЗАМКАВУЮ ГАРУ

Тэлевежа – вайстрак парасоніка
у руках у паважнай дамы – ночы...
Зачэпіць тугое неба – лаві ў далоні зоры,
і выпнецца голле трывогі,
        што коле прымоўклую хмарнасць...

## ЛІСТОК

Яго асенні вецер кінуў на дарогу,
каб, вянучы, у памяці меў дрэва.
І ты тут? – трэснуў шэры камянец.
Лісток глядзеў у высі…
Ляжаў, як лета сцяг.

## ЗАРНІЦА

Сярод соцень вачэй я твае шукаю –
                                        не бачу.
Сотні гукаў да сэрца майго дападаюць –
                                        без твайго.

Сотні вокан смяюцца – тваё не азвецца...
Я нясу табе шчыра агонь любові,
Будзь праменнаю з’явай у горадзе
                                    тлумным маім...
...Сярод соцень вачэй я тваіх шукаю.

## НЕЎГАМОННАСЦЬ

Цераз люты
            у лета
                        ручаёк гаманіў.
Абмінаў
        пяскі і карчэўе,

каб прынесці ў ляваду
                        новы подых,
                                            каб
харацтво адамкнуць для людзей.
...Цераз люты у лета
                        ручаёк гаманіў,
і рака яго вынесла ў мора!

## БЛАКІТНЫ ВЕЦЕР

За акном дажджы збіраю,
Каб абмыць ад паняверкі
Сэрца, што к табе ірвецца,
Мілы.

Ты не знаеш таго болю,
Як растуць з пакутаў крылы
І нясуць табе каханне,
Мілы.

Сосны йдуць таропка ў горы,
Зоры ў возера ныраюць,
У садку смяюцца астры,
Мілы.

Цяжкая ж мая разлука
За акном тугі сівее.
Ты не бачыш і не чуеш,
Мілы.

Колькі ласкі адцвітае!
Не заглядвае ў садочак
Твой тугі блакітны вецер,
Мілы.

А ці ў леце маладым ты,
А ці ў восені раптовай?
Я ж табе вясною буду,
Мілы!

***25.09.1981***

***

Як гэта маўчанне ёсць золата,
То стаў бы я жабраком...
О, як ты ўсміхаешся молада
Апошнім сваім радком.

Ляцяць кіламетры заснежана –
І я ўяўляю, як ты,
Каханнем другога ўсцешана,
Мае спапяляеш лісты.

***25.09.1981***

***

Плывуць гады, нібы жыты,
За далеччу знікаюць...
З абдымкаў гаю маладых
Вунь сцежка вылятае.
Няўжо мая?! Бягу туды –
О не... не тыя росы...
Плывуць гады, нібы жыты
У восень.

***28.09.1981***

**АДЦАЛАВАЛІ ПЧОЛЫ…**

Адцалавалі пчолы медуніцу –
І ў гром, крайсвету, на булан-кані
Турбота чалавечая імчыцца,
З-пад залатых капыт растуць агні…

На зелен-луг, на мацерыны скроні
Усё ляцяць іскрынкі, як гады.
Адтуль, дзе лета йдзе па абалонні,
Неспадзявана – восеньскі матыў.

## АЖЫНЫ

Дзе бярозкі адбеглі ад гаю,
Дзе вятры не крануць ні струны,
Я з табою ажын назбіраю –
Дзіва-ягад маёй стараны.

Будзе познім вяртанне дахаты,
Гляне-гляне цікавасць з акон…
Пошум лесу, як спогад крылаты,
Доўга будзе ляцець наўздагон.

Не шукайце вы, людзі, правіны,
Смутак, матчыных воч не азмроч:
Нашы рукі скалолі ажыны,
Ну, а вусны… абветрыла ноч.

***15.02.1982***

## ТУГА

Ты на пероне – далані –
Зярняткам спадзявання.
Разлукаю ўпадзеш у дні,
А ці ўзысці каханню?

Дарогу сцеле дождж тугі,
Завяжа далеч вузел…
Накрыўся я плашчом тугі,
Нібы  раскрыллем бусел.

***15.02.1982***

***

Закружыўся ў ветры жаўталіст,
Нібы дзецям, дрэвам добра й босым.
Я ж чакаю лецейка, калі
На давер ты зноў мяне запросіш.

Цветапенна адгудзе хвала
І павойка ўсохне ля парогу, –
Толькі ж вернасць слову, як была,
Пад акном тваім, як голька глогу.

***24.09.1981***

## ЗГАДКА Ў ЛЬВОВЕ

Над готыкай блукае тэлевек,
І вулачкі вузенькія так рады
На плёсы шэрыя, на аўтастрады
У шатах новых выбегчы навек.

Я на Высокім Замку, як Антэй,
Студэнцтва неба згадкай падпіраю,
А сэрца акапэламі лілей
Уладна летуе ў азёрным краі.

## СТАМІЎСЯ ШУМ…

Стаміўся шум у стоенай пустэчы
І сыч камусьці звеставаў бяду…
Спяць пад дубкамі стрэльбы – недарэчы
Цяпер канва тут паляўнічых дум.

Высока, вольна… Зорак адцвітанне…
Туман прымлелы… Нейкай птахі ўсхліп…
Адносяць птушкі да крыніц світанне,
Каб не звялі й яго мы на зямлі!

***

Мы ў нашу стрэчу вераю ўраслі,
Мы так яе чакалі ў мукаплынні...
І вось сягоння маладой Валыні
На плечы птушкі радасць прыняслі.

Мы праз гады, праз холад незбывання
Дайшлі да запаветнага цяпла.
На ўскрайку незнаёмага сяла
Мы думалі пра вечнасць і каханне.

***27.03.1988***

**ВЯСЕЛЛЕ ВОСЕНІ**

Як картаплінне ў полі, моўчкі адлягло
Раскудланае прывіднае хмаравіска –
І ўраз упісаліся ў неасяжнае тло
Зоркі, народжаныя далёка і блізка…

І дзівавацца з чаго ўжо мне было,
Напаткаўшы сляпых калюж ці мала,
Як месяц караваем вырас над сялом –
Яно вяселле восені спраўляла!

***

Галубеў каля Свіцязі лён,
І буслы панаўкола крылялі,
Маю песню маленства шукалі,
Што згубілася ў горычы дзён.

Чайка білася па-над вадой
І кігікала, як на разлуку,
І трываў я нясцерпную муку:
Бачыў маці я ў чаіцы той…

Галубеў каля Свіцязі лён
На чыюсьці, як спеў, вышыванку.
І плылі праз туман да світанку
Мае леты вясне наўздагон.

***

Скраю поля стаю, выціраючы лоб ад поту.
Напшанічыліся ўдосталь камбайнавы стомленыя вочы.
І на варту высокую з’яўляцца жаўрук не хоча
З-за клятых дажджоў, якія да ўсяго адбілі ахвоту.
Бачу ў іншых смутак ад такога нечаканага жніва,
Дык гукаю ў свет, як салдат у жорсткім змаганні:
«Клічма, людзі, сонца, бо прападзе мазалёвы наш твор,
Зберажэма ад ліха карміліцу дум нашых – ніву!
Скраю поля стаю…

***

Нас у лясную хату дождж прывёў,
Што зеллем дыхала, што пахла ручнікамі...
І беглі за акно ружанцы слоў,
Дзе ірвалася ноч над вішнямі грамамі.

А на світанку, калі свет заціх,
Суседскі певень, камандзір бяссоння,
Паклікаў зноў нас да турбот сваіх,
Што туманамі заляглі на скроні...

А вось Сяргейка, жэўжык зухаваты,
У сне, напэўна, быў ён касманаўтам!
Свяцілі  яму зоркамі лісты,
Здалася Байканурам родна хата.

## ВЕЦЕР ЗА АКНОМ

Чаго бушуеш, вецер? Што прытым
Аб хвалю хвалю б’еш ты? Сціхамірся!
Ці выкраў маю ночку ты і ў высі
Шпурнуў для ўцехі зорным палатном?

І я цяпер, натомлены па край,
Чакаю ўсё яе ў няўцямнай плыні,
Душа ляціць жураўкай да Валыні,
Хоць вочы прыкаваны да Дняпра…

***
Вялікае свята сонца і травы
Тваім духмяніцца абліччам.
Тут згадка першых стрэч жывая,
Тут чайка чаянят ў гняздзечка кліча.

Ідуць сляды. Вядуць яны ў лугі,
Ды ветрык іх загортвае у хвалі.
Вянчае там вясёлка берагі,
А я – як явар той на крутасхіле.

Прайшло. А ці збылася? Адгукніся!
Мне непаўторную вярні ты ласку.
Вялікае свята сонца і травы:
З блакітнай – іду я... у сівую казку.

## ЭСЭ ПРА БЕРАСЦЕЙСКА-ВАЛЫНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Хмары з самага ранку – набраклыя, шызыя.
Дождж ад самага ранку няўтомна пялюшчыць.
Аж не верыцца ў золкасць за мокраю шыбаю:
Ціхамірна і соладка на сэрцы трывушчым.

Мілы, што гэта?! Што ты… зусім і не плачу я…
Пачакай… парушынка да вейкі прыпала…
За ўсё лета ні разу вясёлкі не бачыла, –
Аж цяпер вось у небе асеннім заграла…

А ранак 11 верасня абяцаў пагоду. Хоць і ў дзявятай гадзіне яшчэ неба было шэрае, усё ж дзе-нідзе высачынь яго ўсё настойлівей ружавела. «Жыгулёнак», як ласкава называў сваю машыну шафёр Максім, лёгка каціўся па шырокай аўтамагістралі ў накірунку да Брэста. Па абодва бакі высокай шашы разложыста праплывалі вялізныя палі з нявыбранай яшчэ бульбай, шматколерны лес з усімі адценнямі фарбаў. І ў рэдкіх ужо дымах над комінамі не частых пры гэтай «бамаўскай» дарозе вёсак, і ў неторопкіх, упэўненых рухах дарожніка, які падпальваў траву па абочыне, каб гусцей расла яна на наступную вясну, і ў пярэстых статках кароў, якія паважна скублі на подзіў зялёную атаву – ва

ўсім панавала нейкая велічная ціхамірнасць. Але імкліва набліжалася чарговая – пад самым Брэстам – развязка дарог, і зноў сэрца і ўзнёсла трапятала, і балюча шчымела. Колькі кемлівасці і натхнення, колькі працы рук чалавечых і матэрыяльных сродкаў укладзена ў гэтыя выгінастыя стужкі асфальту, аблямаваныя чорна-белымі слупкамі, у гэтыя ўскінутыя, лёгкія і надзейныя эстакады, – а дастаткова ж нейкіх секунд, каб усё гэта рукатворнае хараство ўзляцела ў паветра і рассыпалася прахам… Так уелася ў душу балансаванне свету на грані міру і вайны…

А мяне ж чакала радасць – свята сустрэч з пісьменнікамі Брэстчыны і Валыні. Традыцыйнае свята Дружбы напярэдадні гадавіны ўз'яднання Заходніх абласцей Беларусі і Украіны з Усходнімі, прысвечаная памяці выдатнага рэвалюцыянера, паэта Аляксандра Гаўрылюка.

І вось апоўдзень – ясны, сонечны, – не падманула ранне. На мяжы Брэсцкага і Любомльскага раёнаў нас ужо чакала дэлегацыя валынскіх літаратараў на чале з паэтам Пятром Махам. Нас – гэта значыць сябраў Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў, літаратуразнаўцу Уладзіміра Калесніка, паэтаў Міколу Пракаповіча і Алеся Каско, спецкора на Брэстчыне Міколу Панасюка і мяне. На адкрыццё свята Дружбы прыехалі ў нацыянальных беларускіх і ўкраінскіх касцюмах навучэнцы Тамашоўскай, Пішчанскай і Шоцкай сярэдніх школ. Урачысты момант абмену хлебам і букетамі асенніх кветак, пасадка ліпак побач з высаджанымі пару год таму дубкамі, ускладанне кветак да помніка савецкім воінам ва ўкраінскай вёсцы Пішча, – схіленне галоў перад шанаванай памяццю тых, хто аддаў жыццё дзеля гэтага сонечнага і мірнага дня, у які людзі могуць шчыра, сардэчна ўсміхацца і паціскаць сяброўскія рукі, маюць цудоўную нагоду прыгарнуцца да хараства ўчынку і слова.

Потым была Пішчанская сярэдняя школа, яе невялікая актавая зала, якая здавалася яшчэ цяснейшай ад шматлюддзя. На сустрэчу з намі з'явіліся літаратурныя клубы імя Янкі Купалы, імя Аляксандра Гаўрылюка, клуб «Равеснік». Гэта трэба было чуць – як натхнёна гучала трапяткое слова Купалы, яго вершы і ўрыўкі з паэм, а таксама беларускія народныя песні ў выкананні ўкраінскіх школьнікаў! Гэта трэба было бачыць – якой дапытлівасцю і ўдзячнай увагай свяціліся вочы слухачоў падчас выступлення беларускіх і ўкраінскіх паэтаў! І знікалі – надоўга? хто ведае, – але

знікалі гэтыя вечныя спадарожнікі творчай працы – сумненні ў сваіх сілах, у вартасці таго, што робіш, што пішаш. З'яўляецца вера: тваё слова неабходнае людзям, вось гэтым маладым людзям, якія толькі ўступаюць у жыццё. Ім неабходна не толькі смачна есці і добра апранацца. Іх душа патрабуе мастацтва, патрабуе хараства, паэзіі – каб быць крылатай, каб сумець і самім тварыць хараство свету, і можа адольваць усялякую погань і пошасць, якая зніштажае, касуе хараство. Дзеля гэтай вось моладзі і трэба працаваць, вечна помнячы пра сумленнасць і шчырасць свайго слова. І пра неабходнасць пастаяннага самаўдасканалення, – перш, чым сказаць нешта, трэба мець, што сказаць.

Пакідалі гасцінную вёсачку Пішчу позна ўвечары. Нас і ўкраінскіх літаратараў чакала на начлег беларуская зямля – міжкалгасны піянерскі лагер «Сонечны». І ўжо там, за чаем, пры ўкраінскай і беларускай песні, пры дасціпным жарце і лірычным вершы не адну мяне, напэўна, поўнілі светлыя пачуцці роднасці з гэтай зямлёй, з гэтымі людзьмі, раней незнаёмымі, цяпер такімі неабходнымі таварышамі ў жыццёвай дарозе. Бо падобныя сустрэчы – гэта ж яшчэ і асабістыя кантакты.

*Не ўесці выгарклы праснак:*
*Не ўсё гармонія ў прыродзе…*
*Як сёння зорыстасць, аднак,*
*З патрэбай зорыстасці ў згодзе!..*

А прырода, быццам жадаючы яшчэ эмацыянальней падкрэсліць гэты дзень – 11 верасня, – раптам паслала да нас грымотную, прашытую магутнымі бліскавіцамі навальніцу. Засыналі пад зычную, раскацістую музыку перуноў і ліўня. Наступны дзень мусіў быць зноў напружаны: планавалася знаёмства з Камароўкай – радзімай Пятра Клімука і музеем касманаўтыкі ў Тамашоўцы, выступленні ў сярэдняй школе і на адной з пагранзастаў. Але гэта ўсё павінна было адбыцца назаўтра. А пакуль была ноч, шчыравала зусім летняя – пасярод верасня! – навальніца, і яна непадманную абяцала мне вясёлку.

***Ніна Мацяш, 15 верасня 1981 г.***

## *Васыль ГЭЙ*

*(1942) – украінскі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій. Скончыў рэдактарскі факультэт Украінскага паліграфічнага інстытута. Узначальваў Валынскую пісьменніцкую арганізацыю. Аўтар паэтычных зборнікаў «Закон вернасці», «Крылы Свіцязя», «Кроплі на лісце», «Падсечанае дрэва роду», «Дзе маміным голасам ціша маўчыць…», «Васьмірадкоўі з роднага сяла», «Зара з крынічнае вады», «Прысвячэнні, вітанні, пажаданні», «Крываўнік роднага слова»; многія вершы пакладзены на музыку. Васылю Гэю належаць: прыродазнаўчая кніга «Пад сузор'ем каліны», аповесці «Яварнік», «Віхор у спелым жыцы», зборнікі артыкулаў, выступленняў, рэцэнзій «Пры святле сівой расы».*

***

Каля цябе я – нібыта малеча,
Бы птушанё на руках тваіх я.
Чуеш, парыўна як б'ецца, трапеча,
Плача й спявае душа ўся мая?
Я на руках тваіх ціха свячуся
Лістам, скупаным у летніх дажджах,

І ў даланях тваіх я не баюся,
Што наасеніцца, зжоўкне душа.

***

Не ўтрымаць мне аблічча твайго жураўлінага,
Ты ўцякаеш з далоняў маіх, як вада,
Прапякаеш маўчанне слязою-жарынаю:
«Я нікому, нікому цябе не аддам».

Твая смага шчэ радасцю грае крылатаю,
Ды ў вачах ужо тоіцца смутак-бяда.
І ты ў вусны мне горача дыхаеш мятаю:
«Я нікому, нікому цябе не аддам».

***

За дні мае, забраныя нягодай,
За ўсе гады самотныя мае
Мне самай найсвятой узнагародай
Твой твар, тваёй красы высакарода,
Вусны твае.

За словы ўсе мае непаэтычныя,
За ўсё, што я шукаў і не знайшоў,
Найбольшы дар – душа твая лірычная,
Твайго жаноцтва з'ява фантастычная,
Твая любоў.

***

Дзіда ў краі маім не адна паламалася,
Не адна паляцела з плячэй галава.
Орды хіжыя зніклі ў прасторы і часе,
Растварыліся ў глебе, як па лецե трава.
Ператлелі ў вяках чужакі-паразіты,
Патануў у цямрэчы заваёўніцкі зброд.
Тыя ж, хто і гаралі, і сеялі жыта,
Засталіся й жывуць, і назоў ім – народ.

## ***Валадымір БАРНА***

*(1953) – украінскі паэт, публіцыст, літаратуразнаўца, перакладчык, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага ўніверсітэта імя Івана Франка. Працаваў рэдактарам Цярнопальскага абласнога радыёвяшчання. Член Саюза журналістаў і Саюза пісьменнікаў Украіны. Узначальваў Цярнопальскую абласную арганізацыю Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. З'яўляецца аўтарам вершаваных зборнікаў: «У далонях Сусвету», «Пейзажы душы», «Раса на дзідах траў», «Мелодыя срэбнай ночы» (у перакладзе на беларускую мову), «Сляза ў зрэнках неба» (на ўкраінскай і эсперанта), «Анёл слова», «Апокрыфы неба», «Храм вечнасці душы», а таксама кнігі нарысаў «Лемкаўшчына ў сэрцы маім».*

## МЕЛОДЫЯ СРЭБНАЕ НОЧЫ

* * *

ПАЭЗІЯ —
р а с а,
якая на міг замёрла
на дзідах траў...
Руку працягні па яе —
і яна...
асыплецца.

Не прыгадаю, хто сказаў, што паэзія шмат што рабіць можа, – захапляць, засмучаць, непакоіць, забаўляць, павучаць і навучаць, выяўляць процьму адценняў думак і пачуццяў. Але ёсць яшчэ нешта, што паэзія рабіць абавязана: у с л а ў л я ц ь усё, што м о ж а, за тое, што яно ёсць і адбываецца.

Творчасць Валадыміра Барны, украінскага паэта, які жыве і працуе ў г. Цярнопалі, прызнаюся, выклікае ў мяне хутчэй мазгавую, чым сардэчную рэакцыю. Звычаёвасць думкі, прасталінейнасць выказу, апавядальная рацыянальнасць у спалучэнні з амаль поўнай адсутнасцю кідкай метафары і рыфмы ставіць тэксты Барны на небяспечную мяжу з прозай. Але н е ш т а ўсё ж спыняе, утрымвае іх на гэтай хісткай мяжы! Ці не сама тая ненавязлівая, пазарадковая наяўнасць глыбокай удзякі Жыццю за дар жыцця, за крыло Бацькаўшчыны, за крыж лёсу? Асабліва яскрава праступае яна ў яго любоўных вершах-прамаўленнях. Дай Бог кожнаму паэту – і не паэту – кахаць так моцна і неастудна ды не стамляцца складаць гімны сваім каханым Лаурам, нават калі яны стаюцца ўжо ўласнымі жонкамі, – як гэта дадзена аўтару «Мелодыі срэбнае ночы»! Бо ўзносячы – узносімся, і ўзвышаючы – узвышаемся!

***Ніна Мацяш, 01.12.1997***

## КАРЭННАЕ

УДАКЛАДНЕННЕ

Калі я рака,
дык ты мая крыніца,
родная маці.

Калі я дрэва,
дык ты маё карэнне,
Лэмкаўшчына!

***

Дзе ты,
    мая прадзедаўская хата,
    што засталося ад цябе
    на скронях Лэмкаўшчыны?
    Не ведаю, і запытацца
    н я м а  ў  к а г о!

ПРАДЗЕДА схавала
                з я м л я Бэскідаў,
ДЗЕДА        прыняла
                з я м л я Амерыкі,
БАЦЬКУ      ўпавіла
                з я м л я   Украіны...

А я...
Я шукаю каранёў прадзедаўскай хаты,
я разгадваю код свайго радаводу,
я вывучаю белыя плямы нашага жыццяпісу,
каб в е д а ц ь :
    адкуль мой фамільны пачатак,
    хто растуліў мае вусны гэтаю моваю,
    дзе крыніца маёй Лэмкаўшчыны?

## ПРАКЛЯЦЦЕ РОДУ

Мой прадзед –
лэмкó Мікалай –
унука свайго пры жыцці
так і не ўбачыў –
памёр яшчэ замаладзь
у Лэмкаўшчыне.

Мой дзед –
лэмко Тэадор –
унука свайго пры жыцці
так і не пабачыў –
памёр маладым
у чужой Амерыцы.

Мой бацька –
лэмко Андрэй –
на ўнука свайго пры жыцці
так і не зірнуў –
памёр маладым
аж на Аполлі.

…

Што ўканована мне?
Расцяць гэтае
праклянце роду
і яшчэ пры жыцці
наглядзецца на ўнука
свайго, а ці...
памерці маладым?

***

Мы пры жыцці
у т р о х
так і не сышліся
разам: Дзед,
Бацька
і я...

Толькі пасля смерці –
два іхныя здымкі
застылі на маім
рабочым стале...
І я штодня ім зазіраю
у вочы, мо разгадаю нешта
і сыну Андрэю паведамлю,
які ўспадчыў імя дзеда.
А спаміж тым намрою сабе
той шчаслівы дзень, калі...
у т р о х сыдземся
разам: Я (дзед),
СЫН (бацька)
ды ЎНУК...
лэмкаў!

## КАРЭННАЕ

Запомнілася
з ранняга дзяцінства
на ўсё жыццё свядомае
вось гэтае, найпершае...
калі, ўчапіўшыся ручкай
за татаву даланю, ступіў
я першы крок на зямлі –
то ўпершыню пабачыў яе бязмежнасць,
што адкрылася мне
з-пад бацькавых ног!
Запомнілася
з позняга дзяцінства
на ўсё жыццё свядомае
вось гэта, найістотнейшае...
калі ганялі з хлопцамі мяча
і я, спаткнуўшыся,
збіў да крыві нагу аб дол,
заплакаў, а бацька мяне
супакоіў,
і я ўпершыню тады адчуў,
як усё баліць зямлі!

Запомнілася
з апошняга дня дзяцінства,
а ішоў мне трынаццаты тады.
на ўсё свядомае жыццё
вось гэта, найтрагічнейшае...
калі бацька раптам памёр у свае 46
і ў зямлю яго закапалі
на гарбе цвінтарным,
і ўпершыню тады я зразумеў
якая яна родная мне!

А пасля гэтага – прыйшло да мяне
зразуменне, што такое бацькаўшчына, –
яна для мяне пачалася з БАЦЬКІ.

## НЕ ВЕДАЮ

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што сказаў бы свайму
прашчуру стараветнаму,
калі б ён з’явіўся
з прамінулых стагоддзяў і
запытаў: «Як пажываеш,
праўнучку?»

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што сказаў бы свайму
дзеду любаму,
калі б ён з’явіўся
з-за акіяну і
запытаў: «Як пажываеш,
унучку?»

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,

што сказаў бы свайму
бацьку роднаму,
калі б ён з’явіўся
раптам зараз
і запытаў: «Як пажываеш,
сыне?»

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што ім адказаў бы я ўсім,
ды ў адным упэўнены:
я б нікому з іх не пабаяўся
паглядзець прама ў вочы!

***

Не шукаем
прыстані жыцця,
Нам удолена
адно дарога –
Цераз быту
выцвілы прасцяг,
Праз штодзённе
слізкіх засцярогаў.

Трэба потам
упівацца нам,
Каб трымацца
нашага карэння,
Трэба свяціць
роднай мовы храм,
Каб сышло
на душы азарэнне.

## ЗРАЗУМЕЦЬ ХАЧУ Я...

***

Я ведаю: жыць трэба
моцна і адважна,
і тады
у буднях майго быцця
не набрыняе
роспач,
і ваўчакі
хвілінных слабасцяў
не ўчэпяцца ў мяне,
а думак
не ўкрые плесня...

Я абіраю
гэты шлях,
і толькі ён адзін
у стане вывесці
мяне
да верхавінаў маёй долі,
да Гавэрлі,
з каторай бачны
ранак прышласці.

***

А што сакрэты?
І навошта? І ад каго?
І так усё з сабою возьме
чорнае поле, як настане час.
Тады, мажліва, і схацеў бы
чыста ўсё распавесці, але...
Аддзеліць усё зямля ад неба,
пласт грунту змацуе ўжо навечна
саюз твой з тваім маўчаннем, –
не будзе чутна ўжо ніякіх слоў.
Не чакайма шчырасці ў зямлі –
шчырымі будзьма з бязмежжам неба,

з променепадам сонца,
з дзіцячаю шчырасцю дрэваў,
з прыцішанай падатнасцю травы...
Але – што НАЙГАЛОЎНЕЙ –
шчырымі будзьма з любым чалавекам,
якому словы адкрытасці і праўды
ёсць найпатрэбнейшыя у штодзённым побыце
сярод маўчання прастрані й вякоў...

***

Я дні свае ўжо стаў
крыжамі адзначаць –
дажыўся й да такога –
пайшлі адно чароды
 пахаванняў!
 і дзень, і
 ноч – усё
 ўмірае!

і я хаваю ўсіх іх па чарзе на цвінтары
з назовам «Забыццё», – і так няўцешна, бо
нібыта не жыву, а паўісную,
 гляджу
 назад я,
 а там –
 нічога!

адзіна дні і ночы на крыжы,
горкія, зболеныя, церпкія,
і толькі дзень, ці два, ці тры
у німбе распрамененым жыцця –
 вось і ўсе
 ісцівыя,
 сонцачолыя
 хвіліны нашы,
калі я насампраўдзе быў жывы
й з каханаю дзяліў
акраец шчасця напал.

***

Ці ёсць майго болю
край?
І дзе мяжа таго,
што клічам мы
цярпеннем?
Хто найпакутлівей за ўсіх
на гэтым свеце
пакутуе?
Спачатку паўстаюць
гэтыя дзіўныя пытанні.
І ты не варты
адказаць на іх,
і сам сябе катуеш.
Ды настае пара
і вырастае спасціжэнне
усяго існага.
Але ты ўжо даходзіш
да мяжы,
якую – пераступіш
і ўвойдзеш у бязмежжа –
трывання болю
і сябе самога.
...Зямля цябе чакае
так цярпліва...

***

Для цябе я толькі памяць,
што не дае заснуць сярод турботаў.
Як абудзіць плоць раўнадзенства,
што баграю гарыць наўкола?
Не змаўкае душа –
стаймавана чакае між марнотаў, трывогаў
найдзівоснейшы міг каяцця,
каб зноў, авідушчалай,
выйсці на прасцяг світанку
і гукнуць у сусвет:
добры дзень, гэта – я,

тваё ўсведамленне і лёс,
і даскону мне ад цябе
не будзе ўвальнення.

***

Як гэта ні дзіўна
і парадаксальна,
ды мы стала падвешаныя
жыццём да карамысла шаляў,
што навек застыла
між кропкамі палярнымі зямлі.
Вось
і мітусімся, і крычым...
зрываемся і падаем...
і перацягваем вечную кульку –
смерці і жыцця.
Што важым мы тут, на зямлі,
калі з дня ў дзень скідаем з вагаў
тое, што пераважвае НАС з намі.
Ды прыйдзе час, калі...
наўпроціўная гірка шаляў
пачне нас пераважваць,
а мы й не ўспеем сцяміць,
як раптам –
кулькаю ўпадзем на поле вечнае,
пакінуўшы на супроцьвагу іншым
іх жыццё...
……………………………………..
А між тым –
якія ўпартыя мы
на шалях ЖЫЦЦЯ і СМЕРЦІ.

***

Зразумець хачу я
                хоць пылінку свету,
                хоць бы тую,
                што водбліскам ува мне,
                але аж да найдробных

драбностак
і да глыбіняў.
Азвацца хачу
жыццём сваім,
як сусвет,
у буйноце
сонца сэрца
і мігаценні
зорак мрояў.
З’яўніцца хачу я
хоць бы часткаю
у шчырасці душы,
натуральнасцю
у чынах думкі,
адкрытасцю
у крылах сэрца.

І здраджаным не быць.

***

А па свеце журба
р а з л я ц е л а с я
ветравеем тужлівым,
да кожнага дому, вакна
стукае й стукае ўпарта.
…………………………
А людзі не хочуць
адчыняць
ні дзвярэй, ні вакон,
усе раптам паглухлі!

Я – бяздомны,
блукаю па свеце,
і сустрэў мяне
ветравей у дарозе –
аж цела прайняў,
а адна зажурынка
у вока мне

заляцела,
і цяпер баліць,
баліць мне,
калі гляджу
расплюшчанымі вачыма
на свет!

***

Крокі былі
ШЫРОКІЯ,
РазВАЖЫстыя.
Далё-ё-ёка йсці...
Крокі былі
маленькія,
хітрэнькія.
Доўга яшчэ?

Крокі былі
п-р-а-м-ы-я,
н
 а
  ў
   з
    д
     а
      г
       а
        д.
А хіба можна
перайсці ВЯРШыні?
Не.
Да іх можна толькі
н а б л і з і ц ц а ,
калі:
напэўна не ведаеш, кудыісці,
але дакладна знаеш – НАВОШТА?!

***

О ДАБРАДЗЕЯ
маіх начных
пакутаў,
урваных думак,
уёрмленых трывог,

БАГАСЛАВІ
праклятыя памкненні,
НЕ АБНЯСЛАЎ
жывыя ўспалымненні,
НЕ АПАГАНЬ
душэўныя ўзмаленні –
на невідзь ці на відзь,
на дух, а ці на плоць,
на ўсё адно ці не –
усё ў тваіх руках, з імпэтам побач мудрыня сама –
ці ёсць ты йшчэ, ці ўжо цябе няма...

О ДАБРАДЗЕЯ
начнога каяцця,
на пляцы кровапраліцця
пашлі мне адраджэнне з небыцця
і павядзі мяне да новага жыцця.

***

Жыццё без упыну,
хоць стомна,
Жыццё наўпярэймы,
хоць згорбна.
Туман заслаў вочы
заспанаму лесу думак.
Жыццё...
І трэба чакаць,
і трэба трываць,
пакуль не ўзыйдзе
с о н ц а,
пакуль не вымкне
на даляглядзе,

каб развеяць
шызую безладзь
начнога ўпавітку.

Міг. Усмешка –
і ранак жыцця
забуяў!

***

Я ўвесь
пратхнёны будучым –
думкі,
душа...

А сэрца –
мой часамер,
які няўтомна тахкае
ўва мне,
пераганяючы па жылах
час:
з мінулага – у прышласць.
Тук-тук,
тук-тук –
то голас маёй
жывой клепсідры.
Тук-тук,
тук-тук –
і штохвіліннае, цяперашняе,
пераліваецца
у ўчорашняе...
Так і стаю –
паміж мінулым
і тым, што прыйдзе.

***

ты выпі
мелодыю
срэбнае ночы
да дна
няхай прагучыць
яна чыста
у кроплях
расы
і песняю сонца
пральецца
у пространь
вясны
і стомлена
ляжа спачыць
надвячор’ем
у ноч
каб заўтра
спачатку ўсё
зноў паўтарыць
тайнотна

**МЫ НЕ МІНЕМСЯ**

***

«Ты быццам не з гэтага свету», –
сказала раздражнёна жонка
і ўпілася позіркам у мяне.
Я ж маўчаў...

Так, я не з «гэтага»,
я зусім з іншага,
з такога свету,
што зразу й не апішаш...
Папраўдзе,
я з ТАГО СВЕТУ,
дзе вымярэнне паўнаты жыцця
толькі адно: каханне,

дзе людзі вымагаюць на штодзень
высокага азорання душы.
Там – паўнакроўнасць, дзіўната,
там – пот і шчэм,
там – радасць і журба,
там – боль і смех,
там – праўда і дабро,
і толькі там – мой свет жыцця.

***

Раскажу я
зямлі і дрэвам –
як я цябе кахаю!

Раскажу я
дажджам і хмарам
як я цябе кахаю!

Раскажу я
сонцу і зорам –
як я цябе кахаю!

І ніхто з іх
не здрадзіць нам!
Каханая.

***

Стаю на краёчку таго
дня найапошнейшага,
які з лета ўвосень
адплывае.
Стаю.
Душою ўвесь гару
і не ведаю, што мне рабіць –
так да цябе хачу я,
у тваё вечнае лета дабраты,
у тваё спраглае свята цеплаты,

ды човен – у восень адплывае.
Мне б,
мне б хоць позіркам
перакінуць масты ў тую даўніну,
угледзець бы цябе на міг,
што там ёсць ты рэальна,
тады б... тады б
я не задумваючыся змог
да цябе ў восень адплысці,
каханая.

***

Струна чакання –

так яна
напята ўва мне,
што нават
вецер буйнагрывы
не ў сіле
скалыхнуць яе!

А ціхі голас
т в о й
уміг абарваць яе можа!

(Званок жа над дзвярыма ўсё маўчыць,
маўчыць...
Падказваю яму,
што пара ўжо
і голас падаць...)

***

О болю мой,
ты выбалі мяне
болямі свету;
ты выбалься ўва мне
болем чалавека,
якога я кахаю;

ты дай мне ува мне
адчуць гэтак цябе,
як толькі й адчуць можна –
душою, сэрцам,
целам;
о болю,
ты выбалься ўвесь ува мне,
каб я ўжо аніколі больш
табой, о болю,
не а з ы в а ў с я
у душы каханай.

***

Паміж намі –
разлівы далін і разбухласці гор,
паміж намі –
нейтральная смуга чакання,
паміж намі –
слова такое цяжкое: разлука,
паміж намі...
усё паміж намі легла ў часе,
а я думкамі-аблачынамі
пералятаю праз пушчы і долы,
цераз рэчкі й азёры,
вышукваю паміж вуліц і плошчаў цябе,
даганяю ажно каля хаты
і абдымаю цябе кропелькамі дажджавымі,
і шапачу безупынна:
люблю! люб-лю!

***

Я – чысты,
　　вымыты, як дзень,
І жду цябе,
　　як вечар – ночы.
Хачу, каб ты
　　так ціха, ўзрушана

Мяне акрыла
цiхiмi вуснамi
І агарнула
пяшчотнымi рукамi
У сваю цёплую
ахiнку прагi.
І ўраз апала каб
расой прызнання,
І целам дрэва
прайшлася з ласкаю,
Ўсё акрапiўшы –
ад лiстоты да карэння,
Ды так, каб змог
нам толькi расчынiцца
Невераемны гэты
свет кахання,
Што так разросся
голлем у нябёсы,
А яшчэ болей –
каранямi ўглыб.

***

Каханая,
о як багата маеш
слоў-вызначэнняў!
Найпершае, гэта – ТЫ!
А калi распавядаю пра цябе
родным сваiм – брату цi маме, –
дык называю словам простым: ЯНА!
А колькi ўтворных iмёнаў
ад назыўнога твайго:
Мiраслава!
Мяную цябе: СВЕТАСЛАВА!
Імя гэтае – ад усяго свету,
якi ўмясцiла ты ў сабе.
Але ў цябе ж яшчэ адно iмя:
ЗОРАСЛАВА!

Яно – ад той зары,
якая ззяе на заходнім скраі неба.
Сэрца маё паклікала цябе: КАХАНАЯ!
А душа ўторыла яму па-свойму: ЖАДАНАЯ!
……………………………………
Зусім нядаўна ж, калі знаў цябе я
так мала, некалькі ўсяго імгненняў,
дык у зваротках мы дзялілі
такое афіцыйнае: ВЫ!
……………………………………
Праплылі паміж намі з пары той
мільёны словаў –
прамоўленых і нямых,
напісаных і закадаваных,
і хоць як называў бы цябе я –
усё ж ёсць і нязменнае йшчэ адно,
што я адчуваю, і хто ты заўсёды
тут ёсць для мяне,
ты – ПАЭЗІЯ!
І як без цябе мне,
так і без яе – не жыць!

***

А што сказаць магу я
            ў гэты час,
калі ўсё цела маё
            прагне толькі
ц я б е ,
        як і душа – душы,
        як сэрца – сэрца,
        а жыццё – жыцця?!

Хай толькі закрычу: прыдзі!
Хай толькі загукаю: з’явіся!
Ты – не пачуеш...
        Але ж буду ўмольваць,
        упрошваць...

Ты ўсё пачуеш,
усё адчуеш,
і прашалясціш
ветрам над Дунаем:
прыду я, ды тады,
калі адолееш
ты ўсе разлогі,
што спаміж нас
цяперка
разлягліся.

І ты натоліш маю смагу,
а думкамі – адзіна,
што адказаць змагу:
нат і за тысячы
дарог, што паміж нас
цякуць – я ўсё адно
твой, твой, і толькі твой!

***

І затужыў,
і зажурыўся,
пашкадаваў
тых дзён, якія
правёў я без цябе
у гэтай, хоць і
блізкай –
а чужыне!
Як жа дагнаць усё,
што мы не раздзялілі
на двох
у днях і ночах?
Не ведаю,
не знаю...
Дык ты скажы,
каханая!

***

Чаму свет
замглёны і шэры?

(Бо цябе
няма поруч,
каханая!)

Чаму на душы
гэтак сумна і ціха?

(Бо цябе
няма поруч,
каханая!)

Чаму думкам
так цесна і спела?

(Бо цябе
няма поруч,
каханая!)

А з'явіся на міг хоць –
зразу ўсё заквітнее;
і душа,
і думкі,
і свет!

***

Валадарыня
душы маёй!
Бязмежнасць пачуццяў,
якія віруюць
ува мне –
не ў стане я ніяк
фізічна выявіць:
ні позіркам,
ні рухам,
анічым...

А ты, каханая,
за рэкамі,
ды за гарамі,
мабыць, такая ж
сумная, як я,
аднак, адзінае,
што, верагодна,
мо розніць нас
уводдалі –
я ўвесь гару
вяртання полымем,
а ты – акутая
турботамі чакання!

***

Не ў душы
выспяваюць падазрэнні –
Не, толькі розум
здатны іх спарадзіць!
О розуме, ты патрывай,
ты не спяшайся
Уздымаць буру ў душы
пакутніцкай –
Яна ўся трапятлівая
і тонкая, як павуцінка.
І хоць гэтыя пальцы мукі
дотыкам парвуць яе,
Ды ўсё-ткі азавецца песняю
ураз душа,
І струны загучаць
працягла й светла,
Калі цябе пабачу і пачую,
о каханая!

***

Сяджу за столікам кавярні,
і ціша гэткая мяне агортвае,

што чую, як дыхае сцяна...
Перабіраю подумкамі хвілі,
тыя, найдзівоснейшыя, адзіныя,
калі ўзляталі мы да неба
на крыллі ўзбураных пачуццяў,
і разсявалі над абсягамі ясноту,
усаджваліся на плячах у зорак
і прызнаваліся ў каханні...
– Слухаю! – сказала па-угорску
смуглявая маладзічка-афіцыянтка,
раптоўна павярнула плынь думак,
ды так, што я не зразу й сцяміў,
дзе я, і без каго я,
і згопалу замовіў аж дзве кавы...
для нас з табою...

***

Я разумею толькі гэта –
ты не давай мне
супакою
і на хвіліну,
ты кліч мяне
у свет
сваіх надзей,
гукай мяне
у смагу сваіх
дум,
чакай мяне
у вязіве
жаданняў,
каб у табе
адной я мог
стварыцца,
расчыніцца
і стацца
валадаром тваім,
зняволеным тваім –
загадвай!

***

Верабейка маладзенькі
сеў на лаўку каля мяне
і, запытальна зірнуўшы,
«сказаў» штось па-свойму,
крутнуўся на лапках, зняўся на крыло
і паляцеў...
?
Не ведаю,
што мне казаў,
а ці пра штось пытаўся –
ды ўсё-ткі нейкім сёмым пачуццём
я зразумеў, уцяміў, што пташка гэтая
мне паспачувала, бо, мабыць, у кожнага
на чужыне аблічча прамаўляе:
о, як усё ж сумуецца па родным краі!

І калі мне
стае на душы
яшчэ сумней, як сум сэрца –
не в ы м а в і ш, –
я душу сваю
купаю ў затоцы тваёй чысціні,
і мне святлее!

***

І калі мне
стае на душы
яшчэ балючэй, як боль цела –
не з а п л а ч а ш, –
я душу сваю
прытулю да сэрца твайго,
і мне лягчэе!

І калі мне
стае на душы
яшчэ нясцерпней, як нясцерпнасць жыцця –
не к р ы к н е ш, –

я душу сваю
звяраю з душою тваёй,
і мне хочацца жыць!

Якая ўсёмоцая ты,
душа каханая!

***

Усе назовы й імёны
усе
мянушкі й звароткі
кудысьці
падзеліся
разляцеліся
растапіліся
а
засталося ўва мне
толькі адно
імя тваё
каханая
СВЕТАМІРА

***

Сэрца арфамі грае –
толькі хто іх пачуе ўначы?
Каханая?
Ды яна заснула.
У сэрцы лютуе пярун.
Хто зможа пачуць яго?
Каханая?
Але ж яна заснула.
Дык і добра.
Няхай адпачне.
Пакутаваць –
гэта права маё:
за цябе, каханая,
за сябе,

за птушак...
Толькі б у сне
ты чула не гром,
а мелодыю арфы чароўную.

***

Гару
такім нястрымным
полымем – кахаць, –
што яго можна
параўнаць хіба што
з усчынам пажару...

Але штоbecause разу,
калі хачу запаланіць я
полымем агністым
дом тваіх пачуццяў, –
мяне спыняе думка:
а ці не спапялю цябе я,
бы птушку ў гнездзейку
пад дахам,
якая
яшчэ не ўмее
лётаць?..

***

У той час,
калі яшчэ ты спіш,
я думкі водбліскам
насвечваю старэнькай ночы,
каб хоць не заблукала,
каб хоць дайшла спакойна
да самага світанку,
а ранак маладзенькі
мог прамяніста вымкнуць у дзень,
а ты, пракінуўшыся,
чакала б мяне ў тым прытулачку,

дзе штодня маем
пабачанне з каханнем,
як Зямля з Сонцам.

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Быў бы я
кветкаю –
мабыць, усміхнуўся б
табе пялёсткамі...

Быў бы я
небам –
напэўна, схіліўся б
над табою ў радасці...

Быў бы я
ветрам –
відавочна,
загучаў бы
для цябе аркестрам...
………………………..
Але ж я,
я толькі – чалавек,
таму...
шукаю для цябе
такое слова,
у якім
на тле блакіту неба
пад гукі музыкі
пялёсткамі
        ўсміхаецца
        к в е т.

***

...Залюбіць бы
    цябе,

залюбіць бы
да
апошніх
тваіх
жаданняў!

Закахаць бы
цябе,
закахаць бы
да
апошніх
маіх
абяцанняў!

Залюбіць бы
цябе,
закахаць бы
да
найпершых
праменняў
ранку!

Закахаць бы
цябе,
залюбіць бы
да
найглыбшых
глыбінь
пачуцця!

Так, каб ты
не магла
сумнявацца,
што я ўвесь
да астатку
твой!

***

На цеплаходзе весяляцца безаглядна,
забавы й танцы узялі
ў палон,
і музыка нырае
у Дунай –
плыве не карабель,
а выспа бестурботная
з дзяўчат і юнакоў...
Адзіна я
суцехі не знаходжу
спаміж іх...
Заглыбляюся маўчаннем
у самотнасць,
лаўлю шпаркіх коней часу,
упрагаю ў калясніцу
згадак сваіх
і мчуся да цябе,
суцеха майго сэрца і душы,
лячу за безлік земляў,
каб патрапіць да вечаровае зары
знайсці спасярод мрояў цябе
у садзе нашага кахання.

***

Я сусвет люблю
т а б о ю
і неба і зоркі
т а б о ю
і кветку і птушку
т а б о ю
люблю ўсё бязмежна
к а х а н а я

***

Кіламетраж разлукі –
скалы дзён і рэкі дум,

дажджы прызнанняў і зоры пачуццяў –
усё ўліваецца ў маўклівае чаканне,
і вечнасць цэлая ўхінае дзень апошні,
мне пераҗыць бы дзень – да заўтра,
ох як жа цяжка-важка у чаканні,
у жаданні, у маўчанні, ды на чужыне
апошні дзень разлукі
перабрыць, каб апынуцца акурат
у цэнтры мігу нашае
сустрэчы.

***

Валадарыня светаў,
я адчуваю, што значыш ты!
О Славаміра,
я знаю, хто зараз для мяне ты!
Ды як словамі абазначыць
адлюстраванне маё ўсё ў табе?

Ты – спелая ўсёасягальнасць!
Так, ты –
    думак маіх карэнне,
так, ты –
    сэрца майго вышыня,
так, ты – душы Вялікдзень!

О мая ўсёаб’емнасць,
праліся паўнаплынам жыцця
і станься працягам маім
на Зямлі гэтай!

***

Каханая,
ты выдабываеш паглядам
з мяне словы,
якія прыхаваныя ўва мне
ад мяне самога.

Ты нараджаеш ува мне
тыя пачуцці,
пра якія нават
я й не здагадваўся.
Ты вядзеш мяне крок
за крокам аж да таго
стану душы, пра які
я мог толькі мроіць.
Каханая,
калі ты ўсёмоца
маіх і розуму, і душы, і сэрца,
то я – парастак твой,
і мы тут расцем з аднаго
кораня маці Ўкраіны,
а паміж намі – толькі неба.

***
О,
як жа
сумна-нудна,
калі цябе
няма,
мая ты,
о мая ты –
ранковая
й начная,
адна – як сонца
ў небе,
цябе я прагну
й знаю,
што прыйдзе тая
хвіля:
у дзверы
ціхі постук –
усё ў душы
аберне,
і
расчыню я

дзверы
табе і...
**шчасцю!**

***

Нават
калі ты – (мне)
забароніш
пісаць пра цябе,
нават
калі ты – (мне)
не дазволіш
гаварыць пра цябе,
нават
калі ты – (мне)
не дасі мажлівасці
тварыць пра цябе –
нават тады
я застануся
самім сабою
і рабіцьму
насупор усім
тваім «не...»
тое, што загадае (мне)
любоў да цябе!

***

Як перахварэць
думкамі праўды,
як перагрызці
сумненні ашукныя,
куды падацца,
кім застацца
на гэтай Зямлі?

Перахварэю ўсім, што ўбольвае цябе,
зубамі дзён перагрызу бяду,
каб па-над зорамі, па-над Сусветам вечна
ззяла сэрца тваё шчасцем паўнаты – Я і ТЫ!

***

Каханая,
ты здабываеш
мяне з мяне
словамі, якія
хаваюцца ў душы.
Ты нараджаеш ува мне
тое, пра што й не думаў,
а мог толькі мроіць!
Ты крок за крокам
вядзеш мяне да мяне.
Каханая!
Калі ты ўсёмоца
розуму, душы і сэрца,
дык я – парастак жыцця!
Мы ж – расцем на
адным дрэве планеты!
А споміж нас – неба!
Каханая...

***

Дзякуй.
Ты ўраз нагадала мне,
як выглядае ноч бяссонная,
калі гэты час-бягун
вытаквае шыпамі
па прамой секундаў,
калі ад звар’яванасці
шалее свст,
і чарната касмічная
зазірвае ў акно...
Я ў «рабочым кабінеце»
бедных усіх паэтаў –
на кухні, –
дзе з горла крана
шамкоча вада,
як час-часам
усхліпвае душа

лядоўні...
І чую ўраз, як твая
адна-аднюсенькая фраза,
што вырвалася
з вуснаў тваіх,
стралой шугнула
прама ў сэрца.
«Я – твая!»

***

Хіба ж змагу я
вызначыць сутнасць
або
тайну спасцігнуць
вось ГЭТАГА ВО СВЕТУ,
што ў табе
пульсуе,
клякоча,
бурліць?
Хоць бы...
падступіцца,
хоць бы...
ключ знайсці
да ўцяму
ў шыпшынніку тых словаў,
што выспяваюць чыста
ў дарозе гэтай фатальнай,
штодзённай, навальнічнай...
І струменяць
да сэрца твайго,
о каханая!

***

Мінаюць
х в і л і ,
ды не мінаем
мы сваіх шляхоў,

што крокамі
уштампаваныя у дол.

Мінаюць
х в і л і ,
ды не мінаем
мы сваіх турботаў,
што асядаюць
нервамі у кроў.

Мінаюць
х в і л і ,
ды не мінаем
мы саміх сябе,
таму і тужым, і кахаем,
ідзем у светы...

Мінаюць
х в і л і ,
ды ў кожнай хвілі –
МЫ: і ты, і я,
мільёны нас,
каханая!

Мы не мінемся.

## *Аляксандра КАВАЛЁВА*

*(1948) — паэтка, перакладчыца. Нарадзілася ў в. Бондарава Старабільскага раёна Луганскай вобласці. Скончыла факультэт замежных моў Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, працуе ў Харкаўскім нацыянальным педагагічным універсітэце. Аўтар паэтычных зборнікаў «Стэпавыя азёры», «Далягляды», «На два галасы», літаратуразнаўчай працы «Літаратура ГДР». Пераклала на ўкраінскую мову творы шматлікіх нямецкіх аўтараў. Слова Аляксандры Кавалёвай, філасофска-мудрае, простае і таемнае, вяртае душу да вечных каштоўнасцяў жыцця.*

### ПТАХІ МЕСЯЦОВАЙ НОЧЫ

У месяца доўгая белая світка.
Ён белых птахаў з рукавоў выпускае.
Ды яшчэ й птушанятак,
Што лётаць не ўмеюць,
Толькі белымі ценямі перабягаюць.

Ноч у Пятроўку такая кароткая.
Наўчыцца лётаць паспеюць не ўсе.
Раніцай будуць хавацца пад лісцейкам,
У клубочках туману,
У расе…

## ПЕСНЯ
## ПРА НЕЗНІШЧАЛЬНАСЦЬ ГОЛАСУ

Густа сцелецца барвінак.
А магілы анямелі.
І няма пры іх аховы
З гулкай мовай сурмаў медных.
Выпадковым падарожным
Смутак-жаль не сцісне грудзі,
Недачытаную кнігу
На вятрах гартаць не будуць.

Пад барвінкам косці белы.
А гады за ветрам збеглі.
Час няшчадны ў гэтым краі,
Дзе магілы анямелі.
Ён бяспамяццю карае
Ўсё, што дыхае й лятае,
Голасу ж падаць не смее.

І тады прыходзяць тыя,
Мудрыя, што і па зорках,
І па квету, і па следу
Птушкі ў небе прачытаюць,
Што замоўкла ў сурмах медных,
Выгасла пад капытамі,
Ды не знікла. Мудрым бачна
Ўсё, што тлу не падлягае,
Чаго Хронас не з’ядае…

***

І гэты сон сказаў: ты – з таго краю,
Куды душа ляціць нібы да раю.
Быў снег, і след на снезе галубеў,
І ён ажно за небасхіл глыбеў,
І так пякліва за сабой імкнуў,
Бы напінаў над прорваю струну.
Я тут, па гэты бок, а ты – па той,
І можна толькі раз прайсці па ёй.

І дзіўна так. І можна жыць і снамі,
Пакуль струна напята йшчэ між намі.

***

Мне ўсё вядома, скажаш, я – мудрэц!
Ужо амаль той птушцы роўня быццам,
Што вострай дзюбай промнічак бярэ
І дзень на яго ніжа, як на спіцу.

І зноў, і зноў, і так – дзень за другім.
Табе б так навучыцца й мне, і ўсім!
Шкада! Навукай той мы не ўладаем,
Хаця птушыны лёс і спакушае.

Мы неўдаль у раўнанні з птахам, голь.
Нічога нам не даць яму ў замену.
Усё перашаткуе часу моль,
А ўзмах крыла павек не стане тленам.

***

Я ўслед за конікам бягу,
Зялёным конікам у жыце,
А кім жыццё маё пражыта –
Не ведаю. Не берагу
Ніякіх  згадак, бо ўжо я
Стаю й ад шчасця заміраю,
Бо прыпыніўся ён і грае.

Ў тым гранні ўся любоў мая.
Мой дзень блакітны і высокі.
Ўвесь разнаквет і разнапах.
Я пышны і бяскрылы птах.
Мне ўжо і лётаць будзе сорам.
Як конік скрыпку адкладзе
І лёгка далей пасігае,
Тады й напраўду я сканаю,
Бо больш няма мяне нідзе…

## СЛАНЕЧНІКІ

**1**
Паналётвалі птушкі
І падзёўбалі ўсё,
Сшумавалае мёдам
На сонцы.
Залатаверхі храм,
Духмяны сланечнік
Па свеце разнеслі…
Ды хто ведае,
Можа,
У якойсьці вантробе
Птушынай
Схаваўся не толькі шматок наедку,
Але й расток згадкі
Пра храм,
Залатаверхі
Й духмяны…

**2**
Сланечнікі – галовы мядовыя.
Пахкія, цёплыя, – Божых вачэй адпачынак.
Храмы, асвечаныя адвеку,
З арэолам спрадвечным.
На ўсіх вятрах
Нязгасныя свечкі…
Адно аднаму
Глядзяць у вочы

І сонцу.
Адзіны закон – давер.
Самазгаранне.
Ахвяра.
Ці затуляць яны сабою
Усе Садомы,
Усе Гаморы,
Усе мёртвыя вочы зямлі?..

***

Голос горлиці чути
в землі нашій.
Г. С. Скаварада.

Яна апускаецца ціха
На срэбныя далоні таполі
І голасам маці прамаўляе чалавеку-дзіцяці:

Нічога,
Што ранкі познія ўжо і халодныя,
Што зазімкі белым па белым
Пішуць свае засцярогі.

Нічога,
Што ключы ад нябёсаў
Жураўлі забіраюць з сабою,
А замкнёнае неба калянае
І вачам непрыступнае.

Бо ёсць шчэ крыніцы,
Яны і ў тумане празрыстыя.

Бо ёсць шчэ каліны й шыпшыны
Маністы шыкоўныя.

Бо ёсць яшчэ сцежка.
Адна
Запаветная

Ў сэрцы тваім,
Што дзе б ты ні быў,
З усякай прапашчай хвіліны
Яна цябе выведзе
У часіну пагодную, ціхую,
Дзе лагода й спакой,
Дым айчынны
І горлінкі голас.

## ПЕСНЯ АСЕННЯГА САДУ

Падымаецца з яру густы туман,
Горне хвалямі мроі, трызненні, сны,
Ахінае мой сад угары.
Цёрну ягады шызыя зліваюцца з ім,
Слівы шызыя пахнуць не мёдам аб гэтай пары,
А сцякаюць па лісці салодкім змрокам,
Гэтак, як і ажыны, як цвет халадку…
Так было і йшчэ будзе не раз на вяку –
Неспадзеўка. Падступнасць. Змова.

А хтось заўсёды ўбіраецца ў залатое,
Бо на сонца паставіў усё грэшнае і святое,
Бо па ўсіх куточках вызбірваў медзь,
Каб душу садоўніка сагрэць
Шчырым голасам цёплага звону.

Згэтуль лета далёка й далёка зіма.
Гэта ўлада туману і звабаў. Падман. .
Сон садоўніка ў зморы да краю.
І бывае – завісне часіна такая
І вісіць, покуль бомкнуць званы,
І пакоціцца яркае рэха між кронаў,
Азавуцца ў ім лета, зіма і вясна.
А з сотаў, з духмянага васковага схрону,
Дзясенкі ўпусцяць кроплі мядовыя
На густое й зялёнае голле цярновае,
На чырвоныя вішань кароны.

## УСЕ МЫ Ў КРОПЛІ БУРШТЫНОВАЙ

*Райнгарду Клодту*

Правіду вока выхапіла нас
І прытуліла ў кроплі бурштыновай
Хвіліны. Кропля гэтая – абнова
Для нашых душ. Адзінная й адна.
Астыгне, згусне за парогам часу.
Пакуль жа свецімся мы – гэта чары
Бурштыну, мякка-цёплага яшчэ.
А там – за рысай – іншы час сцякае
І ўсё жывое згэтуль вымыкае,
Няўтомнай плынню ў невараць нясе.
Дык яшчарка зняверы на хвасце
Прыўстане, бо – святая прастата –
Не ведае, што ўжо яна ў той плыні.
Ратуецца адкусваннем хваста,
Вачыма дацягнуўшыся крапліны…
Мінае вечнасць подаўжам хвіліны…

## ДЭКАРАЦЫІ ВОСЕНІ

**1**
Гэты танец абрадны
Асенніх птахаў
У густым тумане.
Мяжу далягляду пераступаюць,
Быццам зусім няма яго.

Што яны вымесяць,
Што намосцяць?
Знізу ўгару
На іх глядзець –
Цыбатыя, шыракакрылыя, веерахвостыя.

Крэсляць апошняе кола.
Вока птушынае ўсмоктвае поле,

Кусты прыдарожныя і
Асеннюю балку
З калінаю, глогам.
Дзесь у выраі гэта ўсё
Выспее плодам
Памяці.

Варта й сабе
Прытуліцца скраю.
Згадкаю птаха
У далёкім выраі-раі.

**2**

Гэтая шчырая дэкаратыўнасць:
Хмелю бледна-зялёная прошва,
Гарабіны барвянае тло.
Лета – як не было!
Аддаляецца штось ад мяне ў прошласць
І лягае пад шкло.

І ўжо хочацца –
Хоць бы дождж які, ў рэшце,
Фарбы змяшаў
І размыў лініі.
Гэтак жа, як і след
Маіх падэшваў
На чырвонай і белай гліне.

Сцежка па кручы сцякае ўніз
Так знячэўку, змусова.
Час усё гэта возьме пад шкло,
Пад пячаць сваю сургучовую.
Вытне крамянямі хвілін
І расхлісне тваю трывогу,
Бы нечага табе не далі
У далёкую й цяжкую дарогу.

Шоўк барвяны
І жоўтая вышыўка.
Як тут мала
Цяпла і зацішку!
Позняя восень аголіць стыгмы.
Гэта і ёсць расплата за стыль,
За шчырую дэкаратыўнасць.

**3**

І золата, й перлаў найшчырых,
І пахкі мядовы бурштын
Навешае восень на тын,
Насыпле на поле й лагчыну.

Да рызы нябёс адмыслова
Прышые шырокі шлячок,
І будзе даваць табе ўрок
Штогодніх спраўлянняў абновы.

Глядзі – ўжо злятае лісцё,
І вырай гусіны ў тумане.
Так хочацца верыць: не марна
І лета сплыло, і жыццё.

Вунь мятлік. Якіх ён прыгод
Шукае ў бадыллейку ссохлым?
Так хочацца верыць, што сонца
Сагрэць яшчэ ўспее яго…

## РОЗДУМЫ ПРА ВЯЛІКАЕ І МАЛОЕ

І такі я – маленькі без краю.
Я. Плужнік

**1**

Дзесь вялікая літаратура муруе муры,
А дзесь маленькія паэты
На выпас вядуць на матузіку музу,
Пустапас услед – рандэлі, санеты.

Усялякае непатрэб’е старой эстэтыкі,
Сугалоссе гармоніі й дысгармоніі, –
Безгалоўе вершыць сваю гегемонію
Над вялікімі і малымі,
Над добрымі й злымі,
Над газэлямі і матэтамі.

Свет малымі паэтамі грэбуе,
А вялікімі гаціць грэблі
Й каналізацыі субкультуры.
З вялікіх паэтаў макулатуры
Багата.
З маленькіх – мала.
А як насунецца якаясь чума,
Дык ужо розніцы й няма, –
Усіх на мыла
Летаю змые…

Вялікія і малыя, хто б ні былі,
Умяшчаюцца ў зямлі.
Гэткія парадыгмы пекла і раю.
Утульна,
Добра мне
Ў роднай зямлі.
І такая маленькая я – без краю…

**2**

Дурань той, хто й дагэтуль паэт.
Я. Плужнік.

Замроенага ўраз збіваюць з ног
Нахрапы, пройды, зухі перамог,
І ў іхным хапатлівым спрыце жыць
Адно для яго месца – на крыжы!
Але не варта ў роспач упадаць –
Замроенаму ўсюды дабрадаць.
Бо ён дурны, а дурню ж, бач, шанцуе
І крыж яго ўжо лісцейкам шумуе.

І Бог яму падміргвае: сынок,
Якраз для цябе вырас ясянёк.
Пад ім усё – вясёлы свет жывы,
І посцілка смарагдавай травы.
Умірг узнікне поле табе й гай.
А што йшчэ трэба дурню тут? – Спявай!

## *Ніна ГОРЫК*

*Украінская паэтка. Нарадзілася 7 верасня 1957 года ў в. Забужжа Любомльскага раёна Валынскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Луцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Настаўнічала. У 2006 годзе ўзначаліла Валынскую арганізацыю Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Аўтар кніг «Валынь мая, воля», «Тэрыторыя слова», «Пагодным днём над Украінай», «Вяртанне Маўкі», «Верасень», «На нітачцы радаводу». Прапанавала актуальны дапаможнік «Тэматычныя распрацоўкі з украінскай літаратуры». Лаўрэат Усеўкраінскага конкурсу «Настаўнік года» і абласной прэміі імя Лэсі Украінкі – за высокае майстэрства і ўклад у развіццё асветы Валынскай вобласці. Заслужаны настаўнік Украіны. Лаўрэат літаратурнай прэміі «Благовіст», лаўрэат прэміі імя Олэксы Стэфановіча. Жыве ў Луцку.*

### ГОЙДАНКА

Прывяжыце, дзеду, гойданку на йгрушу.
Я на ёй у госці да зорак рушу.

Як разгойдаюся, як вочы прымружу, –
Дый… бывай здарова, дзедава ігруша!

Гэх! Лячу, плыву ўжо ў самым паднябессі
Ды паміж птушыных галасоў ды песняў.
А ўнізе зайцы на лапкі ўзняліся!
А ўнізе мурашкі за рукі ўзяліся!
І здзіўленая лісічка мудруе:
– Ой, як высока Тарасік вандруе!

Ды трымаюць мяне моцненька валаконцы…
Каб жа мне тая гойданка аж да сонца!

## НА НІТАЧЦЫ РАДАВОДУ

На партрэце нас багата –
Цэлая сям'я.
Хлопчык, што між мамы з татам,
Гэта, ясна ж, я.

Я з аблічча ў тату ўдаўся.
Нават без знацця
Кожны зразу б здагадаўся:
– Бацькава дзіця!

І на здымку ўсмешка ў мамы,
Радасць уваччу.
Мы падобныя таксама.
Чым – пакуль змаўчу.

Шчэ жывуць у нашым доме
Дзедусь і бабуся.
Без старэнькіх і ў альбоме
Я не абыйдуся.

А нядаўна я разведаў,
Распытаў як след –
Не паверыш! – што і ў дзеда
Быў калісьці дзед!

Так цікава ўжо: якія,
Як яны жылі,
Прадзеды мае, ўсе тыя
Цеслі й кавалі?

З далячыняў майго роду
Прынёс мяне буслік.
На нітачцы радаводу
Я – маленькі вузлік.

**БЫЧОК**

Маркоціцца бычок наш: – Му-у…
Нібы пытаецца: – Чаму
Даюць сянцо і бурачок,
Нібыта бык я, не бычок.
Тарасік вафельку жуе,
Вунь і цукерку дастае…
Як, мабыць, смакатліва –
Ласункі хрумаць без канца!
А вы б далі яму сянца,
А мне – цукеркаў з паўкапца.
Дый будзе справядліва.

**ЗАПРОСІНЫ**
**БАРАВІЧКА-ВАЛЫНЯЧКА**

Выбегла каліна-чапуруха
На краёчак лесу ў ранні час.
Баравік знімае капялюха:
– Просім, калі ласачка, да нас!

Завітайце! Будзьце як удома.
Цешцеся з птушыных галасоў!
Вам усім прагалачак знаёмы
І чарніц удзеліць, і грыбоў!

Сам я з вамі ў свет не павандрую –
Баравы мяне трымае дух.
Вам на развітанне падару я
Свой руды гладзюткі капялюх.

Прызнаюся: як і той каліне,
Наймілей і мне жыць на Валыні,
Між дубамі ў лесе або ў гаі,
У сваім бацькоўскім родным краі.

## РЫБАЛКА

– Дзядзьку Соме, плывіце сюды!
Ды вылазьце хутчэй з вады,
Ды сядайце
                    на муражку,
Ды з’ямо тут
                    па піражку –
Мне матулечка напякла,
Каб усмак рыбалоўля была.

Раскажыце мне, як ім там,
У рацэ, ляшчам ды лінкам.
Бо між намі, рыбалкамі, тут
Штось такое пра вас плятуць!
Што, маўляў, карасі зранку ўсе
Ходзяць босымі па расе.
І што цётачка Шчупачыха,
Кажуць, злая да ліха,
Што трываць яе ўжо нясіла,
Што паўвуса вам адкусіла.

Адазваўся паважны Сом:
– Гэта нейкі дзівосны сон!
Шчэ ні разу на берагі
Не хадзіў я на пірагі.
Бач, ад здзіву лянкі й ляшчы
Паўсядаліся на карчы.

Хоць па крышачцы ім дамо,
Ну, а рэшту самі з’ямо.
Хай паласуюцца й карасі,
Шчупачыха ж – і не прасі!

Сом паснедаў, пагладзіў вус,
Ды ў ваду з крутаберагу – плюсь!
– Хоць і смачны твой піражок,
Ды пара ўжо мне, спадарок.
Паплыву, а то сонца спячэ.
Дзякуй маме й прыходзь яшчэ!

– Што ж, прымусу і я не люблю.
Дый малечыны не лаўлю.
Калі ж зловіцца драбяза –
Выпускаю ў раку назад.
Хай плыве сабе на здароўе
Аж да самага сіняга мора!

## ВЕРАБЕЙ

Праз вакно, што расчыніў ветравей,
У кватэру завітаў верабей.
Працягнуў мне рудое крыло
І прамовіў:
– Неблагое дупло!

Разглядзеўся на чатыры бакі,
Самавіта паабедаў з рукі
І на вуліцу зноў быў бы ўцёк,
Але раптам да люстэрка – скок!

– Ты глядзі, што за дзівоція ў вас:
Быў адзін я, а цяпер мяне – два!
Падчыбучыўся, узяў грабянец:
– А нічога я сабе вераб’ец!

І сказаўшы напаследак:
– Чык-чык! –
Уваконны ростул пырхнуў –
і знік.

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГАРНУСЯ ДУШОЮ ДА СЛОВА.
ПЕРАКЛАДЫ НІНЫ МАЦЯШ**

Зборнік украінскай паэзіі

Укладальнікі:
**НОВІК** Марыя Іванаўна,
**ВАРОНІК** Святлана Аркадзьеўна,
**СКАРЫНА** Галіна Васільеўна

Рэдактар *У. А. Васілевіч*
Мастак *Я. К. Вашчанка*
Камп'ютарная вёрстка *А. І. Дзядзюля*
Стыльрэдактар *А. Г. Шклярэўская*

Падпісана ў друк 14.08.2013. Фармат $60\times90^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 18,5. Ул.-выд. арк. 13,48. Тыраж 600 экз. Заказ

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
ЛИ 02330/936 ад 11.10.2010.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, г. Мінск.